## Карта № 25

## ТОК (глінабітная пляцоўка)

№ 804 «Я. н. глінабітная пляцоўка, на якой малоцяць: ток, такоўня, такавішча...» АЛА 936 'место, где молотят цепами или с помощью лошадей' ток, гумно — gumno — klepisko

Картаграфуюцца назвы тока (глінабітнай пляцоўкі, на якой малоцяць). Паказаны адрозненні па словаўтваральных элементах і фанетычных асаблівасцях. Пракартаграфавана таксама пашырэнне слова *ток* у значэнні 'будынак, дзе малоцяць'. Формы *ты<sup>і</sup>к, тік, тікь* картаграфуюцца як *тык*, форма *тыэ́к* — як *тэк*. Адведзена ад картаграфавання назва *то́чышча* (не адносіцца да тэмы карты).

*ток* 1, 3, 4, 7, 8а—20, 22—24, 25а, 26, 28—33, 37—39, 41—48, 49а—61, 63, 66, 68—89, 99—101, 104, 106, 111, 116—126, 128, 129, 136, 137, 139—141.

*тôк* 49, 62, 64, 65, 67, 93, 94, 105, 110, 112, 113, 114, 115 *(на таку́, як на вяку́: і натанцу́ясса, і напла́часса)*, 127, 130, 134, 135, 138.

*тук* 94а, 132, 142.

*тӥк* 90, 96, 97, 103, 108.

*тык* 95. *ты<sup>і</sup>к* 91, 92, 96а, 131. *тік* 109. *тікь* 98.

*тэк* 101, 102. *тыэ́к* 107.

*такавішча* 4, 6, 8, 21, 27. *тъкавішча* 5, 34, 42. *тыкавішча* 40.

*такаўня́* 10, 25, 27, 36, 74. *тукуўня́* 17. *тъкаўня́* 9.

*тачо́к* 79, 82.

*паса́т* 2.

*ток* (у значэнні 'будынак, дзе малоцяць') 9, 24, 40.

Адведзены: *то́чышча* 69 *(як зно́сіцца, як сатрэ́цца ток)*.

АЛА: *ток* 3А—8А, 10А—19А, 22А—25А, 27А—35А, 38А—40А, 42А, 44А, 49А, 50А, 58А, 61А, 63А, 50, 70.

*тôк* 45А, 53А—55А, 57А, 62А, 65А, 66А, 61, 115.

*тык* 43А. *ты<sup>і</sup>к* 48А, 52А. тік 64А.

*тэк* 47А.

*тъкавішча* 21А.

*ток* (у значэнні будынак, дзе малоцяць) 2А, 9А, 20А, 21А, 32А.

## Карта № 26

## ХЛЕЎ

АЛА 934 xlěvъ хлев — диал. hlev — chlew

Картаграфуюцца фанетычныя варыянты слова *хлеў*. У беларускіх народных гаворках яно ўжываецца ў значэнні 'памяшканне для свойскай жывёлы, птушак'. Адзначаны таксама назвы хлява з іншымі каранямі. Апошнія прадстаўлены ў матэрыяле няпоўна, таму што фіксацыя іх не была прадугледжана праграмай.

*хлеў* 1А—24А, 31А, 32А, 34А, 35А, 36А (ведаюць слова), 37А—40А, 50А, 51А, 56А, 58А—63А, 70.

*хлêў* 18А, 26А—30А, 33А, 44А—47А, 49А, 53А—55А, 65А—67А, 50, 61.

*хліў* 48А, 52А, 63А. *хлів* 43А.

*хлёў* 54А—57А, 115.

*пу́ня* 25А, 36А, 39А, 41А, 42А.

*сара́й* 67А. *сыра́й* 22А.

Адсутнасць слова *хлеў:* 25А, 41А, 42А.

Дадаткова выкарыстаны ўскосныя звесткі з адказаў на розныя пытанні Інструкцыі ЛАБНГ.

*хлеў* 36, 52, 68, 69, 72, 123.

*хлêў* 53, 94, 102, 105, 114, 133.

*хлів* 90, 92, 94а—96, 98, 103, 108, 109, 132.

*хлыв* 92.

*хлêў* 112, 114—116, 135, 139, 142.

*пу́ня* 78, 81, 86, 123.

Матэрыялы, якія даслалі выкладчыкі Беларускага дзяржаўнага універсітэта (г. Мінск). Гомельскага універсітэта, Брэсцкага і Віцебскага педінстытутаў.

Пасля назвы населенага пункта прыводзіцца нумар сеткі ЛАБНГ, пад якім картаграфуецца лексема, запісаная ў гэтым пункце.

Матэрыялы, якія даслаў У. У. Барысюк (Брэсцкі педінстытут). Ваўкавыскі раён: в. Бабры (№ 51) *хлêў*. Івацэвіцкі раён: в. Бабровічы (№ 101) *хлêў*. Маларыцкі раён: в. Пажэжын (№ 131) *хлів*.

Матэрыялы, якія даслаў В. І. Іўчанкаў (Беларускі дзяржаўны універсітэт). Бабруйскі раён: в. Маліннікі (№ 118) *хлеў*. Бялыніцкі раён: в. Асман-Касаева (№ 73) *пу́ня*. Веткаўскі раён: в. Сівенка (№ 128) *хлеў*. Глыбоцкі раён: в. Бервякі (№ 6) *хлеў*. Гродзенскі раён: в. Свіслач (№ 45) *хлеў*. Дзяржынскі раён: в. Кавальцы (№ 64) *хлеў*. Горад Калінкавічы (№ 122) *хлеў*. Краснапольскі раён: в. Вялікі Восаў (№ 87) *пу́ня*. Лельчыцкі раён: в. Сіманічы (№ 134) *хлêў*. Мядзельскі раён: в. Нікольцы (№ 21) *хлеў*. Рагачоўскі раён: в. Новыя Журавічы (№ 77) *хлеў*. Салігорскі раён: в. Яскавічы (№ 53А) *хлêў*. Смаргонскі раён: в. Солы (№ 22) *хлеў*. Уздзенскі раён: в. Таўкачэвічы (№ 65) *хлеў*.

Матэрыялы, якія даслаў У. І. Коваль (Гомельскі універсітэт). Гомельскі раён: в. Бабовічы (№ 125) *хлеў*. Добрушскі раён: в. Усохская Буда (№ 130) *хлеў*.

Матэрыялы, якія даслала Л. В. Леванцэвіч (Брэсцкі педінстытут). Камянецкі раён: в. Радзевічы (№ 91) *хлыв*. Лідскі раён: в. Алемпінова (№ 52а) *хлеў*.

Матэрыялы, якія даслала Н. Я. Мініна (Віцебскі педінстытут). Гарадоцкі раён: в. Антоненкі (№ 12) *хлеў*. Мёрскі раён: в. Падзявы (№ 2А) *хлеў*. Пастаўскі раён: в. Навасёлкі-2 (№ 3) *хлеў;* в. Сіманы (№ 12А) *хлеў;* в. Сліжава (№ 2) *хлеў*. Полацкі раён: в. Старая Палата (№ 6А) *хлеў*. Расонскі раён: в. Мурагі (№ 1) *хлеў*. Чашніцкі раён: в. Царабені (№ 33) *хлеў*. Гарадскі пасёлак Шуміліна (№ 14) *хлеў*.

## Карта № 27

## АБАРОГ

№ 806в «Я. н. прыстасаванне з чатырох слупкоў і пад'ёмнай стрэшкі для ўкладкі сена: брог, аброг, шчопа...»

Картаграфуюцца назвы абарога (збудавання ў выглядзе стрэшкі, паднятай на чатырох слупах). Паказаны адрозненні па каранях, некаторых фанетычных рысах і словаўтваральных асаблівасцях. Назвы *шо́пка, сініва́я шо́пка* картаграфуюцца як *шо́па*, назвы *да́шак, дах* — як *дашо́к*, назва *брэх* — як *брок*, назва *павéць* — як *павéтка*, назва *сяльні́к* — як *сянні́ца*. Не картаграфуецца назва *пярэ́гарат* (не адносіцца да тэмы карты).

*шо́па* 4, 7, 10, 13—15, 45, 47, 50, 55, 59—61, 74, 82, 85, 88, 94а, 104, 106, 124 (прыбудова або асобны будынак для дроў, панарадаў), 128 (без сцен, не для сена), 135 (стрэшка на чатырох слупах, не для сена), 136, 139—141. *шо́пка* 17, 53, 66. *сінівая шо́пка* 87.

*шо́фа* 4, 20.

*шыха́* 16, 42, 83.

*патшо́па* 111 *(складалі дровы)*. *шо́ха* 120.

*абаро́г* 46. *абаро́х* 93. *буры́г* 92. *обо́ріг* 91, 95. *обори́г* 90, 96. *обору́г* 132 (рэдк.).

*навéс* 16 (нов.), 31—33, 40, 54, 70, 86, 101, 113, 115, 126.

*поднавéс* 108.

*стажа́рня* 9. *стъжа́рня* 8а.

*стажа́р'е* 57. *стажа́р'я* 25.

*стажа́рка* 6.

*дашо́к* 103. *да́шок* 108. *дах* 103.

*брок* 56, 64. *брэх* 65.

*одзёнок* 136, 138. *водзёнок* 138.

*павéць* 36, 86. *павéтка* 35 (не рабілі, зрэдку бачылі ў вёсках каля чыгункі, звалі *павéтка*).

*сяньні́ца* 87. *сяльні́к* 125.

*стрэ́шка* 22, 25, 29. *стры<sup>і</sup>шка* 132.

*мая́к* 59, 94.

Адзінкавыя: *асéліца* 2 *(у асéліцы сушылі снапы)*. *калпа́к* 77. *капéж* 45. *лаба́с* 53.

*облóх* 94. *падта́ша* 130. *патта́ша* 130. *пудóкь с стрíшкэю* 98. *чапíльна* 50 (рэдк.). *шур* 131.
Адсутнасць рэаліі і назвы: 1—3, 5, 8, 11, 12, 18, 21, 23, 24, 25а—28, 30, 34, 37—39, 41, 43, 44, 48—49а, 51—52а, 62, 63, 67—69, 71—73, 75, 76, 78—81, 84, 89, 97, 99, 100, 102, 105, 107, 109—112, 116—119, 120а—124, 127, 129, 133, 134, 142.
Адведзены: *пярэ́гарат* 112 *(на таку пярэ́гарады)*.

**Карта № 28**

## ЗАСЕК

№ 809 «Я. н. аддзяленні ў свірне (клеці) для збожжа: за́сек, засе́к...»
Картаграфуюцца назвы засека ў свірне (клеці). Паказаны адрозненні па каранях, націску, роду, некаторых фанетычных асаблівасцях.
*засе́к* 1, 7—11, 14, 17, 23, 25а, 26, 30, 31, 45, 49, 49а, 52а—54, 56, 57 (нов.), 58 (нов.), 59, 61—63, 65, 66 *(засекі і скры́ні рабілі)*, 68—71, 72 *(скры́ні багатыя ставілі)*, 73, 74, 76, 94, 99—101, 104, 111, 113—116, 117 *(засе́кі цепер, а колісь у бочкі)*, 118, 120, 120а, 123, 124, 127, 134, 135, 138, 139, 142. *засêк* 60, 64, 93, 94, 105, 110, 133. засíк 92, 96—97, 108, 131 *(на всю стыну)*, 132. *засы́к* 90, 91.
*за́сек* 20, 36, 46, 47, 51, 52, 67, 80, 86, 88, 119, 125, 126, 128, 130, 141. *за́сік* 12, 13, 15, 16, 29, 32—35, 37—44, 75, 78, 79, 81—84, 87, 89. *за́сяк* 50, 55, 77.
*засе́ка* 122. *засíка* 95, 98, 103, 109 *(мало було, ставылы бочкы́)*.
*за́сека* 48, 129, 137. *за́сіка* 140.
*ару́д* 28, 57. *ару́т* 5, 6 *(аруды зь бернашкóў, пераложаных шчытна з вуго́льчыкамі; адзін арут жыта, другі ячменю, трэці гароху, аброку арут; лушчэ́йшы авёс — аброк)*, 18, 20—22, 23 *(а ару́дзе засе́кі)*, 24 *(ссыпалі дабро ў вару́дзі, ару́ды былі ў клеці)*, 25, 27, 58.
*гару́т* 2, 3, 4 *(гару́ды былі ў сьвірні — тры, чатыры бывалі, кап усё ўлезла — жыта, ячмень, авёс, пшаніца)*, 19 *(гарут на ячмень, на авёс, на жыта, адгароджаныя клеткі, толстымі доскамі адгароджвалі, да сталява́ня, на мэтр вышыні)*, 58.
*арудэ́й* 52.
*за́крам* 31. *закра́м* 98. *за́крым* 16.
Адзінкавыя: *кватэ́рка* 85. *лар* 131 (невялічкі).
Адсутнасць рэаліі і назвы: 94а *(в бочка́х стояло, або коробэ́ц, плэ́тёный с соломы)*, 102 *(у клеці ў бо́чках стояло)*, 106 (у бо́чках збожжа), 107 *(жыто і ечме́нь у бочкыэ́х стояло ў клуні; засе́к — у стороне́ на снопы)*, 112 *(засекі робяць у сто́пцы на картоплі, а ў клецях кублы стаялі, а ў прысто́пніку стаялі кадаўбу́; прысто́пнік — пе́рад клеці)*, 121 *(у бо́чках стаяла)*.

**Карта № 29**

## ПОГРАБ

№ 810 «Я. н. яма з крытым верхам, якая служыць для захоўвання бульбы: пограб, склеп, лёх...»
Картаграфуюцца назвы спецыяльна́га, паглыбленага ў зямлю памяшкання для захоўвання бульбы, гароднiны. Паказаны адрозненні па каранях і словаўтваральных элементах. Назва *я́мка* картаграфуецца як *я́ма,* назва *лёг* — як *лёх.* Як паказваюць матэрыялы, у шэрагу выпадкаў асобныя назвы ў адным пункце абазначаюць разнавіднасці рэаліі, якая картаграфуецца. Адведзены ад картаграфавання назвы, якія не адносяцца да тэмы карты: *варыўня́, істо́пка, сто́пка, сцёпка.*
*по́граб* 9, 28, 36, 37 *(по́граб* — яма з крытым верхам для захоўвання бульбы), 49а, 57 *(пабудаваны), 59, 67, 70, 73 (по́граб* — у зямлі), 75, 77 (мн.— *по́грабы*), 80, 82, 86, 104, 106, 115, 116, 118, 119, 121 *(паграбо́ў было мало, бульбу ў стопках дзержуць і дзержа́лі)*, 122—126, 127 *(лаз — пасярод ямы)*, 128—130, 137—139, 140 *(пограб ву́копаны)*, 141, 142. *по́грап* 7, 10 (нов.), 11 (нов.), 29, 31, 35, 38, 51 *(муравáлі з каме́ня)*, 53 (рэдк.), 54, 56, 60—64, 66 *(ёсць стрэшка;* мн.— *паграбэ́)*, 69—71, 74, 76, 99, 105, 110—112, *по́греб* 14, 17, 88, 117. *по́гріб* 41, 44, 79, 83, 84, 85 *(по́гріб — будынак з бярвення)*, 89. *по́гріп* 16, 32 (мн.— *пагрíба́*), 33, 39. *по́груп* 98. *по́гръп* 13, 15, 34 (мала пашыраны, больш — *сто́пка*). *по́грыб* 40, 42, 78, 81, 92 (нов.), 97 (нов., рэдк.), 132 (нов., рэдк.). *по́грып* 35. *по́грэб* 94, 95 (нов., рэдк.), 96 (нов.), 101, 103 (нов., рэдк.), 107—109, 113, 120, 120а *(раней не было)*, 131, 135, 136.
*пагрíбня́* 79.
*склеп* 2, 4—6, 8а, 16 *(з цэменту і цэглы)*, 18 *(скля́пы былі ў сто́пцы)*, 19 *(с каме́ня, мурава́ныя, каме́нныя скле́пы)*, 21, 22, 23 *(тут не робяць ям закрытых, а карыстаюцца сцёпкаю)*, 25 *(склеп — у хаце пад падлогай або на дварэ, калі са страхой)*, 25а (нов.), 26, 27, 29, 37 *(склеп — ход з лесніцай і крыша)*, 46, 48—49а, 50 *(мурава́ны, з верхам)*, 52—54, 57 *(пабудаваны)*, 58, 61—63, 65, 66 *(пад зямлёй)*, 67 *(з цэглы або з дзерава)*, 68, 71 (нов.), 72, 85 *(склеп — падва́л)*, 88, 89, 91 (нов., муравaны пограб), 93 *(на двары, пад падлогай у хаце)*, 94а, 95 (у суседніх вёсках Ласінцы, Субаты), 100 *(ніская место, склеп ні робяць, бульба ў істопцы)*, 102, 104, 107, 118 (нов.), 139 (радзей). *скл'еп.* 90.
*лёх* 90 (рэдк.), 92, 95—98, 103, 107—109, 114, 132—135. *лёг* 133.
*лёшак* 127 *(лаз — збоку ямы)*. лёшок 142 *(каменны пограб)*.
*я́ма* 1 *(бульбу ссыпаюць у яму)*, 4 *(яма ненакрытая, саломай закладалі і зямлёй зарывалі, былі і скляпы, але рэдка)*, 8, 10, 11, 12 *(паграбоў няма)*, 25 *(без страхі)*, 25а *(былі ямы і варыўня)*, 28, 33 (трад.), 40 *(о́кала пырка́на выкапывайім яму і сыплім картошку)*, 45, 47, 50 *(у полі, не муро́вана, з верхам)*, 54, 55, 57 *(яма — скрытая ў зямлі)*, 73 *(у хаце пад пало́м)*, 87, 94а *(е наглу́хо закрываецца і з окном е)*. *я́мка* 83, 123.
Адзінкавыя: *батарэ́я* 21 *(выкапаюць яму, апкладаюць каме́ннем, цэментам)*. *земля́нка* 120а (нов.). *падва́л* 130 *(у нас падвал на два двары)*. *похуду́нка* 91 (яма з крышай для бульбы). *сцёбка* 142 *(крыты пограб)*.
Адсутнасць назвы: 3 *(вараўня́ была на бульбу)*, 24 *(не было скляпоў, бульбу ссыпалі ў істопцы, была істопка, варыўня)*, 30 *(у нас нізкая месца, не было)*.
Адведзены: *варыўня́* 24, 25, 70. *вараўня́* 3. *істо́пка* 24, 100. *сто́пка* 34. *сцёпка* 23.

**Карта № 30**

## ВЕЖА

№ 814 «Я. н. высокае слупападобнае збудаванне: вежа, башня, вышка...»
Картаграфуюцца назвы высокага і вузкага слупападобнага архітэктурнага збудавання (вежы). Паказаны адрозненні па каранях. Матэрыял няпоўны, паколькі пытанне 814 не было абавязковым для выканання. Назвы *вы́шка* і *мая́к* не картаграфуюцца, таму што абазначаюць іншую рэалію.
*ве́жа* 3, 8а, 10 *(сіласная вежа)*, 11 *(сіласная вежа)*, 19 *(вежа ў касьцёля, у цэркв'я)*, 20, 45 *(вежа для сіласу)*, 56, 60, 68 (рэдк.), 69 (рэдк.). *вэ́жа* 92 *(чулы, шо дэсь вэжы высокы е)*, 94 *(вэжа — дэ вода тэлятам)*, 95 (фальклорнае: *ой за горою, за крамыню́ю стояла вэжа высока, строёна, высока, строёна, хорошэ складжо́на)*, 108, 132 *(чула, што нíдэ е такый высокы)*.
*стовп* 90 *(камынэ́цькый стовп)*, 91 *(в Ка́мынці е)*, 92 *(в Ка́мынці стовп)*, 96 *(в Ка́мынці)*.
*ба́шня* 8, 8а, 9, 10, 17, 31—33, 36, 54, 57, 60, 62, 65, 67, 68, 69, 72, 78, 79, 81, 83, 85, 88, 93, 96, 96а, 103, 105, 112, 115, 117, 118, 120а, 124, 128, 130, 133, 136, 139, 142.
Адведзены: *вы́шка* 18, 26, 79, 85, 89, 92, 96а, 97, 98, 113, 139. *ві́шка* 133, 138. *ву́шка* 136. *мая́к* 62, 133.
Матэрыялы, якія паведамілі супрацоўнікі Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа АН Беларусі. Прыводзіцца лексема, якая картаграфуецца, назва населенага пункта, дзе яна запісана, нумар сеткі ЛАБНГ, пад якім картаграфуецца лексема, хто паведаміў.
*ба́шня:* Залессе Чч, 123, В. М. Курцова; Кругавічы Гн., 106, І. У. Кандраценя,
*ве́жа:* Вайкунцы Вр, 52, І. Г. Дода.
Матэрыялы, якія даслалі выкладчыкі Беларускага дзяржаўнага універсітэта (Мінск), Гомельскага універсітэта, Брэсцкага і Віцебскага педінстытутаў.
Матэрыялы, якія даслаў У. У. Барысюк (Брэсцкі педінстытут). Ваўкавыскі

раён: в. Бабры (№ 51) *башня.* Маларыкі раён: в. Пажэжын (№ 131) *башня.*
Матэрыялы, якія даслаў В. І. Іўчанкаў (Беларускі дзяржаўны універсітэт). Віцебскі раён: в. Валькі (№ 17) *вежа.* Глыбоцкі раён: в. Бервякі (№ 6) *вежа.* Дзяржынскі раён: в. Кавальцы (№ 64) *башня.* Лельчыцкі раён: в. Сіманічы (№ 134) *башня.* Смаргонскі раён: в. Солы (№ 22) *вежа, башня.* Уздзенскі раён: в. Таўкачэвічы (№ 65) *башня.*
Матэрыялы, якія даслаў У. І. Коваль (Гомельскі універсітэт). Брагінскі раён: г. п. Брагін (№ 67А) *башня;* г. п. Камарын (№ 142) *башня (ваданапорная).* Гомельскі раён: в. Бабовічы (№ 125) *башня.* Добрушскі раён: в. Усохская Буда (№ 130) *башня.*
Матэрыялы, якія даслала Л. В. Леванцэвіч (Брэсцкі педінстытут). Бярозаўскі раён: г. Бяроза (№ 94) *башня, стоўп;* в. Здзітава (№ 94а) *стовп.* Драгічынскі раён: в. Заніўе (№ 95) *стовп;* в. Осаўцы (№ 48А) *башня.* Івацэвіцкі раён: в. Гошчава (№ 46А) *башня.* Камянецкі раён: в. Падбур'е (№ 43А) *віжа;* в. Радзевічы (№ 91) *стовп.* Лідскі раён: в. Алемпінова (№ 52а) *башня.* Пінскі раён: в. Марозавічы (№ 52А). *башня.*
Матэрыялы, якія даслала Н. Я. Мініна (Віцебскі педінстытут). Гарадоцкі раён: в. Антоненкі (№ 12) *башня.* Пастаўскі раён: в. Навасёлкі-2 (№ 3) *башня, вежа;* в. Сіманы (№ 12А) *башня.* Полацкі раён: в. Старая Палата (№ 64) *башня.* Чашніцкі раён: в. Церабені (№ 33) *башня.* Гарадскі пасёлак Шуміліна (№ 14) *башня.*
Матэрыялы, якія даслала А. А. Станкевіч (Гомельскі універсітэт). Навагрудскі раён: г. Навагрудак (№ 53) *вежа;* в. Вялікія Тупалы (№ 53) *вежа.*

### Карта № 31

## СЛУП

№ 790 «Я. н. бервяно ці тоўсты брус, укапаны старчаком у зямлю для закладкі сцяны ці для варот: стоўб, слуп, шула...» № 791 «Я. н. апорныя слупы ў гумне і іншых гаспадарчых будынках: а) у сцяне, шула, шуло...» АЛА 939 stъlpъ.
Картаграфуюцца фанетычна-словаўтваральныя варыянты асноўных назваў слупа.
*слуп* 3, 18, 25а—27, 50, 51, 52а, 55, 56, 58, 124.
*слупа́к* 49, 49а.
*стоўб* 31, 40, 41, 46, 49, 77, 87, 94, 96а, 101. *стовб* 92, 93, 103. *стоўбы́* 31, 49. *стовбы́* 96.
*стоўп* 4, 9, 11, 41, 49, 70, 76, 89, 93, 100, 102, 118, 126. *стовп* 94а, 95, 97, 98, 103, 108, 109, 131, 132. *стовпы́* 94а, 95, 103, 108, 109, 132.
*столп* 7, 16, 68, 112. *сталбы́* 68.
*столб* 120. *столбу́* 120.
АЛА: *слуп* 10А, 12А—17А, 28А—30А, 32А, 39А, 46А, 49А, 50А, 53А, 62А, 64А, 67А, 50, 61, 115.
*слупа́к* 26А, 50А.
*стоўб* 5А, 23А, 25А, 38А—42А, 48А, 51А, 52А, 54А, 55А, 58А—66А, 70. *стовб* 43А.
*стоўп* 1А—4А, 6А—9А, 19А—21А, 25А, 27А, 29А, 31А, 33А, 35А, 37А, 44А, 45А, 47А, 55А, 58А, 60А. 70. *стовп* 43А.
*стаўпе́ц* 49А. *стоўпэ́ц* 47А.
*столб* 18А, 56А, 57А, 67А, 115.
*столп* 13А, 22А, 24А, 34А, 36А, 49А, 50А (тэлеграфны), 61.

### Карта № 32

## КУТ

АЛА 956 'угол' (внутри дома) угол, диал. кут — kut — kąt.
Картаграфуюцца назвы кута ў будынку. Паказаны адрозненні па каранях, словаўтваральных элементах, націску.
*кут* 1А—5А, 7А, 8А (дзе абразы), 9А—11А, 13А, 14А, 16А, (дзе абразы), 18А, 19А (дзе абразы), 20А, 21А (дзе абразы), 22А—33А, 35А—41А, 42А (дзе абразы), 44А, 47А, 49А, 53А, 54А, 57А—60А, 61А (дзе абразы), 62А, 63А, 65—67А, 50, 61, 70, 115.
*куто́к* 1А, 4А—6А, 13А, 15А, 17А, 20А, 26А, 27А, 29А, 32А, 34А, 43А—50А, 52А, 53А, 55А, 56А, 64А, 50, 61.
*ву́гал* 10А, 31А, 34А, 35А, 55А, 59А, 61А. *ву́гол* 56А. *ву́гъл* 8А, 42А. *у́гол* 45А. *у́гыл* 22А.
*вуго́л* 1А, 3А, 9А, 12А, 16А, 21А, 23А, 37А, 39А, 41А, 42А, 52А, 63А, 65А. *уго́л* 2А, 4А, 7А, 15А, 18А.
угло́ 64А.
Дадаткова выкарыстаны ўскосныя звесткі з адказаў на розныя пытанні Інструкцыі ЛАБНГ: *куто́к* 92, 95, 96, 103, 108, 132.

### Карта № 33

## ВУГАЛ (вонкавы)

АЛА 954 'угол дома' (внешний) угол — ugao, ćošak, rogalj — róg.
Картаграфуюцца назвы вонкавага вугла будынка. Паказаны фанетычныя, акцэнталагічныя і марфалагічныя адрозненні.
*ву́гал* 10А, 13А, 26А, 28А, 30А—35А, 40А, 50А, 53А, 55А, 57А—62А, 67А, 61, 70, 115. *ву́гол* 47А, 51А, 54А, 56А. *ву́гъл* 8А, 42А.
*у́гал* 27А. *у́гол* 20А. *у́гъл* 20А. *у́гыл* 22А.
*вуго́л* 1А, 3А, 4А, 6А, 12А—14А, 16А, 17А, 19А, 21А, 23А—25А, 29А, 36А, 37А, 39А, 41А, 42А, 44А, 46А, 48А, 49А, 52А, 63А, 65А, 50.
*уго́л* 2А, 4А, 5А, 7А, 15А, 18А, 19А, 38А, 39А.
*угло́* 43А, 45А, 64А.
*ву́гел* 66А.
Адведзены: *кут* 11А.
Дадаткова выкарыстаны ўскосныя звесткі з адказаў на розныя пытанні Інструкцыі ЛАБНГ *уго́л* 95, 108, 132. *угло́* 42, 96.

### Карта № 34

## ЖЭРДКА

АЛА 940 žьrdь жердь — диал. žrd — żerdź.
Картаграфуюцца адпаведнікі назоўніка *жэрдка.* Паказаны фанетычныя, словаўтваральныя і акцэнталагічныя адрозненні. Матэрыял, відаць, няпоўны, таму што пытанне арыентыравала толькі на выяўленне фанетычных варыянтаў формы *žьrdь.*
*жэ́рдка* 56А, 57А, 60А—62А, 65А, 70. *жэ́ртка* 11А, 14А, 15А, 19А, 26А—30А, 32А, 33А, 35А, 37А, 43А, 44А, 49А, 50А, 54А, 55А, 58А, 59А, 66А, 50, 61, 70.
*жо́рдка* 45А. *жо́ртка* 31А, 46А, 53А.
*жардзі́на* 6А, 17А, 18А, 22А, 23А, 25А, 38А, 39А, 41А, 63А, 50. *жырдзі́на* 1А, 3А—5А, 12А. *жэрдзі́на* 51А. *жэрді́на* 47А. *жэрды́на* 48А, 52А, 64А.
*жэ́рдзіна* 1А, 40А.
*жэрдзь* 14А, 23А, 25А, 42А, 66А, 67А, 115. *жэрдь* 43А, 64А. *жэрць* 7А—9А, 16А, 20А, 21А, 24А, 27А, 36А.
*жэ́рдзя* 23А. *жэрсьць* 13А.
Дадаткова выкарыстаны ўскосныя звесткі з адказаў на розныя пытанні Інструкцыі ЛАБНГ: *жэ́рдка* 105, 110, 115, 135, 142. *жардзі́на* 86. *жырдзі́на* 85, 89. *жырды́на* 90, 92, 95, 97, 132. *жэрді́на* 94, 133.

## Карта № 35

## ДЗВЕРЫ

АЛА 962 'дверь дома', дверь — vrata — drzwi

Картаграфуюцца фанетычна-марфалагічныя варыянты слова *дзверы.*

*дзьве́ры* 1А—6А, 8А, 10А—20А, 22А, 24А, 26А—38А, 40А, 44А, 49А, 53А, 55А—63А, 66А, 67А, 50, 61, 70.

*дзьвэ́ры* 51А.

*двэ́ры* 45А, 48А, 64А.

*двэ́рэ* 43А.

*дзьве́рі* 7А, 9А, 23А, 25А, 39А, 41А, 42А, 54А.

*двэ́рі* 65А.

*дзьве́ра* 46А, 50А, 115.

*двэ́ра* 47А, 52А.

*дзьверь* 21А.

## Карта № 36

## ГАНАК

АЛА 969 'лестница, ведущая в дом' лестница — stepenice, basamaci, skaline, skale — schody

Пытанне АЛА 969 арыентавана на высвятленне назвы лесвіцы, па якой уваходзяць у будынак. Аднак такая рэалія ў беларускіх вёсках звычайна адсутнічае. У адказах на гэтае пытанне часцей за ўсё прыведзены назвы прыбудовы перад парогам пры ўваходзе ў дом — ганка ці прыступак. Назвы гэтых рэалій картаграфуюцца на дадзенай карце. Паказаны адрозненні па каранях і словаўтваральных элементах. Назва *га́начкі* картаграфуецца як *га́нкі,* назва *ўсхо́ды* — як *схо́ды,* назва *усхо́дцы* — як *схо́дцы.* Матэрыял няпоўны, паколькі ў многіх выпадках у адказах на пытанне АЛА 969 прыводзіцца назва лесвіцы, драбін, драбінак (яны адведзены ад картаграфавання).

*га́нак* 16А (рус. *крыльцо),* 32А, 35А, 40А, 53А, 58А, 70. *га́нак* 2А, 14А, 29А, 30А, 66А. *га́нок* 51А. *га́нок* 54А, 65А. *га́нък* 8А. *га́нык* 5А, 22А, 24А. *га́нык* 38А.

*га́нкі* 25А, 41А, 61А, 63А. *га́нкі* 42А, 62А. *га́нычкі* 39А. сх.

*схо́ды* 10А, 13А, 26А—28А, 30А, 45А, 46А, 49А, 50А (літаратурнае), 53А, 64А, 50. *усхо́ды* 61.

*схо́цды* 12А, 31А. *усхо́дцы* 62А *(на ганках). усхо́цды* 15А.

*схо́ткі* 14А, 43А. *схо́дкы* 48А.

*схо́дзікі* 44А.

*прысту́пкі* 3А, 6А. *прісту́пкі* 9А. *прусту́пкі* 2А.

*ступе́нькі* 19А, 28А, 59А, 60А. *ступэ́ нькы* 64А.

*памасто́к* 44А.

*паро́жак* 50А.

Адведзены: *драбіна* 11А, 47А. *драбінка* 59А. *драбі́ны* 37А. *драбэ́на* 43А. *лёзьніца* 47А. *лёска* 67А. *лёскі* 64А. *лёсьвіца* 1А, 4А, 18А, 23А, 39А, 47А. *лёсьніца* 7А, 20А, 21А, 33А, 36А. *стромы́на* 52А.

Дадаткова выкарыстаны ускосныя звесткі з адказаў на розныя пытанні Інструкцыі ЛАБНГ: *га́нак* 68, 69, 72. *га́нкі* 32, 33, 36, 81, 85, 87. *га́нкі* 33, 81, 85, 87. *га́нок* 92 (в. Заказанка 'ганак'). *га́нок* 92 (в. Баброўцы 'стрэшка пад ганкам'), 95 (в. Вулька-Сіманавіцкая 'ганак', в. Сіманавічы 'стрэшка над ганкам'), 96 (в. Літвінкі 'ганак'), 103, 132 (з стрэшкай і без стрэшкі). *помі́шчык* 97. *помы́шчык* 95. *пры́сту́пка* 81 (калі толькі адна ступенька перад парогам), 85, 87. *прысту́пкі* 81 (калі дзве ці больш ступенек перад парогам), 85, 87, *схо́ды* 96. *схо́дыкы* 95.

Матэрыялы, якія паведамілі супрацоўнікі Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа АН Беларусі. Прыводзіцца лексема, якая картаграфуецца, назва населенага пункта, дзе яна запісана, нумар сеткі ЛАБНГ, пад якім картаграфуецца лексема, хто паведаміў.

*га́нак:* Кругавічы Гн, 106, І. У. Кандраценя; Вайкунцы Вр, 52, І. Г. Дода (прыбудова да хаты).

*га́нкі:* Шаламы Сл, 81, І. Я. Яшкін; Залессе Чч, 123, В. М. Курцова.

*ганкі:* Шаламы Сл, 81, І. Я. Яшкін *(ганкі зьдзелуў, а цяперіцька наддзелый крыльцо).*

*памасто́к:* Будча Гн, 106, І. У. Кандраценя.

*схо́дкі* Вр, 52, І. Г. Дода.

Матэрыялы, якія даслалі выкладчыкі Беларускага дзяржаўнага універсітэта, Гомельскага універсітэта, Брэсцкага і Віцебскага педінстытутаў. Пасля назвы населенага пункта прыводзіцца нумар сеткі ЛАБНГ, пад якім картаграфуецца лексема, запісаная ў гэтым пункце.

Матэрыялы, якія даслаў У. У. Барысюк (Брэсцкі педінстытут). Драгічынскі раён: в. Цыбкі (№ 48А) *помішчык.* Маларыцкі раён: в. Пажэжын (№ 131) *га́нок, схо́ды.*

Матэрыялы, якія даслаў В. І. Іўчанкаў (Беларускі дзяржаўны універсітэт). Бабруйскі раён: в. Маліннікі (№ 118) *га́нак.* Бялыніцкі раён: в. Асман-Касаева (№ 73) *прысту́пкі.* Веткаўскі раён: в. Сівенка (№ 128) *га́нкі.* Віцебскі раён: в. Валькі (№ 17) *прысту́пкі, га́нак.* Глыбоцкі раён: в. Бервякі (№ 6) *га́нак.* Гродзенскі раён: в. Свіслач (№ 45) *га́нак, схо́дкі.* Дзяржынскі раён: в. Кавальцы (№ 64) *га́нак.* Кобрынскі раён: в. Турное (№ 96) *помі́шчык.* Краснапольскі раён: в. Вялікі Восаў (№ 87) *прысту́пкі.* Лельчыцкі раён: в. Сіманічы (№ 134). *га́нок.* Мядзельскі раён: в. Нікольцы (№ 21) *га́нак.* Рагачоўскі раён: в. Ніжнія Журавічы (№ 77) *пры́сту́пкі.* Смарго́нскі раён: в. Солы (№ 22) *га́нак.* Уздзенскі раён: в. Таўкачэвічы (№ 65) *га́нак.*

Матэрыялы, якія даслаў У. І. Коваль (Гомельскі універсітэт). Брагінскі раён: г. п. Брагін (№ 67А) *га́нак,* г. п. Камарын (№ 142) *га́нак.* Гомельскі раён: в. Бабовічы (№ 125) *га́нак.* Добрушскі раён: в. Усохская Буда (№ 130) *ганак (схо́дні).*

Матэрыялы, якія даслала Л. В. Леванцэвіч (Брэсцкі педінстытут). Бярозаўскі раён: в. Здзітава (№ 94а) *помосто́к.* Драгічынскі раён: в. Заніўе (№ 97) *помі́шчык.* Камянецкі раён: в. Радзевічы (№ 91) *схо́ды.* Лідскі раён: в. Алемпінова (№ 52а) *схо́ды.*

Матэрыялы, якія даслала Н. Я. Мініна (Віцебскі педінстытут). Гарадоцкі раён: в. Антоненкі (№ 12) *га́нак.* Мёрскі раён: в. Падзявы (№ 2А) *га́нак.* Пастаўскі раён: в. Навасёлкі-2 (№ 3) *га́нак;* в. Сіманы (№ 12А) *га́нак.* в. Сліжава (№ 2) *га́нак.* Полацкі раён: в. Старая Палата (№ 13) *ступе́нькі.* Расонскі раён: в. Мурагі (№ 1). *га́нак.* Чашніцкі раён: в. Церабені (№ 33) *га́нак.*

Матэрыялы, якія даслалі І. Р. Кожух (в. Пярэспа) і А. А. Станюкевіч (в. Вялікія Тупалы): *га́нак* (в. Вялікія Тупалы Навагрудскага раёна, 53), *помы́шчык* (в. Пярэспа Драгічынскага раёна, 95).

## Карта № 37

## ПРЫСТУПКА

АЛА 970 'ступенька лестницы' ступенька — stepenik, stepenica, basamak — stopień

Адказ на пытанне АЛА 970 інфарматары давалі пасля адказу на пытанне 969, калі пераважна прыводзілі назвы ганка ці прыступак перад парогам (гл. каментарый да карты № 36). Таму ў матэрыялах адказаў на пытанне 970 пераважна прыведзены назвы прыступкі ў ганку. Назвы гэтай рэаліі картаграфуюцца на дадзенай карце. Паказаны адрозненні па каранях і словаўтваральных элементах. Назва *га́нычка* картаграфуецца як *га́нка,* назва *паро́шка* — як *паро́жак.* Матэрыял няпоўны, паколькі ў многіх пунктах прыведзены назвы іншых рэалій (перакладзіны драбін і інш.). Гэтыя назвы адведзены ад картаграфавання.

*ступе́нька* 5А, 15А, 16А, 18А—20А, 22А, 23А, 25А, 26А, 29А, 32А, *(ступенькі ганку),* 33А, 36А, 38А, 40А, 46А, 48А, 57А—60А, 66А, 50, 70. *ступэ́нька* 43А (нов.), 45А, 64А, 65А.

*прыстýпка* 3А, 6А. *прістýпка* 9А, 41А, 42А. *прустýпка* 2А.
*прыстýпчык* 9А.
*ступéнь* 41А.
*схóдка* 10А. *схóтка* 13А, 14А, 26А, 17А, 43А, 53А. *усхóдка* 62А. *усхóтка* 61.
*схóдзік* 44А.
*усхóд* 30А *(на тры усходы ганак)*. *схадзíна* 62.
*гáнка* 24А, 66А. *гáнычка* 39А.
*парóжак* 50А. *парóжэк* 51А. *парóшка* 31А.
Дадаткова выкарыстаны ўскосныя звесткі з адказаў на розныя пытанні Інструкцыі ЛАБНГ: *парóжок* 106. *прыстýпак* 72. *прыступка* 81. *прыстýпка* 8а, 17, 36, 57, 73, 81. *прістýпка* 85, 87. *прыстýпчык* 15. *ступéнька* 10 (нов.), 13, 57, 60, 62, 65, 67, 79, 105, 110, 115. *схóдык* 95, 96, 132. *схóтка* 52, 62.

### Карта № 38

## ЛЁСТКА (у драбінах)

АЛА 972 'перекладина стремянки' ступенька — prečka, prečaga — szczebel
Картаграфуюцца назвы лёсткі (папярочкі ў драбінах). Паказаны адрозненні па каранях, словаўтваральных элементах, некаторых фанетычных рысах. Назва *пáлачка* картаграфуецца як *пáлка,* назва *папярэ́чка* — як *папярóчка,* назва *калóк* — як *калóчак,* назва *цýрачка* — як *цýрка,* назва *лёстачка* — як *лёстка.* Матэрыял няпоўны.
*ля́ска* 26А, 28А, 29А, 32А, 49А, 50, *ля́сточка* 51А.
*цыпóк* 48А *(у страмыны)*, 52А. *цэпóк* 45А *(круглый)*, 54А, 64А.
*цýрка* 63А. *цýрачка* 40А.
*шчэ́бла* 10А (у драбінах), 11А, 19А, 26А.
*папярóчка* 32А, 61. *папярэ́чка* 34А. *попэрэ́чка* 65А. *пыпярэ́чка* 1А.
*упярóчка* 39А, 59А, 62А.
*пярэ́чка* 4А—6А, 12А.
*парэ́чка* 2А, 3А.
*калóчак* 44А. *колóчок* 47А. *калóк* 50А *(у лёсках)*.
*пáлка* 3А, 10А, 19А, 27А, 28А, 31А, 53А, 56А, 66А, 67А, 70. *пáлачка* 13А, 15А, 17А, 57А. *пáлычка* 3А.
*перакладзíна* 61А.
*плáнка* 23А.
Адзінкавыя: *гаворуць лéсвіца й усё* 24А. *застáўкі* 14А. *кóстычка* 25А. *лы́шта* 48А *(у драбыны)*. *пóлъчка* 7А.
Дадаткова выкарыстаны ўскосныя звесткі з адказаў на розныя пытанні Інструкцыі ЛАБНГ: *дóшчачка* 105. *лéска* 105. *лёстачка* 61. *лёстка* 62. *папярэ́чка* 60, 67. *папярэ́чына* 60, 105. *парэ́чка* 2. *попырэ́чына* 92. *пупярёчка* 85, 87. *пыпярéчка* 85. *пярóчка* 68, 69. *пярэ́чка* 10. *упярёчка* 85, 87. *упярóчка* 81. *цýрка* 79, 81, 85. *цыпóк* 95, 108, *шчэ́бла* 18, 20.
Матэрыялы, якія даслалі выкладчыкі Беларускага дзяржаўнага універсітэта (Мінск), Гомельскага універсітэта, Брэсцкага і Віцебскага педінстытутаў. Пасля назвы населенага пункта прыводзіцца нумар сеткі ЛАБНГ, пад якім картаграфуецца лексема, запісаная ў гэтым пункце.
Матэрыялы, якія даслаў У. У. Барысюк (Брэсцкі педінстытут). Ваўкавыскі раён: в. Бабры (№ 51) *ля́ска.* Драгічынскі раён: в. Цыбкі (№ 97) *цыпóк.* Івацэвіцкі раён: в. Бабровічы (№ 101) *біло.* Маларыцкі раён: в. Пажэжын (№ 131) *цыпóк.*
Матэрыялы, якія даслаў В. І. Іўчанкаў (Беларускі дзяржаўны універсітэт). Бабруйскі раён: в. Маліннікі (№ 118) *папярэ́чка.* Віцебскі раён: в. Валькі (№ 17) *папярóчка.* Гродзенскі раён: в. Свіслач (№ 45) *папярóчка.* Дзяржынскі раён: в. Кавальцы (№ 64) *лёстка.* Краснапольскі раён: в. Вялікі Восаў (№ 87) *папярóчка.* Смаргонскі раён: в. Солы (№ 22) *папярэ́чка.* Уздзенскі раён: в. Таўкачэвічы (№ 65) *лёстка.*
Матэрыялы, якія даслаў У. І. Коваль (Гомельскі універсітэт). Брагінскі раён: г. п. Брагін (№ 67А) *перакладзíна;* г. п. Камарын (№ 142) *плáнка, папярóчка.* Гомельскі раён: в. Бабовічы (№ 125) *драбíнка.*
Матэрыялы, якія даслала Л. В. Леванцэвіч (Брэсцкі педінстытут). Бярозаўскі раён: г. Бяроза (№ 94) *пырэ́чына;* в. Здзітава (№ 94а) *пырэ́мычка.* Івацэвіцкі раён: в. Гошчава (№ 46А) *папярóчка.* Камянецкі раён: в. Радзевічы (№ 91) *попырэ́чка, пруткí.* Лідскі раён: в. Алемпінова (№ 52а) *ля́ска.* Пінскі раён: в. Марозавічы (№ 109) *дóшчычка.*
Матэрыялы, якія даслала Н. Я. Мініна (Віцебскі педінстытут). Гарадоцкі раён: в. Антоненкі (№ 12) *пірікладзíна.* Мёрскі раён: в. Падзявы (№ 2А). *папярэ́чка.* Пастаўскі раён: в. Навасёлкі-2 (№ 3) *папярэ́чка;* в. Сіманы (№ 12А) *пярэ́чка;* в. Сліжава (№ 2) *пярэ́чына.* Полацкі раён: в. Старая Палата (№ 13) *плáнка.* Расонскі раён: в. Мурагі (№ 1) *пярэ́чына.*
Матэрыялы, якія паведамілі М. Р. Гарбачык (в. Туляцічы, № 103), І. Г. Дода (в. Вайкунцы, № 52), І. У. Кандраценя (в. Кругавічы, № 106), І. Р. Кожух (в. Пярэспа, № 95), В. М. Курцова (в. Залессе, № 123), М. А. Рэзько (в. Маркавічы, № 95), А. А. Станкевіч (в. Вялікія Тупалы, № 53), І. Я. Яшкін (в. Шаламы, № 81): *кóлікі* (в. Вайкунцы), *ля́ска* (в. Вялікія Тупалы), *папярóчка* (в. Кругавічы), *перапóнка* (в. Шаламы), *ціпóк* (в. Пярэспа), *цýрка* (в.в. Залессе, Шаламы), *цыпóк* (в.в. Маркавічы, Туляцічы).

### Карта № 39

## КУРАТНІК

АЛА 935 'помещение для кур' курятник — kokošarnik, kokošinjac — kurnik
Картаграфуюцца назвы куратніка. Паказаны адрозненні па каранях, словаўтваральных элементах і некаторых фанетычных рысах.
*курáтнік* 1А, 2А, 4А, 7А, 8А, 11А—20А, 22А, 24А, 27А, 30А—36А, 37А *(у калхозя)*, 38А, 40А, 45А—47А, 49А, 52А, 53А, 55А, 56А, 58А—61А, 62А (нов.), 63А, 67А, 50, 61, 70, 115. *куря́тнік* 9А, 21А, 25А, 39А, 41А—43А. *куря́тнык* 64А. *курéтнык* 48А (нов.).
*курáчнік* 26А, 28А, 29А, 44А, 50А, 65А, 50.
*курáшнік* 12А.
*кýрнік* 10А, 11А, 51А.
*курусáднік* 4А. *куря́тня* 23А *(у калгасе)*.
*свыны́нчык курéчый* 48А.
Адзінкавыя: *п'етрó* 57А. *п'я́тро* 57А. *хлеў* 35А. *хлявóк для курэй* 6А.
Адсутнасць назвы: 3А, 5А, 54А.
Адведзены: *курасáдня* 23А. *потпíччэ* 48А. *сéдало* 62А (месца ў хляве для курэй), 66А.
Дадаткова выкарыстаны ўскосныя звесткі з адказаў на розныя пытанні Інструкцыі ЛАБНГ: *курáчнік* 48, 53. *курáшнік* 3. *кýрнік* 3, 45, 47. *свыны́нчык курáчый* 94а. *свыны́нчык куря́чый* 95, 103.

### Карта № 40

## АБГАРОДЖАНЫ

АЛА 937 огорожен — ograđen — ogrodzony
Картаграфуюцца варыянты слова *абгароджаны.* Супрацьпастаўлены прыстаўкі *аб-* і *а-*, а таксама рэфлексы *-gj- у корані слова.
1А *агарóжыный.* 2А *зыгарóжаны.* 3А *агарóжаный.* 4А *загарóджыный, загарóджын.* 5А *зыгарóжан.* 6А *абгарóджаный.* 7А *агарóжън.* 8А *абгарóджъна.* 9А *абгарóжыный.* 10А—11А *агарóджаны.* 12А *агарóджаны, агарóжаны.* 13А *агарóджаный.* 14А *агарóджаны.* 15А *абгарóджаны.* 16А *агарóджаны.* 17А *абгарóджаны.* 18А *абгарóжаны.* 19А *абгарóджаны.* 20А *зъгарóжън.* 21А *абгарóджаны.* 22А *ыбгарадзíць.* 23А *зыгарóжыный.* 24А. 25А *зыгарóджыный.* 26А—29А *агарóджаны.* 30А—33А *загарóджаны.* 34А *агарóжаны.* 35А *агарóджаны.* 36А *агарóжыны.* 37А *агарóжаны.* 38А *зъгарóджаны.* 39А *абгарóджын, абгарóджыный.* 40А *загарóджаны.* 41А *зъгарóджън.* 42А *зъгарóжын, абгарóжын.* 43А *огорóжаный.* 44А *агарóджаны.* 45А *огорóжэный.* 46А *абгарóджаны.*

47А *загорóжэный.* 48А *огорóджаный.* 49А *абгарóджаны.* 50А *загарóджаны.* 51А *огорóджаны.* 52А *огорóдяный.* 53А *агарóджаны.* 54А *огорóдженый.* 55А *агарóжаны.* 56А *огорóджаны.* 57А *агарóжаный.* 58А *агарóджаны.* 59А—61А *загарóджаны.* 62А—63А *абгарóджан.* 64А *огорóжэный.* 65А *огорóжэн.* 66А—67А *агарóджаный.* 50 *агарóджаны.* 61 *агарóджаны.* 70 *абгарóджаны.* 115 *агарóджаны.*

Дадаткова выкарыстаны ўскосныя звесткі з адказаў на розныя пытанні Інструкцыі ЛАБНГ: 9—10 *абгарóджъный.* 20 *агарóджаны.* 33 *абгарóджаный.* 40 *абгарóджыный.* 42 *абгарóджыный.* 67 *агарóджаны.* 78 *абгарóджыны.* 83 *абгарóджыный.* 85—86 *абгарóджыный.* 94а *огорóдяный.* 95—96 *огорóджаный.* 98 *загорóдяны.* 110 *агарóджаны.* 112 *агарóджаны.* 116 *агарóджаны.* 123 *абгарóджаны.* 125 *абгарóджаны.* 127 *абгарóджаны.* 132 *огорóдяный.*

#### Карта № 41

## НЕЖЫЛАЯ ХАТА

№ 822 «Я. н. хата, у якой не жывуць: тошчая, пустая...»

На карце адлюстроўваюцца лексічныя сінонімы назвы нежылой хаты і іх суфіксальныя варыянты. Назва *нежывýшчая (хáта)* картаграфуецца як *нежылáя.*

*пустáя (хата)* 1, 2 *(вокны забіты),* 3, 4, 6, 7, 8, 9, 10 *(хата пустуе),* 11 *(пустýіць хáта — выíіхалі атсюль),* 12—14, 16—24, 25 (апусцела хата), 25а—27, 29—31, 32 *(ніхтó ні жывéць),* 33—40, 42 *(вóкны забітыя),* 13—49, 50, 51, 52а—59, 61—65, 66 *(ніхто не жыве),* 67—85, 87—89, 93, 94, 95 *(гокна забыты),* 96а, 99—101, 102 *(опусьцéло ўсё тáма),* 104—106, 109—111, 112 *(запуставáла, пустýя хáта),* 113, 115—124, 128, 129, 131, 132 *(хáта быз людзй),* 133, 136, 138—141, 142 *(калі людзі паўмірáюць і там не жывýць), пýста хата* 107, *пустá хата* 109, 114, 138.

*пустóвана хата* 98.

*пýстка* 97, 131, 134, 135.

*тóшчая (хата)* 3 *(ніхтó ні жывéць),* 5 *(тóшчъя),* 24, 49а, 52.

*нежылáя (хата)* 9, 53, 67, 86, 118, 130, 142, *нежылая* 118. *ніжылая* 69, 79, 81, 83. *ніжылáя* 126. *ніжълáя* 8а. *ныжыла (хата)* 90, 103. *ныжылая* 132. *нэжыла(я) хата* 109. *няжылáя* 60. *няжылъя хата* 8а, 15, *ныжывýшчая хáта* 92.

*парóжняя (хата)* 28, 30, 93. *парóжна хата* 115, *парóжная* 25, *парóжнія* 39. *порóжна* 103. *порóжня хата* 95, 114, 133. *пôрóжня* 90.

*нішчымная (хата)* 122, 125, 127. *нішчымна* 114.

*забыта (хата)* 95, 96.

Адзінкавыя: *адзінóкая* 77. *халóдныя* 41, *гóла* 134.

#### Карта № 42

## ПРЫЗБА

№ 824 «Абсыпаць вакол хаты прызьбу, прызву, загавальну, заваліну...»

На карце адлюстраваны лексічныя, фанетычныя і словаўтваральныя варыянты назваў прызбы хаты.

Адзінкавыя назвы не з'яўляюцца прамымі дыялектнымі сінонімамі, а апісальнымі канструкцыямі. У п. 22 рэалія адсутнічала *(...у нас ні абсыпáлі хаты...),* у пп. 21 і 49 адсутнічае адказ на гэтае пытанне. Як *прызьба* картаграфуецца *прысьба* 125, а *завáліны* — як *завáліна.*

*прызба* 2, 3, 6, 10, 11, 19, 21, 23—25а, 26, 30, 31, 45, 48, 49а, 50, 51, 62а—55, 58, 59, 61—63, 65, 68, 69—72, 74—76, 93, 94, 97, 99, 101, 108—111, 114—118, 126, 130—134.

*прызьба* 20, 27, 46, 47, 56, 57, 64, 77, 90, 92, 95—97, 102—105, 109, 119, 125 *(прысьба),* 137.

*прызва* 66, 67, 100, 107, 112, 113, 118, 120, 120а, 122, 124, 127, 135, 136, 139, 140, 141, 142. *прызыва* 120а. *прізва* 138. *прэзва* 98.

*загáта* 91, 92.

*завáліна* 1, 9, 14, 17, 18, 28, 29, 33, 36, 37, 75, 80, 81, 123, 125. *зъвáліна* 5, 12, 13, 15, 32, 39, 73. *зъвáлíня* 5. *звáліна* 73. *зывáліна* 7, 16, 34, 35, 40, 42, 78, 87. *завáліны* 34, 41. *завáльна* 52. *зывáльна* 38.

*завáльня* 4, 8.

*загавáліна* 10, 82, 128. *зугувáліна* 43, 83, 88. *зугуўáліна* 84. *зыгувáліна* 79, 89.

*загавáльня* 86. *зугувáльня* 88. *зыгувáльня* 44, 89.

*зугáліна* 129.

Адзінкавыя: *абсыпаць хату* 106. *абсыпаць падрýбу* 54. *огатыты, заплысты плóтом* 94а. *капéш, на капяжы* 60.

#### Карта № 43

## ПАДМУРАК (у хаце)

№ 823 «Я. н. падмурак хаты: фундамент, падмуроўка...»

На карце паказаны лексіка-словаўтваральныя адрозненні назваў падмурка. Адным знакам картаграфуюцца лексемы *фундáмент* і *хундáмент,* а таксама *кáмень* і *камéча.* Недакладнасць пытання ў Апытальніку абумовіла адказы з розным семантычным напаўненнем: *падрýбы, вянкí* — калі ў хаце не было ні падмуроўкі, ні фундамента; *камень, падмуроўка, пустáкі* — прымітыўны фундамент з камянёў, пустацелых блокаў, прысыпаны пяском ці абмазаны глінай, замацаваны вапнай, пазней цэментам, *фундáмент* — заліты цэментам (новая з'ява); *калóдкі, штымпáлі, штандáры* — дубовыя цурбаны, якія ўкопваліся ў зямлю пад вуглы хаты, пад сярэдзіну бярвенняў першага вянка.

*падмурóўка* 1, 7, 8, 10, 11, 14, 17, 18—22, 25а, 26, 28, 32, 49а—57, 59, 62, 63, 66, 68, 69, 71, 76, 100, 104, 111, 112, 136, 140. *падмурôўка* 49, 64, 65, 135. *підмурêвка* 102. *подмурóўка* 94, 117, 134. *подмурóвка* 96а. *пудмурóўка* 133, 138. *пудмурýўка* 94а, 132. *пудмурӣвка* 96, 103, 108. *пудмурывка* 132. *пудмурíвка* 92, 95, 98, 109. *пудмурóўка* 12, 101, 138. *пыдмурóўка* 107. *пъдмурóўка* 8а, 9, 15.

*падмýрак* 2, 4, 6 *(нада паткаціць падмурак пат хату)* 23, 25, 27, 29, 30, 33 *(паткатуюць чатыры камні, засыпаюць, робяць падмурак для хаты),* 58, 61, 70, 77, 99, 105, 111, 127 (цагляны падмурак толькі зараз пашыраецца), 128, 142. *подмýрок (дубовы)* 119. *пудмýрак* 90. *пудмýрок* 91, 96, 97.

*пóдмур* 139, 141.

*пóдруп* 125. *пыдрýбы* 107.

*фундáмент* 21, 31, 36, 37, 46—48, 57, 66, 67, 73, 74, 77, 80, 86, 88, 95, 98, 97, 102, 107, 106, 108, 110—112, 115, 116, 119, 122, 123, 125, 136, 137, 139, 142. *фундáмêнт* 9. *фундáмінт* 5, 7, 10, 11, 13, 38, 41, 42, 75, 79, 82, 83, 85, 87, 89, 130. *фундáмант* 45, 93. *фундáмянт* 3, 50, 55, 60, 63, 68, 69, 76. *фундáмэнт* 96а. *фундáмент* 74, 120а.

*хундáмент* 24, 66, 77, 86, 94а, 102, 113, 118, 120, 121, 127—129. *худáмент* 120а. *хундáмін* 73. *худáмінт* 39. *хундáмінт* 16, 34, 35, 39, 40, 43, 44, 78, 79, 81, 82, 84, 87, 89. *хундáмынт* 131. *хундáмянт* 126.

*кáмень* 3 *(пад вýгал падвярнéш кáмянь і пад сцяну — кáмяні, і зальéш вáпнай),* 22 *(ранéй хáту стáвілі на кáмяне),* 29 *(кáмні, склютавáныя глінай),* 33 *(паткáтуюць чатыры камні, засыпáюць зямлёй),* 75 *(ранéй клáлі вýгал хáты на кáмянь).*

*камéча* 49 *(раней было камéча, а не падмурóўкі).*

*штандáры* 72 *(штандáры дубовыя),* 74 *(стандáры настаўныя).* *шкындáры* 42 *(фундамінт у шкындары ўрýблівыйіцца).*

*пудстáкы* 95 *(пудстáкы з цымынту пудстаўляюцьця),* 103.

Адзінкавыя: *штымпáлы* 106 *(раньшы хата стояла на штымпалах, под углы клáлі колóдкі, а под подвáліну — штымпáлы).* *брýссе* 77 *(хундáмент рабілі з дубóвага брýсся).*

*вянкі дубóвыя* 127 *(раней стáвілі пéршыя дубóвыя вянкі хаты прáма на зямлю, без аніякіх штандáраў).*

#### Карта № 44

## НІЖНІ ВЯНОК ЗРУБА

№ 825 «Я. н. ніжні вянок зруба: подруб, падруб, падваліны...»

На карце супрацьпастаўляюцца лексічныя адрозненні, словаўтваральныя, марфа-

лагічныя і прасадычныя варыянты. Назвы *падру́ба, падру́біна, по́друбы, падру́бы* картаграфуюцца адным знакам. Іншым (але таксама адным знакам) картаграфуюцца *падва́ліна* і *падвалі́на, падва́ліны* і *падвалі́ны.* Адным знакам пададзены *ашчэп хаты* і мяркуемая назва *сашчэп,* выведзеная з апісальнага адказу *сашчапілі хату сёня.* Гэтаксама адзін знак на карце для *падва́л* і *падва́лы.*

*падру́б* 37, 44, 70, 73, 86, 89, 119, 120а, 128. *падру́п* 34, 38, 70, 71. *подру́б* 113. *пудру́п* 98.

*по́друб* 14, 17, 28, 41, 75, 78, 79, 81, 82, 84, 86, 87, 115, 116, 121, 123, 124, 126, 130, 135, 136. *по́друп* 2, 8—12, 16, 18, 19, 21, 22, 24, 25а, 29, 30, 32, 33, 35, 39, 52, 118, 125. *по́дрън* 13. *пу́друп* 110.

*падру́ба* (мн. *падру́бы*) 23, 25, 26, 27, 31, 45, 46, 48—50, 52а, 53, 55—58, 63—69, 74, 93, 94а, 95, 99, 105, 112. *підру́ба (підру́бы),* 102. *подру́ба* (мн. *подру́бы*) 94, 101, 112, 113, 134. *по̂дру́ба* 90. *пудру́ба* (мн. *пудру́бы*) 103, 108, 109, 132.

*падру́біна* 26, 112.

*по́друбы* 51, 72.

*падва́л* 142. *подва́лы* 91. *пудва́лы* (адз. *пудва́ла*) 79, 92, 131.

*подва́лок* 97 (мн. *подва́лкэ*) 96а. *пудва́лок* (мн. *пудва́лкы*) 96.

*падва́льня* 130.

*поду́альнік* 144.

*падва́ліна* 135, 137. *пудва́ліна* 138. *падва́ліны* 36, 48, 129. *подва́ліны* 133. *пыдва́ліны* 107.

*падвалі́на* 49а, 60, 62а, 100, 110. *падвалі́ны* 20, 53, 54, 59—62, 104, 110, 127. *подвалі́ны* 106, 133.

*бру́сся* 76. *брусы́* 77, 115.

*вяне́ц: віне́ц* 17. *пе́рвый віне́ц* 1. *ні́жні вяне́ц* 34, 80. *ні́жній вяне́ц* 40, 83, 85, 86. *пе́рвы вяне́ц* 4, 8. *пе́рвый вяне́ц* 7. *пе́ршы вяне́ц* 6, 15, 24. *пе́ршый вяне́ц* 42.

*вяно́к: пе́ршы вянок* 3. *ні́жні вянок* 12, 35, 38.

*ашчэ́п ха́ты* 141. *сашчапілі ха́ту сёня* 139.

Адзінкавыя: *закі́дкі* 43. *свя́зі* 120. *устру́б* 122.

## Карта № 45

## ПАДВАЛІНА

№ 826 «Я. н. папярочныя бярвенні, якія ўрубліваюцца ў першы вянок зруба, на якія накладваецца потым падлога: лагі, падмосткі, падноснікі, падлогі».

Картаграфуюцца назвы лагі (лагаў) пад падлогай. Лік (зборнасць і род) іх не ўлічваецца. Паказаны ўтварэнні ад розных каранёў, іх словаўтваральныя і некаторыя фанетычныя адрозненні. Адным знакам прадстаўлены назвы *шлі́гі, шлягá* і *шлюгаві́на,* а таксама *падло́га* і *падло́жнікі.* Як *падмосні́кі* картаграфуюцца *памосні́кі* і *подмо́сткэ,* а *пудва́лок,* як *падва́ліна. Ле́гар, ле́гор* атаесамліваюцца з *ляга́ры,* а *ля́га, ула́гі* — з назвай *ла́га.*

*ла́гі, ла́га* 4, *(ла́га, ла́гі),* 6, 8а, 8, 10, 11, 14, 18, 28, 31, 32, 36, 45, 46, 55, 61, 63, 74, 98 *(ла́ге),* 99, 101, 106, 108, 110, 113, 116, 134, 139. *ля́га* (мн. л. *ля́гі*) 68. *ула́гі* 120.

*ле́гар* (мн. *лега́ры)* 47, 71, 93, 138 *(легарі́). легаре́* 114. *лега́ры* 133. *ле́гор* 140. *лі́гар* (мн. *ліга́ры*) 91, 92, 96. *лы́гар* (мн. *лыгарі́*) 96а. *ля́гар, ле́гар* (мн. *ля́гары*) 49, 49а, 50, 52, 68 *(адзін ле́гар ізгніў),* 71, 105. *лега́ра* (мн. *лега́ры*) 51, 94. *ліга́ра* (мн. *ліга́ры*) 8, 26, 90, 95, 97, 131 (рэдка), 132.

*падва́ліна, падвалі́на* (мн. *падва́ліны*) 23, 27, 53, 57, 58, 59, 64—67, 69, 70, 72, 93, 94а, 104, 105, 110—112, 125. *підвалі́на* (мн. *підвалі́ны*) 102. *подвалі́ны* 106, 117. *пудвалі́ны* 102, 103, 108, 115. *пудвалы́на* (мн. *пудвалы́ны*) 109, *пыдвалі́на* 107. *пудва́лок* (мн. *пудва́лке*) 98.

*ба́лька* (мн. *ба́лькі*) 9, 25, 29, 32, 39, 54, 131, 136. *бэ́лька* 2, 25а. *бэ́лькі* 3, 19, 20, 21, 22, 24, 25а, 54, 60, 62.

*слі́гі* 12—14, 17. *слю́гі* 7.

*шлі́гі* (адз. *шлі́га*) 1, 16. *шля́га* (мн. *шля́гі*) 2. *шлюгаві́на* 8.

*падло́га* 130. *падло́гі* 37, 38, 73, 78, 80, 84, 118, 119. *падло́жнікі* 33.

*брусы́* 78, 117, 137. *бру́ссе* 142.

*кла́дзь* (мн. *кла́дзі*) 15, 29, 30, 33, 34, 40. *падкла́дзіна* 56.

*падмо́снікі* 35, 40—43, 75, 77, 81—89, 120а, 121, 123—128, 142. *пудмо́снікі* 122. *пъдмо́снікі* 79, *памо́снікі* 74. *подмо́сткэ* 96а.

Адзінкавыя: *падру́бы* 53. *праві́ла* 100. *зазе́мнае бервяно́.* 129.

## Карта № 46

## СУЦЭЛЬНАЕ БЕРВЯНО НАД ВОКНАМІ

№ 828 «Я. н. суцэльнае бервяно, якое кладзецца над вокнамі, дзвярамі: ахлуп, ахлупка, ашлап...»

На карце паказаны лексіка-словаўтваральныя адрозненні назваў ашлапа. Прыставачна-суфіксальныя варыянты паказаны тым жа знакам, што і апорнае слова: *ашла́па, ашла́пы, ашла́пка, ашля́піна, нашла́пка* — як *ашла́п; ахло́пка, прыхлу́п, ахлупно́е* — як *ахлу́п; ачэ́па, ашчэ́п, ачо́піна, ача́п(а),* а таксама гіпатэтычная форма *ача́п* з запісанага *ачапі́ць* — як *ачэ́п.*

*ашла́п* 10, 14, 23, 24, 28, 29, 31—36, 48, 53, 54, 57, 59—65, 67, 70, 72—74, 76, 80, 88, 100, 104, 110, 111, 116—120а, 121, 123, 136, 139, 140. *ошла́п* 114, 132, 134. *ашла́па* 7, 58. *ашла́пы* 30. *ошла́пка* 138. *ошля́піна* 106. *на́шлапка* 137.

*ахлу́п* 17. *ахлупна́я* 17. *ахлу́пныя* 16. *ахло́пка* 4. *пры́хлуп* 122.

*ачэ́п (ачэ́пы)* 18, 20, 22, 26, 45, 46, 47, 49—52а, 56, 68, 71. *ача́п* 25, 105. *очэ́п* 94. *ачэ́па* 55. *ошчэ́пы* 107. *ачо́піна* 112. *оча́па* 113. *очэ́па* 131.

*пацяга (пацягі)* 126. *абця́га* 86.

*сьвязь* 75, 124. *обоўя́ска* 113, *перавя́зіна* 125. *сьвя́ска* 97.

*на́ворот* 109. *навара́тні* (над дзвярыма) 142.

*вярхня́к* 88. *вірхня́к* 41, 87.

*браўно́: скразно́я* 1. *скавазно́я* 82. *ашлапно́я* 7. *ашлапно́я бряўно́* 39. *цэ́лае* 135. *над во́кнамі* 128. *бро́ўны пыд акна́мі* 40.

*бярно́:* 79, 89. *суцэ́льная* 2. *даўжно́я* 6. *ахлъпно́я* 12. *скрасе́ннае* 21. *скавазно́я* 25а. *ашла́пныя* 35. *пацяжно́я* 81. *пыдако́нныя* 83. *длі пакры́цця ўако́н* 84. *длі сьўя́зі* 84. *над ўо́кнымі* 84. *прадо́льныя бёрны* 123.

*бервяно́:* 99. *суцэ́льна* 3. *піряпу́скная* 27. *падо́кново* 31. *падако́ннае* 142.

*брус: суцэ́льны* 103. *суцы́лкаваты* 122. *брусы па во́кнах* 77.

*дыль* 91, 96а, 97, 103. *вылю́тный* 90. *вылє́тный дэ́ль* 98. *пудако́нній* 92. *скву́зный* 98, 95 *(по го́кнах, по двэ́рух положы́лы по ды́лёвы),* 96 *(кла́сты ды́ля по о́кнах). сплашны́й* 98.

*дзераві́на: вылётова* 94а. *цуцу́льна* 94а. *суцэ́льна дэрэвы́на* 103. *дзерэ́віна під о́кнамі* 102. *то́ўстые дэрэ́віны* 107.

*вяне́ц* 37. *пе́ршы вено́к па о́кнах* 94.

*ба́лька: ахлапля́ная* 4. *патало́чныя* 8.

Адзінкавыя: *падру́п* 38. *пъдако́ннъя* 15. *сьлю́га* 9. *прагоні́на* 127. *загало́ўнік* 141. *падва́лак* 88. *пэрэ́пуст* 108. *до́ска* 129. *перакры́цце во́кан* 101. *пале́на (ошлапля́ць суцэ́льные поле́на)* 138. *лапа́н, лапу́н* 92.

Адсутнасць назвы: 5, 25, 41—44, 66, 78, 79, 93, 96а, 115, 130, 131.

## Карта № 47

## КЛАСЦІ БЕРВЯНО НАД ВОКНАМІ

№ 828 «Я. н. суцэльнае бервяно, якое кладзецца над вокнамі, дзвярамі: ахлуп, ахлупка, ашлап. Класці ахлуп, ашлап... Ахлупляць, ашлапляць...».

Карта складзена на падставе другой часткі пытання. Картаграфуюцца лексічныя адрозненні інфінітыва і словазлучэнні. Адным знакам картаграфуюцца *ашлапля́ць* і *ашла́піць,* а таксама *кла́сці* і *лажы́ць, в'яза́ць* і *з'яза́ць, накры́ць* і *пакры́ць.*

*кла́сці: ашла́п(ы)* 10, 14, 33, 36, 54, 57, 59—62, 64, 67, 70, 74, 76, 85, 88 *(класць ашла́п),* 104, 114, 117, 118, 120—121, 123, 29 *(клась ашлапно́е),* 35 *(кла́сьці ашла́пныя бярно́),* 24 *(палажы́ць ашла́п),* 133 *(ложы́ть ошла́п),* 134 *(кла́сьті ошла́п),* 2 *(бярно́ кладзе́цца па во́кнах),* 16 *(клась ахлу́пны), кла́сці ачэ́п* 22, 26, 45, 47—50, 52а, 56,

68, 94 *(класці ачэпы)*, 105 *(класьці ачапы)*, 107 *класьці ошчэпы)*, 113 *(класьці очапу)*, 131 *(класты очэпы, мурлаты)*, 37 *(класці вянец)*, 77 *(па вокнах брусы кладуць)*, 82 *(брауно класьці)*, 88 *(класьць падвалак, вярхняк)*, 90 *(класты дыля)*, 95 *(по гокнах, двэрух положылы по дылевы)*, 96 *(класты дыля по окнах)*, 98 *(кластэ вылетного дэля)*, 108 *(класты пэрэпусты)*, 123 *(класьці прадольныя берны)*, 124 *(класьці сьвязь)*, 127 *(класьці прагоніну)*.

*ашлапляць* 14, 28, 29, 36, 59, 60, 62, 64, 67 *(ашчапляць хату)*, 74, 85, 100, 106 *(ашляпляць)*, 116, 117—120, 123, 134 *(ошлапляць)*, 138 *(ошлапляць суцэльные полена)*, 139, 140 *(ашлапліваюць вокны)*, *ашлапуаць* 114.

*ашлапіць* 24, 32, 35 *(ашлапіць)*, 54, 64, 72, 76, 110, 111, 121, *ашлапіць хату* 57, 67, 104, 132 *(ошлапыты вокна)*, 133 *(ошлапваць дьвера, окна)*.

*ачапляць* 22, 25 *(ачапіць)*, 47, 49, 50, 52, *(ачапіць)*, 52а, 55, 68 *(ачапіць окна)*, 71 *(ачапіць)*, 105, 113 *очапаць окна)*.

*ахлупляць* 16, 17.

*накрыць (дзьверы, вокны)* 9, 95 *(накрылы гокна, двэры)*, 93 *(пакрылі ўокна)*, 84 *(бярно дле пакрыція уўакон, пакрыўка ўакон)*.

*в'язаць* 124. *з'язаты окна* 94а.

Адзінкавыя: *абцягваць вокна* 86. *качаць (тоўстыя дэрэвіны)* 107.
*наворочаты* 109.
*зацягнуць ашлапы* 110.
*скрапляць* 127.
*перакрываць* 134 *(перэкрыть окна)*.

## Карта № 48

## АПОРНАЯ БЭЛЬКА ПАД СТОЛЛЮ

№ 832 «Я. н. падоўжаная бэлька, якая падтрымлівае папярочку: маціца, сволак, трама...»

На карце паказаны лексічныя адрозненні назвы трамы. Як *маціца* картаграфуюцца *маціца, матка, матышніца. Балек, бэлька* і *банька* паказаны тым жа знакам, што і *балька*. Адным знакам паказаны лексічныя сінонімы: *тран, трам, прам, атрам, штрам, штрама* і *трама*. Гэтаксама *брус, брусочак* і *бруш, сволак,* і *смолак*.

*маціца* 1, 2, 12, 21, 28, 107, 126. *маціца* 36, 49а, 85, 123. *папярочная маціца* 4. *матка* 16. *маткі* 17, 101. *матышніца* 35.

*балек вылютный* 90. *балек пудовжни* 98.

*балька (балькі)* 14, 15, 22, 30, 36, 43, 49, 69 *(балька на перахрэст)*, 79, 82, 87, 89, 101, 102, 104, 111, 117, 120, 120а, 122, 139—142. *подовжна балька* 95, 103, 105, 133. *продовжна балька* 132. *продольная балька* 71, 76, 127. *пірыкувая* — 34. *прадольна* — 31. *перапускная* — 26. *нахлапная* — 1. *патпорная* — 29. *навулетна* — 135. *балка* 119, 124.

*банька* 119. *банька прадольная (наперахрэсная)* 118.

*падбалячнік* 110. *падбаляшная* 29.

*тран* 20, 55, 99.

*трам* 44, 50, 53, 56, 61, 104, 138. *прам* 113.

*трама* 23, 27, 51, 52а, 54, 57, 58, 60, 64, 65, 66 (дзірка пад бэлькай, калі столь кладзецца адна на адну), 126.

*атрам* 33. *отрам* 94а.

*штрам* 4, 5, 6, 24. *штрама* 25, 25а.

*брус* 37, 39, 73, 80, 120, 120а, 134 *(ôдпорны)*, 135 *(навулетны)*, 137. *бруш* 87. *брусочок* 138.

*прагон* 72, 74 *(патбалечны)*, 115, 121, 142.

*сволак* 127. *смолак* 53. *сволка* 48.

*правіло* 94. *правыло* 97.

*мурлата* 96а, 125.

Адзінкавыя: *саламяно* 81. *ашлапіна* 63. *байструк (байстрюк)* 98. *бярно падсценнае* 7. *кладзь* 127. *лапун* 92. *ачэпа* 96а. *падстольнік* 41.

Адсутнасць назвы: 3, 8, 10, 11, 13, 18, 32, 39, 40, 45, 47, 68—70, 77, 78, 83, 88, 91, 93, 96, 97, 102, 106, 108, 109, 112, 130, 131, 132, 136.

## Карта № 49

## АЧЭП

№ 833 «Я. н. апошнія вянкі зруба, якія кладуцца над бэлькамі: ашлапы, ашланы, ачапы, запясочнікі, мурлаты... Адз. лік: ашлап, ашлан, ачэп, запясочнік...»

Картаграфуюцца лексічныя і словаўтваральныя адрозненні назваў апошняга вянка зруба, якія могуць складацца як з аднае лексемы, так і са словазлучэння (назоўніка і азначальнага прыметніка). На карце такія аднаслоўныя лексемы і словазлучэнні паказаны адным знакам, напрыклад, *ашлап* і *ашлапныя броўны, пътстрапільнік* і *пыдстрапільнае брауно, ачэпа* і *ачапноя, зазем* і *заземная бурлата, вянец* і *пасьледні(й) вянец, бурлата* і *бурлата кругавая*. Адным знакам пададзены лексемы *мурлат(а)* і *бурлата, запясочнікі* і *запясочніцы*. У адзінкавыя назвы апошніх вянкоў зруба ўключаны таксама лексемы *патшыўка* і *яшчык*, якія абазначаюць рэаліі, размешчаныя ў непасрэднай блізкасці да ашлапаў, г. зн. ашлапы, падбітыя дошкамі.

*ашлап (ашлапы)* 3, 29, 30, 34, 35, 48, 53, 57—59, 61—64, 66, 68, 70, 71, 85, 111, 112. *ашлап* 126, 140. *ашлапа* 118. *ашлапіны* 69. *ошлапа* 109. *ôшлапка* 138.

*ашлапный броўны (балкі)* 1. *ашлапноя бярвяно* 3. *ашлапноя брауно* 39. *ашлапноя па балькых* 13. *ашлапная брауно* 75.

*ахлопленыя маціцы* 4. *ахлупныя* 16.

*ачэп (ачэпы)* 18, 19 *(ачэпы на балькі, ачэпы на кроквы)*, 20, 22, 26, 27, 45—47, 49, 50—52а, 54 *(ацэпы)*, 55, 56, 60 *(ачэпы)*, 92, 95, 96а, 99, 101. *очэпы* 103, 106, 107, *учэпа* 98. *ачапноя* 27. *очэпа (очэпы)* 91, 103, 106, 107, 131. *ошчэпа* 94а, 109. *шчэпа* 132.

*пабалечныя броўны* 9. *пабэлячныя два вянкі* 2. *надбалочны вэнок* 94. *балашнае бірвяно* 75. *патбалашнае брауно* 31. *па бэльках* 21.

*мурлат* 8, 81. *мурлата (мурлаты)* 1, 6, 7, 8, 9, 14, 16, 25а, 28, 31, 42, 67, 73, 78, 79, 81—83, 87, 88, 90, 96, 97, 102, 108, 119, 121, 123, 124, 126, 133, 139 *(мурлаціна)*, 141, 142. *мурлато* 129.

*бурлата (бурлаты)* 17, 32, 33, 35, 36, 116. *бурлата кругавая* 74.

*зазем (заземы)* 89. *заземіна (заземы)* 86. *заземнъя* 8а. *заземныя броўны* 40. *заземная бурлата* 74. *заземныя вянкі* 77. *заземны вянок* 128.

*запясочнік (запясочнікі)* 49, 49а, 67, 72, 76, 104, 105, 112, 116—118, 120, 124, 133, 141, 142. *запясôчнік* 65, 110, 111. *запесочнік* 114, 115, 134. *запасочнік* 106. *запясэчнік* 69. *запясошнік* 75. *запэсочнік* 107. *зыпясочнік* 84. *пясэчнік* 53. *пясочнікі* 54.

*запясочніца* 135. *запясочніцы* 66. *запасошніцы* 138.

*вянец* 37. *пасьледні вянец* 81. *пасьледній вянец* 87.

*пыдстрапільнъя брауно* 43. *пътстряпільнікі* 84.

*расаднік* 8. *ръсаньнік* 15.

*прагоніна, прагонныя палены* 127. *прагоны* 142.

*адступныі броўны* 12. *адступнэі каны* 17.

*закат* 10, 11. *закотвіны* 12.

*пыцягі* 88. *пацяжныя берны* 81.

*перапускныя* 23. *пірапускная палена // бярно* 25.

*правіла* 93, 94а *(правіло)*, 100. *правыло* 97.

Адзінкавыя: *пъкрывалы* 83. *верхнякі* 88. *застрэшнік* 128. *насека* 113. *доўгаль* 138. *трамкі* 138. *пярэвязьмы* 125. *патшыўка* 124. *яшчык* 41.

## Карта № 50

## КЛАСЦІ АЧЭПЫ

№ 833 «Я. н. ...класці ачэпы, ашлапы: ачапіць, ашлапіць...»

Карта складзена на падставе адказаў на другую частку пытання № 833. На ёй супрацьпастаўляюцца дзеясловы, якія абазначаюць укладанне апошняга бервяна зруба. Адным знакам картаграфуюцца лексемы *ачапіць, ацапіць* і *сцапіць; класці, пакласці* і *палажыць*. Найбольш пашыраны дзеяслоў *класці*, як правіла, ужываецца ў словазлучэнні *класці ашлапы, мурлаты, броўны, закат, бальку, правіла, ачэпы* і г. д.

*класці: ашлáп(ы)* 3, 61, 62, 64 *(шлáпы)*, 69 *(ашлáпіну)*, 70, 85. *мурлáты* 7, 16, 42, 83, 90 *(кláсты)*, 108 *(положыты мурлáтыну)*, 131 *(клáсты мурлáты)*, 133, 139, 141. *брóўны* 9, 35 *(ашлапнэ́я бёрны)*, 83 *(пацяжныя бёрны)*. *закáт* 10, 11. *класць ахлупныі* 16. *бэ́лькі* 20. *вянéц* 37. *зазёмы* 86, 89 *(класьць)*. *пыцягі* 88. *правыло клáсты* 97. *запясóчнікі* 49а, 69 *(запясэ́чнікі)*, 66 *(запясóчніцы)*, 84 *(запясóчнікі)*, 105, 110, 112 *(запясóчнікі за бáлькамі)*, 114, 120, 133, 134, 135 *(запесóчніцу)*. *ачэ́пы* 19, 22, 24, 26, 47 *(пасьлéднія ачэ́пы)* 49, 54 *(ацэ́пы)*, 56, 92 *(клáсты очэ́пы)*, 98 *(клáстэ учэ́пэ)*, 106 *(очэ́пы)*. *бурлáты* 74. *класьць пытстрапíльнікі* 84. *дзéрава* 142. *насéкі* 113.

*пакласці: связь* 124. *шчэ́пы (поклáсты)* 132. *прогóн* 137. *положыты мурлáтыну* 108.

*ашлáпіць* 29, 30, 32, 35, 53, 57, 58, 61, 62, 63, 65, 68, 117, 120 *(ашлаплáць)*, 122, 138 *(ошлаплáць)*, 140 *(ашлáплівацъ)*.

Адзінкавыя: *ахлуплáць* 17. *бурлáціць* 74.

## Карта № 51

## СТРАХА

№ 835 «Я. н. страха: крыша, страха...»

На карце паказаны лексічныя адрозненні назваў страхі. Адказы на пытанне маюць рознае семантычнае напаўненне: *страхá* 'толькі саламяная', 'усялякая страха', 'толькі ніз страхі', а верхняя частка ад сцяны да вільчыка — *крыша*. З другога боку, у адказах адсутнічаюць лексемы для значэння 'страха наогул', калі страха не саламяная. Напрыклад, у в. Акропна (зараз Нямéржа) Драгічынскага раёна (ля п. 95) ужываецца слова *пошíўля*, або канкрэтызуецца: *хáта блéхію крэ́та; под чырыпэ́цыю, чырыпэ́цу вíтёр зорвáў, то на хáту* 'на гарышча' *налыло́*.

*крыша* 1 (частка страхі ад сцяны да вільчыка), 4 (новае), 5, 9, 10 (новае, 'дах з розных матэрыялаў, не з саломы'), 11 (новае). 12 (частка страхі ад сцяны да вільчыка), 13, 14, 16 (частка страхі ад сцяны да вільчыка), 17, 29, 31, 34 (новае), 37—44, 45 (у горадзе гавораць), 52 (з бляхі), 54, 59 (частка страхі ад сцяны да вільчыка), 62 (новае), 67 (новае), 68, 71—73, 75 (з дранкі, гонтавая страха), 76, 77 (частка страхі ад сцяны да вільчыка), 78 (даравая, гонтавая), 80 (новае), 81, 82 (частка страхі ад сцяны да вільчыка), 83—87, 89, 91 (з любога матэрыялу, апрача саломы), 92 (новае), 94 (з чарапіцы, бляхі), 102 (новае), 103, 107, 108, 111 (з шыферу, бляхі), 114 ( любога матэрыялу, апрача саломы), 115 (частка страхі ад сцен да вільчыка), 119, 120а, 121, 122 (новае), 124 (частка страхі ад сцяны да вільчыка), 125, 126, 127 (частка стрáхі ад сцяны да вільчыка), 128—130, 131 (дах), 133, 137 (ад сцяны да вільчыка), 135, 136, 140, 141 (страха ў хаце), 142. *кріша* 88, 113 (новае). *крэ́ша* 96а.

*страхá* 1 (ніз страхі да сцяны), 2, 3, 4 (новае), 6, 9, 10 (саламяная), 11 (трад.), 12 (ніз страхі), 18—29, 31, 36, 46, 48, 49, 52—55, 57, 58, 59 (саламяная), 60—66, 67 (старое), 69, 70, 74, 75 (саламяная), 77 (частка страхі, што звісае над сцяной), 80 (старое), 81, 82 (ніз страхі да сцен), 99, 100, 104, 105, 110, 111 (з саломы, чароту), 112, 115 (ніз страхі да сцен), 116, 118, 122 (старое), 123, 124 (першы рад страхі), 125, 127 (ніз страхі да сцяны, уся страха), 139 (саламяная), 141 (страха ў хляве), 142. *стръхá* 5, 8а, 15, 34, 35 (старое). *стрыха* (саламяная) 132. *стрыхá* 7, 33, 78. *стріхá* 12 (капеж пры дажджы, што сцякае са страхі), 17, 32, 41, 83, 84, 87. *стріхá* 90, 92, 95—97, 109. *стрэ́ха* 45. (саламяная), 47, 49а, 50, 56, 94 (саламяная), 102, 134 (страха ў хляве), *стрэхá* 101, 106, 113 (старое), 114 (саламяная), 117, 120, 134 (на хаце), 138. *стріхá* (саламяная) 131. *стрэ̂ха* 51. *стриха* 94а. *стрёха* 93. *стряхá* 86, 88.

*дах* 4, 9 (старое), 45 (дах з шыферу, гонтаў), 59.

Адзінкавыя: *вэ^а^рх* 98. *áптам* (наогул) *крыша называецца* 74.

## Карта № 52

## ПАКАТАЯ СТРАХА

№ 837 «Я. н. пахілая страха: пакатая, лежная...»

На карце прадстаўлены словаўтваральныя (суфіксальныя, прэфіксальныя) і лексічныя варыянты (часам у форме дзеяслова або прыслоўя), якія выражаюць паняцце 'пахілая страха'. У сувязі са шматлікай разнастайнасцю адказаў адным знакам картаграфуюцца: *плóская* і *пласкáя* (страха); *плáўная, плыўная* і *плáўкая* (страха); *лóжная, лóжмая, аблóжная, адлóжная, лéжная, ляжáка, палóгая, лежáча, атлóгая страхá* і *лягла страхá*, звязаныя з коранем *-лог-/-леж-; адхóная, адхóдная, адхóнаватая* і *атлóнаватая; нахіленая* і *наклóністая; спахóвістая, спахóвая* і *спахóватая;* усе варыянты кораня *-хлюп-/-хлуп-, -плюх-*, а таксама *-хлік-*.

Адводзяцца ад картаграфавання *стрóмая* 'вострая' 63. *стрóма* 47. *стрóмкъя* 5. *гнілáя* 139, 141. *гнілáя абваліўшы страхá* 57. *старáя нягóдна* (хата) 140. *плóтная* 19. *крівá* 138. *пахілілася* 73. *хáта заваліласяя* 80. *крутáя* 13. Яны не адпавядаюць тэме карты.

*плóская* (страха) 4, 81, 82, 93, 118, 124, 125, 128, 131, 134. *плóска* 94а, 96, 133. *плóскъя* 33. *плóскыя* 43, 83. *плóскі* (дах) 4. *плáска* 90, 92, 96. *плáская* 32. *плáзкая* 114.

*плескáтая* (нізкая страха) 59. *пляскáтая* 60.

*плáўная* 9. *плáўнъя* 33, 34. *плáўныя стріхá* 79. *плыўная* 30.

*плáўкая* 1, 9, 36, 75. *плáўкъя* 13, 34. *плáўкыя* 35. *плáвка стріха* 95, 103.

*лóжная* 6, 24. *лóжмая* 38. *облóжная (стрэ́ха)* 94. *атлóжная* 99. *одлóжна* 101. *лéжнъя* 5. *лéжныя* 44, 87. *лéжная* 117. *ляжáка* 18. *лежáча* 94. *л^е^ажáча* 98. *атлóгая* 68. *палóгая* 77. *лягла* (страха) 65.

*адхóная (стряхá)* 86. *атхóныя (крыша)* 40, 41, 42. *адхóдная (страхá)* 8. *адхóнаватая* 10, 11. *атлóнавастая* 29.

*атвóная* 7, 12. *атвóнъя* 15, 39. *атвóныя* 16. *атвóнная* 17.

*пахілая* 14, 28, 31, 37, 88, 129, 137. *пахіла* 46. *похілая* 92. *похылена* 97. *нахіленая* 48. *нахільная* 123. *нахілінныя* (крыша) 89. (страха) *пахілілася* 65, 73. *пахілая (гэ́та пастрóйка як нахіліцца, то — пахілая)* 93.

*шлóпая* 26, 58. (страха) *шлопам* 25а. *шлапавáтая* 2, 3, 21, 72. *слóпая* 23, 27, 63. *нізкая* 45, 117, 119, 127. *ніская* 54, 56, 133. *нызка* 94а. *нызка(я)* 132. *ніско* 49.

*слóсная* 52. *сплóшна* 20.

*прастáя* 126. *прóстая (у кагó крыша прóстая, а ў кагó і крутáя)* 130. *прóстыя* 84. *прóста* 112, 121.

*спахóвыста* 108. *спохóўатая* 114. *спахóвата* 98. *спахóва* 54.

*прыхлюп* 49а. *прыхлюп* 106. *прыхлюпая* 113, 122, 138. *захлýплена* 142. *прыхлýпістая* 76. *прыхлýпіста* 112. *хлюпая* 61, 62, 104, 116. *хлюпа* 105. *страхá хлýпа ляжыць* 64. *хлýпая* 66, 71, 115, 120а, 134. *хлупáя* 67, 110, 111, 120. *хлóпая* 69. *прыплюх* 100, 102. *прыхлік, прыхлікавáта* 135. *хлюпкая (страхá ўжэ, можа да вясны вытрымае)* 46. *охлюпыста* 97.

*нястрóмкая* 29. *ністрóмкая* 70.

*плытка (стрэ́ха)* 51. *плыткая* 52а.

*пакáтая* 1. *пъкáтая* 8а.

Адзінкавыя: *лапцявáтая* 25. *перахлябістая* 119. *прытоловáта* 107. *аплывáтая (страхá, яна быстра гніе)* 69. *слáбыя (стріхá)* 87. *страхá* 22. *спáдыста* 94а. *шырóка* 109. *разлóжыста, одлóжыста* 96а. *наклóністая* 112. *залóмная* 74. *плытка (стріха)* 131. *страпíстая* 13.

Адсутнасць назвы: 50, 53, 57, 73, 78, 80, 89, 96а, 111, 136.

## Карта № 53

## ВІЛЬЧЫК

№ 843 «Я. н. верх страхі, які высцілаецца кастрыцай: вільчык, крайка, хіб, шчыт...»

На карце супрацьпастаўляюцца назвы вільчыка. Адным знакам паказаны: *конь, кóнік, канёк* і *конёк; крóйка* і *крэ́йка, хіб* і *хім; шаламя́* і *шаламяць, вільчык* і *вільчáк*. Адведзены: *вуглавікé (рагаўнікé)* 45.

*канёк* 1, 4, 7, 8, 8а, 13, 16, 17, 29, 56 (новае), 61, 76, 88, 93 *(апôўзіны нацягáюць на хáту)*, 124, 125. *конёк* 113. *конь* 7. *кóнік* 140.

*вíльчык* 5, 9, 26, 30—44, 54, 57, 59, 68, 70, 72, 73, 75, 76 (пры жалéзнай або чарапíчнай крышы), 77—83, 85—87, 89, 94, 101, 102, 104, 107, 112, 116—130, 132—137, 138 *(на*

*са́мі вільчык ко́лісь кла́лі кастру́), 140, 141, 142 (калі дом ста́віцца з 4 сцен, то верхняя частка называ́йіца вільчыкам). ўільчак* 84, 114. *выльчык* 108, 109. *вільча́к* 74.
*вайчо́к* 61, 65 *(вайчо́к трэ́ба вылажыць кастры́цаю),* 69.
*кро́йка* 68, *крэ́йка* 3, 18—20, 22, 23, 27, 52, 52а.
*шаламя́* 24, 25а, 28. *шаламя́ць* 6.
*шчыт* 14, 25, 47—49а, 55 (новае), 60—64, 66, 93, 110, 111. *шчэт* 96а.
*верх* 15 (верх страхі), 60, 67. *верьх* 89. *веэрх* 98. *вэрх* 108.
*грэ́бень* 51, 61. *грэ́бынь* 90, 91.
*спіна* 106 *(кладо́м ко́зла на спіне, коб ве́цер коро́сту не здува́ў),* 139, 142. *сьпіна* 52а, 53, 54, 55, 56, 100. *сьпіна́* 71. *спы́на* 94а. 103. *спінка* 106.
*хіб* 71, 81. *хыб* 95. *хім* 82.
*строп* 2, 21, 118. *стрӱп (стрюп)* 96. *стрып* 131. *йістро́п* 81, 85, 87.
*столь* 45, 46,
*плеш* 50, 55, 99.
*къніва́я* 12, 15.
Адзінкавыя: *ве́нчык* 11. *за́йчык* 32. *вал* 49а. *цары́к* 73. *ку́пыр* 92. *піўзене́* 97. *шчэ́абэат* 98. *склад* 105 *(склад кастры́цаю высьціла́юць). казыро́к* 112 *(яго кладуць на стыку двух палоў), зашчы́так (застрахава́ць зашчы́ткам)* 115.

**Карта № 54**

## ПАДСТРЭШАК

№ 845 «Я. н. частка страхі, якая звісае над сцяной: дармавес, застрэшына, страха...»
На карце супрацьпастаўляюцца лексічныя і прэфіксальныя варыянты, таму пад адным знакам апынуліся, напрыклад, назва *прыстрэ́шак* і *прыда́шак*. Адным знакам паказаны: *наве́с, паднаве́с* і *звес*. Асобнымі знакамі паказаны такія назвы, як страха́, *капе́ж, наве́с*. Адведзены ад картаграфавання: *апу́хі (ла́ты на канцо́х)* 46.
*страха́* 22 *(ад дажджу схава́цца пад страху),* 29, 30, 31, 55, 59, 62, 68, 71, 73—77, 115, 117—119, 121—124, 126—128, 130, 133—135, 140, 142. *стреха́* 113, 117, 120. *стре́ха* (ніжняя) 102. *стре́шка* 85, 133. *стріха* 90, 94а, 96а—98, 103, 108, 109. *стріха́* 13, 16, 17, 39,79,84,87. *стрыха* 131. *стрыха́* 81. *стрэ́ха* 50, 102. *стрэха́* 101, 136, 137. *стръха́* 37, 80. *стряха́* 88. *стрэ́шак* 111.
*застрэ́шша* 2, 15, 34, 38, 40, 52, 74. *застре́шша* 48, 86. *застрэ́ша* 49а, 72. *застрэ́ш'я* 58. *застрэ́шо* 60. *застрэ́шак* 3, 23, 24, 25а—28, 52а, 57. *застре̂шак* 67. *застрэ́шък* 34. *застрэ́шка* 31, 116. *застрэ́шына* 8, 10, 11, 70, 139. *застре́шына* 41, 42. *застрэ́шаньне*. 36. *застрэ́шаньня* 104. *застрэ́шваня* 47, 54. *застрэ́шваньня* 54. *застре̂шваня* 49. *застрэ́шніца* 1. *застре́шніца* 5. *застрэ́шнік* 52, 83, 125.
*астрэ́шшо* 53 (рэдк.), *острі́шок* 91. *острі́шына* 97.
*падстрэ́ша* 32. *падстрэ́шша* 14. *патстрэ́шша* 33, 35. *патстрэ́шшо* 53. *падстрэ́ш'е* 61 (рэдк.). *падстре̂ш'я* 65. *пыдстры́эшша* 107. *патстрэ́шына* 99. *падстрэ́шнік* 18. *патстрэ́шак* 6. *пацстре́шак* 21. *падстре́шак* 100.
*прыстрэ́шак* 19, 58, 66. *прыстрэ́шша* 140. *прыда́шак* 4.
*капе́ж* 43, 45, 94, 114. *капе́ш* 58, 63, 64. *капе̂ж* 113. *капіж* 95, 103. *крапе́ж* 110.
*наве́с* 8, 8а, 20, 89, 102. *наве̂с* 51, 93. *паднаве́с* 43. *пыднаве́с* 78. *поднаве́с* 94а. *пуднаве́с* 132. *зьвес* 12.
*на́пуск* 9, 92. *на́пуст* 106.
*атлі́ў* 69, 116.
Адзінкавыя: *прычо́лак* 48. *о́кап* 96. *строп* 105. *запясо́чніца* 112. *каро́бка* 129. *дармаве́сы* 137. *кры́ша* 141. *кане́ц страхі* 7.

**Карта № 55**

## МАСНІЦА

№ 850 «Я. адна дошка падлогі: масніца, маснічына, дылёўка, падложына, дошка...»
Картаграфуюцца лексічныя і прэфіксальна-суфіксальныя варыянты назваў масніцы. Для лексем *до́шка* і *до́ска* таксама выдзелены прасадычны варыянт *даска́*, які складае кампактны арэал на захадзе Віцебшчыны. *До́шка, до́шчка* і *дашчу́рына; памасні́чына, памасні́ца* і *памасці́на (памо́сціна)* і таксама аднакарэнныя *пальні́ца, пальні́чына* і *палі́на́* прадстаўлены асобнымі знакамі.
*масні́ца* 43, 44, 66, 76, 77, 81—84, 87—89, 112, 119, 120а, 121, 123—128, 130, 141, 142. *машні́ца* 80. *мо́сніца* 122.
*масні́чына* 1, 7, 12—15, 17, 30, 32, 36—42, 71, 73—75, 78, 118. *масні́цына* 16. *масці́чына* 9, 35.
*памасні́чына* 70, 137, 138. *памасні́ца* 72, 115, 116. *помосні́ца* 140. *памасці́на* 10, 11. *памо́сціна* 101. *памо̂сціна* 93.
*до́ска* 2, 4, 20, 22, 24 (новае), 45, 49, 52а, 56, 59—61, 67, 83. 89, 96 (новае), 96а, 100, 105, 109 (новое), 111, 113 (новае), 117, 120, 129, 131, 133. *до́ска палава́я* 27. *до́ска падло́гавая* 45.
*до́шка* 5, 19, 21, 23—25, 46—48, 49а—52, 54, 55, 57—59, 62—64, 66, 86, 90, 94—95, 97, 99, 102—104, 108, 110, 113, 132, 135—138, 141. *до̂шка* 65. *до́шчка* 142. *дашчу́рына* 5.
*даска́* 3, 6, 8, 9, 10 (новае), 18, 21, 24 (новае), 25 (новае), *дыска́* 19. *дъска́* 8а, 17, 33, 34.
*падло́жына* 25а, 28, 29, 57 (новае), 68, 71, 111. *падлажына́* 26. *пыдло́жана* 107. *пі́дло́жына* 133. *по̂длоо́жіна* 134. *подло́жына* 114, 136. *пуло́жына* 98. *пудло́жына* 97.
*пальні́чына* 74. *пальні́ца* 85. *палі́на́* 31.
*палаві́ца* 130. *половы́ця* 91. *пулувы́ця* 92. *палаві́цына* 16 (новае). *пала́ўніца* 69.
Адзінкавыя: *тырты́ця* 96. *лі́гар* 96а. *дра́нка* 109.

**Карта № 56**

## ВУШАК

№ 854 «Я. н. бакавая частка ў праёме дзвярэй: вушакі, шулы, луткі...»
Картаграфуюцца лексічныя і фанетыка-суфіксальныя назвы вушака. Адным знакам паказаны: *праўшня́к* і *прыўшэ́нь, шу́ла* і *шульня́к, стаяны́* і *стаякі́, абса́ды* і *аса́дка* (акна), *ушак* і *ошва́к*.
*уша́к, ушакі́* 1, 2, 4—6, 8, 12, 19, 20, 24, 25, 41, 52, 62, 66 *(ушаке́),* 72, 90—92, 94, 96, 96а, 97, 100, 103 *(ушакы́),* 109, 112, 131 *(ушакы́),* 133. *ошвакы́* 96а, 131.
*вуша́к, вушакі́* 3, 8, 9 *(ўушакі́),* 10, 11, 13, 15 *(ўушакі́),* 18, 21—23, 25—31, 33, 34, 36—38, 41, 43, 45, 47, 48, 57—61, 63—65, 67—71, 73—75, 78, 80, 93, 94а, 96а, 98, 104—107, 108 *(вушакы́),* 109—111, 118, 120, 132, 134 *(вушакі́),* 135, 138, 140, 142. *вушаке́* 46, 49—50, 52а—56.
*аўшакі́* 7, 8а.
*гуша́к* 58 *(гушаке́),* 95 *(гушякы́).*
*вушня́к вушнякі́* 76 *(вушняке́),* 77, 81, 82 *(ушнякі́),* 122, 124, 126, 127, 129 *(ушнякі́),* 130, 139, 141. *лушня́к* 119. *лушнякі́* 120а.
*праўшня́к, прушня́к* 50 (старое). *прушня́к* 93. *праўшнякі́* 99. *проўшнякі́* 101. *прі́ўшэнь, прыіўшні* 102.
*лу́ткі* 14, 17, 32, 35, 39, 40, 42, 44 *(лу́тка),* 74, 75, 79, 81, 82 *(ўлу́ткі),* 83—86 *(лу́тка, лу́тке̂)* 87—89, 121, 123, 125, 130.
*абса́ды* 14. *абса́да* 17.
*пры́тылкі* 40. *пры́тылкі* 79, 85, 87.
*шу́ла, шу́лы* 51, 61, 136. *шульнякі́* 128.
*стаяны́* 67. *стаякі́* 80, 81.
Адведзена: *абса́дка (акна́)* 51.
Адзінкавыя: *цапе́лы, цыпе́льнік* 16. *касякі́* 137. *скры́ня* 51, 114.

**Карта № 57**

## ПЕРАКЛАДЗІНА НАД ВУШАКАМІ

№ 856 «Я. н. перакладзіна над вушакамі: шапка, ашлап...»
Картаграфуюцца варыянты назвы перакладзіны над вушакамі З-за вялікай разнастайнасці запісаных адказаў апошнія аб'ядноўваюцца часам не паводле фар-

мальнага падабенства, а паводле ідэі, якая семантычна аб'ядноўвае іх. Напрыклад, адным знакам паказаны *ша́пка,* паланізм *ча́пка* і русім *шля́пка; вярхня́к, вяршня́к і ве́рхні шульня́к; шчэ́па, ачэ́п* і *цыпіла́ (<сцапіла́); ашла́п, ашла́пнік* і *охля́па, ошла́піна; нагало́ўвач, нагало́віч, загало́ўнік* і *гло́ўня, глу́вень, угало́вач; кало́да* і *закало́дзіца.* Асобным знакам картаграфуецца лексема *вушакі́* (агульнае паняцце і верхняя частка вушакоў) і роднасная з ёю *прушня́к (<+правушня́к)* і семантычна блізкае словазлучэнне *ба́лькі над вушняко́м.* Аднак у гэту групу не ўваходзяць адзіночныя *скры́ня* і *каро́бка, шалёўка* семантычна тоесныя з *вушакі́.*

*ша́пка* 2—15, 18, 19, 21, 23, 24, 25а—31, 33, 34, 37, 44, 47, 52, 53, 54 *(ша́пка вушако́ў),* 55—62, 64—66, 68—72, 74, 76, 77 (шапка над вушакамі), 88, 90—92, 94, 94а, 99, 100, 104, 107, 114—119, 122, 134, 135, 138, 140. *шэ́пка* 97. *шэ́пка пупе$^{а}$рэ́чная* 98. *шя́пка* 95, 96, 96а. *ча́пка* 20. *шля́пка* 106.

*вярхня́к* 86, 104, 121, 125, 129, 130. *верхня́к* 36, 80, 124, 127—130. *ве$^{і}$рхня́к* 80. *вірхня́к* 39, 40, 42, 73, 75, 79, 81, 82, 87. *ўірьхня́к* 83. *вярхні́к* 1. *вершня́к* 32, 120а. *вершнякі́* 17. *віршня́к* 14. *ве́рхні шульня́к* 128.

*вуша́к* 38, 49. *вуша́к ліжа́чы* 78. *вушакі́* 93. *ушакі́* 25. *прушня́к* 41. *папярэ́чні вуша́к* 58. *бэ́лькі над вушако́м* 46.

*уголо́вач* 101. *глу́вень* 102. *гло́ўня* 103. *нагало́віч* 126. *наголо́віч* 139. *наголо́ўвач* 113. *загало́ўнік* 141.

*касі́к* 16. *кыся́к* 35. *кысякі́* 43.

*шчэ́па* 132. *ачэ́п* 22. *цыпіла́* (а мо́ладзь гаворыць *чыпіла́*) 16.

*ашла́п* 50, 63, 83, 136. *ашла́пнік* 85. *охля́па* 108. *ошла́піна* 133.

*пе́стун* 82, 123.

*на́ворот* 109. *на́варацень* 142.

*паду́шка* 120. *паду́шкі* 112.

*кало́да* 105. *закало́дзіца* 67.

Адзінкавыя: *вісьня́к* 83. *перамы́чка* 45. *абліту́ра* 48. *плі́нтус* 89. *шалі́вка* 97. *шалёўка* 51. *карні́з* 110. *лежа́к* 111. *закры́ліна* 131. *скры́ня* 51. *каро́пка* 93.

### Карта № 58

## АДЧЫНІЦЬ (дзверы)

№ 862 «Без ключа дзверы адчыніць, адперці, адхутаць, адкрыць...»

Картаграфуюцца лексічныя адрозненні — адказы на другую частку пытання. Лексема *рашчыні́ць* картаграфуецца як і *адчыні́ць.* Некалькі лексем у некаторых пунктах сведчаць пра розныя спосабы адчынення дзвярэй, якія былі зачынены *на за́сайку, на за́валку, на кля́мку* і інш.

*адчыні́ць (атчыні́ць)* 10, 17, 18, 22, 28, 31, 33, 34, 37—39, 44, 54, 55, 57, 59, 62, 65, 67, 70, 72, 73, 77, 80, 83, 85, 87, 99, 100, 115—121, 123, 126, 128, 137, 139—141. *адчыні́ці* 93. *аччыні́ць* 1, 8, 15, 20, 21, 24, 35, 43, 45, 50, 56, 58, 64, 66, 68, 71, 74—76, 82, 86, 124, 127. *аччъні́ць* 8а. *аччыні́ць, ъччыні́ць, ыччыні́ць, ччыні́ць* 84. *рышчыні́ць* 13. *очыні́ці* 102. *оччыні́ць* 113, 114, 133, 135. *оччыні́ть* 134. *одчыны́ты* 91. *оч(ч)ны́ты* 94а, 95, 96, 97, 103, 108, 131, 132. *очыны́ты* 109. *вчыны́ты* 132. *вчынэ́тэ, отчынэ́тэ* 98. *уччыны́ты* 92.

*адпе́рці* 6, 8а, 41, 50 *(атпе́рці — адняць дронк* 'кол'), 52 *(атпе́рці дзвэ́ры з за́перкі),* 77 *(адпе́рці дзвэ́ры з за́сайкай),* 80 *(атапры́ дзвэ́ры з кручка́).* *атпе́рць* 42—44, 49, 84. *атпе́рці* 20. *(атпёрці за́сайку)* 21. *отопрэ́ць, одопэ́рці* 107.

*адкры́ць* 31, 37, 87, 140. *аткры́ць* 8а, 9, 39, 40 *(бальшынство́ так гаво́рыць),* 41—93, 88. *откры́ты* 108.

*адху́тыць* 16. *атку́тыць* 84. *адку́таць* 128.

Адзінкавыя: *адвалі́ць (за́валку)* 45. *атшчапі́ць* 53. *адамкну́ць* 3. *отсу́нуты* 131.

### Карта № 59

## ЗАЧЫНІЦЬ (дзверы)

№ 862 «Без ключа дзверы зачыніць, закрыці, захутаць, закрыць...»

Картаграфуюцца ўсе адказы на пытанне. У некаторых пунктах іх некалькі. Адной з прычын гэтага з'яўляецца недакладна сфармуляванае пытанне: без ключа дзверы можна *зачыні́ць,* не замыкаючы, *зачыні́ць на за́шчыпку, на кручо́к, на за́сайку, на дронк* 'кол', *на ка́лочак,* г. зн. уваткнуць калочак у дзірку ў вушаку дзвярэй, які такім чынам трымае дзверы зачыненымі. Не ўдакладнена ў пытанні, пра якія дзверы ідзе гаворка — пра дзверы ў хаце, ці пра дзверы ў гаспадарчых будынках.

*зачыні́ць* 1, 2 (новае), 4, 5, 10, 11, 14, 17—28, 30, 32—34, 36—38, 41, 42, 45—48, 49а — 51, 52, 54—73, 75—77, 80—82, 86, 88, 89, 99, 100, 104—106, 110—112, 114, 117—128, 130, 133, 135, 137—142. *зачыні́ці* 102. *зачэ̂ні́ць (дзьву́эры)* 113. *зачіні́ть* 134. *зачыні́ці* 93, 94, 101. *зачыны́ты* 90, 92, 94а — 96а, 97, 103, 108, 109, 131, 132. *зачынэ́тэ* 98. *зъчъні́ць* 8а, 12, 13. *зъчыні́ць* 15, 39, 85. *зычыні́ць* 35, 40, 43, 44, 78, 79, 83, 84, 87. *вчынэ́тэ* 98.

*запе́рці* 2, 3, 6, 8а, 36, 49, 50, 52, 77, 84, 107, 118, 136. *запёрці* 20, 21. *запе́рьці* 47, 88. *запе́рць* 44, 78, 129.

*закры́ць* 7—9, 17, 29, 31, 40—44, 47, 49а, 83, 85, 87, 89, 112, 115, 116, 125, 129, 140. *закрі́ць* (новае) 88. *зъкрыва́ць* (новае), 39. *закры́ты* 108.

*заху́таць* 54. *заху́тыць* 16. *заку́таць* 81 (старое), 118, 128. *заку́тыць* 84, 89.

*засу́нуць* 54. *засу́нуты* 131.

*зашчапі́ць* 53, 74.

Адзінкавыя: *завалі́ць* 45. *зыкруці́ць* 85.

Адведзены: *замкну́ць* (на ключ) 3, 45, 66.

### Карта № 60

## ПАДАКОННІК

№ 867 «Я. н. ніжняя частка асадкі акна: падаконнік, дыля, падлога...»

На карце паказаны лексіка-словаўтваральныя адрозненні назваў падаконніка. Назва *падако́нак* картаграфуецца як *падако́ннік; пъдаке́нка* — як *падако́нка; падаке́нніца* — як *падако́нніца.* Назвы *скры́ня* і *акно́* ўжываюцца як для назвы ўсяго прадмета (акна, скрыні, так і яго часткі — падако́нніка.

*падако́ннік* 1—3, 6, 8, 10, 11, 14, 21, 24—27, 30, 36, 46—48, 52, 52а, 54, 55, 57—70, 77, 77 (новае), 104, 111, 112, 120, 122, 125, 127, 129, 130, 135—137, 140, 142. *падако́нік* 4, 17, 28, 31, 49, 72. *патако́ннік* 110. *пъдако́ннік* 5, 8а, 9, 29, 39 (новае), *пыдако́ннік* 16, 35, 41, 43, 44, 78, 79, 83, 85, 87, 88. *пыдоко́ннік* 107. *пыдвоко́ннік* 89. *підоко́ннік* 102. *подоко́ннік* 94, 95 (новае) — 97, 103, 108, 113—118, 131, 134. *пудоко́ннік* 105, 138. *пудуко́ннік* 91, 92, 98. *падако́нак* 7.

*падаке́ннік* 71, 75, 119, 121, 124.

*падако́нніца* 44, 81. *пъдако́нніца* 12, 13, 15. *падаке́нніца* 77.

*падако́нка* 73, 74, 119. *пъдаке́нка* 33, 34, 38, 40.

*спада́к* 18, 20, 22, 49, 49а, 56, 58, 99, 100, 105, 110. *спода́к* 106.

*падва́лак* 82, 86, 88, 89, 123, 128. *пыдва́лык* 83, 84.

*шуфля́да* 53. *шупля́да* 23.

*паду́шка* 37, 76, 139, 140, 141. *спу́дняя паду́шка* 93.

*падло́га* 39, 41, 42, 80, 87.

*падлако́тнік* 75, 126.

*скры́ня* 94, 94а *(ныз скры́ні),* 95 *(ны́жняя часць око́нныйі скры́ні),* 103 *(ны́жняя часць скры́ні),* 109 *(ныз скры́ні в окні),* 132 *(ныз скры́ні).*

*окно́* 114, 133. *гокно́* 95 *(на гокні).*

Адзінкавыя: *вершня́к* 32. *падго́н* 35. *лог (лаге́)* 45. *до́шка (до́шка згнілá ат кве́так у акне́)* 50. 50 *вадня́к* 51. *адво́днік* 51. *каро́бка* 53. *ляжа́к* 54. *ла́вка* 90. *ху́трына* 97.

### Карта № 61

## ШАПКА (у вакне)

№ 868 «Я. н. верхняя частка асадкі акна: паракладзіна, ашлап, шапка...»

На карце паказаны лексічныя супрацьпастаўленні для назваў шапкі ў вакне.

Ye лексема *вярхня́к* картаграфуюцца лексемы *вярхнік, вяршня́к*. Побач з назвамі кораня *-верх-* асобна картаграфуюцца словазлучэнні прыметніка *ве́рхні* з назоўнікамі. Лексема *фарфле́да* з'яўляецца варыянтам назвы *шуфля́да*. Семантычна тоесныя лексемы *ча́пка* і *шля́пка* паказаны як *ша́пка*. Адным знакам абазначаюцца лексемы з коранем *-галав-*. Як *паду́шка* картаграфуецца *ве́рхняя паду́шка, ве́рхні пудоко́ннік, ве́рхні ўлу́так*. Адсутнасць назвы абумоўлена спецыфікай асадкі вакна (не з частак), а наяўнасцю суцэльнай *каробкі* ці *скрыні*.

*ша́пка* 2—9, 12—15, 18, 21, 23, 24, 25а — 31, 33, 34, 37, 38, 44, 47, 49а, 52, 54, 55, 59—62, 64, 68, 70—72, 74, 76, 77, 90, 91, 100, 107, 115—119, 122, 134, 135, 137, 138, 140. *ча́пка* 20. *шля́пка* 106.

*верхня́к* 36, 88, 94, 124, 127, 128. *вірхня́к* 39, 40, 42, 43. 73, 75, 78—83, 87, 89. *ўірхня́к* 84. *веэрхня́к* 86. *вярхня́к* 121, 123, 125, 129, 130. *вярхнік* 1, 58, 65. *вяршня́к* 56, 99. *вершня́к* 32. *вяршня́к акна́* 17. *віршня́к* 14.

*верх* 45. *верх скрыні* 94а, 96, 132. *вэ́рх скры́ні* 108, 109. *ве́рхня часць око́нныі скры́ні* 95. *вэ́рхня часць скры́ні* 103.

*паду́шка* 67, 120. *ве́эрхні пудоко́ннік* 98— *ве́рхні ўлу́так* 128. *вэ́рхняя паду́шка* 93. *ве́рхня поду́шка в скры́ні* 96.

*шуфля́да* 25 (новае), 52, 66. *шупля́да* 105. *фарфле́да* 25.

*нава́льнік* 10, 11.

*касік* 16. *кася́к* 35.

*ачэ́п* 22, 104.

*аблі́ту́ра* 48, 49 (*аса́дка акна́ звонку*).

*апшалёўка* 69. *ашалёўка* 49. *шалёўка* 57 (рама з дошак устаўляецца ў праём акна), *шалі́вка* 131.

*ашла́п* 50, 57, 63, 85, 111, 136. *ошла́п* 114.

*скры́ня* 51, 94а, 102, 133. *скрэ́ня* 98.

*уголо́вач* 101. *наголо́ўач* 113. *нагало́віч* 126, 139. *загало́віч* 141. *гло́вень* 142.

Адзінкавыя: *чыцвірня́* 35. *прушня́к* 41. *перакла́дзіна* 46. *абарлю́хт* 53. *пясту́н* 82. *карні́с* 110. *наву́шнік* 142. *ху́трына* 97. *каро́пка ако́нная* 112.

Адсутнасць назвы: 19, 49, 51, 52, 66, 93, 96а, 97, 111, 112, 133.

### Карта № 62

## ШКЛО

№ 871 «Я. н. шкло як матэрыял: шкло, сцякло...»

На карце супрацьпастаўляюцца лексічныя варыянты назвы шкла. У многіх пунктах лексема *шкло* — традыцыйная, даўняя, а *сьцякло́* — новая. Адведзена ад картаграфавання як неадпавядаючае тэме карты *шы́ба*.

*Сьця́кло* паказана тым жа знакам, што і *сьцякло́*.

*шкло́* 2—6, 8, 9 (даўней, а цяпер *шкло* 'пабітыя асколкі шкла'), 13, 16, 18—27, 29, 30, 33, 34, 46—50, 51 (*ты́ле набі́то шкла́!*), 52—60, 62—66, 68—72, 73 (*спрэ́ку — сьцякло́, але ка́жуць і шкло́*), 74, 75, 77, 86, 90, 93, 94а — 96, 99—109, 111, 112, 117—119, 120а, 124, 127, 130, 132—135, 137, 139 (*шкло* ў лямпе).

*сьцякло́* 1, 2, 5, 7—9, 11—17, 28, 29, 31, 32, 35—43, 44 (*сьцякло́*, але *шкля́нка мълака́*), 61, 67—70, 73, 75 (*вакно́ блі́шчыць, як шкло́*), 76—83, 84 (*сьцякло́*, але *пар́зыла нагу́ ны шкля́нку*), 85 (*купі́ць сьцікла́ трэ́ба — во́кны зысьцяклі́ць*), 86—89, 110—120, 121—131, 139—142. *сця́кло* 89. *сьцекло́* 135—138. *сті́кло́* 91. *стекло́* 97. *сціклó* 98.

*скло* 92, 131.

### Карта № 63

## ШКЛЯНЫ

№ 871 «Я. н. зроблены са шкла: шкляны, сцяклянны...»

На карце супрацьпастаўлены лексічныя варыянты прыметніка *шкляны́* (прыметнікі і словазлучэнні). Фанетычныя і словаўтваральныя варыянты адной лексемы паказаны адным знакам. Як *шкляны́* картаграфуюцца словы *шкляны́й*, як *шкля́ны — шкля́нны*, як *сьцякля́ны — сьцікля́ный, сьцікля́нны(й), стікля́ны*, як *скляны́ — скляны́й*.

*шкляны́* 5, 6, 18, 21, 23, 24, 26, 27, 30, 34, 47—49, 53—55, 57, 59, 60, 62, 64, 66 (*шкляны́ заво́д*), 68, 71, 72, 73, 93, 99, 101, 104, 105, 120а, 124, 127, 134. *шкляны́й* 8, 90, 94а, 95, 96, 97, 103, 108, 109, 132. *шклянэ́й ско́лык* 85, 87. *скляны́й* 131.

*шкля́ны* 49а, 74, 114. *шкля́нны* 25.

*са шкла́* 121, 126.

*сьцякля́ны* 31, 36, 61, 67, 69, 70, 76, 88, 93, 110, 113, 115, 120, 123, 129, 139, 140. *сьцякля́нны* 116, 125, 128. *сьцекля́ны* 114. *сьцекля́нны* 82, 117, 118, 124. *сьцікля́ный* 7, 86, 131. *сьцікля́нный* 16, 40, 41, 79, 80, 83, 87, 89. *стікля́ны* 91. *сьцікля́нны* 10, 11, 35, 38, 43, 44 (але *шкля́нка*), 75, 78, 81, 84. *сьцікля́ны* 8а, 14, 17, 28, 29, 37, 40, 54, 73, 98, 135.

*скляны́й* 131.

(зроблены) *са сьцякла́* 57.

Адсутнасць назвы: 1—4, 8, 9, 12, 13, 15, 19, 20, 22, 25а, 32, 33, 39, 42, 45, 46, 51, 52, 52а, 56, 63, 65, 85, 92, 94, 96а, 100, 106, 107, 111, 112, 119, 122, 130, 133, 136, 137, 138, 141, 142.

### Карта № 64

## ШЫБА

№ 872 «Я. н. шкло ў акне: шыба, шыбіна, балонка, кватэрка...»

Картаграфуюцца лексічныя і словаўтваральныя адрозненні назвы шыба. Як *абало́нка* картаграфуецца *бало́нка* і *було́ні*, як шклі́на — *шкля́нка*, як *сцяклі́на — сцякло́*.

*шы́ба* 6, 7, 9, 14—16, 18—20, 22, 23, 25—30, 32, 33, 35, 36, 40, 45, 46, 48, 49а —72, 91—96, 99—105, 107, 109—111, 113, 115, 116, 118, 132. *шыэ́ба* 90, 97. *шэ́ба* 96а, 98.

*шы́бка (шы́пка)* 38, 39, 43, 44, 56, 70, 73, 75, 76, 77, 78, 80—89, 102 (*шы́бка ма́лая, а шы́ба — гэ як вэлы́кыйі вы́кна*), 106, 108, 114, 117—120, 122—130, 133—139, 141, 142.

*шы́біна* 1, 2, 3, 4, 5, 8, 8а, 10—14, 16, 21, 24, 29, 31, 34, 112.

*шы́бы* 1, 4, 8, 47, 51, 52, 53.

*абало́нка* 9 49, 66, 121.

*бало́нка* 15, 35, 39—44, 82, 84, 87, 128.

*було́ні* 92.

*шклі́на* 59 (*вы́разаць шклі́ну*). *шклы́на* 95. *шкля́нка* 29.

*сьцяклі́на* 81, 84, 124. *сьцякло́* 89. *сьцікло́* 131.

*кваты́рка* 124. *кўатэ́рка* 84.

### Карта № 65

## ШКЛІЦЬ

№ 873 «Устаўляць шкло: шкліць, сцякліць вокны...»

Картаграфуюцца лексіка-словаўтваральныя варыянты дзеясловаў са значэннем 'шкліць', а таксама словазлучэнні (*нылажы́ць ра́мы сьцякло́м, уста́віць шкло́, шы́біну, вакно́*) у гэтым жа значэнні.

*шклі́ць* 5, 8а, 13, 21—24, 25а, 26—30, 33, 34, 47, 49—50, 52, 52а, 54, 55, 57—64, 67, 71—74, 86, 99—102, 104—109, 114, 117 (*пошклі́ць*), 133, 135. *шклыэты* 90. *шклэ́тэ* 96а, 98. *шклы́ты* 94а, 95, 96, 97, 103, 132. *шклі́ть* 134. *шклі́ці* 94.

*нашклі́ць* 1, 2, 3, 6—8, 18—20, 27, 54, 107.

*зашклі́ць* 25, 46, 51—52а, 58, 65, 66, 69, 77, 116. *зашклі́ці* 93.

*сьцяклі́ць* 5, 9—15, 17, 29—32, 34—37, 39—44, 54, 66—70, 73—76, 78—86, 88, 89, 110, 115, 116, 118—121, 123—125, 127—130, 135, 136, 139—141. *сьцеклі́ць* 112—114, 134, 138. *сіклэ́тэ* 98.

*насьцяклі́ць* (шыбу) 115.

*засьцякліць* 45, 53, 69, 70, 111, 122, 137, 142. *засьцекліць* 126. *зысьцякліць* 38, 41.
*засклíты* 91. *засклыты* 92. *склыть* 131.
*ўстáвіць (шыбіну)* 4, 65, 77, 97 *(сьцякло)*. *ўстаўляць (шыбку, шыбу)* 56, 63, 120а, 127, 134. *устаўляць (шкло)* 45, 48, 51.
Адзінкавыя: *ныляжыць рáмы сьцяклóм* 16. *пастрóіць шыбку* 126.

## Карта № 66

## ПАДВОЙНЫЯ ВОКНЫ

№ 878 «Я. н. вокны, якія ўстаўляюцца на зіму: падвойныя вокны, дубальты, дубэльты...»

На карце паказаны проціпастаўленні назваў падвойных вокнаў. Як *падвóйныя вóкны* картаграфуюцца *падвóйныя рáмы*. Як *другія вóкны — фтарыя*. *Дубальтóвыя* паказаны тым жа знакам, што і *дубэльты, падвóйкі* — як *падвóйнікі, дубэльтáкі* — як *дубэльты*.

*падвóйныя (вóкны)* 1, 2, 8, 9—11, 15, 16, 20, 23—25а, 27—35, 38—44, 46, 48, 51, 55, 57, 63, 66, 69, 71, 75—83, 84 *(падўóйныя ўóкны)* —88, 104, 116, 118—127, 141, 142. *падвóйнъі* 8а. *падвўйныя* 4, 6. *падвóйнъя (акнó)* 5. *падвóйная (акнó)* 26. *паддвóйныя* 12, 13. *падвôйныя* 61, 65. *пудвійнэ (вóкна)* 98. *падвóныя (вóкны)* 7. *падбôйныя* 49. *падвôйны (óкна)* 135. *подвійны (óкна)* 109. *подвóйные* 94, 117, 136, 137, 140. *подвóйны* 97, 101. *подвóйнэ* 96а. *падўóйные* 113, 114. *подвыйны (гóкна)* 95. *подвійны (óкна)* 90, 103, 108. *подвўйны* 94а. *пудвійны* 92, 96, 131. *пудвійнэ (óкна)* 91, 98. *пудвўйныйі* 132. *пудвóйныя* 115, 138. *пыдвэйные (óкна)* 107.

*падвóйныя (рáмы)* 40, 79, 115. *падвóйныйі (рáмы)* 16, 17, 89.

*падвóйнікі* 72, 74, 139. *падвóйнік* 70. *паддвóйнікі* 54. *подвóйнікі* 133. *падвóйкі* 14.

*двайныя (вóкны)* 31, 36, 37, 68, 73, 80, 82, 85, 111, 119, 123—125, 128, 148. *двайныйі* 16. *двойные (вóкна)* 134. *двойныйі (óкна)* 109.

*двайнікі* 112. *двыйнікі* 43.

*другія (вóкны)* 88, 128. *фтарыя (вóкны)* 87.

*дубэльты* 3, 4, 10, 18—20, 22, 47, 49а, 50, 52, 52а, 53, 54, 55, 57 *(дубэльты прыстáўлены)*, 58—62, 64, 67, 99, 100, 104—107, 110, 111. *дýбэльт* 20. *дýбельт* 23. *дубальтэ́* 96а. *дубэльтáкі* 102.

*дубальтóвыя (вóкна)* 45, 50, 51, 55. *дубэльтóвы* 133.

Адзінкавыя: *зымóвы (óкна)* 96. *ўнýтраннія (вóкны)* 130.

## Карта № 67

## ПАЦЁКІ (на вокнах)

№ 880 «Я. н. пацёкі на вокнах: поцякі, рагі, дзюгі...»

На карце адлюстравана пашырэнне назваў пацёкаў на вокнах у іх лексічных і славаўтваральных варыянтах. Як *пацёкі* картаграфуюцца лексемы: *поцёкі, потёкы, путёкы, поцéкі*, а таксама *пыцякі, пацюкі, пóцюкі, ісьцёкі, оттёкы*; як *пот* — лексема *пóцікі*, а таксама словазлучэнні *пóтныя вóкны, папацéлі вóкны, потíе окнó, запотнéлі (запацéлі, апатнéлі) вóкны*. Асобнымі знакамі паказаны словазлучэнні *вóкны плáчуць* і *вóкны цякýць*. Адным знакам картаграфуюцца лексемы *галáзы* як *рагáзы* і *лагáры, рáгі* — як *рáгі*.

*пацёкі* 16, 67, 74, 78, 79, 82—86, 88, 93, 111, 123—130, 135, 137, 139—142. *поцёкі* 94, 102, 107, 113, 133, 137, 138. *поцéкі* 136. *потёкі* 96а. *потёкы* 90 (адз. л. *потік*), 103, 108, 109, 132. *путёкі* 92. *пыцякі* 43. *пацюкі* 77. *пóцюкі* 87. *ісьцёкі* 89. *оттёкы* 94а.

*пýцікі (пацяклí)* 1, 7, 12, 14, 15, 17, 29, 32—42, 44, 73, 75, 80, 118.

*рáгі* 5, 10, 11, 28, 30, 31, 46—48, 49а, 53, 54, 57, 61, 68, 71. *рáгі (пацяклí)* 2—4, 6, 8, 8а, 19, 23, 27, 29 *(рáгі пóту)*, 49, 50 *(вóкна рáгамі цякýць)*, 51, 52а, 55, 56, 58, 62—66, 69, 99, 100, 104, 105.

*рагáзы* 22, 25, 25а, 26, *галáзы* 21. *лагáры* 24.

*пот* 106, 116, 124. *пóцікі* 118. *пот (пацёк ручаём)* 72. *атпáчуваньня* 35. *спатнéла акнó* 51. *вóкны пацéюць* 59. *запацéлі вóкна* 69, 72, 77, 126. *папацéлі вóкны* 70, 122. *запотнéлі вóкна* 106. *потíе окнó* 94а.

*слёзы* 13. *сьлёскі* 74.

*вóкны плáчуць* 13, 34, 73, 83, 114.

*вóкны цякýць* 18, 45, 59. *тычýт óкна* 90. *тэчэ́ окнó* 94а.

*дзю́гі* 54. *дю́гы* 92. *дзя́гі* 93. *дя́гы* 95, 96. *дéгы* 97. *дёгэ* 98.

*сурагí* 115, 116. *сурýгі* 110..

*паўрóзы* 114. *поворозы́* 134.

*латакí* 120. *лотокí* 117.

*раўчакí* 119 *(бягýць з вáкна)*, 120а, 121.

*расá* 123, 139. *росá* 134.

Адзінкавыя: *саплí* 9, *квéткі* 60. *рыштóкі* 52 *(акнó засьлязіўшыся рыштóкамі сьцякáя)*. *пісагí* 112. *полóса* 135.

## Карта № 68

## КАНЬ (значэнне слова)

№ 884 «У якім значэнні ўжываецца слова кань: а) унутраная перагародка ў хаце, б) канцавая завостраная частка снасці, сплеценай з лазы для лоўлі рыбы (у баўтушы)...»

У адказах на пытанне зафіксаваны толькі адказы а) са словам *кань* ці прыметнікам *канявы́*. Слова *кань* ужываецца ў варыянтах *кянь* (3), *кáня* (97, 98, 133, 134), *кáні* (53) і *кань* (астатнія пункты).

'унутраная папярочная сцяна ў хаце з бярвенняў' 23, 27, 62, 64, 65, 66, 70, 76, 86, 102, 104, 105, 107, 110, 111, 116, 125, 134.

У гэтым жа значэнні ўжываюцца словазлучэнні са словам *кань, канявы́: сьцяна́ ўпýшчана ў кань* 18. *канявáя сьцяна́* 19, 24, 25, 26, 27, 58, 63, 68, 69, 94, 99, 137. *кáнева сьцéнка* 20. *сьцяна́ ў кань* 21. *канёвая сьцяна́* 56, 106. *кáнная, кáнна сцéнка* 67. *канéўка* 102. *канёвая стíнка* 103.

'паз у падоўжнай сцяне, у які устаўляецца папярочная, канявая сцяна' 3, 18, 25а, 67, 68, 71, 94, 97, 99, 113, 114, 120, 132, 133, 137, 140.

'паз у шуле, куды закладаюцца бярвенні (дылі)' 90, 93.

'вугал у каню' (калі чашкі выразаюцца з выемкай у адным бервяне і выступамі ў другім)' 74, 90, 109 (новае), 135. 'гняздо ў бервяне для бэлькі' 35.

'спосаб сточвання бярвенняў' (калі выраз ці *пáлец* аднаго бервяна заходзіць за палец другога) 57, 86, 94а, 95, 96, 98, 115, 135.

Адзінкавыя: 'жалабок у бервяне пры мшэнні' 108 *(як мшы́ты, то ў дэрэвы́ны выбырáють жолобóк — гэ́то кань)*.

'посуд (бідон) аб'ёмам у 38 л' — *кáня або баня́к* 54. 'палачка, якая ўбіта ў прасечаную ямачку на дрэве для сцякання соку': *на кáню сьцякáе бярóзавы сок* 79.

Лексема *кань* і роднасныя не ўжываюцца ў н. пп. 1, 2, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12, 13, 14, 15, 16, 17, 22, 28, 29, 30, 31, 32, 33, 34, 36, 37, 38, 39, 40, 41, 42, 43, 44, 45, 46, 47, 48, 49, 49а, 50, 51, 52, 55, 59, 60, 61, 72, 73, 75, 77, 78, 80, 81, 82, 83, 84, 85, 86, 87, 88, 89, 91, 92, 96а, 101, 112, 113, 117, 118, 119, 120а, 121, 122, 123, 124, 126, 127, 128, 129, 130, 131, 136, 139, 141, 142.

У некаторых з іх замест *кань* 'канявая сцяна' ужываюцца іншыя лексемы *забóрка* 7. *пірыгарóдка* 10, 11. *пірабóрка* 36. *перабóрка* 14, 31. *пірябóйка* 17. *перабóйка, перагарóдка* 29. *перагарôтка* 65. *пэрэрýб* 109. *перарýб* 71, 75. *пярэ́руп* 72. *парарýб* 128, *парагарóдка* 82, 127. *перагарóдка* 118, 124, 127, 128. *перакавáя сцяна́ ў хацé* 77. *сеэрэ́дняя сьцéнка* 86. *пырыгорóдка* 90. *пырэ́горотка* 95, 132. *пэрэ́гурóтка* 98. *пэрэгорóтка* 113. *прыдзéлак* 122. *капітáлка* 139. *капітáльная сцяна́* 142.

На другую частку пытання б) адказы наступныя: *бýча* 7. *пáльцы* 16. *боўт* 62. *куль* 82. *óсьці* 90. *концы́* 94а. *кіш* 98. *кім, кімéлька* 109 *(то концí загóстраны)*. *кэ́ш* 113. *гýска (у кашы́цы)* 114. *бóўталка* 117.

## Карта № 69

## СЕНЦЫ

№ 882 «Я. н. частка хаты, якая не абаграваецца: сені, сенцы, прымян...»
Недакладнасьць пытання выклікала тое, што ў некаторых пунктах былі побач з *се́ні (се́нцы)* запісаны і *камо́ра* (45), *комо́ра* (45), *кладо́ўка* (86), *друга́ ха́та* (90), *трысьцён* (34), *пяро́дняя ха́та, сце́пка, клець* (93), якія называюць часткі хаты, што таксама, як і сені, не абагравaліся. Гэтыя назвы адведзены ад картаграфавання.
На карце паказаны лексічныя і суфіксальныя варыянты назваў сеней. Як *се́ні* картаграфуюцца *се́нцы* са значэннем 'малыя сені' (нас. пп. 53, 59, 71, 77, 90, 99, 104), *сінцэ* (96а) і *се́нкі* (п. 33). Адзінкавае *лізьцьён* паказана асобным знакам.
*се́ні* 1—3, 4 *(у сянёх зімна)* — 9, 11—20, 24, 25, 28—30, 35, 39, 40, 45, 48, 49а —54, 56, 57, 58, 59, 61, 62, 71, 77, 85 (новае), 88, 90, 93, 94, 99—102, 104, 106, 113—116, 126, 133, 134. *се̂ні* 60. *сі́ны* 92, 94а, 95, 96, 97, 103, 108, 109, 131, 132. *сы́ны* 91 *сі́нэ* 98.
*се́нцы* 1, 10, 23, 25а —27, 29, 31, 32, 34, 36—38, 41—44, 55, 57, 63—86, 88, 89, 104, 111, 112, 117—125, 127—130, 135—142. *се̂нцы* 105, 110. *сінцэ* 96а.
*пры́вян* 21, 58. *пры́вен* 47. *пры́мян* 49.
*лізьцьён* 107.
*калідо́р* 17, 57, 130, 142.
Адзінкавыя: *вера́нда* 9 (суч.). *га́нак* 22. *прыдзе́лак* 79.

## Карта № 70

## КАМОРА (значэнне слова)

№ 883 «Я. н. адгароджаная камора ў сенцах, дзе захоўваюцца прадукты харчавання: каморка, чулан, спіжарня, кладоўка...»
Карта адлюстроўвае лексічныя і словаўтваральныя адрозненні назвы каморы. Наконт назвы *кладо́ўка* ў адказах адзначаецца, што гэта новае, сучаснае слова. Як *істо́пка* картаграфуюцца назвы: *сьцёпка, сьцёбка, сте́бка, сто́почка, стэ́пка, высьцёпка,* а як *вара́ўня — варывэ́нька.*
*камо́ра* 4, 19, 20, 26, 45—48, 52, 61, 63, 64, 66, 69, 70, 72, 76, 91, 92, 94, 96а, 97, 98, 111, 112, 115, 118—122, 135—138, 140, 142. *кумо́ра* 98. *ко̂мо́ра* 131.
*камо́рка* 1, 5, 7, 8, 8а —12, 19, 21, 28, 29, 34, 35, 37, 38, 40—43, 49—51, 52а —56, 67, 68, 73—75, 77, 79—82, 86, 99, 102, 104, 112, 124, 126, 128, 129, 139. *камо́рачка* 82. *камо̂рка* 60—62, 105, 110, 127. *комо́рка* 134. *комо́рка* 117. *кумі́рка, кумо́рка* 98.
*чула́н* 12, 16, 17, 35, 39 (*чула́н* — 'яшчык у каморцы'), 41, 44, 75, 78, 80—88, 118, 128, 129, 141, 142.
*істо́пка* 2, 24, 66. *сьцёбка* 135. *сьцёпка* 18 (даўняе), 50, 94а, 95, 101, 102, 114, 133. *стёбока, сте́бка* 132. *сто́пка* 47, 53, 54, 56. *стэ́пка* 90. *стэ́бка* 109. *высьцёпка* 103, 108.
*кладо́ўка* 8, 8а, 10, 13—15, 17, 18, 21—24, 27, 29, 30—32, 36, 37, 39, 41—43, 53, 54, 57, 59, 67, 69, 70, 71, 73—77, 80, 81, 85—87, 106, 107, 113, 115, 116, 119, 125, 136, 137 *(комо́ра — по-на́шому, а кладо́ўка — по-хоро́шчому),* 139, 142. *кладо̂ўка* 65, 100, 114. *кладо́вка* 79, 103. *кладо́выя* 35, 40, 85.
*вара́ўня* 2, 6. *варывэ́нька* 96.
*клець* 80, 93, 127. *кле́тка* 126.
*скла́дзік* 22, 25.
Адзінкавыя: *спіжа́рня* 57.

## Карта № 71

## ДРАБІНЫ

№ 885 «Я. н. лесвіца: лезкі, леса, драбіна...»
На карце адлюстраваны лексічныя і словаўтваральныя варыянты назваў лесвіцы. У адказах інфарматараў не заўсёды адрозніваюцца віды лесвіц (напрыклад, 'драбіна ў возе', 'лесвіца наогул', 'лесвіца на страсе' *«ла́зіць до ко́мына»*, 'лесвіца з сучкамі — *астро́ва*', 'маленькая лесвіца', 'вялікая лесвіца'. Лексемы *ве́сьліца, ле́сьвіцы* картаграфуюцца як *ле́сьвіца,* а *ве́сьніцы, ле́шніца* — як *ле́сьніца; дря́бу* і *дра́бцы* — як *драбі́ны.* Лексемы *ле́са, ле́ска* і *ле́скі* паказаны адным знакам. Як *астро́ва* 'лесвіца з яліны з кароткімі сукамі' (69) картаграфуецца паводле матэрыялаў СП-ЗБ, т. 1,113 *астро́ў* (50А), *астро́х* (31).
*ле́сьвіца* 4, 8, 9, 12, 16, 29, 33—35, 39, 41, 42, 44, 75, 81, 82, 85, 86, 88, 89, 107, 127—130. *ле́сьўіца* 84. *ле́сьвіцы* 38, 73.
*ле́сьніца* 1, 7, 9, 11, 13—15, 17, 20, 32, 37, 40, 43, 49а, 54, 59, 66, 68—71, 77—80, 83, 87, 93, 111—113, 115, 116, 120, 125, 128, 130, 137, 142 *(вялі́кая ле́сьвіца). ле́тніца* 117.
*ве́сьліца* 1, 8а. *ве́сьніцы* 61.
*драбі́на* 2, 4—6, 8а, 10, 11, 18—25, 40, 44, 45, 47, 49а —54, 57, 58, 63, 70, 85, 86 *(драбі́на ў возе),* 87, 93—94а, 96, 97, 99, 101, 102, 107, 113—116, 119, 120а, 122, 132, 135, 140. *драбы́на* 91, 92, 94, 96, 97. *драбы^э^на* 90. *драбэ́на* 96а. *дробі́на* 133.
*драбі́ны* 3, 25а —28, 30, 31, 41, 46, 54—56, 59, 61, 65—68, 71, 72, 76, 77, 100, 106, 118, 121, 126, 139. *дря́бу* 117. *дра́бцы* 124.
*ле́са* 48, 142.
*ле́ска* 49, 64, 114, 134, 136, 138, 141, 142. *ле̂ска* 60. *ле́скі* 37, 59, 62, 74, 100, 104, 105, 111. *ле̂скі* 110.
*глабі́на* 97. *глабы́на* 94а, 132 *(драбі́на на вуз).*
*страмы́на* 95, 103, 108, 109, 132. *страмі́на* 102.
*рабры́на* 96, 96а, 131. *рабрэ́на* 98.
*астро́ва* 69. *астро́ў* 50А. *астро́х* 31.
Адзінкавыя: *росо́ха* 133 (лесвіца з сучкамі).
Адведзены: *я́сьлі.* 40 *(як раньш дзе́лылі я́сьлі,*— паверх драбіны), 112.

## Карта № 72

## ХАЦІШЧА

№ 886 «Я. н. месца, дзе калісьці стаяла хата: котліско, котлішча, дворышча...»
На карце паказаны лексіка-словаўтваральныя адрозненні назваў хацішча. Адводзяцца ад картаграфавання словы, якія абазначаюць як назвы канкрэтных аб'ектаў, месца сялянскіх пабудоў (апрача назвы месца, дзе стаяла хата), так і агульныя назвы вясковай сядзібы: *пе́чышча* 'месца, дзе стаяла печ', *хле́вішча* 'месца, дзе стаяў хлеў', *двор, дво́рышча* 'месца, дзе стаялі гаспадарчыя будынкі (у тым ліку і хата)', *падво́р'е* 'месца, дзе быў двор, падворак', *се́лішча, ко́тлішча* 'месца, дзе нехта жыў (там была і хата)', *стары́ца,* 'старое, былое месца, дзе стаяла хата і гаспадарчыя будынкі', *пляц', уса́дзьбішча* 'зямельны ўчастак, дзе стаяла хата і іншыя гаспадарчыя будынкі'. Таксама спалучэнні са словамі *ха́та, буды́нак, зруб.*
*ха́цішча* 8а (ж. р.), 9, 13, 19, 21, 24—26, 30, 32, 33, 58, 84, 86, 102, 105, 110, 126. *ха́цішша* 16. *ха́чішча* 2. *хаті́шча* 102. *ха́тышчэ* 96а. *ха́тыско* 91. *ха́ціско* 51, 93, 97.
*ха́тнішча* 6, 23, 29, 35, 59, 60, 65, 67, 75, 82, 87, 111, 127, 128, 142. *ха́тнішша* 76. *ха́тнішчо* 62. *ха́тнішчэ* 114. 133—135. *ха́тніска* 46. *ха́тніско* 94. *ха́тныско* 90, 92.
*ха́та стая́ўшы* 18 *(там, дзе ха́та стая́ла)* 4, 27, 49, 52а, 72, 126, 132. *стая́ўшы тут зру́б* 18. *калі́сь стая́ў буды́нак* 22. *ко́лісь стая́ла ха́та* 121. *на старо́й ха́ця* 20. *дэ ха́та сто́яла* 94а, 95, 96, 103, 108, 109, 132. *дэ ха́та стуе́ла* 98.
*двор* 12, 28. *двір* 97. *на тым двара́ ха́та была́* 125.
*дво́рышча* 7, 14, 31, 34, 36—38, 42, 43, 66, 70, 71, 73, 74, 76, 78, 80—82, 118, 119, 120а, 124, 127, 129, 136. *дво́рышча ста́рае* 141. *дво́рышчэ* 101, 106. *дво́рішча* 39, 41, 44, 79, 85, 88, 89. *дво́рышча* — 'месца, дзе стаялі гаспадарчыя будынкі' 35, 67, 76 *(дво́рышша).*
*падво́р'я* 68, 83. *подвэ́р'е* 101. *ста́рая падво́р'я* 77. *падво́рак* 47. *пыдво́рыско* 107.
*се́лішча* 99, 115, 116, 122, 139, 140. *се́лішчэ* 112 (месца, дзе нехта жыў), 113, 117, 120, 137, 138 (дзе калісьці стаяла хата), *сэ́длыско* 94а.
*сялі́ба* 3. *сялі́бішча* 8а, 15.
*уса́дзьбішча* 16. *уся́дзьба* 17.

## Карта № 219

# АПЛІК

№ 1143 «Я. н. прыстасаванне для зашпільвання вопраткі: в) кручок, гаплік, гаплік...»
На карце паказаны лексіка-словаўтваральныя адрозненні назвы кручка для зашпільвання вопраткі. Акцэнтныя варыянты ў слове гаплік *(га́плік* і *гаплі́к)* картаграфуюцца адным знакам.
*аплі́к* 2, 3, 5, 6, 8а—11, 13, 18—22, 25—29, 32, 33, 35, 67—69, 71, 72, 75, 76, 104, 105, 110, 111, 115, 118, 119, 126, 127.
*гаплі́к 54—56, 85, 90, 91, 94, 99—102, 106, 107, 112, 114, 116, 117, 120—123, 125, 128, 133—136, 141. гаплы́к* 92, 94а—97, 103, 108, 109, 131, 132. *га́плік* 120а.
*аплю́к* 45, 47, 52а, 53.
*гаплю́к* 48, 49а—51, 77, 86, 87 (трад.), 93, 130, 138—140. *гаплю́к* 49.
плік 61, 85.
Адзінкавыя ўтварэнні ад таго ж кораня: *габлэ́к* 98, *га́пка* 106. *гапе́лька* 120а.
кручо́к 1, 4, 7, 8, 15, 24, 26, 30, 31, 34—42, 70, 73, 74, 78—82, 120, 124, 125, 141.
*крючо́к* 12, 14, 44, 83, 84, 88, 89.

## Карта № 220

# КНОПКА

№ 1143 «Я. н. прыстасаванні для зашпільвання вопраткі: г) кнопка, зашчаска, затшаска...»
На карце паказаны лексічныя і акцэнтныя адрозненні назвы кнопкі. Назва *шпо́нька* картаграфуецца як *шпо́нка,* назва *за́ччаска* — як *за́шчастка.*
*кно́пка* 1, 2, 4—6, 8, 9—17, 21, 22, 24, 25, 27—42, 44, 45, 47, 50, 54, 55, 57, 59—63, 66—71, 73—92, 95—97, 99—105, 107—109, 111—114, 117—130, 132, 134—139.
*машы́нка* 25а, 48—49а, 53, 58, 64, 82, 115, 116.
*шпо́нка* 3, 19, 52, 93, 106, 110. *шпо́нька* 131. *спо́нка* 51.
*запі́нка* 54, 65.
*за́пінка* 56, 93, 94.
*за́шчастка* 18. *за́ччаска* 20.
Адзінкавыя: *лу́скавка* 90.

## Карта № 221

# ШПІЛЬКА

№ 1143 «Я. н. прыстасаванні для зашпільвання вопраткі: д) шпілька, аграфка, булаўка...»
На карту нанесены лексіка-словаўтваральныя адрозненні назвы шпількі. Як назва *гра́фка* картаграфуецца *агра́фка.*
*шпілька* 1, 2 *(дай, шпільку гру́дзі зашпіліць),* 3, 5, 7, 8, 13—15, 21, 24—25а, 28, 30, 33, 35—38, 41, 42, 45, 47, 50, 54, 55, 58—61, 63—65, 67, 69, 80, 81, 83, 85, 88, 93, 94, 99—102, 104—107, 110—112, 114, 121, 122, 124, 130, 134—138. *шпі́лька* 90—92, 95, 96, 97, 103, 108, 109, 131, 132.
*шпы́лька* 31, 62, 66, 68, 70—78, 80, 81, 116, 119, 120, 120а, 126, 127.
*шпу́лька* 117, 135, 139, 141.
*була́ўка* 1, 9—12, 14, 16, 17, 26, 28, 29, 32, 39—42, 44, 79—85, 87—89, 118, 123, 124, 128.
*гра́фка* 6, 18—20, 22, 48—49а, 51—52а, 56, 57, 62, 96а. *агра́фка* 4.

## Карта № 222

# ЗАШПІЛЯЦЬ (на гузік)

№ 1144 «Як скажуць пры зашпільванне вопраткі на гузікі, кручкі, кнопкі: засцягнуць, зашпіліць, заплікнуць. АЛА 1207 'застегнет' (пуговицу) застегнёт — zаkорcа — zарnіе
Картаграфуюцца дзеясловы ў значэнні 'злучыць, змацаваць край адзення пры дапамозе засцёжкі'. На аснове «Матэрыялаў для слоўніка мінска-маладзечанскіх гаворак» (1974) знак *(заплікнуць)* пастаўлены ў н. пп. 21, 30 і 66, той жа знак пастаўлены ў н. п. 34 на аснове матэрыялаў «Жывога слова» (1978) і ў н. п. 44 — на аснове матэрыялаў «Краёвага слоўніка Усходняй Магілёўшчыны» І. К. Бялькевіча (1970). Знак *(зашчапіць)* пастаўлены ў н. п. 114 на аснове матэрыялаў Тураўскага слоўніка (2, 1982) і ў н. п. 141 на аснове матэрыялаў «Дыялектнага слоўніка Лоеўшчыны» (1982). Асабовыя формы дзеясловаў картаграфаваліся адным знакам: *зашпіліць* і *зашпы́ле, зашпыляя, зашчапіць* і *зашчэ́пуе, зашчэ́пне* і інш. Як *заплікнуць* картаграфуюцца дзеясловы *заплікну́ць, заплікнуцца* і *заплікну́цца,* як дзеяслоў *зашчапіць — зашчапіцца, зашчэ́пваць, зашчапну́цца.*
*зашпіліць* 4, 10, 19, 26, 45, 49, 49а, 50, 61, 62, 70, 106, 107, 115. *зашпіліты* 131. *зашпылы́ты* 97.
*заплікнуць* 34. *заплікнуцца* 44. *заплікну́ць* 10, 130. *заплікну́цца* 21, 30, 66.
*зашчэпіць* 114, *зашчэ́пваць* 114. *зашчапну́цца* 141. *зашчэпіцца* 136.
АЛА: *зашпіліць* 1А—5А, 8А, 10А—15А, 17А, 21А, 24А, 27А, 29А, 30А, 32А—35А, 41А, 44А, 46А, 47А, 50А, 59А, 60А. *зашпіляя* 16А. *зашпыліць* 18А, 31А, 36А, 38А, 49А, 58А, 61А. *зашпы́ле* 63А. *зашпыляя* 37А. *зашпыліты* 45А, 52А. *зашпуліць* 55А—57А, 62А, 67А. *зашпу́ліць* 67А.
*засцягну́ць* 6А, 7А, 19А. *засця́гніць* 9А, *зысцягну́ць* 22А, 23А, 42А.
*заплікнуць* 51А. *заплікне* 39А, 40А. *зыплікнуць* 25А. *зыплікáіцца* 20А.
*зашчапіць* 66А. *зашчыпáць* 43А. *зашчыпне́* 48А. *зашчэпне́* 64А. *зашчэ́пуе* 65А.
Адзінкавыя: *засцёбнуць* 54А.

## Карта № 223

# ПАПРУГА

№ 1145 «Дзягай (рэменем) падпаясацца, падперазацца...»
На карце паказаны лексіка-словаўтваральныя адрозненні назвы рэменя. Як назва *папру́га* картаграфуецца *папру́жка,* як назва *дзя́га — дзя́жка.*
*папру́га* 50, 53—56, 63—69, 71, 76, 77, 94а, 99, 100, 102—104, 110, 111, 115, 116, 135, 139, 142. *попру́га* 106, 108, 109, 113, 114, 117, 131, 132. *папру́шка* 51, 105. *попру́шка* 133, 134.
*рэ́мень* 53, 61, 80, 117, 120—123, 125, 128, 130, 142. *рэ́мінь* 1, 7, 9, 12—17, 34—36, 38. *рэ́мянь* 74, 116. *ре́мень* 41, 42, 44, 86, 88, 89.
*раміннык* 90.
*дзя́га* 4—6, 10, 11, 21, 22, 24, 25, 27—29, 31, 35, 45, 47—49а, 52. *дзя́шка* 2, 3, 8, 8а, 19, 20, 23, 25а—27.
*шыцік* 93, 94. *шытык* 95—96а.

## Карта № 224

# ПАДПЕРАЗАЦЦА (папругай)

№ 1145 «Дзягай (рэменем) падпаясацца, падперазацца...»
Картаграфуюцца дзеясловы са значэннем 'зацягнуць па таліі папругай'. На карце паказаны словаўтваральныя адрозненні. Асобнымі знакамі нанесены на карту корань *-пераз-* і корань *-параз-* у слове падпераза́цца: *падпераза́цца* і *падпараза́цца, запараза́цца.*
*падпераза́цца* 36, 37, 54, 75, 116, 123, 124, 124, 135, 139, 141, 142. *патпераза́цца* 9, 18, 28—30, 37, 47—49а, 52, 53, 57—59, 61—68, 71, 73, 74, 80, 81, 100, 104, 105, 111, 112, 115, 118—120а, 122, 125—127, 129. *патпяраза́цца* 3, 20, 25, 45, 49, 50, 51, 52а, 56, 60,

69, 76, 77, 121. *патпіразáцца* 1, 2, 6, 8, 21, 22, 23, 24, 26, 27, 30, 33. *падпⁱэразáціса* 93. *подперезáцца* 117. *пудпёрёзáтысь* 90. *пудпіразáцца* 140. *пудпірізáцца* 14, 41. *пыдпірізáцца* 42. *падпірязáцца* 40, 83—89. *патпірязаца* 32. *пытпірызáцца* 5, 7, 8а, 10—12, 15, 34, 35, 38, 78. *пудпырызáтысь* 92. *пудпырызáтыся* 91. *подпэрэзáтыся* 96а, 97. *потпэразáтыся* 131. *пітпэразáтыся* 133.

*падпаразáцца* 82, 101, 106, 128, 137. *подпаразáцца* 134. *пудпаразáцца* 138. *потпаразáцца* 113. *пудпаразáтысь* 95, 96. *падпаразáтысь* 94а. *путпаразáтысь* 95, 98.

*запаразáціса* 102. *запаразáтысь* 98, 103. *запаразáтыса* 108, 109, 132.

*патпаясáцца* 19, 20, 49а. *патпаісáцца* 16, 17. *падпаясацца* 136.

*падвязáцца* 54, 55, 72, 130.

### Карта № 225

## ВЕШАЛКА (на адзенні)

№ 1148 «Я. н. пятля для вешання адзення: гіцаль, вешалка, вяшак...»

На карце паказаны лексіка-словаўтваральныя адрозненні назвы пятлі, на якую вешаюць адзенне. Адным знакам картаграфуюцца назвы з коранем *-пятл-*. Як *почапка* картаграфуецца *почамка.*

*вéшалка* 4, 6—8, 9—11, 14, 17, 23, 28—33, 36, 37, 45, 48, 49, 50, 55, 58, 60, 61, 64—70, 72—77, 80—82, 94, 99—106, 111, 112, 115—117, 119—120а, 122—130, 134, 136, 142. *вéшылка* 5, 8а, 12, 13, 15, 16, 21, 24, 25, 34, 35, 38—42, 44, 78, 79, 83—89. *вішалка* 90—92, 94а, 95, 97, 98, 108, 132.

*вяшáк* 19, 20, 49а, 51—54, 59. *вешáк* 93, 94, 95—96а, 114.

*гіцаль* 2, 25а, 27, 52а, 62, 71. *гіцаль* 57. *гіцыль* 8а. *гіццаль* 50 (трад., рэдка).

Назвы з коранем -пятл-: *пятля́* 3, 59, 63, 118, 121. *пятліца* 1. *петліца* 113. *пяцéлька* 26, 63, 84. *пэцéлька* 93. *пацéлька* 106. *патэ́лька* 18. *пятлічка* 70. *пятлéйка* 56. *пэтлéйка* 107, 135. *пэтлéчка* 135. *пятліна* 47.

*почапка* 22, 25. *почамка* 58.

*гапéлька* 117. *гапэ́лька* 109.

Адзінкавыя: *посілка* 69 (даўн.). пýто 133.

### Карта № 226

## СПОДНІКІ

№ 1149 «Я. н. сподняя штаны: порткі, падштанікі, майткі, ісподнікі...»

На карце паказаны лексіка-словаўтваральныя адрозненні назвы споднiх штаноў і адрозненні ў націску слова порткі: *порткі* і *партκí.* Як назва *споднія штаны́* картаграфуюцца назвы *ніжнія штаны́* і *штаны́,* як назва *нагавіцы* — назвы *спóлнія нагавіцы і ніжнія нагавіцы,* як назва *ганавіцы* — назвы *спóднія ганавіцы* і *анавіцы.*

*спóднія штаны́* 4, 24, 30—33, 35, 36, 57, 64, 67, 69, 71, 72, 75—77, 79, 81, 115, 117, 119, 121, 122, 124, 126—128, 130, 135, 139, 141, 142. *спóднія штанэ́* 66. *спóдніе штаны́* 113, 114, 134, 136, 137. *спóдні штаны́* 133. *іспóднія штаны́* 13, 26, 27, 37, 68. *ніжнія штаны́* 37, 38, 70, 73, 80, 112, 120. *ніжніё штаны́* 8. *штаны́* 1, 7, 8а. 25а, 28, 29, 35, 87, 97.

*спóднікі* 21, 75, 82—85 (трад.), 86, 88, 89, 129. *спóннікі* 74. *іспóднікі* 8а, 10—12, 17, 41, 42, 44, 123.

*падштáнікі* 14, 88, 137, 140, 141. *падчтáнікі* 142. *патштáнікі* 2, 9, 22, 24, 125. *пытштáнікі* 5, 8а, 15, 16, 34, 39, 40, 83, 85, 89 (рэдк.). *пачтáнікі* 21. *паштáнікі* 6, 81.

*нагавіцы* 99, 102, 104, 105. *нагавіці* 92. *наговіцы* 107. *ноговіцы* 106. *нагавэ́цэ* 96а. 98. *спідні нагавы́цы* 96, 103, 108, 132. *спідныі нагавы́цы* 109. *спудні нагавы́ці* 91. *спýдні нагавы́цы* 94а. *спю́дні нагавы́ці* 90. *ніжныя ноговіцы* 101.

*ганавіцы* 45, 50, 51, 52а, 55, 58 (трад.), 100, 104. *спóдніе ганавіцы* 93. *спýдні ганавіцы* 94. *спыдні ганавы́ці* 95. *анавіцы* 47—49.

*порткі* 3, 18—20, 35, 37 (устар.), 49а, 53, 54, 56, 57 (трад.), 59—63, 65, 116, 121, 139. *парткí* 69, 75, 81, 118, 128.

*мáйткі* 20, 49а, 50 (рэдк., трад.), 57 (польскае).

Адзінкавыя: *гáці* 52. *пудóднie* 138.

### Карта № 227

## ПРАРЭХ (у спodніках)

№ 1153 «Я. н. разрэз у штанах: кятурка, шырынка, прарэх. кракавіна...»

На карце паказаны лексіка-словаўтваральныя адрозненні назвы разрэзу ў споднiх мужчынскiх штанах. У словах *распорка* і *прарэ́зка* адзначаны акцэнтныя адрозненні: *распорка* і *рóспарка, прарэ́зка* і *прóразка.* Як назва *прарэ́х* картаграфуюцца *прарэ́ха, прарэ́шка* і *прэ́рах,* як назва *кятýрка* картаграфуецца *квятýрка,* як назва *прóразка* — *прарэ́зка,* як назва *пáзуха* — *пáзушка.*

*прарэ́х* 1, 2, 9, 17, 23, 26—28, 31, 35, 37, 54, 55, 57, 59, 61—70, 72, 74—76, 78, 81, 99, 115, 116, 118, 126, 127, 129, 130. *прарéх* 13, 14, 39, 85, 88. *прарʸⁱэ́х* 93. *прорэ́х* 94, 136. *прарэ́ха* 120а. *прарéха* 44. *прарэ́шка* 137. *прэ́рах* 49а.

*праéх* 115. *проéх* 117.

*распарэ́х* 110, 119, 121, 126. *распорэ́х* 122.

*правéрх* 49а.

*вóрат* 14, 29, 30, 32, 33, 37, 73, 77, 82, 123, 128. *ворыт* 12, 15, 34—36, 40—42.

*выратóк* 84, 86.

*выратнік* 89.

*крэ́сла* 71, 104, 139. *крэ́сло* 53, 56, 60, 105, 111, 112, 137.

*кятýрка* 1—5, 8, 8а, 18. *квятýрка* 7.

*крок* 3, 6, 9, 21, 24, 25а.

*шырынка* 4, 10, 11, 16, 80, 94, 94а, 125, 140. *шырінка* 41, 79, 83, 85.

*распорка* 47, 49, 132. *роспорка* 90, 91, 108, 113. *руспірка* 92.

*распорак* 19, 52.

*рóспарка* 95—97, 133. *рóспурка* 98.

*прарэ́з* 127. *прорэ́з* 134.

*прóрэска* 101, 102, 106, 109, 114, 135. *прóраска* 100. *прорэ́зка* 107.

*разрэ́з* 125.

*пазýха* 120, 131, 141. *пáзушка* 100.

*клін* 20, 22, 25, 48, 50, 51, 52а, 58.

Адзінкавыя: *усéсла* 87.

### Карта № 228

## ПАШЫРЭННЕ СЛОЎ *ПІНЖАК, ШВАРКА*

№ 1157 «Я. н. кароткая верхняя мужчынская вопратка без падкладкі: а) з дапамтканага сукна: сярмяжка, кафтан, кулёк, світка, б) з фабрычнага матэрыялу: пінжак, жакетка...»

На карце паказаны лексіка-словаўтваральныя адрозненні назваў пінжака, якія шыўся з даматканага сукна або фабрычнага матэрыялу, і пашырэнне слова *шварка* — назвы кароткай верхняй мужчынскай вопраткі з падкладкай на кудзелі або на ваце. Адным знакам нанесены на карту фанетычныя варыянты слова пінжак: *пінжáк, пінджáк, піжáк, спінжáк, бінджáк.* Як назва *жакéтка* картаграфуецца назва *жакéт.* На аснове матэрыялаў СП—ЗБ (5, 1986) знак (шварка) пастаўлены ў н. пп. 1,3, 8а, 23.

Адводзіцца ад картаграфавання слова *жалéтка* з заўвагай інфарматара *«жалéтка была на ваці з рукавамі, цяпер называюць куквáйка»* і слова *кітлік* — памянш. форма ад кіцель?

*пінжáк* 1, 2, 5, 7, 19—12, 14, 16, 17, 24, 25, 27—29, 31—33, 40, 44, 54, 61, 65 (нов.), 73, 74, 79 (рэдк.), 80, 83, 88, 89, 97, 99, 102, 106, 120а. *пінджáк* 9, 13, 15, 30, 35, 37—39, 41—42, 50, 55, 75, 78, 82, 85, 86, 90, 94, 94а, 96. *пынджя́к* 95. *пынджáк* 96а. *піжак* 76, 77. *бінджáк* 69, 81.

*марынáрка* 3, 18—20, 22, 25, 52, 92, 98.

*мананáрка* 23, 58.
*манáрка* 49, 49а, 51, 52а.
*летнік* 81 *(лéтнік — бінджáк)*, 125 *(пінжáк і лéтнік — тое самае)* 126, 128 *(лéтнік сукóнны)*, 130, 135, 139, 141, 142.
*жылéтка* 81, 84, 85, 87, 122.
*палятýнька* 59.
Адведзены: *жалéтка* 8. *кітлік* 60.
*швáрка* 1—3, 4 (на кудзéлі і на вáці, бывáя і на кажухý), 8 (на *кудзéлі і на вáце, і з ткáнага і куплёнага)*, 8а, 23.

## Карта № 229

## СВІТА

№ 1157 «Я. н. кароткая верхняя мужчынская вопратка без падкладкі: а) з даматканага сукна: сярмяжка, кафтан, кулёк, світка...» № 1160 «Я. н. доўгая верхняя мужчынская вопратка без падкладкі: а) з даматканага сукна: армяк, чухмень, бурнос, сярмяга, світка...» № 1200 «Я. н. верхняя жаночая вопратка кароткага памеру з саматканага сукна: каротчык, сярмяжка...» № 1205 «Я. н. верхняя жаночая вопратка доўгага памеру з саматканага сукна: сярмяга, світка, казакін...»

На карце паказана пашырэнне слоў *світка, світа, світына, світно,* якія абазначаюць мужчынскую і жаночую верхнюю вопратку рознай даўжыні — да калена або да пят. «Даўжыня суконнай і палатнянай адзежы вызначаецца не столькі матэрыялам і пакроем, колькі мясцовымі традыцыямі і ў некаторай ступені адрозненнем па полу... Наогул у беларусаў не было рэзкай розніцы паміж мужчынскай і жаночай верхняй адзежай. Адрозненні... наглядаліся толькі ў асобных дэталях крою і месцы ўпрыгожванняў» (Л. А. Молчанова. Материальная культура белорусов. Мн., 1968, с. 152). Наш матэрыял з'яўляецца сцвярджэннем гэтага. Да карты дадаецца спіс адзінкавых назваў мужчынскай або жаночай верхняй вопраткі рознай даўжыні, якія сустрэліся ў матэрыялах, сабраных для ЛАБНГ.

№ 1157: *світа* 69, 72 *(карóткая, да калéна)*, 74, 113, 116, 117 *(дóўга)*. *свúта* 96а.
*світка* 10, 11, 27, 31, 32, 37 (без падкладкі), 39, 44, 52а, 59 (уст.), 61, 63—65, 68, 71, 75—77, 80—83, 84 (з сукна), 85—89, 102, 104, 111, 112 *(шúлі з чóрнага сукнá)*, 114, 115, 118, 120а—123, 126—128 (трад.), 129, 130, 133, 134, 135 *(з забóрамі)*, 137, 138 (кароткая), 140, 142.
*свúтына* 91.
*світнó* 101.
№ 1160: *світа* 20, 63, 66, 68, 70—72, 113, 115—117, 121, 122, 136, 141. *свúта* 96, 96а, 97.
*світка* 37, 61, 64, 73 (доўгая, з саматканага сукна, ніжэй кален, без падкладкі), 74, 79, 81, 86, 87, 104 *(дóўгая з даматкáнага сукнá, з таўкачыкамі, са зборкамі, вýсікамі — клінáмі збóку)*, 106, 120, 120а, 125, 126, 130, 133—135, 137, 138 (доўгая мужчынская вопратка без падкладкі), 140. *свúтка* 94а *(дóвгая)*, 95, 103, 108 *(тáлія ныжэ́й, в клынкú і в вусú)*, 109 *(з тáліяй, збóку клінú — вусú звáлы)*, 132 *(з тáліяй)*.
*свúтына* 90, 92.
*світнó* 101 *(дóвгае)*.
*світно* 93.
№ 1200: *світа* 63, 72, 77, 106, 122, 126.
*світка* 37, 42, 44, 67 *(світкі насіла шля́хта)*, 75—77, 82, 86, 113, 116—118, 119 (кароткая з саматканага сукна), 121, 123, 127, 134, 135, 137.
№ 1205: *світа* 19, 20, 25, 66, 70—72, 112, 114—116, 121, 127, 133, 140.
*світка* 1, 6 (з сівога, пераважна, сукна), 7—8а, 25, 26 *(світка, як пальтó цяпéр)*, 27, 30, 31, 34, 37, 44, 54, 57, (уст.), 58, 61, 62, 67 *(насіла шля́хта)*, 73 *(з саматкáнага сукнá, былі бéлыя і шэ́рыя, абшывáлі кармáны)*, 76, 78, 79, 80 *(бéлыя, шэ́рыя, з крáсным пóясам, прыхóдзілі з-за Дняпрá, у нас цяпéр не пóмняць)*, 81 (трад.), 82—89, 94, 102, 106, 111, 113, 117, 118, 120, 123, 124 (доўгая з саматканага сукна), 126, 129, 130, 134—141. *свúтка* 95, 108, 109.
*свúтына* 90, 92.
Адзінкавыя: *світнó* 101.
*свúтно* 94а (з таліяй).

Спіс адзінкавых назваў мужчынскай або жаночай вопраткі:
*катáнка* 25 *(нажýтка і катáнка — аднó і тóе ж)*, 66 *(і с сукнá шúлі, перабрóскі (хвáлды) у катáнцы, жанóчая вóпратка)*, 94а *(свúтка довга;* мужчынскае адзенне).
*капóта* 50 (доўгая мужчынская вопратка), 64 (жаночая вопратка), 105, 114.
*шыря́к* 41 (і жаночая, і мужчынская вопратка), 44.
*жупáн* 48 (гл.: «Матэрыялы...» Сцяшковіч Т. Ф., с. 163), 102 (мужчынская доўгаполая вопратка), 105 *(у зборáчку, былí другóга цвéту)*.
*кабáт* 94а *(з рукавáмі)*, 133 (трад.).
*лéтнік* 53 (кароткая жаночая вопратка).
*гіцмáн* 57 *(як лéтні жанóчы халáт, вéльмі даўнó насілі, лéдзь пóмняць)*.
*карóтчык* 125 *(ранéй насілі)*.
*кудзéльнік* 53 *(зімняя вóпратка, ранéй шúлі)*.
*клачáнка* 139 (раней)
*ангéрка* 35 (жаночая вопратка). *аленгéрка* 51 (суконная мужчынская вопратка).
*палітóн* 64, 65 (даўгаполая жаночая вопратка).
*сэрдáк* 109 (жаночая вопратка).
*шушпáн* 58 (даўгаполая мужчынская вопратка?).
*бравэ́рка* 105 (з фабрычнага сукна).
*апраніха* 20, 57 (уст.), 58 *(бес падбóю)*.

## Карта № 230

## ПАШЫРЭННЕ СЛОЎ *КАФТАН, КУЛЁК, СЯРМЯЖКА* І ІНШ.

№ 1157 «Я. н. кароткая верхняя мужчынская вопратка без падкладкі: а) з даматканага сукна: сярмяжка, кафтан, кулёк, світка...»
№ 1200 «Я. н. верхняя жаночая вопратка кароткага памеру з саматканага сукна: каротчык, сярмяжка...» № 1205 «Я. н. верхняя жаночая вопратка доўгага памеру з саматканага сукна: сярмяга, світка, казакін...»
Картаграфуецца пашырэнне слова *кафтáн* — назвы кароткай верхняй мужчынскай і жаночай вопраткі без падкладкі, слова *кулёк* — назвы мужчынскай кароткай верхняй адзежы без падкладкі, слова *сярмя́жка* — назвы кароткай верхняй мужчынскай і жаночай вопраткі, слова *сярмя́га* — назвы верхняй мужчынскай і жаночай вопраткі доўгага памеру і слова *паддзéўка* — назвы верхняй мужчынскай вопраткі з даматканага або куплёнага сукна даўжынёй да калена. У н. п. 29 знак *(каптáн)* пастаўлены на аснове адказу на пытанне № 1160 «Інструкцыі...». На аснове матэрыялаў СП-3Б (2, 1980) знак *(кулёк)* пастаўлены ў н. п. 8 *(кулёк* — кароткі суконны пінжак). Адным знакам картаграфуюцца фанетычныя варыянты: *сярмя́га, сярмáга, сырмня́га, сырнéга*. У н. п. 100 знак *(сярмя́га)* пастаўлены на аснове матэрыялаў СП-3Б (5, 1986), у н. п. 22 знак *(сярмя́жка)* пастаўлены на аснове тых жа матэрыялаў.
№ 1157 *кафтáн* 45, 53. *каптáн* 20—24 *(парцяны)*, 25, 48—50, 52—54, 56, 62, 90, 99, 100, 107.
№ 1200 *каптáн* 27, 57, 60, 62, 69 *(кужэ́льны)*, 90, 94 *(бáбскі)*, 99.
№ 1160 *каптáн* 29.
*кулёк* 1 *(ярмя́к быў дóўгі, кулёк карацéйшы)*, 4 *(кулёк без патклáткі)* 5, 6, 8, 8а, 28, 29, 33—36, 37 *(вышэ́й калéна)*, 58 *(са склáткай унізе)*, 73 (уст. *кулёк* — кароткая вопратка без падкладкі).
№ 1157 *сярмя́шка* 47, 57 (уст.), *сермя́шка* 2. *сірмя́шка* 7, 83.
№ 1200 *сярмя́шка* 46, 54. *сярмя́жка* 14. *сірмя́шка* 26, 83. *сірмя́жка* 16, 42. *сірьмя́шка* 85. *сермя́жка* 17, 94. *сырмня́шка* 96.
№ 1205 *сярмя́шка* 19—21 *(сярмя́шка карóткая)*. *сырмя́шка* 2. (да калена, суконная). *сірмя́шка* 8а. *сірьмя́шка* 83.
№ 1157 *сярмя́га* 54, 58, 81. *сірмя́га* 30, 42. *сэрнéга* 98.
№ 1200 *сярмя́га* 30, 58. *сірмя́га* 78. *сэрмя́га* 97. *сэрня́га* 96а.
№ 1205 *сярмя́га* 47, 48, 53 (трад.). 54—56, 59, 60, 62. *сермя́га* 9 (доўгая, с сукна), 22 *(на кажухý надзявáлася)*, 51 *(с свайгó сукнá)*, *сірмя́га* 10, 11, 16, 32, 42. *сырмя́га* 99, 103 (рэдк.). *сэрмя́га* 97. *сырмня́га* 96. *сэрнéга* 98. *сярмáга* 99.
*паддзéўка* 115. *патдзéўка* 112. *падзéўка* 67 *(з куплёнага сукна да калéна)*, 71 (шылі з даматканага сукна).

## Карта № 231

## ПАШЫРЭННЕ СЛОЎ *АРМЯК, БУРНОС, ЛАТУХА*

№ 1160 «Я. н. доўгая верхняя мужчынская вопратка без падкладкі: а) з даматканага сукна: армяк, чухмень, бурнос, сярмяга, світка...» № 1205 «Я. н. верхняя жаночая вопратка доўгага памеру з саматканага сукна: сярмяга, світка, казакін...»

На карце паказана пашырэнне слоў *армя́к (ярмя́к), бурно́с, лату́ха* — назваў даўгаполага мужчынскага і жаночага верхняга адзення з даматканага сукна. У н. п. 18 знак *(бурно́с)* пастаўлены на аснове матэрыялаў СП-ЗБ (1, 1979).

№ 1160: *армя́к* 1 (быў до́ўгі), 3, 5—17, 24 *(даўгі́, с сукна́)*, 25, 29—32, 33 *(даўгі́, без капюшо́на)*, 34—36, 38—42, 44, 75—79, 80 *(з сукна́, даўгі́ мо́жа быць з башлыко́м)*, 81—85, 87, 88, 118, 119 *(даўгі́, без падкла́дкі, ніжэ́й кале́на)*, 124, 126. *ырмяк* 89. *ярмя́к* 3, 18. *ермя́к* 2, 52. *ірмя́к* 4 *(біс капюшо́на)*.

№ 1205: *а́рмяк* 13, 24 *(кауне́р і кішэ́ні апшыва́лі плюшам)* 28, 33, 36, 38, 41 (мужчынскае і жаночае адзенне).

*ярмя́к* 3.

№ 1160: *бурно́с* 7, 18, 19, 20 *(світа, бурно́с* — адна і тая вопратка), 21 (трад.), 22, 48, 49а, 50, 52—54, 57 *(до́ўгая світка)*, 58, 60—62, 100, 104 (доўгі, з даматканага сукна, без падкладкі).

№ 1205: *бурно́с* 4, 6, 9, 20, 23, 25а *(быў ба́пскі, даўгі́, як пальто́)*, 26, 29, 54, 58, 100, 104 (доўгая вопратка).

№ 1160 *лату́ха* 96—98, 131.

## Карта № 232

## ПАШЫРЭННЕ СЛОЎ *БУРКА, ХАЛАТ, ЧУХМЕНЬ* І ІНШ.

№ 1160 «Я. н. доўгая мужчынская вопратка без падкладкі: а) з даматканага сукна: армяк, чухмень, бурнос, сярмяга, світка...»

На карце паказаны лексічныя варыянты назвы доўгай (да пят) верхняй мужчынскай вопраткі без падкладкі з башлыком. Адным знакам картаграфуюцца фанетычныя варыянты: чухме́нь, чукме́нь, чакме́нь, чахме́нь.

*бу́рка* 4, (с капюшонам), 5 *(з башлыко́м)*, 6, 8а, 23 *(с каптуро́м, на кажу́х надзява́лі)*, 25а—27, 45, 48, 49а, 51, 54, 56, 57, 59, 63, 66, 69, 93, 94а, 95, 96, 102, 103, 107—109, 111, 112, 114, 133.

*хала́т* 52а, 53, 56, 59, 62, 65, 67, 104, 105, 110.

*чухме́нь* 82, 86 (без та́ліі, з чахло́м на галаву́), 123, 128 (з башлыко́м). *чукме́нь* 84. *чакме́нь* 126. *чахме́нь* 129.

*насо́ў* 7, 21, 28.

## Карта № 233

## ПАШЫРЭННЕ СЛОЎ *НАЖУТКА, КУРТКА, САЧАК* І ІНШ.

№ 1200 «Я. н. верхняя жаночая вопратка кароткага памеру з саматканага сукна: каротчык, сярмяжка...» № 1203 «У якім значэнні ўжываецца слова нажутка?» «№ 1205 «Я. н. верхняя жаночая вопратка доўгага памеру з саматканага сукна: сярмяга, світка, казакін...»

На карце паказана пашырэнне слоў нажутка, куртка, сачак — назваў верхняй жаночай вопраткі кароткага памеру і слова ясёнка — назвы асенняга жаночага паліто. У н. п. 53 знак (нажу́тка) пастаўлены на аснове матэрыялу «Народнага слова» (1976), у н. пп. 27 і 58 — на аснове матэрыялаў СП-ЗБ (3, 1982). У н. п. 54 знак (ясёнка) пастаўлены на аснове «Матэрыялаў да слоўніка Гродзенскай вобласці» Т. Ф. Сцяшковіч, у н. п. 50 — на аснове матэрыялаў «З народнага слоўніка» і «Жывога слова» (1978), у н. пп. 59 і 99 — на аснове матэрыялаў («Жывога слова»). Як назва *ясёнка* картаграфуюцца *ясёнтка* і *асёнка*.

*нажу́тка* 2 *(нажу́тка на патклáцці, а бываі́ць біс паткла́ткі; кофта)*, 3 *(нажу́тка — як свэ́тар, на блю́ску надзява́лі, кяшэні на патшыў́цы)*, 4 (кофта, трад.), 5 (кофта, блузка лёгкая), 6 (кароткая верхняя вопратка на падкладцы), 19, 21, 22 *(блу́ска, на кашу́лю мо́жна надзе́ць нажу́тку)*, 23 (кароткая жаночая вопртака), 24 (кофтачка верхняя, кароткая, носяць паверх спадніцы), 25 *(каро́ткі капта́н с тка́нага паласуке́нка, а цяпе́р на куплёную жаке́тку нажу́ткай заву́ць)*, 27 *(нажу́тка — жакéт на паткла́тцы)*, 47 (кароценькая кофтачка), 48 (адзенне без рукавоў), 49 *(нажу́тка, як са́чык, ку́ртачка, накладая́цца на суке́нку)*, 49а *(каро́ценькая з фа́ндачкамі, суко́нны пінжачо́к)*. 51 (шырокая верхняя вопратка без падкладкі), 52 *(з шарачку́ шы́лі нажу́ткі і па́куля ўло́жуць)*, 53 (летнік з даматканага сукна), 57 *(нажу́ткі* былі з матэрыялу; уст.), 58 *(нажу́тка — блю́ска шыро́кая, бес та́ліі, с свайго́ палатна́)*, 59 *(нажу́тка — як ко́фта, наве́рх на суке́нку адзява́лі, без рукаво́ў, мо́жна зашпілі́ць і не зашпілі́ць, цяпер называ́юць разлята́йкі)*.

*ку́ртка* 1, 5, 7, 13, 15, 25а, 29, 33, 35—37, 40, 68, 71, 73 (з белага саматканага сукна, на свята), 79 *(каро́ткая с фа́лдамі ніжэ́й та́ліі, бес паткла́ткі)*, 80, 92, 102, 118, 127, 128, 130, 132.

*ку́рточка* 95 (трад.), 96, 98, 102, 103, 109.

*ку́рта* 5, 95 (трад.), 101, 106, 109.

*ку́рцік* 104 *(каро́ткая, с сукна́)*.

*са́чак* 3, 4 *(жыке́тка;* сучасн.), 18, 20, 22, 49, 49а, 51, 52, 59 *(ку́ртка з сукна або плю́шавая на падшэ́ўцы і на ва́ця, ку́пленая і шы́лі са́мі)*. *са́чык* 2, 5, 11, 50, 52а, 54, 55, 131.

*сачо́к* 7, 8а, 10, 11, 19, 23, 24, 58, 65, 93 (без ваты), 124, 133 (нов.), 141.

*сак* 12, 129.

*ясёнка* 3, 4 (асенняе паліто без падкладкі), 18 (з саматканага сукна, шылі без ваты), 19, 20 *(асе́ння пальто́, насі́лі і жанчы́ны і мужчы́ны)*, 22 (халаты суконныя, як ясёнкі), 24, 45, 45, 48, 49 *(пала́ бру́дная ў ясёнцы)*, 49а, 53, 59, 90, 99. *ясёнтка* 54. *асёнка* (асенняе паліто).

## Карта № 234

## КАЖУШОК

№ 1157 «Я. н. кароткая верхняя мужчынская вопратка без падкладкі: в) з аўчын: паўшубак, кажух...»

На карце паказаны лексіка-словаўтваральныя адрозненні назвы кароткай верхняй мужчынскай вопраткі з аўчыны. Як назва *кажушо́к* картаграфуецца *кажуша́нкі*, як назва *паўшу́бак — палушу́бак*.

*кажу́х* 2—4, 10, 11, 18, 20, 22, 23, 25а—28, 30, 31, 33, 37 (нядоўгі), 38, 45, 48—49а, 51—54, 56—59, 61—66, 68—70, 72—77, 80, 99, 100, 104, 105, 111, 118, 120а, 121, 123, 125—127, 129, 137, 139, 142. *кожу́х* 101, 102, 107, 113, 117, 133, 134, 136, 138.

*кажушо́к* 135, 141. *кожушок* 114. *кажуша́нкі* 130.

*кажу́шак* 55. *кожу́шок* 90—92, 94, 95—97, 103, 106, 108, 132.

*паўшу́бак* 3, 6, 8, 9, 21, 24, 29, 33, 37, 67, 70, 71, 76, 80, 110, 112, 115, 119, 139, 141, 142. *паўшу́бок* 135. *паўшу́бык* 5, 8а, 15, 32, 34—36. *палушу́бак* 1, 7, 14, 17, 79, 81, 82, 124, 128. *пулушу́бык* 12, 13, 16, 39—42, 44, 83—88.

## Карта № 235

## КАЖУХ

№ 1160 «Я. н. доўгая верхняя мужчынская вопратка без падкладкі: б) з аўчыны: кажух, шуба, тулуп...»

На карце паказаны лексічныя адрозненні назваў доўгай мужчынскай вопраткі з аўчын. Асобным знакам адзначана перасоўванне націску ў слове тулуп: тулу́п і ту́луб. На карту нанесена слова казачы́на — назва верхняй жаночай вопраткі доўгага памеру: на аснове адказаў на пытанне № 1205 «Інструкцыі...»

У н. пп. 114 і 132 знак *(козачы́на)* пастаўлены на аснове матэрыялаў «Тураўскага слоўніка» (1982).

№ 1160: *кажýх* 1—3, 5—11, 18—31, 33—37, 45—73, 75, 77, 78, 80, 81, 83, 84 (рэдк.), 88, 93, 94, 99—101, 104, 105, 110—112, 116—118, 120, 120а, 121, 128—130, 135 *(з забóрамі),* 136, 137, 139—142. *кожýх* 90, 95—98, 102, 106—109, 113, 114, 122, 131—134, 136, 138. *кужýх* 92.

*тулýп* 15, 16, 29, 85 *(пыдарóжны),* 38, 44, 57, 75, 76, 83—85, 88, 115, 120а, 123, 124, 126, 127, 142.

*тýлуб* 95 (нов., з 20-х гг.), 96. *тýлóб* 102, 103, 108, 135 *(без забóру).*

шýба 1, 12—14, 16, 17, 31, 39—42, 44, 79, 83—87, 89, 123, 136, 137, 141 (рэдк.).

№ 1205: *казачына* 114, 122 *(кажýх з забóрамі кругóм),* 127 (кажух), 129, 132, 135. *казачіна* 134.

*казáк* 117 *(пошéй казакá з двумя́ заклáдачкамі).*

### Карта № 236

## НАДЗЕЦЬ (кашулю, штаны)

№ 1142 «Кашулю, сарочку, накласці, надзець...» № 1151 «Штаны надзець, накласці...» № 1210 «Як скажуць пра адзяванне: а) кашулю, кофту, спадніцу: надзець, накласці, злажыць...»

Картаграфуюцца дзеясловы са значэннем 'надзець кашулю, штаны, спадніцу...' На карце паказаны словаўтваральныя адрозненні.

№ 1142, 1151: *надзéць* 1—18, 21, 23—42, 44, 57—61, 63, 64, 66—89, 110—112, 115—130, 135—142.

*злажыць* 49а—53, 55, 56, 59, 60 (трад.), 99, 105. *злажыці* 93. *злажыты* 94а. *злóжыць* 102. *злoжыты* 90, 95, 96, 103, 108.

*налажыць* 20, 54, 62. *наложыць* 106. *наложыці* 107. *наложыты* 96, 96а, 108, 109, 131, 132. *налужыты* 92. *наложіць* 113. *налужэтэ* 98.

*наклáсці* 19, 22, 45, 49, 52, 54, 65, 94, 100, 101, 104, 105, 114, 113. *наклáсті* 134. *наклáсты* 97.

*склáсці* 51 *(складзі сарóчку!).*

*одя́гнуты* 91.

№ 1210: *надзéць* 1—18, 21, 23—42, 44, 57—59, 61, 63—89, 110—112, 115—130, 135—142.

*злажыць* 45, 47, 49а, 50, 52а, 53, 55, 56, 59, 60, 99, 104—106. злажыці 93. *зложыці* 101, 102. *зложыты* 90, 94а—96, 98, 103, 108 *(радзей).*

*налажыць* 106, 107, 114. *наложыты* 108, 109, 131, 132. *налужыты* 92. *наложэты* 96а, 98. *наложіць* 113.

*наклáсці* 19, 20, 45—49, 52, 54, 56 (трад.), 62, 93, 94, 100, 114, 133, 134. *наклáсты* 97.

*склáсці* 47, 51.

Адзінкавыя: *одя́гнуты* 91.

### Карта № 237

## АПРАНУЦЬ

№ 1210 «Як кажуць пра адзяванне: б) кажух, паліто апрануць, надзець, накласці...»

На карце паказаны лексіка-словаўтваральныя адрозненні дзеясловаў са значэннем 'надзець верхнюю вопратку'.

*надзéць* 1, 2 *(усякую адзéжу),* 3, 5—18, 21, 24, 25а, 28—44, 48, 59, 63, 66, 68, 70—89, 112, 116—130, 135—142.

*одягáты* 91, 92, 96а.

*одынýты* 103.

*апранýць* 4 (надзець верхнюю адзежу), 9, 19 (трад.), 20, 23 *(кажухá апранýць),* 24, 25, 26, 29, 45 *(апрáнвайса дóбро),* 46, 50, 53—55, 57—59, 61, 64, 65, 67, 69, 94, 99, 100, 104—106, 110, 111, 115. *опранýты* 95, 96, 109, 114, 133, 134. *опренýты* 97.

*напранýць* 27, 47, 49.

*злажыць* 49а, 51, 52, 53, 56, 60, 62. *злажыці* 93. *зложыці* 101, 102, 107. *зложыты* 90, 94а, 98, 108, 113, 132.

Адзінкавыя: *накрыць* 52а.

### Карта № 238

## АПРАНУТЫ

№ 1210 «Як скажуць: апрануты, адзеты...»

На карце паказаны лексіка-словаўтваральныя адрозненні дзеепрыметнікаў са значэннем 'адзеты ў якую-небудзь вопратку'. Адным знакам нанесены на карту ўтварэнні: *адзéты* і *надзéты.*

*адзéты* 9, 12, 14, 17, 18, 21, 24, 30—32, 36, 37, 40, 51, 52, 60, 62, 63, 73, 80, 120а. *одéтый* 103. *надзéты* 28, 29, 33, 41, 43, 44, 68—71. 74—77, 81, 82, 85. *надзéтый* 16, 83.

*одя́гняный* 90—92.

*апрáнуты* 9, 19, 24, 26, 27, 45, 49, 54, 55, 57, 59, 64, 65, 67, 69, 100, 110, 115, 133, 134. *опрáнуты* 108.

*апрáнены* 50, 55, 59, 94. *опрáнены* 106, 114. *опрáненый* 109, 132. *опрáняный* 95. *опря́нёный* 96.

### Карта № 239

## ПОЯС

№ 1164 «Я. н. плецены ці тканы пояс: пояс, цясёмка, крайка...»

На карце паказаны лексіка-словаўтваральныя адрозненні назваў плеценага ці тканага пояса і перасоўванне націску ў слове пояс: *пóяс* і *пая́с.*

*пóяс* 1—3, 9—11, 18—22, 24—26, 32, 45—49, 50—52, 53, 54, 63—73, 76, 90—96, 97—106, 108 *(кручкóм бэрýть),* 109, 112, 113, 115, 117, 119—121, 122 *(шыршы крáйкі),* 123—127, 129, 130, 132, 133, 134, 135 *(плятýць),* 137, 140, 141. *пóіс* 5, 15, 17 *(тканы),* 28, 30, 31, 33—37, 39—42, 44, 74, 75, 78, 79 *(у паясах кісці),* 80—89, 116. *пóес* 77. 96а, 107, 110, 111, 114, 118, 128, 136, 138.

*пóвяс* 27, 49а, 52а, 56, 57, 58 *(с кутасáмі),* 59, 60. пóвіс 38.

*пая́с* 4, 6, 8, 14. *пыя́с* 7, 8а, 12, 13, 16 (трад.), 29.

*крáйка* 98 *(крáйка — шырóка, пóяс — вýзенькі),* 101 *(бáбы нóсяць),* 102 *(бóльш шырóкі, чым пóяс),* 108 *(ткáна),* 109 (ткáлі), 122, 131, 132, *(як на тры пáльцы),* 133 *(ткáны пóяс),* 134 *(ткáная),* 135 *(крáйку дзéлаюць, як палатнó ткуць),*

*акрáйка* 139, 141, 142.

*тасёмка* 8а, 59, 111 *(вýзанька). цясёмка* 85, 89. *цясóмка* 44.

Адзінкавыя: *пляцёнка* 23.

### Карта № 240

## КУТАС

№ 1165 «Я. н. кутас у поясе: кіціца, кутас, кісць...»

На карце паказаны лексіка-словаўтваральныя адрозненні назваў кутаса ў поясе. Адным знакам картаграфуюцца формы адзіночнага і множнага ліку назваў кутаса. Таксама адным знакам картаграфуюцца акцэнталагічныя адрозненні ў назве *кутас* у множным ліку: *кутасы́* і *кутáсы.*

*кутáс* 1—11, 18—20, 22—31, 33—36, 38, 44—78, 80, 81, 83, 85, 88, 91—94, 96—99, 103, 106, 111—113, 115, 116, 118, 127, 133, 134, 136, 139. *кутасы́* 1, 22, 27, 30, 37, 48, 51, 52, 67, 69, 73, 90, 96, 100, 103—105, 110, 113, 115, 126. кутасэ 45, 46, 49, 56, 65, 66, 96а, 98, 101, 102. *кутасі* 95, 108. *кутáсы* 31, 37, 78, 109 *(кытыцы — вэлыкы, кутáсы — малыі),* 132. *кутáсі* 94а.

Адзінкавыя ўтварэнні ад таго ж кораня: *кутасіна* 2. *кутáссе* 9. *квытáс* 131.

*кудáс* 119. 120а *(кудáскі, кудáска),* 122.

*кіціца* 79, 82, 84, 86, 87, 114, 121, 123, 125, 128—130, 133, 137, 142. *кітіца* 134. *кіціцы* 120, 135. *кытыцы* 109.

*кісць* 12—17, 31, 32, 39, 41, 42, 44, 83, 89. кісці 31, 40. *кісця* 16.

Адзінкавыя: *мáкаўка* 21, 72 *(кароцянькі кругляняькі кутас). пýклі* 79. *трыпылі* 95 *(у хýстцы, настóльніку).* коўтýн 107. *мóхрікі* 117.

## Карта № 241

## СПРАЖКА

№ 1166 «Я. н. жалезная частка рэменя: пражка спражка, пабліска...»

На карце паказаны лексіка-словаўтваральныя адрозненні назваў спражкі ў папрузе. Як назва *спрóнжка* картаграфуецца *спрончка*, як назва *клямра* картаграфуюцца *кля́мдра, клéмра, кря́мля.*

*спрáжка* 35, 77, 82, 115, 116, 120, 124, 126, 127 (нов.), 136, 137, 139, 142. *спрáшка* 2, 5, 6, 8а, 24, 29, 63, 70, 72, 118.

*спрóнжка* 108 *(мéнча)*, 109, 114, 135. *спрóншка* 2 *(старыя казáлі)*, 18—23, 25—27, 45, 46, 48—56, 65, 66, 68, 99, 100, 111 (трад.), 113, 138. *спрóнчка* 3, 105, 132.

*прáжка* 75, 91, 94, 97, 98, 101, 102, 104, 106, 107, 110, 121, 123, 129, 130, 134, 140. *прáшка* 1, 4, 7, 8, 9—11, 15, 28, 30, 33, 57, 58, 60, 61, 64, 67, 69, 71, 74, 76, 93, 106, 111, 112. *пря́жка* 14, 17, 41, 79, 83, 90, 92, 95, 96 (нов.), 108. *пря́шка* 12, 13, 16, 32, 96а, 103.

*брáжка* 31, 36—44, 73, 80, 81, 83—87, 119, 121, 125, 128, 141.

*кля́мар* 47 *(кля́мар пачысці, кап бліщчэ́ў)*, 62, 104, *(у салдáт на рамні)*, 106.

*кля́мра* 93 (вайсковая), 96, 103 (у ваенных). *кля́мдра* 94а. *клéмра* 131. *кря́мля* 90 (трад.).

*бля́ха* 93, 117, 122 *(бля́ха ў папрýзе)*. 133, 140.

*бáнка* 122. *бáнька* 120а, 124, 127.

Адзінкавыя: *паблíска* 85.

## Карта № 242

## МАХРЫ

№ 1177 «Я. н. бахрама вакол хусткі (сурвэты): брыжжы, фрэнзлі, кутасы...»

На карце паказаны лексічныя адрозненні назваў махроў вакол хусткі, сурвэткі. Як *кутáсы* картаграфуюцца *кудáсы* і *квытáсы*, як *фрэ́нзлі — фрэ́ндзлі* і *прэ́нзлі*, як брыжжы́ — *брыжы́* і *брынжы́*, як *бры́нды — брэ́ндалькі.*

*махры́* 1, 5, 6 *(у хýсца, у сурвэ́ця)*, 7, 8 *(хýстка з махрáмі)*, 12, 13, 28, 29, 35, 36, 38—44, 67, 69 (цяпер), 71, 73, 75, 77—79, 80 *(на платкý і скáцерці)*, 81, 82, 84, 86—88, 104, 110, 111, 115, 116, 118—125, 127—129, 139—142. *мохры́* 117, 137. *махрэ́* 47, 66, *(у сукóннай хýсца)* 76, 106, 112. *мухрі* 113. *макры́* 70, 130.

Адзінкавыя ўтварэнні ад таго ж кораня: *махрачы́* 52а. *рыхмачы́* 8а.

*кутасы́* 4 *(кругóм хýсткі)*, 9—11, 23 *(у хýсце)*, 25, 29 (нов. *Ля хýсткі звітыя*) 30, 33—35, 37, 38, 50, 68, 69, 72, 74, 83, 90—93, 97, 100, 109, 126, 136. *кутасэ́* 53—56, 58, 60, 96а, 98, 99, 101, 102, 105. *кутасі* 94а, 108. *кутáсікі* 62, 75, 85.

*кутáсы* 96, 103, 132—134. *кудáсы* 138. *квытáсы* 131.

*фрэ́нзлі* 3, 18—20, 22, 26, 45, 46, 48, 49, 51, 52 *(óколо хýсткі)* 52а, 53, 57, 59, 61, 65. *фрéнзлі* 113. *фрэ́ндзлі* 25а. *прэ́нзлі* 63, 64, 94.

*кíсці* 9, 14, 15, 31, 32, 82. *кíсця* 16, 17.

*брыжжы́* 62, 85. *брыжы́* 22, 27, 136. *брынжы́* 83.

*кíціцы* 114, 135, 140.

*коўтуны́* 107. *ковтуны́* 95.

*бры́нды* 2, 21, 24, 49а.

Адзінкавыя: *брэ́нзалькі* 24. *трапкачэ́* 49. *брызгулé* 54. *быхрымá* 89. *трыпылі* 95. картрэ́псы 96.

## Карта № 243

## ПАШЫРЭННЕ СЛОЎ *КУЧОМКА, СТАЎБУНОЎКА, ХАХЛАТКА* і інш.

№ 1168 «Я. н. мехавая круглая мужчынская шапка: кушнерка, кучма, кучомка, стаўбуноўка, сібірка, магерка...»

На карце паказана пашырэнне слоў кучомка (кучма) і стаўбунóўка (стаўбун) — назваў мужчынскай мехавой шапкі. Асобным знакам адзначана перасоўванне націску ў слове кучма; *кýчма* і *кучмá*. Як назва *хахлáтка* картаграфуецца *хахлáтая шáпка.* У н. п. 87 знак пастаўлены на аснове матэрыялу «Краёвага слоўніка Усходняй Магілёўшчыны» І. К. Бялькевіча (1970), у н. п. 27 знак пастаўлены на аснове «Матэрыялаў для мінска-маладзечанскіх гаворак» (1970), у якіх слова стаўбун прыводзіцца са значэннем «стаўбýн — шапка з аўчын».

*кучóмка* 44, 61, 65, 75, 76, 80, 83, 86 *(стары́нна)*, 102, 105, 109, 114, 118—121, 124, 127, 135, 137, 141, 142.

*кýчма* 87, 102, 119, 134, 139, 142.

*кучмá* 95 *(бы загóстрана)* 117, 120а.

*стаўбунóўка* 45, 52а, 58 *(крýглая, бальшáя, высóкая*, уст.). 59 *(шáпка зімóвая)*, 116.

*стаўбýн* 27, 50, 51 (з авечай шкуры), 99, 100. *столбýн* 102 *(стоўбунóм пашы́та)*.

*хахлáтка* 27. *хахлáтая шáпка* 24, 27.

*аблавýха* 63. *аблавýшка* 83.

Адзінкавыя: *перунóўка* 21 *(высóкая, з аўчы́най усярэ́дзіну, звéрху — сукнó)*, *вушáнка* 30 *(з вушáмі)*, 83. *сібірка* 31, 97. *кýгель* 52 *(шапка з аўчыны)*. *вашавáтка* 63. *кушнéрка* 85. *лахмáтка* 94 *(з вушáмі і без вушэ́й)*. *вушáтка* 94 (з вушамі). *украíнка* 94а. *кры́мка* 95 *(бы кубáнка)*. *капýза* 96а.

## Карта № 244

## ПАШЫРЭННЕ СЛОЎ *МАГЕРКА, ВАЛЁНКА, КАЎПАК.*

№ 1168 «Я. н. мехавая круглая мужчынская шапка: кушнерка, кучма, кучомка, стаўбуноўка, сібірка, магерка...»

На карце паказана пашырэнне слоў *магéрка (маргéлка)*, *валёнка*, і *каўпáк* — назваў валенай з воўны круглай мужчынскай шапкі.

У н. пп. 83, 87, 89 знак *(магéрка)* пастаўлены на аснове матэрыялаў «Краёвага слоўніка Усходняй Магілёўшчыны» І. К. Бялькевіча (1970). У н. п. 31 знак (валёнка) пастаўлены на аснове «Матэрыялаў для слоўніка мінска-маладзечанскіх гаворак» (1970), у н. п. 118 — на аснове звестак, прыведзеных С. Некрашэвічам у артыкуле «Да характарыстыкі беларускіх гаворак Парыцкага раёна (Слоўнік гаворак) — (Зап. аддз. гуманіт. навук. Працы класа філалогіі, т. 2, кн. 9, Мн., 1929), у н. п. 74 — на аснове матэрыялаў СП-ЗБ (2, 1980). *Каўпáк — валеная шапка* (гл. Беларускае народнае адзенне», Мн., 1975, с. 56). У н. п. 107 знак *(каўпáк)* пастаўлены на аснове матэрыялаў «Беларускага дыялектнага слова» Л. Ф. Шаталавай (1975).

*магéрка* 35, 36, 41, 78, 81 (валеная шапка), 82, 85, 87, 124, 129, 130.

*маргéлка* 16 (валеная шапка з воўны), 83, 89.

*валёнка* 12, 31, 37 *(бéлая вáляная шáпка для зімы́)*, 73 *(вáлена, урóдзі мішкá, барты́ закáлвалі, лёхкая і цёплая, насілі зімóй і лéтам)*, 74, 86, 118, 122.

*каўпáк* 50, 55, 56, 93 *(калíсьці)*, 104. *коўпáк* 107.

## Карта № 245

## КАПЯЛЮШ

№ 1172 «Я. н. капялюш: брыль, шляпа, капялюш...»

На карце паказаны лексічныя адрозненні назвы капелюша. Як назва *капялю́ш* картаграфуецца *капалю́ш.*

*капялю́ш* 2—7, 21—28, 31, 45—47, 49, 50, 51, 52а—72, 74, 77, 86, 88, 92, 93, 99, 100, 104, 105, 110—112, 115—117, 119—120а, 127, 134, 136, 137, 139—142. *капелю́ш* 94, 113, 114, 122, 135. *капілю́ш* 1. *кіпялю́ш* 75. *капалю́ш* 18, 20, 48, 49а, 52, 98, 101, 106, 121, 138. *капылю́ш* 90, 95, 96, 97, 103, 131, 132. *капэлю́ш* 91, 94а, 96а, 102, 107—109, 133.

*брыль* 5 *(салóменны)*, 7—9, 12—17, 29, 30, 33—44, 73—76 *(з салóмы)*, 78—80 *(ранéй плялі з салóмы)*, 81—89, 118, 119, 123—130, 141. *бріль* 32.

*шля́па* 10, 11, 41, 76 *(з сукнá)*, 83, 85, 111, 115 (рэдк.).

Карта № 246

## ЗАВЯЗАЦЬ (фартух)

№ 1196 «Фартух запяць, завязаць...»

На карту нанесены дзеясловы, якія абазначаюць працэс завязвання фартуха. Пры картаграфаванні ўлічвалася агульнасць кораня дзеяслова, прыстаўкі не браліся пад увагу. Як дзеясловы з коранем *-пяць-* картаграфуюцца дзеясловы з коранем *-пнуць-*, як дзеясловы *падперазáць* — дзеясловы *падпаразáць*. У н. п. 22 знак *(запяць)* пастаўлены на аснове матэрыялаў СП—ЗБ (2, 1980), у н. п. 51 — на аснове «Матэрыялаў да слоўніка Гродзенскай вобласці» Т. Ф. Сцяшковіч (1972).

*завязáць* 10, 11, 18, 19, 22, 27, 28, 30, 31, 36, 48, 49а, 52а, 53, 57, 59, 61, 63, 68, 70, 72, 74, 81, 88, 93, 116, 118, 120а 122, 123, 126, 128, 136. *завізáць* 14, 17, 32, 35, 37, 38, 40, 73, 75, 80, 83. *зывізáць* 8а, 16, 29, 41, 42, 44, 78, 85, 87. *завезáці* 94. *завязáты* 131. *зав'язáты* 96а. 113. *прывязáць* 3, 7. *прывізáць* 13. *падвязáць* 25, 67, 76, 124, 127, 129, 130, 141. *падвізáць* 4. *пыдвізáць* 43, 79.

*запяць* 6, 22, 24, 26, 45—47, 51, 54, 55, 62, 100. *зыпяць* 5, 34. *зап'яты* 95, 103, 109, 132, 133. *запяты* 96а. *прыпяць* 33, 56, 69, 71, 104, 105. *прып'яты* 94а, 96. *прыпняты* 90. *запнýць* 111. *запнýты* 91, 108. *зопнýць* 107. *прыпнýць* 99, 101, 106. *прыпнýты* 92.

*падпяразáць* 115, 141, 142. *падперазáць* 119—121, 139. *падперезáць* 86. *падперэзáць* 114. *подперэзаты* 97. *пыдпірізаць* 87, 89. *патпяразáць* 60, 77. *патперазáць* 112. *потперезáць* 117. *пытпірізáць* 84. *пудперазáць* 140. *заперазáць* 110. *прыпяразáць* 52. *прыперазáць* 66. *падпаразáць* 128, 135. *подпаразáть* 134. *пудпаразаць* 138. *патпаразáць* 82. *запаразáць* 102.

*надзéць* 12, 15, 137.

Адзінкавыя: *прыпасáць* 20. *прычапíць* 21. *прычынúты* 96. *прытулэ́тэ* 98.

Карта № 247

## ПАШЫРЭННЕ СЛОЎ *СТАНІК, НАГРУДНІК, ЛІФІК*

№ 1180 «Што насілі жанчыны паверх кашулі: станік, ліфік...»

На карце паказана пашырэнне слоў *стáнік, нагруднік* і *ліфік* — назваў жаночага ліфчыка і жаночай безрукаўкі. У матэрыялах для ЛАБНГ заўважаецца: *«Станік насілі пат кашулю»* (н. п. 18) *«Станік насілі — грудзі праталі, кап не відно было, што есь грудзі)»* (н. п. 51), *«Нагруднік — пат плацце, былі нагруднікі, як жылеты, наверх, бархатныя»* (н. п. 37), *«Нагрýднік* — традыцыйнае, *ліхвік* — сучаснае», (н. п. 77). У «Матэрыялах для слоўніка Гродзенскай вобласці» Т. Ф. Сцяшковіч (1972) адзначана: *«Стáнік* — 1. Верхняя вопратка без рукавоў. *Камузэлька для мушчы́н, а стáнік для жанчы́н шыяцца.* Альхоўка Навагр. 2. Бюстгальтар. *Станік носяць на голо, пат кашулю...* Нагародавічы Дзятл.», у «Матэрыялах для слоўніка мінска-маладзечанскіх гаворак (1977) слова *стáнік* характарызуецца так: *«Стáнік* м. Безрукаўка на ваце. *Хóладна ўвóсень... вот і надзявая станік.* Навасёлкі Валож.» 2. У «Матэрыялах для дыялектнага слоўніка Гомельшчыны» (Беларуская мова, вып. 5, Мн., 1977, с. 152) слова *нагрýднік* мае значэнні: 1. дзіц. нагруднік, 2. перад (сукенкі), 3. Целагрэйка.

Адным знакам картаграфуюцца словы *нагрýднік* і *нагрýннік.*

*стáнік 1 (стáнікі нашывáлі рóзнымі ніткамі),* 2—6, 8а, 10, 11, 18—27, 29, 45—57, 59, 62, 65, 67, 68, 94, 96а, 106, 111, 112, 116.

*нагрýднік* 37, 76, 77, 87, 115, 123, 130. *нагрýннік* 74.

*ліфік* 28, 31, 33, 35, 36, 43, 59, 61, 63, 66, 70, 71, 73, 75, 82, 83, 85, 87, 105, 107, 108, 118 (нов.), 120—122, 125, 126, 128, 136, 142. *ліхвік* 77 (суч.), 84, 117, 119, 120а, 124, 127, 130, 139, 141 *ліхік* 83, 85.

*ліфчык* 8, 13, 15, 17, 32, 83, 85. *лівчык* 7, 14. *ліўчык* 12. *ліхчык* 44. *ліпчык* 106. *ліфцік* 34. *ліфтік* 96а. *ліпцік* 30.

Карта № 248

## ПАШЫРЭННЕ СЛОЎ *КАБАТ, ГАРСЭТ, ШНУРОЎКА* і інш.

На карце паказана пашырэнне слоў *кабáт, гарсэ́т (карсэ́т), шнурóўка, жылéтка, каптáн, камізэ́лька* — назваў жаночай безрукаўкі. У н. пп. 44 і 85 знак *(кабáт)* пастаўлены на аснове матэрыялаў «Краёвага слоўніка Усходняй Магілёўшчыны» І. Қ. Бялькевіча (1970), у н. пп. 23 і 53 знак *(гарсэ́т)* пастаўлены на аснове «Матэрыялаў для слоўніка мінска-маладзечанскіх гаворак» (1970), у н. п. п. 48, 56, 58 — на аснове СП-ЗБ (т. 1, 1979), у н. пп. 65 і 66 — на аснове СП-ЗБ (2, 1980), у н. п. 52 — на аснове «Матэрыялаў для слоўніка Гродзенскай вобласці» Т. Ф. Сцяшковіч (1972), у н. п. 53 — на аснове матэрыялаў «Народнага слова» (1976).

Як назва *кабáт* картаграфуецца *кабáк,* як назва *гарсэ́т — гарсет, карсэт* і *карсет,* як назва *шнурóўка — шнурóвачка,* як назва каптáн — каптáнік.

*кабáт* 31, 72, 75, 79, 80, 84 *(прішувáлі к спадніцы),* 85, 86, *(без рукавоў, к яму прышы́та спадніца, андарáк),* 113 *(навéрх кабáта клáлі кóхту),* 114, 128, 134. *кабáк* 129. *кыбáт* 38, 40—42, 44, 87, 89.

*гарсэ́т* 23, 53, 138. *гасрэ́т* 24, 48, 56—58, 60, 69 *(павéрх сарóчкі),* 100, 102, 106. *гарсéт* 52, 63, 65. *горсэ́т* 95, 96, 103, 132. *карсэ́т* 58, 60, 66, 110. *карсéт* 135, 137.

*шнурóўка* 4, 64, 81. *шнырóўка* 124. *шнірóўка* 133. *шнірóвачка* 2.

*жылéтка* 91, 122 (бы ліфчык). *жалéтка* 9, 76. *жулéтка* 16.

*каптáн* 94а *(з матэ́рыі),* 102. *каптáнік* 99.

*камізэ́лька* 93, 94.

Адзінкавыя: *казынятка* 2. *галóн* 103 (трад.). *грýтка* 118.

Карта № 249

## ПАЦЕРКІ

№ 3735 «Я. н. Пацеркі, пацёркі... Р. пáцерак, пацёрак...»

На карце паказаны лексіка-словаўтваральныя адрозненні назваў пацерак і месца націску ў слове пацеркі: *пáцеркі, пацёркі* і *пацяркі.* Як назва *пацёркі* картаграфуецца *пацéркі,* як назва *маністы — маністо,* як назва *бýсы — бýзы.*

У н. п. 44 знак *(карáлі)* пастаўлены на аснове матэрыялаў «Краёвага слоўніка Усходняй Магілёўшчыны» І. К. Бялькевіча (1970), у н. п. 77 знак *(крáлі)* пастаўлены на аснове матэрыялаў «Народнай лексікі Гомельшчыны» (1983).

*пáцеркі* 2, 4, 5, 9, 20—25, 26, 28, 31, 34, 48, 49а, 51—54, 57, 59, 61, 62, 67, 74, 77, 81, 104, 107, 110—112, 116, 118, 126, 139. *пáцяркі* 3, 18, 19, 25а, 27, 30, 49, 50, 55, 56, 58, 60, 63—66, 68—72, 76, 105, 115. *пáціркі* 1, 6, 8, 8а, 10, 11, 29, 75, 87, 89. *пáцыркі* 73 (устарэлае, даўно не гавораць).

*пацяркí* 47, 100, 106. *пацеркí* 102, 113. *пацёркí* 133. *пацёркы* 95, 108, 109, 132. *патёркы* 95, 108. *патыркы* 103. *пацюркы* 131. *пацюркé* 98.

*пацёркі* 45, 46, 93, 94, 94а, 99. *пацéркі* 101.

*пацёры* 90—92, 96, 96а.

*карáлі* 33, 44, 73, 126, 128, 129, 141. *кырáлі* 7, 35—37, 42. *корáлі* 122.

*крáлі* 12, 14, 16, 17, 32, 77—79, 83, 84, 86, 88, 124.

*маністы* 116, 120, 124, 127. *маніста* 114, 117, 120а, 134, 138. *маністо* 135, 137.

*зáнізкі* 122—124. *зáнезкі* 82.

*бýсы* 32. *бýзы* 137.

Карта № 250

## ЗАВУШНІЦЫ

№ 1212 «Я. н. завушніцы: сярожкі, кальчыкі, кольчыкі...»

На карце паказаны лексіка-словаўтваральныя адрозненні назваў завушніц і перасоўванне націску ў слове завушніцы: *завушніцы* і *завýшніцы.* У н. п. 51 знак *(кóльчыкі)* пастаўлены на аснове «Матэрыялаў да слоўніка Гродзенскай вобласці»

Т. Ф. Сцяшковіч (1972). Як назва *завушніцы* картаграфуецца *заушніцы,* як назва *завўшніцы — заўшніцы.*

*завушніцы* 2—4, 6—11, 21—23, 25а, 26, 28, 30, 32, 33, 36—38, 44, 46, 47, 50, 51, 53—62, 64—77, 80—82, 93, 100, 104, 106, 107, 111, 112, 115, 118, 119, 124—127, 139—141. зывушнi̋цы 5, 15, 34, 35, 83, 85, 86 (рэдк.). заушніцы 105, 110, 116, 142.

*завушнічкі* 24, 25, 27, 29, 31, 59.

*завўшніцы* 94, 94а *(нэ носылы, завўшніцы* — новае), 99, 113, 114, 117, 120, 120а, 121, 132—138, 140. *завўшныці* 90, 97. *завўшныцы* 108, 109. *завўшныцэ* 98. *заўшныцы* 103.

*сéргі* 1, 81, 82, 123—125, 127—130, 141, 142. *сéрьгі* 12—14, 16, 17, 39—42, 78—80 (нов.), 83, 84, 86—89.

*сярóжкі* 43, 123. *серóжкі* 91, 101, 102 (менш ужываецца). *сірóжкі* 92. *сірóжкы* 95, 96. *сярóшкі* 1, 28. *серóшкі* 113 (нов.). *сірóшкы* 131. *сірóшкэ* 96а, 98. *сярёжкі* 84, 85. *сéргачкі* 122.

*кóльчыкі* 18. 19 *(у вўшы завóдзім),* 20, 45, 48, 49, 49а, 51—52а, 54, 59, 63.

## Карта № 251

## ШНУРОК ДЛЯ МЕДАЛЬЁНА, КРЫЖЫКА

№ 1216 «Я. н. шнурок для нацельнага медальёна (медаліка): цясёмка, шнурок, гайтан, гайташок, валочка...»

На карце паказаны лексіка-словаўтваральныя адрозненні назвы шнурка для медальёна і інш. У н. пп. 114, 132, 133 знак пастаўлены на аснове матэрыялаў «Тураўскага слоўніка (2, 1982). Як назва *тасёмка* картаграфуюцца *тасёмачка, тасéмка, тасéмачка* і *тасьма),* як назва *стўжка — стўжачка* і *стóнжачка,* як назва *цясёмка* картаграфуецца *цясёмачка,* як назва *шнурóк — шнурóчак,* як назва *каснік — каснічóк,* як назва *лéнта — лéнтачка,* як назва *матуз — матузóк,* як назва *кітáйка — кітáечка,* як назва *нітка — нітайка.*

*шнурóк* 4—7, 9—16, 20, 21, 23, 25а—31, 33 (з нітак), 34—37, 39—44, 49, 49а, 50, 55, 57—59, 62, 63, 67, 73, 75, 76, 78—80, 83—85, 90, 94, 99, 103, 107, 112, 113, 115—118, 120, 120а, 121, 128, 129, 134, 136—141. *шнурóчак* 2, 19, 24, 25, 142. *шнурóчок* 96а, 132.

*шнюрóк* 3, 46, 52. *шнюрóчак* 51.

*тасёмка* 60, 77, 80, 111, 118. *тасёмачка* 127. *тэсёмочка* 94. *татасéмка* 28, 57, 70. *тасéмачка* 56, 75. *тасьмá* 82, 94, 128.

*цясёмка* 9, 17, 29, 38, 61, 67, 71, 76 (рэдка), 83, 85 (трад.), 89, 123—125, 128, 129, 139, 141. *цясёмачка* 8. *цясёмыцка* 16.

*жычка* 25 *(куплёная),* 37 (трад., *шарсцяны ці шóўкавы шнурóк),* 60, 64, 68, 74, 93 (лента), 99, 100, 104 *(шнурóк з шэрсці,* уст.), 106, 107, 109, 114 *(тóнкая стўжачка),* 126, 132, 133, 135. *жыжка* 65, 124 (трад.).

*каснік* 81. *коснік* 101. *каснічóк* 58, 69, 104, 105, 110.

*стўшка* 18, 54, 72, 105. *стўжачка* 47, 52а. *стóнжэчка* 94, 114.

*лéнта* 87. *лéнтачка* 64, 66, 71. *лéнточка* 108. *лéнтучка* 92.

*матўс* 22. *матузóк* 32, 119, 122, 130.

*кітáйка* 110 (стужка). *кытáйка* 131. *кытáёчка* 96.

*гічка* 102. *гычка* 94а.

*волóчка* 134, 136.

Адзінкавыя: нітка 1. нітайка 92. пудвычка 95. підяшка 98.

## Карта № 252

## ЛАНЦУЖОК ДЛЯ МЕДАЛЬЁНА, КРЫЖЫКА

№ 1216 «Я. н. шнурок для нацельнага медальёна (медаліка): цясёмка, шнурок, гайтан, гайташок, валочка...»

На карце паказаны лексіка-словаўтваральныя адрозненні назвы ланцужка. У н. п. 53 знак пастаўлены на аснове «Матэрыялаў для слоўніка Гродзенскай вобласці» «(1972). Як назва *цэпка* картаграфуецца *цэпачка.*

*ланцужóк* 20, 22, 48, 49, 51, 52а—54, 99, 101. *лынцюжóк* 95 (упрыгожванне, багацейшыя насілі).

*цэпка* 4, 8а, 9, 24, 26, 28, 31, 45, 58, 61, 64, 69, 71, 80, 81, 83, 85, 87—89, 105, 110, 111, 120, 129, 133, 135, 140. *цэпачка* 1, 19, 25, 59, 75, 119. *цэпочка* 103, 114. *цэпычка* 42.

Адсутнасць назвы: 2, 3, 5—8, 10—18, 23, 25, 25а, 27, 29, 30, 32—41, 43, 44, 46, 49а, 50, 52, 55—57, 60, 62, 63, 65—68, 70, 72—74, 76—79, 82, 84, 86, 90—94а, 96—98, 100—102, 104, 107—109, 112, 113, 115—118, 120а—128, 130—132, 134, 136—139, 141, 142.

## Карта № 253

## ПАЎРОЗЫ (значэнне слова)

№ 1199 «У якім значэнні ўжываецца слова паўрозы: а) матузы, цясёмкі б) пацёкі ад слёз на твары, ад дажджу на вокнах...»

На карце паказана пашырэнне слова *паўрóзы* і яго значэнні. У н. п. 4 знак пастаўлены на аснове матэрыялаў СП-ЗБ (1982), у н. п. 53 — на аснове матэрыялаў «Народнага слова (1976), у н. пп. 125, 130, 138 і 139 — на аснове «Матэрыялаў для дыялектнага слоўніка Гомельшчыны» (Бел. мова, вып. 6. Мн., 1978, с. 171, 206).

Адным знакам картаграфаваліся формы мужчынскага і жаночага роду: *паўрóз* і *паўрóза,* адзіночнага і множнага ліку: *паўрóзы* і *паўрóз,* суфіксальныя ўтварэнні: *паўрóзікі* і *поўрóзкі.*

'матузы, вяровачкі, тасемкі': *паўрóзы* 62, 110 *(матузы ў хвартухў),* 112, 113, 116 *(у хвартухў),* 117, 120 (матузы, цясёмкі), 120а, 135 *(імі завязваецца фартўх). поўрóзы* 93, 94, 111, 133, 140. *поўрóзэ* 102, 103. *поврóзы* 101, 134. *пуврóзы* 94а. *паўразэ́* 50, 76 (цясёмкі ў спадніцы). *паўрузэ́* 54 (трад.). *паўрузы́* 74. *паўрóзікі* 112. *пóўразкі* 126, 141. *паўрўс* 54 (трад.). *паврóз* 134. *паврўз* 57 (матузок, вяровачка). *пóўраз* 50, 138, 139. *пóўрас* 53. *паврўз* 49а. *паўрóза* 122 *(адна паўрóза). пóўразка* 125, 130.

'вяроўкі': *паўрóзы* 20 *(вярóўкі вос уціскáць, мóжна каня лéйчыць),* 51 (вяроўкі). *паврóзы* 22 *(гэ́та вярóўка с пальскéго;* параўн.: польск. powroz 'канат, вяроўка').

'пацёкі ад слёз на твары, ад дажджу на вокнах': *паўрóзы* 83 (пацёкі на твары ад слёз), 112 (пра слёзы). *повróзы* 113 *(поцёкі). поўрóзэ* 103 *(потёкы). паврóз* 134.

Адзінкавыя: *паўрóс* 4 (повад), 117 *(карóва цéліцца, пéрад цялéннем пускáя паўрóзы).*

Адсутнасць слова: 1—3, 5—21, 23—49, 52, 52а, 55, 56, 58—61, 63—69, 71—73, 75, 77—82, 84—92, 95—99, 104—109, 115, 118, 119, 121, 123, 124, 127—129, 131—133, 136, 137, 142.

## Карта № 254

## ІГОЛКА

№ 1221 «Як кажуць аб удзяванні ніткі ў іголку: удзець, уцягнуць, укласці, заўлеч...»

Пытанне № 1221 не прысвечана назвам іголкі, аднак матэрыял адказаў за гэтае пытанне дазволіў скласці карту, на якой паказана наяўнасць або адсутнасць прыстаўнога j ў слове *іголка* — прыклад нерэгулярнай фанетыкі.

*іголка* 2, 4, 5, 11, 12, 14, 15, 20, 21, 24, 26, 31, 33, 36, 39, 41, 44, 47, 58, 61, 66, 67, 69, 70, 76—79, 85, 88, 112, 115, 116, 120, 122, 123, 125, 130, 135, 137, 139. *йголка* 120а.

*голка* 23, 45, 48, 51—52а, 55, 59, 60, 62, 90, 94, 94а, 95, 98—102, 104, 106, 113, 131—134.

## Карта № 255

## УЦЯГНУЦЬ (нітку ў іголку)

№ 1221 «Як кажуць аб удзяванні ніткі ў іголку: удзець, уцягнуць, укласці, заўлеч нітку...»

Картаграфуюцца дзеясловы, якія паказваюць на працэс уцягвання ніткі ў іголку. Як дзеяслоў *уцягнуць* картаграфуюцца *зацягнуць*, як дзеяслоў *увесці* — *завесці*, як дзеяслоў *усунуць* — *засунуць*, як дзеяслоў *усадзіць* — *засадзіць*, як дзеяслоў *увалачы* — *завалачыць*. Адрозніваюцца акцэнтныя варыянты ў слове ўвесці — *увесці* і *увясці*.

*уцягнуць* 2, 6, 10, 11, 21, 22, 24—26, 29, 30, 37, 46, 50, 51, 52а, 54, 56, 57, 61—63, 66—70, 72, 76, 79, 81, 85, 87, 99, 105, 106, 111—113, 115, 119, 122, 127, 129, 137, 140, 141. *уцягнуці* 93. *уцегнуць* 114, 120. *утегнуты* 134. *втягнуты* 91, 92, 131. *зацягнуць* 53, 55, 59, 60, 64, 65, 71, 100, 104, 110, 118, 120а.

*уцегці* 135.

*укласці* 5—7, 8а, 9, 29, 30, 32—38, 42, 74, 75, 77, 78, 80—85, 87, 123—126, 128—130. *укласць* 8.

*удзець* 1, 7, 12—17, 28, 31, 39—44, 79, 82, 85—89, 129, 141.

*увесці* 19, 23, 27, 52, 58, 94. *завесці* 20, 45, 47, 49, 49а.

*увясці* 2—4, 18, 22. *ввысты* 90

*усунуць* 101, 106, 120а, 133. усунуты 96а, 109. всунуты 94а—96 (радзей), 103, 108, 132. *всунутэ* 98. *засунуць* 100.

*усадзіць* 93, 102, 116, 118, 121, 122, 127, 136, 139, 140, 142. *усадыты* 97. *всадыты* 132. *засадзіць* 117.

*вволочы* 96. *заволочыць* 137, 138.

Адзінкавыя: *унізаць* 52. *усмычыць* 107.

## Карта № 256

## КРУЧОК (для вязання)

№ 1225 «Я. н. кручок для вязання: кручок, шыдэлка...»

На карце паказаны лексіка-словаўтваральныя адрозненні назвы кручка для вязання. Як назва *шыдэлак* картаграфуецца *швідэлак*, як назва *шыдэлка* — *швідэлка*, як назва *ключка* — *ключачка*.

*кручок* 4—6, 8, 12, 13, 15, 21—23 *(вязалі карункі)*, 28, 33, 34, 36—44, 47, 50, 55—57 (нов.), 58, 59 *(для грубых нітак)*, 60 *(тоўсты, грубаваты)*, 61—63 *(кручок бальшы)*, 71, 73, 80 *(лапці вязалі кручком, кругі падногі)*, 81, 90—92, 94 (руск.), 95—99, 101—104, 107—109, 112, 113 (нов.), 114, 115, 117, 120—122, 124, 126, 127, 129—142. *крючок* 83, 85, 88, 89. кручёк 96а.

*шыдэлак* 5, 6, 9—11, 24 *(вяжуць карункі)*, 25, 26, 27, 29—31, 37, (трад., уст.), 63 *(малы — шыдэлак, кручок — бальшы)*, 64—70, 72, 74—77, 105, 110. *шыдэлык* 8а. *швідэлак* 21.

*шыдэлка* 20, 25а, 45, 46, 48, 49а, 52а, 54, 57, 59 *(для тонкіх нітак)*, 66, 94, (польск.). *шыдэлко* 49, 51, 52, 53, 60 (для вязання карунак), 100, 106. *шідэлко* 113. *швідэлко* 116.

*шындэлка* 118, 119.

*шыдзёлак* 111.

*тамбурак* 1 *(вязалі кружава)*, 2, 7.

*тамбурка* 14, 86, 88, 124, 125. *тамбырка* 32, 35, 42, 43, 79, 83, 85, 87, 88. *танбурка* 17. *танбырка* 84. *танбарка* 123, 128.

*тамбур* 44, 80 (для тонкага вязання). *тамбыр* 16. *танбур* 82. *танбыр* 78.

*штуцік* 3, 18, 19 *(куруны робяць)*.

*ключка* 94. *ключачка* 93 *(шо брынды робяць)*.

Адзінкавыя: *вязальнік* 54 (тоўсты дзеравянны кручок).

## Карта № 257

## НАЖНІЦЫ

№ 1226 «Я. н. нажніцы: ножніцы, нажніцы, нажыцы, ножны...»

На карце паказаны лексіка-словаўтваральныя адрозненні назваў нажніцаў і акцэнтныя варыянты: *нажніцы, ножніцы, нажычкі*. У н. п. 87 знак *(нажэнцы)* пастаўлены на аснове матэрыялаў «Краёвага слоўніка ўсходняй Магілёўшчыны» І. К. Бялькевіча (1970). Як *ножанкі* картаграфуецца *ножанка*.

*нажніцы* 19, 20, 23, 25, 26, 27, 31, 36, 37, 47—49а, 52, 53, 54, 56—68, 70, 71, 74, 79, 80, 104 (пазнейшае), 105, 110, 111, 115, 142. *ножніці* 113. *ножныцы* 94а.

*нажнічкі* 17, 35, 39, 42, 44, 75, 83, 89.

*ножніцы* 1—13, 16, 18, 21, 22, 24, 25а, 28, 29, 32—35, 40—43, 45, 53, 55, 69 (ужываецца цяпер), 76, 78, 80, 81, 83—88, 102, 106, 108, 114, 116—122, 135, 140, 141. *ножныцы* 94а, 132.

*ножыцы* 92, 96, 97, 102, 103. *ножыці* 90, 91, 95. *ножыцэ* 98. *ножіці* 131.

*ножанькі* 128. *ножонкы* 109. *нэжэнкі* 101. *ножанка* 50 *(стрыхчы ці рэзаць палатно)*.

*нажычкі* 126, 135, 139. *ножычкі* 138 *(дай мне ножычкі кохту перакраіць)*.

*нажэнцы* 81, 87, 128—130.

## Карта № 258

## НОЖНЫ

№ 1226 «Я. н. ножніцы: ножніцы, нажніцы, ножыцы, ножны...»

На карце паказана пашырэнне слова *ножны* — назвы вялікіх нажніцаў.

*ножны* 46—49, 51 *(імі краілі)*, 52, 52а *(авечкі стрыгуць)*, 53, 57, *(авечак стрыгчы)*, 63, 69 (вялікія і малыя), 70, 72 *(малых ніц не было)*, 93, 99, 104 *(для авец)*, 105, 106, 110, 111, 117, 134. *ножні* 7, 12 *(авечыя)*, 14, 16, 17, 30 *(авечак стрыгчы)*, 36, 38, 41, 73, 74, 77 (маленькія і вялікія, *авечыя)*, 79, 82, 83, 87, 89, 118, 119 *(для авечак, цяпер кажуць і на малыя ножні)*, 120а, 123—130, 139. *ножна* 54, 55 (вялікія, стрыгчы авечак), 56, 100. *нэжны* 107. *нэжна* 102 (больш старое). *ніжны* 103 *(овычкы стрыжті)*. *нужны* 114, 132 *(вылыкы)*. *нужна* 108 *(овэчкы стрыглы)*.

Адсутнасць слова: 1—6, 8—11, 13, 15, 18—29, 31—35, 37, 39, 40, 42—45, 49, 49а, 50, 58—62, 64—68, 71, 75, 76, 78, 80, 81, 84—86, 88, 90—92, 94—98, 101, 109, 112, 113, 115, 116, 120—122, 131, 133, 135, 138, 140—142.

## Карта № 259

## НАПАРСТАК

№ 1227 «Я. н. напарстак: напарстак, напёрстак...»

Картаграфуюцца лексіка-словаўтваральныя адрозненні назвы напарстка. На карце таксама паказаны змяненні націскной галоснай: *напарстак, напэрстак, напёрстак, наперстак, напярстак*. У н. пп. 4А, 6А, 37А, 41А *(напярстак)* пастаўлены на аснове матэрыялаў АЛА (гл. № 1246).

*напарстак* 1—4, 6—8, 18—31, 45—50, 51 *(трэба накласці напарстак)*, 52—70, 72, 74, 80—82, 93, 104, 105, 110—112, 115, 124. *ныпарстык* 5, 33—35, 40. *напарсток* 95 (ужываецца *напэрсток*, але ў суседніх тараканскіх гаворках *напарсток)*, 100.

*напэрсток* 90—92, 94—98, 101—103, 106—109, 113, 114, 131—133.

*напёрстак* 9—11, 14, 32, 36, 71, 73, 75—77, 80—82, 116, 118—125, 128—130. *напёрстык* 12, 13, 15—17, 40—44, 78, 79, 83—89.

*наперстак* 99, 126, 127, 139, 141, 142. *наперсток* 113, 117, 134—138, 140.

*наперснік* 39.

Адзінкавыя: *надзявальнік* 54.

АЛА: *напярстык* 4А, 6А, 37А, 43А.

## Карта № 260

## У ДЗВЕ СТОЛКІ (злажыць)

№ 1228 «Злажыць тканіну ў дзве стволкі, зосталкі, рэдзі...»

На карце паказана пашырэнне прыслоўяў са значэннем (злажыць, скласці) у дзве столкі. У н. п. 67 знак *(удзвейгу)* пастаўлены на аснове матэрыялаў «Жыво-

га слова» (1978). Адным знакам картаграфаваліся ўтварэнні: *удзвейгу, удвойгу* і *ўдвійгу*. Гл. карту № 261 «Злажыць (у дзве столкі)»

*у дзве стóлкі* 2 *(дóбрыца з дóбрыцай складáліся)*, 3—5, 18—27, 29, 37, 45—50, 52—72, 76, 83, 93, 99, 100, 104—107, 110—113, 115, 118, 120, 120а, 126, 137, 141.

*у дзве ствóлкі* 8а—11, 29.

*у дзве стáлкі* 94, 116, 117, 122, 124, 133, 134, 139, 140. *в дві стáлкы* 109. *у дьві стальки* 95.

*у дзве стваліны* 1.

*у дзве рэ́дзі* 14, 17, 35, 36, 73, 75, 77, 78, 80—83, 119, 123—130. *у дзве рéдзі* 15, 32, 34, 38—44, 79, 84—86, 88, 89, 121.

*у дзве рáдзі* 28, 30. *у дзве рядзі* 12, 16.

*у дзве пóлкі* 102, 135, 138, 142.

*у дзве склáдкі* 136. *у дзве склáткі* 74.

*удвóя* 90—93. *удвóе* 101, 102, 105, 108, 114, 135. *вдвóе* 95—98. 103, 108, 132.

*удзвéйгу* 67, 110. *удвéйгу* 99. *удвíйгу* 94а.

Адзінкавыя: *у дзве рáткі* 7. *у дзве палы́* 19. *у дзве чáсці* 31. *у дзве брэ́ты* 51. *в два лоскýты* 96. *в дьві лáткы* 96. *у дьві сторонí* 131.

### Карта № 261

## ЗЛАЖЫЦЬ (у дзве столкі)

№ 1228 «Злажыць тканіну ў дзве столкі, стволкі, зосталкі, рэдзі...»

На карту нанесены дзяясловы са значэннем 'злажыць (у дзве столкі)'. У сувязі з тым, што пытанне № 1228 «Інструкцыі...» прысвечана высвятленню прыслоўяў са значэннем '(злажыць) у дзве столкі', таму дзеясловы *злажы́ць, склáсці* адзначаны непаслядоўна. У н. п. 6 знак пастаўлены на аснове матэрыялаў СП-ЗБ (2, 1980).

*злажы́ць* 6, 8, 9—11, 13, 14, 17, 19—21, 24, 30—32, 35, 36, 40, 44, 46—48, 49а—51, 59—61, 66, 73, 77, 79, 83, 85, 87, 88, 99, 100, 110, 112, 115, 116, 120, 120а, 121, 123, 125, 130, 135, 139. *злажы́ці* 93. *зложы́ць* 106, 107, 114. *зложы́ты* 90, 95, 97. *злужы́ты* 92. *злужэ́тэ* 98.

*склáсці* 1, 2, 5, 18, 21, 26, 71.

*згарнýць* 53, 113. *згорнýты* 96а.

### Карта № 262

## ШВО

№ 1234 «Я. н. шво: шво, шоў...»

На карце паказаны назвы *шва* і адрозненне ў родзе назоўніка *шво: шво* — ніякі род, *шва* — жаночы род. Адведзена ад картаграфавання слова *шыцьвá* (н. п. 89. *што ў цябе за шыцьва?*), якое абазначае паняцце зборнасці ад *шыць*.

*шво* (н. р.) 1—9, 12, 18—29, 31, 33, 35, 37, 45—55, 57—65, 67, 68, 70—72, 74, 76, 77, 93, 94а, 95, 96а, 97, 99—122, 127, 131—140.

*шва* (ж. р.) 90—92 *(распурóвса пу шві)*, 96, 98.

*шоў* 10, 11, 13, 14, 16, 17, 36—44, 73, 75, 78, 79, 81, 83—88, 116, 123—126, 128—130, 141, 142.

*шэў* 34.

*пóшва* 66 *(распарóлася па пóшве)* 69, *(па пóшві падралася)*.

*рубéц* 16, 30, 32, 35, 80 *(любы́ шоў)*, 81, 82, 86, 118 *(рубéц зарубíць)*, 119, 127, 128.

Адзінкавыя: *строк* 56.

### Карта № 263

## ПАДРУБІЦЬ

№ 1238 «Ніз вопраткі абрубліваюць, падгінаюць, падкладаюць, падбіваюць...»

На карце паказаны дзеясловы са значэннем 'падшыць ніз вопраткі'. Пры картаграфаванні не ўлічваліся граматычныя формы дзеясловаў: *падрубíць, абрубíць, зарубíць* і *падрýбліваюць, абрýбліваюць, зарýбліваюць, падклáсці* і *падкладáюць, падагнýць, падгінáць* і *падгінáюць, падбівáць* і *падбівáюць, падшывáць* і *падшывáюць*. Адным знакам картаграфаваліся дзеясловы з коранем *-руб-*: *падрубíць, абрубíць, зарубíць*.

*падрубíць* 4, 8, 8а, 10 (ніз вопраткі), 11, 14, 17, 20, 27, 30, 33, 36, 46, 69 *(пóдбілку падрубíць шырóка)*, 80, 87—89, 100, 101, 105 *(падрубíць спаніцу)*, 120а, 121, 123, 125. *подрубíць* 113. *пыдрубíць* 40, 78, 79, 83. *подрýбливаць* 21, 68. *падрýбліваць* 41, 42, 70, 86. *падрубля́ць* 47. *подрубы́ты* 96. *падрýбліваюць* 81. *пыдрýбліваюць* 84. *падрýбваюць* 112. *падрýблююць* 129, 140. *падрýблюют* 91. *подрýблюють* 131, 132. *падрýбліюць* 124. *абрубíць* 1, 5, 7, 12, 23, 34, 39, 44, 85, 120. *обрубíць* 114. *абрýбліваць* 28, 130. *абрýбліваюць* 15, 16, 127. *абрýблівыіць* 35. *обрýбливают* 96а. *обрýбливають* 97, 134. *обрýблюют* 103. *зарубíць* 1, 2, 6 (вузка), 32, 38, 44, 64, 115, 126. *зырубíць* 13, 135. *зарубы́ты* 95. *зарýбліваюць* 139. *зарýблюють* 94а, 108. *зарýблеють* 98.

*падлажы́ць* 22, 24, 49а, 52, 52а, 53, 54, 56, 57, 60, 65, 66, 72, 110. *подложíть* 113. *пудложы́ць* 137. *пыдложы́ць* 106. *паткладáць* 99, 104 *(ніс плáцця)*, 111. *пыдкладáць* 84. *падклáсці* 117, 119. *паткладáюць* 50, 55, 59 *(хýстку рýбяць)*, 60—62, 67 *(ніс паткладáюць, платкí рýбяць)*, 76, 77, 81, 82, 102, 118, 122, 127. *паткладáют* 93. *поткладáють* 113. *падкладáюць* 80. *пыдкладáют* 94. *пыдкладáюць* 79, 85. *пудклáдуют* 90. *пудклáдують* 92. *пудклáдаюць* 138. *паткладаваюць* 26. *падклáдваюць* 136. *заклáдають* 109 *(шоб корíтча булá)*.

*падагнýць* 6 *(шырóка)*, 63, 71, 116. *пыдагнýць* 85. *падгінáць* 9, 14, 25, 25а, 29—31, 37, 68, 73—75. *падгінáюць* 63. *пыдгінáюць* 35.

*падбівáць* 31, 74 (трад.), 83. *падбівáюць* 21, 43, 118.

*патшы́ць* 51, 54. *падшывáць* 31. *патшывáць* 83. *падшывáюць* 128, 129.

*патхíліць* 3, 48, 49, 52а. *патхіля́ць* 18.

Адзінкавыя: *падлямавáць* 19. *падхінýць* 71. *аблімóўваць* 142.

### Карта № 264

## АБРЭЗАК ТКАНІНЫ

№ 1240 «Я. н. абрэзак тканіны: скравак, акраяк, абрэзак...»

На карце паказаны лексіка-словаўтваральныя адрозненні назваў абрэзка тканіны. Адным знакам картаграфаваліся ўтварэнні з коранем *-рэз: абрэ́зак, урэ́зак, адрэ́зак, зрэ́зак*, з каранямі *-крав-, -край-* і *-крой-*: *акрáвак, акрáек, акрóек, скрáвак* і *скрáйка*. Як назва *ласкýт* картаграфуецца *лускáт*, як назва *клін* — *клінóк*, як назва *лáпіна* картаграфуюцца *лапінёк* і *лáпінька*. У н. пп. 47, 48 знак *(крáвак)* пастаўлены на аснове «Матэрыялаў для слоўніка Гродзенскай вобласці» Т. Ф. Сцяшковіч (1972).

*абрэ́зак* 8, 10, 11, 14, 26—28, 30—33, 36, 37, 52а, 55, 56, 58 (сучасн.), 59, 61, 64—71, 73—75, 77, 78, 80, 81, 100, 105, 110, 116, 118, 120—122, 124, 128, 140—142. *абрэ́зык* 15, 35. *абрéзык* 12, 13, 16, 17, 34, 38—44, 79, 83—89. *обрэ́зак* 102. *обрэ́зок* 137, 138. *обрíзок* 91, 96, 97, 108. *убрíзок* 98. *урíзок* 92, 94а. *адрэ́зак* 130. *зрэ́зак* 51. *зрíзок* 94а, 95, 109, 131.

*акрáвак* 4, 19, 20, 22, 23, 49а, 50, 52а—54, 57, 58 (трад.), 62, 72, 82, 111, 112, 115, 118, 120, 120а, 121, 124, 126. *акрáвык* 8а, 13, 14. *окрáвок* 132, 134. *укрáвок* 135. *акрáўкі* 129. *крáвочак* 117. *акрáяк* 63, 76, 77, 104. *акраíк* 5. *окрáек* 106, 107, 114, 133. *окраёк* 94, 113. *окрáяк* 136. *акрóек* 29, 119, 127, 128, 139. *акрóік* 8. *адкрóйкі* 123. *скрáвак* 45—49. *скрáвок* 90. *скрáйка* 93.

*акрамёзак* 25. *акрамёзак* 25а.

*ласкут* 8, 9. *лускáт* 1.

*скумáт* 7, 8а, 12.

*скутóк* 6, 21. *шкутóк* 2.

*лáпіна* 60. *лапінёк* 47. *лáпінька* 48.

*рэшта* 3, 18.

Адзінкавыя: *клін* 24. *кавáлачак* 52. *астáнак* 99. *клінóк, кусóк* 125.

### Карта № 265

## ПАНЧОХІ

№ 1241 «Панчохі, шкарпэткі цыраваць, штопаць...»

На карце паказаны лексічныя адрозненні назваў панчох.

*панчо́хі* 1 *(панчо́шына)*, 2 *(панчо́шына)*, 4, 6, 8 *(панчо́шына)*, 8а, 9, 14, 16, 19, 20, 22, 24, 26—29, 33, 36, 37, 41, 46—49, 50—52, 53, 55, 58, 60—63, 66—69, 72, 74, 75, 77, 81, 82, 84, 90, 94, 99, 102, 105, 106, 112, 116, 118, 120, 122, 123, 124, 128, 129, 134, 135. *панчо́хы* 94а, 95, 96а, 109, 132. *пончо́хі* 113, 138.

*чулкі* 13, 32, 38, 39, 43, 44, 75 (нов.), 79, 83, 86, 130.

### Карта № 266

## ДЗІРКА

№ 1242 «Я. н. дзірка: дзюрка, дзюра, дзіра...» АЛА 1256 дыра — dira-dziura

На карце паказана супрацьпастаўленне нерэгулярных адрозненняў назвы дзіркі: *дзі́рка, дзю́рка, ды́рка, дэ́рка, дзе́рка,* а таксама словаўтваральныя варыянты: *дзі́рка,* і *дзіра́, дзю́рка* і *дзюра́, ды́рка* і *дыра́.* Адным знакам картаграфаваліся ўтварэнні: *дзіра́, дзюра́, дыра́.*

ЛАБНГ: *дзі́рка* 1, 7, 12—17, 24, 28—44, 46—49, 50, 51, 52а—57, 59—89, 99—102, 104—107, 110—130, 135—137, 139—142. *ді́рка* 133, 134.

*дзю́рка* 2—6, 8—11, 18—23, 25—27, 48, 50, 52, 55, 57.

*ды́рка* 90, 92—97, 103, 108, 109, 113, 131, 132.

*дэ́рка* 91, 98.

*дзе́рка* 138.

*дзіра́* 2, 45, 47, 50, 58. *дзюра́* 52 *(ве́лькая),*

АЛА: *дзі́рка* 4А, 5А, 7А—10А, 18А—23А, 25А—31А, 33А—42А, 44А, 46А, 47А, 49А, 50А, 53А—63А, 65А—67А.

*дзю́рка* 1А—3А, 12А—17А.

*ды́рка* 43А, 45А, 48А, 51А, 52А.

*дэ́рка* 64А.

*дзіра́* 10А, 26А, 27А, 44А, 46А. *дзюра́* 11А, 14А. *дыра́* 30А.

### Карта № 267

## ЦЫРАВАЦЬ

№ 1241 «Панчохі, наскі цыраваць, штопаць...»

На карту нанесены дзеясловы са значэннем 'цыраваць панчохі, шкарпэткі'.

*цырава́ць* 9—11, 14, 18, 21—29 (трад.), 31, 36, 41, 45—48, 49а, 50, 52—57, 59—61, 65, 67—69, 74, 75, 80, 99, 100, 104, 115, 121. *цыровáті* 94. *цырыва́ць* 5, 7, 8а, 42. *цырува́ць* 15, 35. *ціро́ваты* 94а, 109. *цірува́тэ* 98. *цурава́ць* 13, 62—64, 70, 72, 76 (трад.), 82, 119, 126, 127, 135, 138, 139. *цурава́ці* 102. *цурова́ць* 106, 113, 114. *цурова́ть* 134. *цурова́ты* 90. *цурува́ць* 33, 34, 93. *цэрава́ць* 133. *цюрова́ты* 95—96а, 103, 132. *царава́ць* 81. *царува́ць* 131. *чырава́ць* 14.

*што́паць* 12, 16, 17, 37, 39, 40, 42—44, 78, 79, 83, 85—87, 89 (нов.). *што́пыць* 71, 73, 76, 82, 105, 112, 118, 119 (больш новае), 120, 123, 125, 127—130, 136, 137, 140.

*крапі́ць* 141, 142.

Адзінкавыя: *перапле́таваць* 32 *(чуло́к іго́лкай перапле́тываць бу́ду). заплясці* 117 *(заплясці дзірку на пруткі). стро́іць* 124 *(панчо́хі бу́ду стро́іць).*

### Карта № 268

## АБУТАК

№ 1243 «Агульная назва абутку: абутак, вобуй, абуцце...»

Знакамі на карце абазначаны суфіксальныя дэрываты, аб'яднаныя агульнасцю каранёвай марфемы. Як назва *абу́так* (м. р.) картаграфуецца *абу́тка* (ж. р.), як назва *во́буй — во́буў, о́буй, обу́ў, о́був,* як назва *абу́ўка — абу́йка, абу́вак, во́буўка.*

*абу́так* 2, 4, 7, 8а, 19, 20, 25а, 26, 30, 50, 54, 70, 73—75, 86, 88, 111. *абу́тык* 85, 87, 118, 124, 126, 127, 130, 132, 140. *обу́ток* 102, 107, 113, 132. *абу́ток* 106. *абу́тка* 4.

*во́буй* 2, 13, 14, 21—24, 35, 29, 43, 44, 47, 49а, 50, 52а—60, 62—67, 69, 71, 75—80, 82, 83, 89, 98—100, 104, 108, 110, 112, 115, 118, 119 (трад.), 121, 126, 128, 129. *во́бый* 85. *го́буй* 49. *о́буй* 3, 15—18, 20, 28, 31, 48, 52, 68, 83, 84, 90, 93, 94а, 95, 96, 98 (радзей), 101—103, 105, 108, 109, 111, 113, 114, 116, 117, 125, 131, 133, 134, 135. *во́буў* 13, 14, 35, 36, 37, 41, 42, 44, 61, 81, 86, 87, 118, 122, 136—139, 141. *во́бувь* 130. *о́буў* 15—17, 40, 120, 123, 129, 130, 135, 136, 138, 139, 141. *о́був* 90, 91, 92, 96, 103, 132.

*абу́й* 4.

*обу́ўка* 94. *обу́вка* 96, 96а. *обу́йка* 94. *обу́вок* 90. *во́буўка* 81.

*абу́ве* 46. *обу́вя* 45, 51.

*во́буль* 72, 119 (трад.), 142.

*абу́цце* 137. *абу́цця* 15. *абу́ццё* 25. *обу́цце* 97.

*абува́нне* 9, 33. *абува́ння* 1, 5, 6, 8, 8а, 10—12. 27, 29, 32, 34, 81, 83.

### Карта № 269

## БОТЫ

№ 1244 «Я. н. мужчынскі абутак з халявамі: боты, чобаты...»

На карце паказаны лексічныя адрозненні назвы ботаў. Зафіксавана перасоўванне націску ў слове чобаты: *чо́баты, чабаты́...* Формы множнага і адзіночнага ліку картаграфаваліся адным знакам.

*бо́ты* 1—75, 78, 80, 83 (трад.), 84, 85, 99, 100, 104, 110, 111, 118, 119 (суч.), 126. *бот* 1, 2, 4, 7, 24, 51, 52, 126.

*чо́баты* 50 (іран.), 62, 67 (устар.), 93, 94, 105, 112, 115, 120—122, 124—126, 133, 135, 136, 139—142. *чо́боты* 90, 94а, 95, 96, 96а, 97, 101, 102, 103, 106—109, 113, 114, 117 (трад.), 127, 131, 132, 134, 137, 138. *чо́буты* 91, 92. *чо́бутэ* 98. *чо́быты* 16. *чо́бот* 107.

*чабаты́* 77, 81, 82, 128—130, *чабатэ́* 76 (трад.), 118 (трад.), *чыбаты́* 43 (называлі раней), 79, 84, 85, 123.

*сапагі́* 75 (нов.), 88, 104 (руск.), 115 (суч.), 119 (суч.), 125 (руск.), 126. *сапогі́* 117. *сапаге́* 54, 76 (нов.), 118 *сыпагі́* 16 (часцей), 79, 83, 84, 86, 87, 89. *сапо́г* 86.

### Карта № 270

## ЧАРАВІКІ

№ 1245 «У якім значэнні ўжываецца слова чаравікі: а) старадаўні жаночы абутак, б) бацінкі...»

На карце паказаны лексічныя і словаўтваральныя адрозненні назваў жаночых чаравікаў.

На аснове матэрыялаў СП-ЗБ (1, 170) знак *(барля́чы)* пастаўлены ў н. пп. 2, 18, 22, 51. Як назва *чараві́кі* картаграфуюцца *чараві́чкі* і *чарві́кі.*

*чараві́кі* (старадаўні бабскі абутак на шнурках і на гузіках): 1—8а, 9 (м. р. і ж. р.), 10, 11, 14, 15, 17, 18, 19 *(бака́ ўста́ўляны),* 20, 21, 22 *(до́ўгія халя́ўкі),* 23—25, 25а *(з высо́кімі і нізкімі галяні́шчымі),* 27—31, 36, 37, 45 *(зашнуро́ўваліся),* 47, 49 *(з халя́вамі),* 49а, 50 *(з до́ўгімі халя́вамі),* 51 (са скуры), 52, 52а, 53 (м. р. і ж. р.), 54, 55, 57—60, 62 (ж. р. і м. р.), 63—66, 67 *(цяпе́р ня но́сяць),* 68—77, 80, 81 *(з до́ўгімі халя́ўкамі),* 99, 100, 104—106, 110, 111, 112 (з халяўкамі), 115 (на высокіх каблуках), 116 *(на пудко́вах),* 118, 119, 121, 124, 126, 128—130, 133, 135, 137, 138, 142. *чыраві́кі* 7, 8а, 15, 32—35, 40, 41, 42, 78. *чэраві́кі* (м. р. і ж. р.) 93. *чорові́кі* 140. *чэрові́кі* 107. *чэрэві́кі* 94, 101, 102, 113, 114, 117, 122, 127, 134. *чырякві́кі* 79, 83, 84, 89. *чырыві́кы* 90, 91, 95, 96, 103, 132. *чэрыві́кы* 97. *чэрэві́кы* 94а, 108, 109, 131. *чэрэві́кэ* 98. *чараві́чкі* 38, 81. *чураві́чкі* 82. *цыраві́цкі* 16. *чырві́кі* 92.

*баціңкі* 14, 16, 17, 29—31, 35, 37, 40—42, 57 (цяпер), 61, 63, 67, 70, *(мужчыны насілі)*, 74, 75, 78, 80, 81, 82 (нов.), 83—86, 88, 89, 104 (цяпер), 111, 115, 117, 123, 125, 127—129, 136, 139—141. *ботінкі* 134. *ботінкы* 131 (нов.). *бутінке* 98 (нов., рэдк.), *бутынкі* 142.

*паўбаціңкі* 69. *полбаціңкі* 48. *паўбаціңкі* 43.

*барлячы* 20 (з гузікамі), 23, 24 (на гузіках). *барлёчы* 6, 25 (на гузіках).

Адзінкавыя: *шчыблеты* 9 (на кручках).

## Карта № 271

## АБУЦЬ

№ 1247 «Як скажуць: боты; туфлі абуць, набуць, назуць...»

На карце абазначаны дзеясловы, звязаныя з працэсам абування.

Як дзеяслоў *абуць* картаграфуюцца *абуцца, абуваць,* як дзеяслоў *злажыць — налажыць.*

*абуць* 1, 2, 4—6, 7—12, 14—25, 26 (нов.), 29, 31, 33, 35, 38 *(абуй!)*, 40—42, 46 *(абувай!)*, 47, 49—62, 64—77, 80—86, 88, 89, 104, 105 *(абуй!)*, 106, 111 (суч.), 112, 115—117, 121—125, 126 *(абуйся!, абувайцца)*, 128—130, 135. *обуць* 113, 114, 117, 136. *обуці* 93, 102. *обуті* 94. *обутэ* 98. *обуть* 134. *обуты* 90—92, 94а, 95, 96, 96а, 97, 103, 108, 109, 131, 132. *абуцца* 8, 47, 110, 118, 119. *абуваць* 3, 13, 30, 46, 48, 52, 69.

*набуць* 44, 79 (трад.), 85, 127, 141.

*надзець* 7, 8а, 15, 26—28, 31, 32, 34, 36, 37, 41, 42, 63, 72—74, 75, 86, 87, 99, 110, 120, 126, 130, 135. *адзець* 40, 87 *(надзеў чабаты)*, 111 (суч.).

Адзінкавыя лексемы ад таго ж кораня: *надзяваць* 30. *уздзець* 129.

*злажыць* 45 *(злажыў боты)*, 151. *зложыці* 101. *зложыты* 90, 95. *налажыць* 99 *(налажы!)*. *наложыць* 107. *наложыты* 108 (рэдк.), 109.

*накласці* 100 *(кладзі!)*, 133. *накласты* 132.

*азуць* 111, 138 *(озуйса!)*

Адзінкавыя: *наткнуты* 103 (экспр., *до чясу*). *уступіцца* 52 *(на прэнткую руку)*.

## Карта № 272

## ЛАПЦІ

№ 1252 «Я. н. абутак, сплецены з а) лыка: пасталы, пахлапні, лапці...»

На карце паказаны лексічныя і словаўтваральныя адрозненні назваў лапцей. Адведзены ад картаграфавання назвы *лапці, пасталы,* калі ў адказах заўважалася, што яны выраблялісе з матэрыялу, або адрозніваюцца па форме.

*лапці* 1—44, 46—48, 50, 52а, 53 *(палосяныя)*, 54—68, 69 *(лутовыя)*, 70—91, 93—96, 98—100, 104, 105, 110—120а, 122 *(з лутоў)*, 123—130, 136, 142. *лапті* 92, 97.

*пасталы* 51 (з лыка, лазы, у акаляючых вёсках), 93, 121, 124, 127, 129, 130, 133, 135, 139, 142. *посталы* 137, 140. *пасталэ* 99. *постолы* 90, 94, 94а, 95, 96, 96а, 101—103, 106—109, 131, 132, 134, 138 (з лазы). *пустулы* 91. *пустулэ* 98. *лутовікі* 69.

Адведзены ад картаграфавання: *пыхлапкі* 49 *(лапці закрытыя)*. *пахлапні* 44 *(лапці без вушак)*. *пасталэ* 46 *(на драўлянай падэшве)*. *пасталы* 49 *(раменныя)*.

Адзінкавыя: *лутовікі* 69

## Карта № 273

## СКРУТАК ЛЫК

№ 1254 «Я. н. скрутак лыка ў залежнасці ад формы: а) керч, берч, б) клубняк, сычык...»

На карце паказаны лексічныя і словаўтваральныя адрозненні назваў скрутка лыка. Карта складзена на матэрыяле адказаў на пытанні а) і б), яны, як правіла, не размежаваны. Як назва *кружнік* картаграфуецца *кружняк,* як назва *круг — кружок,* як назва *кружолка — кружэлка* і *кружалка,* як назва *скрутак — сукрутак* і *крутак,* як назва *клубок — клубняк,* як назва *матушка — мартушка,* як назва *баранак — бараначак,* як назва *пук — пучок,* як назва *каток — катушка* і *качолка,* як назва *луцце — круціць у лут.*

*верч* 23, 43, 44, 58, 59, 62, 67, 68, 71, 74, 76, 100, 104, 105, 110, 111, 115—117, 120—122, 134, 136—139, 141, 142. *вэрч* 90, 92, 94, 94а, 95, 96, 101—105, 107—109, 113, 114, 132, 133, 135. *віерч* 92.

*верчык* 75, 77, 116, 118, 119, 124, 127, 142. *вэрчык* 102.

Адзінкавыя ўтварэнні ад таго ж кораня: *верціна* 20. *вяртлюх* 25. *сувэрток* 93. *вяртушка* 56.

*кружнік* 5, 7, 9, 13, 15, 28—30, 33, 36, 40—42. *кружняк* 9, 39. *кружнікé* 25а.

*крух* 14, 31. *кружок* 49, 80, 81, 85.

Адзінкавыя назвы ад таго ж кораня: *кружолка* 66. *кружэлка* 32. *кружалка* 2.

*скрутак* 6, 20, 21, 26, 27, 50, 52, 52а, 63—65, 70, 72, 99, *скруток* 96. *сукрутак* 105. *крутак* 36. *скрутачкі* 56.

Адзінкавыя назвы ад таго ж кораня: *круцель* 25. *круцёлка* 22.

*клубок* 3, 19, 34, 35, 44, 49а, 52, 79, 82, 84, 86, 129.

*баранак* 4, 17, 38, 128. *бараначак* 1.

*матушка* 32. *мартушка* 54.

*пук* 106. *пучок* 85, 97.

*каток* 16, 130. *катушка* 132. *качолка* 112. *качулка* 112.

пуцэнька 98, 131.

*лыкі* 87—89.

*луцце* 125. *круціць у лут* 126.

Адзінкавыя: *рэпка* 24. *палоскі* 37. *сычык* 43. *куль* 101. *круціць у абаранак* 123. *клубняк* 129. *стаўка* 141.

## Карта № 274

## НІЗКА СКРУТКАЎ ЛЫКА

№ 1255 «Я. н. нізка скруткаў лыка: жужма, вязка, вешала, нітка...»

На карце паказаны лексічныя і словаўтваральныя адрозненні назваў нізкі скруткаў лыка. У назвах *вясло* на карце адзначаецца перасоўванне націску: *вясло* і *вясла.*

Як назва *вясла* картаграфуецца *свясло,* як *вешала — вішала,* як *вірціна — верціна,* як *сарачня — саратня,* як *пук — пуччо,* як *кружнік — кружні.*

*нізка* 70, 123, 125—129. *ніска* 71, 72.

*вясло* 24, 25а, 62, 65, 69, 76, 105, 110—112, 115—118, 120, 137, 138. *вэсло* 108. *высло* 96. *вэсло* 93.

*вясла* 25, 35, 42—44, 66, 68, 78, 80, 81, 83, 84, 100.

*свясла* 121, 122. *свяслы* 141. *свясло* 139. *ясле* 142.

*вязка* 14, 37, 41, 46, 47, 75, 79, 85, 86, 88, 124, 130, 136. *вэзка* 97, 131. *вяска* 3, 9, 12, 15, 22, 25, 26, 39, 40, 50, 52, 56, 59, 61, 63, 64, 92. *вьязка* 106. *в'яска* 90, 95.

*вязанка* 15. *візанка* 38.

Адзінкавыя ўтварэнні ад таго ж кораня: *завяска* 28. *зв'язок* 96. *звязак* 119.

*вешало* 94, 101, 107, 114, 133. *вішало* 103, 132.

*вірціна* 19. *верціна* 20.

*вінцірка* 58. *вінцярка* 52а.

*вірня* 33.

*маток* 1, 4, 5, 7, 8, 29, 30, 73.

*матушка* 13, 16, 17, 26, 32.

*вітка* 10, 11, 31.

*куль* 4, 74, 101.

*сорочня* 102 *(40 вэрчаў)*. *саратня* 135.

*копа* 102 *(60 вэрчэў)*. *купа* 98.

*пук* 51. *пучо* 2.

*кружнік* 34. *кружні* 6.

Адзінкавыя: *маністо* 23. *крутак* 36. *віток* 49а. *верчык* 87. *луток* 89. *обором ок* 94а. *бунт* 99. *вялька* 104. *рэло* 109 *(20 вэрчі)*. *козёл* 113.

## Карта № 275

### ВЯЗКА ЛАЗЫ

№ 1237 «Я. н. вязка лазы: жмут, жужма...»

Картаграфуюцца назвы вязкі лазы. Паказаны супрацьпастаўленні па каранях і словаўтваральных элементах. Як *вясло́* картаграфуецца назва *вя́сла,* як *вя́зка* — назвы *уя́зко, звя́ска, звя́зак,* як *куль* — *кулёк,* як *скру́так* — *скру́ткі, кру́так,* як *по́смык* — *пасму́к.*

*вя́зка* 37, 85, 88, 92, 96а, 104, 129, 130. *вя́ска* 15, 21, 22, 29, 30, 46, 52, 59, 61, 63, 71, 99, 117, 124, 126. *в'я́ска* 90, 94а, 95, 105. *в'я́зка* 138. *в'езка* 131. *уя́зка* 141. *уя́зко* 139. *у'ёзка* 134. *звя́ска* 5. *звя́зак* 119.

*візáнка* 81, 84. в'ёзанка 108.

*пук* 2, 6, 14, 16, 20, 23, 24, 31, 33, 40—42, 51, 53, 54, 56, 58, 62, 68, 70, 73, 76, 80, 82, 83, 87 (рэдк.), 110, 111, 115, 116, 120, 123, 127, 129, 135, 142. *пучо́к* 3, 17, 19, 25, 25а, 40, 53, 65, 66, 74, 77, 80, 86, 93, 95, 96а, 103, 128, 129, 132. *пуцо́к* 16. *пукі́* 2, 83.

*пу́цня* 1.

*жмут* 4, 10, 11, 26, 47, 48, 49а, 50, 60, 75, 79, 97, 118, 136, 140, *жмуты́* 31.

*вясло́* 111, 112. *вя́сла* 27, 43, 55, 78, 122.

*куль* 7, 81, 94, 101. *кулёк* 8.

*сноп* 102. *сныэ́п* 107.

*скру́так* 64. *скру́ткі* 52а, 72. *кру́так* 36.

*по́смык* 109. *па́смук* 134.

Адзінкавыя: *кружнікі́* 9. *мату́шка* 13. *но́шка* 28. *вірня́* 29. *луто́к* 89. *шу́шмо* 96. *ру́чка* 98. *бэрэ́мок* 113. *ве́шало* 114. *лу́цця* 121. *ключа́нка* 140.

## Карта № 276

### ВЯРОВАЧНЫЯ ЛАПЦІ

№ 1258 «Я. н. абутак, сплецены з вяровак: вераўчанікі, чуні, чухі...»

На карце пракартаграфаваны назвы даўнейшага абутку; які плёўся з пяньковых вяровак або з тоўстых нітак. Паказаны лексічныя і словаўтваральныя адрозненні назваў вераўчаных лапцей і абазначана перамяшчэнне націску ў некаторых формах. Як назва *ла́пці* картаграфуецца *ла́пцікі,* як назва *або́рнікі* — *бо́ркі,* як назва *чу́ні* картаграфуюцца *чу́йні, цю́ні* і *чуйні́.*

*чу́ні* 5, 7, 8 *(чунь).* 12, 16, 17, 25а, 34—36, 43, 64, 78, 79, 84—88, 98, 123—125, 128, 129, 136, 139 *(разінавыя бахілы),* 140 *(надзява́лі на ва́ленкі),* 141, 142 *(дзераўля́ныя).* *чу́нькі* 94 *(вяза́лі з то́ўстых ні́так у ха́ті чо́поті).* *чу́нықы* 131. *чу́йні* 82 *(чу́йнікі).*

*чуні́* 13, 38, 77, 95 (дзіцячыя тапачкі з нітак), 98, 107, 108, 132. *чуны́* 25 *(чун* — адз. л.).

*чухны́* 24 *(чухо́н* — адз. л.).

*ла́пці* 1, 3, 4, 6, 14, 15, 17, 21, 23 *(кнато́выя),* 24, 26, 27, 29—33, 37, 39, 40 *(пяньќо́выя),* 44, 55, 59, 60, 65, 66 *(сляпы́я),* 68, 69 *(вераўча́ныя),* 70, 71 *(вяро́вачныя),* 72 *(з вяро́вак),* 73, 74, 75 *(або́рашныя),* 76 *(віро́вачныя),* 80 *(з або́рак),* 81 *(або́рашныя),* 105 *(вераўча́ныя),* 110 *(з пра́жы рабілі),* 111, 116 *(вераўча́ныя),* 117, 118 *(вераўча́ныя),* 120 *(з канапе́ль, вераўча́ныя),* 122 *(із бо́р),* 129 *(або́рашныя),* 130, 142. *ла́пацъ* 83 *(вяро́ўчыстый),* *ла́пцікі* 56, 63. *ла́поткі* 102. *ла́пець* 129 *(вяро́вашны).*

*пасталы́* 121 *(або́рныя),* 126 *(вяраўча́ныя),* 127, 139 *(або́рныя),* 141, 142. *постолы́* *(з мотузі́в)* 95, 103.

*хадакі́* 50 *(хадаке́ вераўча́ныя).* *хадачкі́* 2, 18, 19 *(ніця́ныя).*

*або́рнікі* 81, 142. *бо́ркі* 87, 89.

*віраўча́нікі* 10, 11, 44.

*кнато́вікі* 57 (з пяньκі), 58.

Адзінкавыя: *барсні́* 28. *бэ́шмы* 48. *цю́пы* 51. *(цю́пкі шы́лі з сукна́ і веза́лі з гру́бых ні́так),* *ніця́нікі* 54. *канапля́нікі* 59 *(з канапля́най вяро́ўкі).* *курупк'е́* 98 (рэдк., з вяровак). *плецяні́* 100.

Адведзены ад картаграфавання: *папу́ці* 104 *(ту́флі з вяро́вак).* *чу́ні (рэзінавыя бахілы)* 139, 140, 142.

## Карта № 277

### СПІЧАК

№ 1262 «Я. н. завостраная палачка для падплятання лапцей: павірак, падвірак, кацатых, сучок...»

На карце паказана пашырэнне назваў спіцы, якой падплятáлі лапці. Адзначана змяненне націску ў слове падплятанка: *падплята́нка* і *падплéтанка.* Як назва *спіца* картаграфуюцца *спіка* і *шпіца́й,* як назва *спі́чка* — *шпы́чка,* як назва *по́дплетка* — *падплятка,* як назва *суга́к* — *суга́ч* і *куга́ч,* як назва *качаты́х* — *качады́х,* як назва *падве́рак* — *подві́рак* і *пуві́рак,* як назва *шва́йка* — *шыва́йка.* Адведзена назва *зано́за* — прылада, якая выкарыстоўвалася пры пляценні.

*спі́ца* 2, 7, 14, 59, 86, 101, 104. *сьпі́ца* 1, 5, 6, 9, 12, 23, 27, 43, 56 *(уця́гваць вало́кі),* 58, 64, 65 *(уця́гваць),* 83, 84, 88, 93, 94, 99, 102, 106, 107, 110, 113 *(заклада́ць у ву́шкі),* 114, 137. *спы́ца* 103, 132. *спэ́ця* 98. *спы́ця* 95, 131. *шпы́ца* 94а. *ісьпі́ца* 8. *спі́цы* 142 *(дзераўя́ныя).* *сьпі́ка* 100. *шпіца́й* 3.

*спі́цка* 13, 35. *сьпі́чка* 134. *шпы́чка* 108, 109. *спі́чкі* 133.

*сьпіца́к* 32, 56, 111, 112, 115. *спіча́к* 120. *сьпіча́к* 65, 81, 82.

*шпіна́к* 52.

*по́дплетка* 135. *по́дплітка* 80. *по́тплетка* 118. *по́тплятка* 68, 69, 71, 76, 77, 122, 127. *падпля́тка* 124.

*патплётка* 25, 25а, 28, 112.

*патпля́та́нка* 126. *патплі́та́нка* 29, 33, 38, 42. *пудплета́нка* 138. *патплі́та́на* 24.

*падпле́танка* 139, 142. *патпле́танка* 125. *потпле́танка* 72, 113, 125.

*по́плетка* 66. *по́плітка* 31, 74, 75. *паплю́тка* 141.

Адзінкавыя ўтварэнні ад таго ж кораня: *патпляце́нь* 4. *по́дпленка* 116. *пле́танка* 140. *патплётніца* 21.

*суга́к* 46, 79, 81, 87, 128, 129. *суга́ч* 44. *куга́ч* 89.

*кручо́к* 10, 11, 20, 22 *(вяза́лі папу́ці, ла́пці),* 26 *(плясці́ ла́пці),* 37, 57, 60, 67, 70, 121, 130.

*іглі́ца* 4, 6, 52а, 63.

*падві́рык* 85. *падве́рак* 47.

*паві́ра́к* 39. *пуві́ра́к* 40, 41.

*кычады́х* 16. *кычаты́х* 17. *кочаты́х* 96.

*шыва́йка* 117. *шва́йка* 129.

Адзінкавыя: *пыткалу́пка* 34. *падка́ланка* 36. *суга́к* 44. *куга́ч* 89. *клю́чка* 99.

Адведзены: *зано́зы* 94а. *зано́за* 107 *(два зано́зы в ву́шка),* 108, 109. *заны́з* 131 *(па́лачка).* *зано́зы* 133 (устаўляюцца ў час пляцення). *суно́зка* 136.

## Карта № 278

### АБОРЫ (у лапцях)

№ 1263 «Я. н. аборы да лапцей з пянькі, ільну: аборы; аборкі, валокі...»

На карце паказаны назвы абор (вераўчаных шнуроў для лапцей). Формы множнага і адзіночнага ліку картаграфаваліся адным знакам. Як назва *або́ры* картаграфуецца *або́ркі,* як назва *вало́кі* — *волоке́.*

*або́ры* 1—3, 5, 7—9, 12, 14, 16—23, 25—36, 38—42, 44—47, 49, 50, 52, 52а, 54, 55, 57—61, 63—69, 71, 72, 74, 76, 78, 83, 84, 111, 115, 116, 118—120, 124, 126, 127, 135, 140. *або́ркі* 4, 6, 10, 11, 24, 37, 43, 46, 48, 51, 70, 73, 75—77, 79—82, 84—89, 118, 121, 123, 125, 126, 128—130. *бо́ры* 122 (мн. лік). *або́ра* 13, 19, 20, 30, 41, 50, 58, 126, 135, 139, 141, 142. *обо́ра* 138. *або́рка* 121. *або́рачка* 2.

*або́рына* 7, 8.

*або́рсы* 49.

*вало́кі* 56, 62, 99, 100, 104, 105, 110, 111, 115, 137. *воло́кі* 93, 94, 101, 102, 106, 107, 113, 117, 136. *воло́ке* 112. *воло́кы* 90, 94а, 95—97, 103, 108, 109, 131—134. *воло́ке* 98, 114. *воло́ка* 90, 92, 94а, 95, 96, 102, 103, 113.

Адзінкавыя: *шнуркі́* 91.

## Карта № 279

## ПАШЫРЭННЕ СЛОВА *МЭШТЫ*

№ 1266 «У якім значэнні ўжываецца слова мэшты: плеценыя кручком лапці...»

Карта адлюстроўвае наяўнасць слова *мэшты,* якое абазначае тапкі з матэрыялу, а таксама плеценыя тапкі з нітак або вяровачак. У некаторых адказах указваецца, што *мэшты* абазначаюць абутак са скуры — туфлі і тапкі. У н. пп. 48 і 49 знак *(мэшты)* пастаўлены на аснове матэрыялаў СП-ЗБ (3, 19). Як назва *мэшты* картаграфуецца *мэкшты* і *мэшкі.*

*мэшты* 2 *(мэштачкі трапачныя шылі жыта жаць),* 3 (з сукна старога пашытыя), 6 *(як тапкі, са скуры і с сукна шылі мэшты),* 19 *(кнаты круцілі з ніцей і рабілі мэшты),* 20 *(тапці з сукна шылі),* 21 *(адразаныя ад ботаў перады — мэшты, мэчты).* 22 *(мэшты — лапцікі),* 23 *(з сукна нябошчыку абутак),* 24 *(туфлі з матэрыялу на гумовай падэшве, бразянтовыя мэшты* (м. і ж.), 25 *(мэкшты помняць, але які абутак не знаюць, магчыма, тапачкі),* 25а *(як цяпер тапкі),* 27 *(с тоняنькай кожы калісьці наногі адзявалі),* 45 *(хадакé з вяровачак),* 48 *(комнатнікі),* 49, 53 *(лёганькія бразянтовыя тухялькі, абувалі таму, хто паміраў),* 57 *(мэшцікі;* плеценыя, як лапці, з палосак сукна рознага колеру, для дзяцей і дарослых), 58 *(мэштачкі; тапачкі хатнія і купляюць на смерць).* 59 (плеценыя кручком лапці з вяровак, з аборак). 60 *(мэчты* — плеценыя кручком лапці). 65 *(мэшты вязалі кручком з вяровачак).* 18 *мэкшты (туфлі абыкнавеныя).* 52 *(мэкшты* — абутак вязаны з нітак). 93 *мэшкі* (з старога сукна, як цяпер тапкі).

Адсутнасць назвы: 1, 4, 5, 7, 8, 9, 10, 12, 13, 14, 15, 16, 17, 26, 28, 29, 30, 31, 32, 33, 34, 35, 36, 37, 38, 39, 40, 41, 42, 44, 46, 47, 50, 51, 55, 56, 62, 63, 64, 66, 67, 68, 69, 70, 71, 72, 73, 74, 75, 76, 77, 78, 79, 80, 81, 82, 83, 84, 85, 86, 87, 88, 89, 90, 91, 92, 94, 95, 96, 97, 98, 99, 100, 101, 102, 103, 104, 105, 106, 107, 108, 109, 110, 111, 112, 113, 114, 115, 116, 117, 118, 119, 120, 121, 122, 123, 124, 125, 127, 128, 129, 130, 131, 132, 133, 134, 135, 136, 137, 138, 139, 140, 141, 142.

## Карта № 280

## ПАШЫРЭННЕ СЛОВА *ВЫСТУПКІ*

№ 1267 «У якім значэнні ужываецца слова выступкі: тапкі, лёгкі жаночы абутак...»

На карце паказана пашырэнне слова выступкі — назвы хатняга лёгкага абутку і назвы абутку, адрэзанага ад чобатаў, ботаў. Не наносілася на карту назва *выхатцы* (н. п. 27), якая абазначае абутак «с кожы, лёхкія, яны ўсё адной формы: *мэшты і выхатцы».* Адным знакам картаграфуюцца: *выступкі. выступцы, уступкі.*

'лёгкі хатні абутак' *выступкі* 45 *(лёхкія, бяс пятак),* 46 *(дамашнія тапачкі),* 47 *(выступкі мае стапталіса),* 48, 49 *(тапкі),* 51 *(тапці с сукна шылі),* 53, 99 (жаночыя тапачкі), 104 *(шлёпанцы без пяткі). выступкы* 131 (тапкі). *віступкі* 138 (лёгкі жаночы абутак). *выступцы* 96а (лёгкі жаночы абутак).

'абутак, адрэзаны ад ботаў, чобатаў' *выступкі* 56 *(адрэжа халявы з ботаў — вот і выступкі),* 93 *(гэта, калі атрэзаныя халявы),* 94 *(абрэзкі з ботаў, валенкаў),* 99 (абрэзаныя боты), 105 *(абрэзаныя боты мо),* 90 *(одріже чоботы, халявы, зробыт выступки). выступцы* 91 (абутак з ботаў, без халяў). 103 *(выступцы* або *опоркы — як одрізана халява),* 109 *(в чоботях халявы обрізаны). выступці* 96 *(як поодрізають холявы од чобіт). выступок* 132 *(як постул старый, вже выкыдають).*

Адзінкавыя: *выступкі* 53 (мужчынскія туфлі). *уступкі* 19 *(тачылі з дзерава).*

Адсутнасць назвы: 2—6, 12, 13, 15, 17, 18—26, 28, 30—34, 36, 38—44, 50, 52, 54, 55, 57, 58, 60, 62—67, 70—74, 76, 79, 83, 87—89, 92, 95, 100—102, 106, 108, 110—112, 114—117, 120—123, 126, 130, 133, 135, 139—141.

## Карта № 281

## АБУТАК НА ДРАЎЛЯНАЙ ПАДЭШВЕ

Карта складзена на матэрыялах адказаў на пытанні Інструкцыі: 1265 (яно без літары А). «Я. н. абутак на драўлянай падэшве: абіякі, дзеравянікі, дзеравяшкі...» 1268 «У якім значэнні ўжываецца слова трэпы... б) абутак на драўлянай падэшве». 1269 «У якім значэнні ўжываюцца словы клемны, клембы, клумні: тапачкі з палатна...»

На карце адлюстраваны лексічныя варыянты назвы абутку на драўлянай падэшве. У некаторых пунктах указваецца, што гэта наогул драўляны абутак, аб чым зроблены заўвагі інфарматарамі і збіральнікамі. Усе такія заўвагі па матэрыялах пытання 1263 прыведзены ў спісе слоў да разглядаемай карты, а па матэрыялах пытанняў 1268 і 1269 іх можна знайсці паслядоўна ў індэксах да картаў № 282 і № 283. Там жа адлюстраваны нерэгулярныя фанетычныя і словаўтваральныя асаблівасці лексем. На дадзенай карце картаграфуюцца толькі карані слоў. Як *трэпы* картаграфуюцца *дрэпы* і *трэбы,* як *абіякі — абіячкі.* Адным знакам картаграфуюцца *клемны* і *клямныці.*

Адказы на спецыяльнае пытанне аб назве абутку на драўлянай падэшве № 1265 збіраліся не на ўсёй тэрыторыі, таму карта можа быць не поўнай. Акрамя таго, гэты абутак, магчыма, вядомы не на ўсёй тэрыторыі, як, напрыклад, ён невядомы ў Нясвіжскім раёне, аб чым паведаміла нам Г. У. Арашонкава.

№ 1265 *дзіравяшкі* 11. *дзірвяшкі* 8а. *дзяравяшкі* 60. *дзірівяшкі* 87. *дырывяшкы* 131. *дзеравянкі* 54 *(з заднікам). дзірвяннікі* 79. *дзірвянікі* 57. *дзераўянікі, дзераўянік* 4. *дзераванкі* 93.

*абіякі* 45. *абіячкі* 45.

*клемны* 45. *клёмны* 93 *(ад немцаў, вытачаныя).*

*калоткі* 8а, 26 *(на дзіраўяннай падошве).*

№ 1268 "У якім значэнні ўжываецца слова трэпы: б) абутак на драўлянай падэшве".

*дзеравяшкі* 9, 69, 124, 128. *дзеравяшка* 29, 123. *дзіравяшкі* 10. *дзіравяшкі* 50, 55. *дзірвяшкі* 82, 84. *дырыв'яшкі* 90 *(у час вайны былі),* 103. *дэрэв'яшкы* 108 *(мала було). дэрэвляшке* 98. *дзераўяшкі* 127. *дзеравянікі* 48, 57, 59, 68. *дзеравянікі* 63, 64. *дзеравяннікі* 7, 71. *дзеревяннікі* 14. *дзірвяннікі* 34, 49а. *дзеревянкі* 86. *дырывянкы* 95.

*калодкі* 28, 84. *калоткі* 9, 26, 35. *колодкы* 109 *(увэсь дэрэв'яный).*

*трэбы* 19, 58. *тропы* 52а—54, 66, 75, 91, 94, 94а. *дрэпы* 67. *трэпкі* 20, 59. *трэп(ф)лі* 113.

*абіякі* 46, 49, 51, 52а.

№ 1269 "У якім значэнні ўжываюцца словы клемны, кломбы, клумні: тапачкі з палатна..."

*абіякі* 45, 52а. *абіячкі* 45. *біякі* 46.

*клумбы* 5, 16, 21, 57, 73, 79. *клюмбы* 22. *ккломбы* 6. *клембы* 6. *клумпі* 19, 20, 52. *клюмпы* 111.

*клемны* 45. *клёмны* 100. *клямныці* 100.

Адзінкавыя: *боты на дзеравянным хаду* 8. *пантоплі* 17. *туплі на дзерэвяннай калодцы* 36. *стукалкі* 37. *дзіліндзік* 80.

На падставе матэрыялаў СП-ЗБ знак пастаўлен у наступных пунктах: *дзеравяшкі* 1. *дзераўлянкі* 3. *абіякі* 22. *аблякі* 49а. *клумбы* 2. *клумпі* 49. *трэпы* 49а. (1, *34;* 2, *44, 67, 479—480;* 5, *142.*).

Адсутнасць назвы: 1, 2, 3, 12, 13, 15, 18, 23, 24, 25, 25а, 30, 31, 32, 33, 38, 39, 40, 41, 42, 43, 44, 47, 56, 61, 62, 65, 70, 72, 74, 76, 77, 78, 81, 83, 85, 88, 89, 92, 96, 99, 101, 102, 104, 105, 106, 107, 110, 112, 114, 115, 116, 117, 118, 119, 120, 120а, 121, 122, 125, 126, 128, 129, 130, 132, 133, 134, 135, 136, 137, 138, 139, 140, 141, 142.

## Карта № 282

## *ТРЭПЫ* (значэнне слова)

№ 1268 «У якім значэнні ўжываецца слова трэпы: а) абутак з матэрыялу, б) абутак на драўлянай падэшве, в) паношаны абутак...»

На карце паказана значэнне лексемы *трэпы* і яе словаўтваральных і фанетычных варыянтаў. Як відаць з матэрыялаў 66 і 94а пунктаў, лексема *трэпы* вядома, аднак рэалія, магчыма, не бытуе тут. Адказ у 47 п. не картаграфуецца, таму што няяснае яго значэнне.

## Карта № 325

## БОНДА (значэнне слова)

№ 1985 «У якім значэнні ўжываецца слова бонда: а) булачка з пшанічнай мукі, б) булка з сумесі рознай мукі, в) печыва з бульбы і мукі, г) кавалак свежаніны, што даюць суседзям, д) пасажная жывёла...»

Картаграфуецца значэнне слова бонда. Як *бо́нда* картаграфуецца назва *бо́ндачка* 'маленькая каўбаска'.

'печыва з хлебнага кіслага ці прэснага цеста з дамешкай ці без дамешкі бульбы': *бо́нда* 3 (спечаны на патэльні праснак з хлебнага цеста). 4 (булка хлеба), 19 (вялікая булка квашанага хлеба), 20 (вялікая булка хлеба), 22 (печыва з бульбы і мукі), 23 (піражок з прываркoвай мукі з бульбы цёртай), 27 *(не́калі ма́ці каза́ла: варэ́нікі, як бо́нда)*, 45 (свежы хлеб толькі што з печы: *паспрабу́й све́жай бо́нды!*), 46 (печыва з хлебнага цеста: *калі застане́цца це́ста тро́хі, то пяку́ць бо́нды*), 47 (круглая булка: *зніма́й бо́нду, бо падгары́ць*), 48 (булка з пшанічнай мукі: *у нас бо́нды на свя́ты пяку́ць, ды пяклі на прэ́нткую руку́ на ае́ры, на скаварадзе́, це́ста з дзежу́і (бралі; пяклі і так: це́рлі карто́шку, сыпалі грачы́шную муку́ цёрты мак і пяклі бо́нду.* 50 (булка з пшанічнай мукі: *бо́нду спякла́*). 51 *бо́нда — пяклі з хлебнага цеста, плоска, грубе́й, як па́лец, а велічыне́й — на цэ́лую лапа́ту; бо́нда і з пшанічнай мукі.* 52 (вялікая булка хлеба), 52а (печыва з бульбы і мукі), 53 (печыва з мукі), 54 (булка, пірог), 55 *(як чалаве́к памрэ́, трэ́ба пячы́ бо́нду і лама́ць рука́мі — называюць лама́нцы)*, 55 (булка хлеба), 56 *(бо́нда пякла́ся з аржано́й мукі, со́ды сыпалі, падсало́джвалі, маглі даба́віць грэ́цкай мукі, кла́лі дро́жджы, патхо́дзіць, дабаўля́лі і карто́флі, на памінкі бо́нды пяклі)*, 57 *(бо́нды пяклі с карто́шкі, с пшанічнай мукі; карто́шку ва́раць, сцэ́джваюць, сы́пюць мукі, кладу́ць дро́жджы, патхо́дзіць)*. 62 (печыва з бульбы і ячменнай мукі, печаныя на содзе, пяклі на патэльні ў печы), 75 (тоўсты блін з дранай бульбы, спечаны на капусным лісце), 99 (ляпёшка з хлебнага цеста для дзяцей, бонды пякуць з хлебнага цеста на памінкі), 104 (булка з пшанічнай мукі ці з жытняй, з закваскай, без драджэй, як хлеб — называецца бо́нда; бонда — булка з грэцкай мукі або з сумесі рознай мукі, пяклі бедныя людзі; бонда — печыва з бульбы і мукі: *напяклі бо́ндаў).* *бо́ндачка* 4 (булачкі з мукі: *бо́ндачкі калісь пяклі*), 5 (маленькая булачка з хлебнага цеста), 8 (маленькая булачка з хлебнага цеста), 18 (маленькая булачка з астаткаў хлебнага цеста, якую пяклі для пастуха, у сярэдзіну маглі пакласці яйцо і запячы), 21 (так звалі перапечкі з дранай бульбы), 50, 52 (булачка з пшанічнай мукі), 93 (булачка з рознай мукі: *спэкла́ бо́ндычку для малы́х*), 100 *(мале́нькі хлеп, мале́нькая булачка)*, 101 *(бу́лачка небальшая́, к пра́зніку пеклі з бе́лое мукі)*.

'маленькая каўбаска': *бо́нда* 11 (маленькая каўбаска), 24 (невялікая каўбаса), *бо́ндачка* 10 (маленькая каўбаска для дзяцей), 25а (маленькая каўбаска: *ро́бяць кілба́сы, астае́цца кішачка мале́нькая, ро́бяць каўба́ску і дзяце́й частава́лі: дава́лі па бо́ндаццы)*.

'невялікі ўчастак зямлі, які адпрацоўваўся ў сваю карысць': *бо́нда* 5 (агарод на раннюю гародніну, які даваў найміту гаспадар), 8 (прыбытак з участка зямлі. *Узара́ў ка́менку і пасе́яў лён — гэ́та яго бо́нда)*, 24, 25а *(бо́нда — шасцяры́к зямлі)*.

'збіраць грошы, нажываць багацце': *бо́нда* 1 *(гаво́рацьх: накла́сці, скла́сці ў бо́нду, гро́шы ў бо́нду склада́лі, паку́ль мы́шы не з'ядуць. «А што яго ў бо́нду слась! У бо́нду так накла́джана бага́тства, яго бо́нда расце́ць).* 2 *(ён бо́нды дзе́лаіць: у людзе́й накрадзе́ць: бо́нду зла́дзіць сабе́ ціханька. Бо́нду склада́іць, бо́нду назбіра́ла гро́шы)*, 5 (грошы, якія збірае асобна сабе чалавек).

'пасажная жывёла': *бо́нды* 94 (пасажная жывёліна: карова, авечка, свіння і інш.), 95 (пасажная жывёла), 102 (пасажная жывёла), 103 (пасажная жывёла), 107 (пасажная карова і іншыя жывёла: *одда́лі дочку́ за́муж і да́лі ёй бо́нду — овэ́чку, коро́ву, сьві́ньню)*, *бонд* 94а *бонд — пры́даная тэлу́шка, бо́ндіна* 54 (пасага).

Іншыя значэнні: 124 (кавалак свежаніны, што даюць суседзям), 131 (здаровая жанчына).

## Карта № 326

## *ПАЛЯНІЦА, АПАЛКА* (значэнне слоў)

№ 1987 «Якое печыва абазначае слова апалька, паляніца?»

У адказах на гэта пытанне прыводзіцца аднакарэннае з паляніцай слова апалка, якое абазначае таксама 'печыва з хлебнага цеста'. Як *апа́лка* картаграфуецца *апа́лька* і *апа́лыш.* Пашырэнне слова *апа́лка* наносіцца на карту асобным знакам. У н. п. 111 знак *(паляні́ца)* пасстаўлены на аснове матэрыялаў СП-ЗБ (3, 1982).

'печыва з хлебнага цеста': *паляні́ца* 75 (хлеб-паляніца, з дзіцячай лічылкі), 76 *(кру́глая кілі́да хле́ба з пшанічнай мукі про́стага пamо́лу; пяку́ць пры атпра́ве па пако́йніку)*, 77 *(паляніцы пяклі: усё пе́чыва — бу́лак шэсь, усё перакача́ем у муку́ і паляніцамі заву́ць, к свя́ту)*, 79 *(хлябіна така́я)*, 82 *(у муку́ кача́ны хлеб, які́ ящчэ́ падыхо́дзіць на сталé)*, 111 (печыва з мукі). 114 (печыва), 118 *(кулі́тка, пакача́ная ў муку́)*, 122 (печыва круглай формы, качаюць у муцэ), 124 *кача́ны хлеб у муцэ́)*, 127 *(хлеб, які падхо́дзіць у бу́лках на сталé і абкача́ваецца ў муку́ пе́рад садзэ́ннем у печ; пяку́ць яго́ пе́рад дзяда́мі)*, 128 *(бу́лка хле́ба, дадатко́ва падыхо́дзіць на ска́церцы, у муцэ́ і на падушцы пе́рад саджэ́ннем у печ)*, 129 *(мале́нькая бу́лачка з пшані́чнай мукі)*, 130 (булка з пшанічнай мукі), 137 *(бу́лка хле́ба, выкачаная ў муцэ́, невялі́ка бо́ханка)*, 139 *(невялі́кая кулі́тка хле́ба)*, 140 *(паляні́ца — як скаварада́)*, 141 *(паляні́цу хле́ба спякла́)*, 142 *(паляні́ца — гаво́рацьна хлеб). палені́ца* 126 *(бу́лка, абкача́ная ў муцэ́ пе́рад пячэ́ннем. Калі́сь, як чалаве́к памрэ́, тады́ трэ́ба пе́кці палені́цы)*, 134 *(палёнка; пяку́ць з це́ста кі́слага пшані́чнага і жы́тняе мукі, бярэ́ це́ста руко́й)*, 135 *(пе́чыва з мукі)*, 138 (печыва з кіслага цеста). *пыляні́ца* 85 (булка з мукі), 87 (булка з пшанічнай мукі), *паляны́ца* 103 *(ні́екый корж;* трад.). *паляны́ця* 91 (печыва з мукі — са слоў Ф. Д. Клімчука), 95 *(вы́йілы паляны́ці до са́мыйі дны́ці —* у пагаворцы). *поляні́ца* 92 (мучное печыва), 131 *(палі́нка, палюнкэ́; мя́ккае це́ста, абкача́нае муко́ю)*. *паляні́чка* 123 *(як памрэ́ць хто, паляні́чкі пяку́ць)*. *паля́ночка* 98.

*апа́лка* 47 (запечаны хлеб), 53, 54 (печыва з хлебнага кіслага цеста). *апа́лька* 60 (печыва з хлебнага цеста з пшанічнай мукі, з бульбы і мукі). *апа́лыш* 16 (печыва з кіслага цеста, якое пякуць на агні, на скаварадзе).

'паляндвіца': *паляні́ца* 101 *(з кабана́ вырэ́зваецца о́коло хрэбе́та, яе апека́лі)*, 133 (паласа сала, мяса са спіны).

'каўбаса': *паляні́ца* 105 *(ад сьпіны́ сьві́ньні адрэ́жам м'я́са, упіхне́м у кі́шку, заўя́жам і сушыш каўбасу)*.

Адсутнасць слоў: 1—30, 32—52, 55—62, 64—74, 78, 80, 81, 83, 84, 86, 88—90, 93, 94, 96, 97, 99—104, 106—110, 112—118, 120, 121, 125, 132, 138.

## Карта № 327

## СЫРАДОЙ

№ 1996 «Я. н. толькі што надоенае малако: сырадой, свежае малако...»

Картаграфуюцца назвы сырадою. Паказаны лексічныя адрозненні. Назвы *млека с-пат каро́вы, с-пут тэлу́шкэ мулуко́, от коро́вы молоко́* картаграфуюцца як *малако́ с-пад каро́вы.*

*сырадо́й* 5—8, 9—11, 15, 17, 19, 22, 23, 25—36, 39—44, 49, 49а, 57, 59—61, 63—69, 71, 72, 75—83, 85, 86, 88, 89, 104, 105, 110—112, 114—116, 118—121, 125, 130, 135, 139, 142. *сыродо́й* 117, 122, 133, 134, 136, 138, 140, 141. *сарадо́й* 1, 2, 70. *сърадо́й* 8а, 13, 14, 37. *сіродо́й* 113. *сурадо́й* 12, 73, 84, 87.

*све́жае малако́* 21, 29, 45, 46, 51, 54, 93, 99, 104, 128, 141. *све́жая малако́* 2, 4, 6, 19 (цяп.), 20, 24, 25, 52, 58, 59, 77 (трад.), 88, 122, 123. *све́жыя мылако́* 83, 87. *све́жэе молоко́* 137. *све́жа малако́* 18, 49, 49а, 52а, 53, 100. *све́жа молоко́* 102. *све́жо малако́* 47, 50, 55, 62. *све́жо молоко́* 106. *све́жэ молоко́* 94, 101, 102. *свэ́жа молоко́* 97. *све́жэ молоко́* 94, 101, 102. *свэ́жа молоко́* 97. *свэ́жэ молоко́* 107. *сві́жэ молоко́* 90—92, 94а—96а, 103, 108, 109, 131. *сві́жэ мулуко́* 98.

*парно́е малако́* 17, 36, 86. *парно́е молоко́* 137. *парно́я малако́* 124, 129. *парно́я мылако́* 16, 75.

*цёплая малако́* 52, 75. *цёпла малако́* 45. 48. *цёпла молоко́* 102. *цёпло малако́* 56. *цёплэ молоко́* 107.
*малако́ с-пат каро́вы* 50, 55. *с-пуд коро́вы молоко́* 109. *мле́ка с-пад каро́вы* 3. *с-пут тэлу́шкэ мулуко́* 93. *от коро́вы молоко́* 94, 95, 103. *од коро́вы молоко́* 132.
Адзінкавыя: *сурада́* 38. *сырав́оё малако́* 62.

### Карта № 328

## МАСЛЁНКА

№ 2009 «Я. н. маслёнка: маслёнка, маслянка, пахта, скалоцены, скалоцвіны...»
Картаграфуюцца назвы маслёнкі. Паказаны лексіка-марфалагічныя і некаторыя фанетычныя адрозненні. Акцэнталагічныя асаблівасці не бяруцца пад увагу. Назвы ў адзіночным і множным ліку картаграфуюцца адным і тым жа знакам. Найменне *пытсмя́ціння* картаграфуецца як *пацсме́ціны.*
*масля́нка* 2—4, 6, 8, 9—11, 17—20, 22—29, 31, 36, 37, 45—56, 58, 59, 62, 69, 74, 75, 77, 90, 92—96а, 99—106, 108, 109, 111, 113, 114, 115, 117, 119—121, 123, 124, 127, 132, 135—142. *масле́нка* 98, 131. *мосля́нка* 107. *мъсля́нка* 5, 8а, 15, 33, 34, 39. *мысля́нка* 32, 35, 87.
*ма́сленіца* 126.
*маслёнка* 21, 57, 59—61, 63—68, 70—72, 76, 80, 83, 85, 110—112, 115, 118, 122, 125, 133, 134.
*скало́ціны* 1, 7, 13, 21, 30, 40—42, 68, 73, 88. *скало́ціна* 35, 36, 80, 81, 88.
*скало́цвіны* 38, 44, 79, 83, 84, 86, 89. *скало́цвіна* 43, 78, 82, 85, 128—130.
Адзінкавыя ўтварэнні ад таго ж кораня: *скылыця́нка* 44. *скало́чанка, скало́дка* 123. *бія́нка* 91. *б'я́нка* 93. *быенка* 97.
*пахта́* 14, 142 (рэдк.). *пыхта́* 83, 139. *па́хта* (нов.) 16.
*пацсме́ціны* 12. *пытсмя́ціння* 16.
Адзінкавыя: *злі́йкі* 73.

### Карта № 329

## ПЕНКА

№ 2000 «Я. н. зарумянены вяршок малака пры кіпячэнні ў печы: пенка, плеўка...»
Картаграфуюцца назвы пенкі (пры кіпячэнні малака). На карце паказаны лексічныя і словаўтваральныя адрозненні. Назва *пе́на* картаграфуецца як *пе́нка, прыга́ра* — як *прыга́рка, пыга́ра* — як *пага́рка.*
*плёўка* 18, 19, 23, 27, 29, 30, 37, 38, 46, 48, 49а—52а, 55, 56, 58, 60, 62—65, 67, 69, 71—78, 80, 81, 93, 94, 100, 102, 104—107, 110—112, 116—119, 120а—122, 124, 127, 129, 130, 134—142, *пле́вка* 113. *плёўка* 120, 126. *плі́ўка* 96а, 114, 131. *плі́вка* 108, 132.
*пе́нка* 1—3, 5—17, 21, 22, 24—26, 28, 31—36, 39—45, 49, 61, 79, 82—89, 99, 123, 125, 128, 129. *пе́на* 70.
*плёнка* 4. *плёнка* 47.
*прыга́рка* 54, 97, 103, 108, 109, 132. *прыга́ра* 94а.
*пага́рка* 90. *піга́рка* 101, 112. *пыга́рка* 95, 96. *пэга́рка* 94. *пыга́ра* 91.
*шку́рка* 66, 68, 73, 92, 98, 109, 116, 133. *ску́рка* 57, 59.
Адзінкавыя: *кажушо́к* 20. *слі́ўка* (нов.) 94. *шкару́пка* 53. *шкура́пка* 115.

### Карта № 330

## СЫРАКВАША

2007 «Я. н. кіслае малако: прастакваша, сыракваша, кіслае малако...»
Картаграфуюцца назвы сыраквашы. Паказаны лексіка-марфалагічныя адрозненні. Назва *ква́сная мле́ка* картаграфуецца як *ква́сная малако́.*
*кі́слае малако́* 21, 23, 28, 46, 48, 51, 57, 77, 80, 93, 104, 112, 115, 117, 127, 139, 141, 142. *кі́слае молоко́* 137. *кі́слаё малако́* 60, 61. *кі́слое молоко́* 92, 134, 140. *кі́слэе малако́* 135. *кі́слэе молоко́* 94, 113, 138. *кы́слое молоко́* 96а. *кы́слэе молоко́* 132. *кі́слая малако́* 6, 8, 10, 18, 19, 20, 24, 25, 26, 27, 29, 35, 40, 52, 58, 59, 63—67, 69, 75, 76, 88, 122, 130. *кі́слъя мълако́* 8а. *кі́слыя мылако́* 79, 83, 87. *кі́сла малако́* 49, 49а, 54, 100, 105, 110, 111. *кі́сла молоко́* 133. *кі́сло малако́* 47, 50, 53, 55, 56, 62. *кі́слэ молоко́* 101, 102, 106, 107, 114, 136. *кы́сло молоко́* 97. *кы́слэ молоко́* 90, 94а—96, 103, 108, 109, 131. *кэ́слэ мулуко́* 98.
*кісля́к* 3, 21, 75, 91, 116, 137, 140.
*ква́сная малако́* 19. *ква́сная мле́ка* 20. *ква́сна малако́* 52а. *ква́снэ молоко́* 102, 114.
*ква́шанае малако́* 66. *ква́шъньe мълъко́* 86. *ква́шаная малако́* 22. *ква́шана малако́* 45. *ква́шэнэ молоко́* 102.
*сыраква́ша* 8, 10, 25а, 28, 30, 31, 36, 38, 41, 69, 70, 75—77, 80, 83, 88, 118—121, 123, 124, 126, 127, 129, 130, 141 (найбольш), 142. *сырква́ша* 39. *съръкква́ша* 5, 8а, 15, 32—34. *сыръкква́ша* 86. *сырыкква́ша* 7, 16, 29, 35, 40, 42—44, 78, 79, 84, 85, 87, 89. *сараква́ша* 1, 2, 6, 81, 82, 125, 128.
*сыркава́ша* 37, 123.
*сыро́кваш* 68, 72.
*прастаква́ша* 4, 11, 17, 71, 73, 75, 81, 99, 112, 139, 141. *пръстаква́ша* 9. *прыстыква́ша* 29, 35, 40, 83—85.
*сырапе́ня* 12, 14, 39. *съранпе́ня* 13.
Адзінкавыя ўтварэнні ад таго ж кораня: *сырапо́нка* 75.
*самакі́ша* 73, 74.
Адзінкавыя: *се́данэ молоко́* 114.

### Карта № 331

## АДТАПІЦЬ (кіслае малако)

№ 2011 «Аб спосабе прыгатавання тварагу: кіслае малако трэба ў печы адтапіць, адагрэць, ствaражыць...»
Картаграфуюцца назвы спосабу прыгатавання тварагу. Паказаны лексічныя адрозненні.
*адтапі́ць* 28, 31, 36, 37, 47, 48, 67, 104, 115, 119—123, 126, 127, 130, 133, 139, 141, 142. *одтапі́ць* 136. *одтопі́ць* 107, 138. *одтопі́ть* 134. *аттапі́ць* 6, 7, 8а, 12, 15—17, 19, 20, 22, 27, 29, 30, 32—35, 38—44, 46, 49—51, 52а—66, 68—89, 99, 100, 105, 110—112, 118, 124, 125, 127—129, 135. *оттапі́ць* 137. *оттопі́ць* 113, 114, 117, 140. *аттапі́ць* 93. *оттопі́ці* 94. *оттопы́ты* 94а—97, 103, 108, 109, 131, 132. *і́ттупэ́тэ* 98.
*адагрэ́ць* 8, 14, 18, 25, 26, 45, 52, 59, 116. *одогрэ́ць* 106. *одогрэ́ть* 101, 102. *одагрэ́ці* 92. *одогрі́ты* 90, 96. *одогры́ты* 91. *атагрэ́ць* 1—4, 8а, 10, 11, 24. *атагре́ць* 5, 9, 13, 21.

### Карта № 332

## СЫРОВАТКА

№ 2013 «Я. н. сыроватка: сыроватка, сыраватка...»
Картаграфуюцца назвы сыроваткі. Паказаны акцэнталагічныя і некаторыя фанетычныя адрозненні.
*сыро́ватка* 20, 26, 27, 32, 46—51, 52а—72, 75—77, 82, 90—92, 94—97, 99, 100, 102—105, 107—112, 115—126, 131—127, 139. *сиро́ватка* 98. *сыро́вотка* 138. *сырэ́ватка* 101.
*сыро́вадка* 80, 106, 114, 127—130, 141, 142. *сыро́водка* 140.
*сырава́тка* 2, 8, 10, 11, 20, 28—31, 33, 45. *сарава́тка* 1, 4. *сырыва́тка* 7, 34, 35. *сыръва́тка* 73. *съръва́тка* 9. *съръва́тка* 5, 8а, 13, 15. *сырва́тка* 18, 74. *сърва́тка* 37.
*сырыва́дка* 78, 85.
*сыраватка* 3, 36, 52. *сырывытка* 35, 40, 88. *сыръвътка* 41. *сырватка* 14, 22.
*сываратка* 6, 17, 19, 21, 23—25а, 38. *сывъръткa* 12. *сывыръткa* 39. *сывыратка* 88. *сывырытка* 42, 87, 89. *сыўрытка* 16, 83.
*сывaрадка* 81. *сывырыдка* 44, 79. *сыўрадка* 86. *сыўрыдка* 43, 84, 85.
Адзінкавыя: *сыро́дайка* 93.

## Карта № 333

# НЯТЛУСТАЕ МЯСА

№ 2028 «Я. н. нятлустае мяса: любовае, любівае...»
Картаграфуюцца прыметнікі, якія ўжываюцца для назваў нятлустага мяса. Але ў шэрагу пунктаў маюцца і назоўнікавыя ўтварэнні. Яны таксама падаюцца тут. Назва *любáвае* картаграфуецца як *любóвае, лібіва* — як *любівае, любóвінка, любаві-на, любавізна* — як *любóвіна*.
*любóвае* 9, 14, 17, 21, 28, 32, 36, 57, 65, 86, 123, 125, 128, 129. *любóваё* 33. *любóвъё* 34. *любóвая* 1, 2, 4, 6—8, 10, 11, 19, 20, 22, 24—27, 29, 30, 63, 64, 68, 69, 75, 80—82. *любóвъя* 5, 8а, 12, 13, 15, 39. *любóвыя* 16, 35, 40—44, 78, 83—85, 87, 89. *любáвае* 23.
*любівае* 45, 51, 53, 54, 58, 62, 71, 104. *любіваё* 60, 61. *любівая* 59, 67, 77, 105. *любіва* 46, 48, 49а, *лібіва* 52а. *любіво* 47, 50. *любівэ* 93. *любыва* 96. *любывэ* 90, 92, 95, 131. *любэ́вэ* 98.
*люблівае* 100. *люблíво* 56, 99. *люблівэ* 94, 94а, 101, 102. *люблывэ* 103.
*любімая* 66, 127. *любімо* 55. *любімае* 111.
*любóвіна* 14, 123. *любóвінка* 44. *любавіна* 10, 11, 28. *любавізна* 8а, 57, 59.
*рыжае* 116, 120, 120а, 141. *рыжаё* 115. *рыжая* 67, 70, 76, 118, 119, 124. *рыжа* 110.
*няжырнае* 31, 142. *нежырнае* 122. *няжырная* 121. *нэжырное* 97. *нежірнэе* 113. *не-жырно* 117. *нежырнэ* 106, 135, 136. *ныжірнэ* 96а. *нэжырнэ* 109.
*худóе* 74, 91, 112, 113. *худóя* 2, 3, 18, 49, 52, 54, 58, 70, 72, 121. *худэ́е* 108. *худэ́* 133, 136.
*крутóе* 117. *крутэ́е* 134, 135. *крутэ́* 114, 138, 140. *крутóе мйáсо* 137
*пóснае* 126, 130. *пóсныя* 84.
*лыкавáтэ* 107, 108, 132.
*нятлýстае* 142. *нытлýстэ* 103. *нэтлýстэ* 109.
*крыплая* 38. *крыплоё* 37.
Адзінкавыя: *тóшчая* 7. *любяціна* 32. *любяк* 53. *чырвóнае* 54. *любуваціна* 79. *любіз-на* 80. *любінка* 87. *дзялянка* 99. *лыковізна* 107. *рыжóвіна* 115. *любóя, любавóя* 129.

## Карта № 334

# ТЛУСТАЕ МЯСА

№ 2030 «Я. н. жырнае мяса: сытае, тлустае, жырнае...»
Картаграфуюцца назвы жырнага мяса. Паказаны лексічныя адрозненні. Лексема *сытóя* картаграфуецца як *сытае, тлустóе* — як *тлýстае, клустóе* — як *клýстае*.
*жырнае* 9, 14, 21, 28, 31, 36, 54, 71, 73, 86, 112, 116, 120, 123, 125, 126, 128, 130, 139, 141, 142. *жырнае* 37, 61, 62. *жырное* 140. *жырнóё* 33. *жырнъё* 34. *жірнэе* 113. *жырная* 1, 4, 7, 8, 10, 11, 29, 38, 59, 66—68, 70, 75, 80—82, 88. *жырнъя* 8а, 15, 39. *жырныя* 12, 13, 16, 32, 35, 40—44, 78, 79, 83—85, 87, 89. *жырна* 74, 121, *жырнэ* 90, 94—96, 102, 106—109, 131, 132, 135.
*сытае* 17, 23, 51, 54, 57, 100—112, 117, 120, 120а, 125, 139, 141. *сытое* 134, 137, 140. *сытаё* 53, 60, 99. *сытая* 19, 25а—27, 52а, 63—65, 69, 72, 76, 77, 118, 119, 122, 124, 127. *сытыя* 41. *сытэе* 132. *сыта* 48—49а, 104, 105. *сыто* 47, 50, 55, 56, 110, 115. *сытэ* 93, 101, 114, 135, 136, 138. *сытóя* 30, 129.
*тлýстае* 54, 58, 141, 142. *тлýстое* 92, 96а. *тлýстэе* 113. *тлýстая* 4, 7, 18, 20, 22, 52, 59. *тлýстыя* 35. *тлýста* 45, 46. *тлýстэ* 90, 91, 94—96, 97, 98, 102, 103, 107—109, 132. *тлустóя* 5.
*клýстае* 100. *клýстая* 20, 24, 25. *клустóе* 28. *клустóя* 2, 3, 6.
Адзінкавыя: *тýчная* 5. *тлушчáвыя* 83.

## Карта № 335

# ХУДОЕ МЯСА

№ 2031 «Я. н. худое мяса (без тлушчу): тошчае, худое...»
Картаграфуюцца назвы худога мяса. Паказаны лексічныя адрозненні. Назва *люблівэ* картаграфуецца як *любівае*.
*худóе* 17, 21, 23, 28, 36, 46, 47, 50, 51, 62, 71, 74, 90—92, 94, 96—98, 100, 102, 104, 111, 112, 116, 117, 120, 123, 126, 134, 139, 141, 142. *худóё* 33, 34, 48, 55, 56, 60, 61, 99, 115. *худóя* 2—8, 10—12, 15, 18—20, 22, 24—26, 30, 35, 38—40, 42, 44, 45, 49, 49а, 52, 52а, 54, 57—59, 63—68, 70, 72, 73, 76, 79—82, 83—85, 87—89, 105, 110, 118, 119, 121, 122, 127. *худэ́е* 93, 101, 106—108, 135, 140. *худэ́* 107, 131, 136, 138.
*пóснае* 9, 14, 31, 130. *пóсное* 128. *пóсная* 1, 8а, 15, 29, 75, 77, 129. *пóснъя* 13. *пóсныя* 16, 32, 78.
*тóшчае* 86, 111, 125. *тóшчая* 7, 41, 80, 83. *тóшчыя* 35, 43. *тóшчэ* 107.
*сухóе* 95, 96, 103. *сухóё* 53. *сухэ́е* 94а, 113. *сухэ́* 109.
*няжырнае* 31, 125. *няжырная* 10. *няжырныя* 79, 84.
*нясытае* 120а. *несытае* 122. *несытое* 137.
*сіняя* 75, 82, 124. *сінее* 135.
*рыжае* 141. *рыжая* 69, 76, 110. *ріжае* 120.
*крыплая* 38. *крыплоё* 37.
*пустóя* 52а. *пустэ́е* 132.
*любóвае* 14. *любóвая* 1, 27. *любэ́вэ* 98.
*любівая* 58. *любіваё* 60. *любіво* 46, 47. *люблівэ* 94а. *люблывэ* 103.
Адзінкавыя: *дохожáлэе* 101. *крутэ́(е)* 114. *нішчымное* 134.

## Карта № 336

# ВЯЛІКІ КУСОК САЛА

№ 2032 «Я. н. вялікі кусок сала: аполец, полць, полаць...» Картаграфуюцца назвы вялікага куска сала. Паказаны лексіка-словаўтваральныя адрозненні. Назвы *польць, полсць, пельц, пілт, пульть* картаграфуюцца як *полць, шрат, шраты* — як *шрот, шпырык, кусóк шпэ́ркэ* — як *шпырка, скіпка* — як *скіба, кáвал* — як *кавáлак*.
*пóлец* 45, 46, 51, 93, *пóляц* 19, 20, 99. *пóлаць* 4.
*апóлец* 49а, 61. *апóляц* 50, 52а, 53, 54, 55, 56, 60.
*апóлак* 49а, 62. *опылок* 91. *упілок* 92.
*полць* 4, 8, 18, 58. *польць* 52. *пôльть* 94а. *полсць* 6, 25. *пельц* 107. *пі*^ю^*лт* 103. *пі*^ю^*лть* 90. *пульт* 132. *пульть* 94а, 132. *пільт* 108.
*пóлцыя* 9, 21, 25а. *пóлція* 8а.
*шрот* 118, 128. *шырóт* 124. *шрат* 129. *шраты* 141.
*скіцёр* 74—76.
*шпырка* 131. *шпырык* 35. *кусóк шпэ́ркэ* 98.
*скіба* 14, 17. *скіпка* 12, 16.
*пласт* 119, 120а, 121, 124, 127, 139.
*плітá* 107, 135.
*крóшка* 37, 123.
*кусóк* 1—3, 7, 10, 11, 15, 21, 24, 26—34, 36, 38, 40, 42, 43, 49, 57, 65, 66, 68—70, 72, 73, 78—80, 82—85, 87, 89, 95—98, 100—102, 104, 106, 109, 111—113, 115—120а, 125—127, 130, 131, 134—136, 138, 140, 142.
*кавáлак* 21—23, 48, 49, 54, 59, 63, 71, 81, 105, 110. *ковáлок* 102. *кывáлак* 7. *къвáлък* 5.
*полосá* 114, 122. *пълъсá* 13. *пылысá* 44. *полóса сáла* 137.
*крух* 15, 118.
Адзінкавыя: *бýрвал* 47. *плáха* 64. *ушвáрка* 77. *дзёрн* 86. *брус* 94, *на цілу лáгвыцю* 98. *скварóчак* 120. *сцяжка* 133.

## Карта № 337

# ПАДЧАРЭЎЕ

№ 2035 «Я. н. сала з ніжняй часткі свіной тушы: падчаровак, падбруссе, падбрушша...»
Картаграфуюцца назвы падчарэўя. Паказаны лексіка-словаўтваральныя адрозненні. Назва *падбрýжжа* картаграфуецца як *падбрýшша, падбрýссе* — як *пад-*

*брýся, падбрю́жына* — як *падбрýшына, спатпýззя* — як *патпýззя, пóтчаравак* — як *падчарóвак, путчырóвына* — як *падчэрэ́віна, падбрю́жына* — як *падбрýшына.*

*падчарóвак* 23, 45, 47, 49, 59, 61, 77, 139, 141, 142. *падчарёвак* 86. *пъдчарóвък* 42. *пъчарóвык* 41. *пыдчарёвак* 89. *пыдчарёвык* 85, 87. *патчарóвак* 49а, 52—54, 58, 88, 99, 112. *патчарóвык* 40. *пытчарёвык* 44. *пытчарёвак* 79. *пътчарёвък* 39. *паччарóвак* 50, 76, 127. *пыччарёвык* 83. *пóтчаравак* 51.

*падчарэ́ўе* 104. *падчарэ́ўя* 110. *подчарэ́ўё* 94, 101. *подчерéўе* 117. *подчэрэ́ўе* 102. *потчарэ́ўя* 56. *патчарэ́ўё* 60. *патчарэ́ўе* 62, 66, 72, 100, 134. *потчарэ́ўе* 93. *паччарэ́ўя* 64. *подчырыв'е* 97. *потчірів'е* 96а. *поччэрэ́в'е* 114. *пудчырів'е* 90. *пудчырэ́в'е* 91, 92. *пудчэрэ́ўе* 137, 138. *пыдчырів'е* 96. *пыдчэрэ́ўе* 107.

*падчарóўе* 115, 116, 120, 135. *патчарóўе* 111. *падчарóўя* 65, 67, 122. *подчэрóв'е* 113, 118. *пудчарóўе* 106. *пудчэрóўе* 136.

*падчарэ́віна* 105. *подчэрэ́вына* 131. *подчэрэ́віна* 133. *підчэрэ́вына* 94а. *пудчырэ́вына* 132. *путчэрэ́вына, пуччырэ́вына* 103. *пудчэрэ́вына* 108, 109. *путчырóвына* 95.

*падбрýшша* 1, 5—11, 22, 25, 26—32, 35, 57, 68, 69, 71, 77, 140, 142. *пъдбрýшша* 43. *падбрýша* 2, 4, 19, 46, 52. *падбрýшье* 3. *падбрýш'я* 23, 63. *падбрýжжа* 17.

*падбрýсся* 18, 20. *падбрýссе* 48.

*падбрýшына* 21. *падбрю́жына* 14.

*брушы́на* 25а, 28, 36, 76, 118, 125.

*падпýззя* 87, 119, 120а, 121, 129, 130. *патпýззя* 33, 37, 38, 70, 73, 75, 78, 80—82, 123—125, 127. *падпýззе* 126, 128. *патпýззе* 74. *спатпýззя* 84.

Адзінкавыя ўтварэнні ад таго ж кораня: *патпýзіца* 16. *пузíна* 34.

*паттры́буше* 99. *патрыбýшо* 55.

*пабóчына* 12, 13.

Адзінкавыя: *падбрýшнъя сáла* 15. *трыбýшнік* 54. *уздóр* 84. *пудчырíвныця* 98.

Карта № 338

## СКРЫЛІК САЛА

№ 2033 «Я. н. адрэзаны скрылік сала: скварка, шкварка, кусочак, скрылёк...»

Картаграфуюцца назвы адрэзанага скрыліка сала. Назвы *сквáрачка, сквáрачкі, сквáркі* картаграфуюцца як *сквáрка, скварóчак* — як *скварóк, шкрылёк* — як *скрылёк, скры́длік* — як *скры́лік, скíбачка* — як *скíбка, крóшачка* — як *крóшка.*

*сквáрка* 5, 7, 8а, 10, 11, 19, 21, 22, 23, 25—29, 31, 35—38, 47—52а, 54, 55, 59—72, 74, 75, 78, 80, 81, 85—87, 92—94, 100, 105, 110—112, 115, 117, 122, 127. *сквáрачка* 9. *сквáрачкі* 6. *сквáркі* 101.

*шквáрка* 20, 43, 73, 75, 81—83, 85, 87, 89, 94, 96—97, 102, 106, 128, 129, 137.

*вýскарка* 136. *вýскорка* 134.

*скварóк* 76, 77, 118, 119, 120а, 124, 127, 142. *скворóк* 140. *скварóчак* 120. *скварóчок* 135.

*шкварóк* 138, 139.

*скрылёк* 2, 30, 32, 33, 44, 46, 61, 75, 80, 81, 83, 89, 123. *скрілёк* 23. *шкрылёк* 85.

*скры́лік* 53, 56, 62, 121, 127. *скры́длік* 104.

*скрыль* 124, 129.

*скíбка* 107. *скíпка* 58. *скíбачка* 3, 6.

*крóшка* 13, 41, 42, 84, 125, 130. *крóшачка* 86.

*кусóчак* 1—3, 7—8а, 13, 14, 17, 18, 24, 45, 49а, 57, 62, 74, 79, 88, 99, 111, 116, 141. *кусóчык* 16, 39—41, 44, 75, 78, 84, 87. *кусóчък* 12, 15, 34. *кусóчок* 90, 91, 93, 98, 103, 108, 113, 114, 132.

*кавáлачак* 4. *кавáлочок* 94а, 95, 103, 113, 114.

*крышáн* 107. *крышя́н* 95.

*шушвáрок* 108, 109.

Адзінкавыя: *цю́пка* 34. *варвáлак* 75. *швэ́да* 102. *скры́гель* 126. *розáнка, вíшкорок* 133.

Карта № 339

## ТЛУСТАЕ САЛА

№ 2042 «Я. н. сала, якое выдзяляе многа тлушчу: тучнае, жырнае, сытае, тлустае...»

Картаграфуюцца назвы тлустага сала. Назва *тóчнае* картаграфуецца як *тýчнае, тачнэ́ё* — як *тучнóе, клустóе* — як *клýстая, тапкóе* — як *тóпкае, плóвкэ* — як *плавкэ́.*

*жы́рнае* 9, 14, 28, 30, 31, 36, 54, 58, 73, 86, 111, 112 (нов.), 115, 116, 122, 123, 130. *жы́рная* 1, 7, 8, 10, 11, 17, 27, 38, 67, 69, 70, 75, 80, 88, 119. *жы́рныя* 16, 32, 35, 40—43, 78, 79, 83—85, 87, 89. *жы́рнъя* 5, 8а, 12, 13, 39. *жы́рнаё* 33, 62, 66. *жы́рное* 140. *жíрное* 96а. *жы́рнэе* 94, 94а. *жы́рна* 46, 48. *жы́рно* 53. *жы́рнэ* 94а, 106, 107, 117, 132, 133, 135, 136. *жíрнэ* 113. *жэ́рнэ* 98.

*тýчнае* 54, 71, 73, 104, 125, 126, 128, 141, 142. *тýчная* 15, 29, 38, 67, 75, 80, 118, 124. *тýчныя* 35, 40. *тýчнъё* 34. *тýчнэ* 107. *тóчная* 127, 141. *тóчное* 137. *тóчна* 120а.

*тучнóе* 98, 101. *тучнóя* 121. *тучнэ́е* 103. *тачнэ́е* 135.

*тучáная* 81, 82. *тучáноё* 37.

*тлýстая* 4, 18, 19, 22, 52, 59. *тлýстае* 54, 57. *тлýсто* 53. *тлýстэ* 95, 96, 97, 98, 113, 132. *тлýстэе* 102.

*клýстая* 3, 24, 27, 100. *клýстэе* 94а. *клýсто* 49. *клýста* 49а. *клустóе* 28. *клустóя* 6.

*сытая* 23, 25—26, 46, 52а, 59, 63—65, 68, 72, 76, 77, 80, 105, 119, 127. *сытыя* 41, 44, 83. *сытае* 54, 62, 100, 102, 104, 112 (раней), 120, 129, 139. *сытое* 134, 140. *сыто* 47, 55, 56, 74, 99, 110. *сытэ* 107, 117, 132, 136, 138.

*тóпкае* 45, 51. *тóпкаё* 61. *тóпкая* 2, 20. *тóпко* 50, 56. *тóпкэ* 90, 92, 93, 108. *тапкóё* 60. *тупкóе* 91.

*плавкэ́* 109, 114. *плóвкэ* 133.

Адзінкавыя: *таўстóе* 21. *цякýчае* 86. *аттýчанае* 120. *мнéккэ* 131.

Карта № 340

## САЛА З ПРАСЛОЙКАМІ МЯСА

№ 2039 «Я. н. сала са сляямі мяса: сала з прорасцяй, сала з праслойкай, з прасцёлам, з прораззю...»

Картаграфуюцца назвы сала з праслойкамі мяса. Паказаны адрозненні па каранях.

1 *сала з мя́сам, слаíстая сала.* 2 *саланíна са сляя́мі.* 3—. 4 *сала са сляя́мі мя́са.* 5 *слаíстыя сала.* 6 *славíстая сала.* 7 *сала з прóрасцей.* 8 *слаíстая сала, сляя́мі сала і мяса.* 8а *сала зь мя́съм, сала зь любавíзный.* 9 *слаíстае сала, сала з праслóйкай, сала сляя́мі.* 10 *сала с праслóйкай, любóвая.* 11 *сала с праслóйкай.* 12 *сала з мя́съм.* 13 *сала с праслóйкъм мяса.* 14 *сала з прырызíнкай.* 15—16 *сала з мя́съм.* 17 *сала прóраслямі.* 18 *сланíна з прóразю.* 19 *сланíна с слаём.* 20 *сланíна с праслóйкамі.* 21 *слаíстая сала.* 22 *сляя́мі сланíна.* 23 *слаíстае.* 24 *сала з любóвым, саланíна сляя́мі.* 25 *слаíстая саланíна.* 25а *саланíна с праслóйкамі.* 26—27 *сала с прóрасцю.* 28 *сала з любавíнай.* 29 *сала слáямі.* 30 *дрэ́нноё сала.* 31 *сала з мя́сам, сала з праслóйкай.* 32 *слаíстая, сала с прóръсцю.* 33 *слаíстоё сала.* 34 *бікóнноё сала.* 35 *сала з мя́сым, мяснóя сала.* 36—37 *сала з мя́сам.* 38 *сала с прóразню, слаяная сала.* 39 *сала з мя́съм.* 40 *сала з мя́сым.* 41 *слаíстая сала.* 42 *сала з мя́сым.* 43 *сала з прóраззю.* 44 *сала с праслóйкамі.* 45 *сквáрка з любóвіным.* 46—. 47 *сало з мя́сам.* 48—. 49 *сланíна з мя́сам, сланíна с прóрасцямі.* 49а *сала з мя́сам.* 50 *сало з мя́сам, слаíсто сало.* 51 *перарóшшая сланíна.* 52 *сланíна сляя́мі.* 52а *слаíстая.* 53—. 54 *сала з любíвым.* 55 *сало з мя́сам.* 56 *сало с прóрасцю.* 57 *с прóрасцю, слаíстае сала.* 58 *са сляя́мі сланíна.* 59 *с прóрасцю, сляя́мі.* 60 *сало с прóрасцю* (в. Лукі), *сало з прóрэзью* (в. Бéражно). 61—62 *сало с прóрасцю.* 63 *сала с прóрасцю.* 64 *сала с прóрасцямі.* 65 *з прóрасю.* 66 *сала з прóразам, сала з мя́сам.* 67 *с прóразямі.* 68 *слаíстая сала, сала сляя́мі.* 69 *сала з прóраззю.* 70 *сала с прóрасцяй.* 71 *сала с прóраслямі.* 72 *з прóраззю, сляя́мі.* 73—74 *сала з мя́сам.* 75 *сала з прóрасцю.* 76 *сала с прóрассю.* 77 *сала с прóрас-*

цю. 78 *сала с про́рысцёй.* 79 *сала з любо́вінай.* 80 *сала з про́расцю.* 81 *сала с про́рысьцю.* 82 *сала з про́раззю.* 83 *сала прасло́йкымі, прасло́йчытыя сала.* 84 *сала з мя́сым.* 85 *сала с про́рысьцю, сала с прасло́йкымі.* 86 *слаістае, слайка́мі.* 87—89 *сала з прасло́йкый.* 90 *пырыстэ́лістэ.* 91 *пырыро́слянэ.* 92—. 93 *пэрэсцё́лістэ сало.* 94 *пэрэро́шчэ сало з мнясом.* 94а *пэрэстіластэ сало.* 95—97 *пырысла́нэ сало.* 98 *пэрэстёлыстэ.* 99 *сало з перасцілам.* 100 *сало з м'ясом.* 101 *пэрэсцілістэ сало.* 102 *сло́ямі, слоістэ, пэрэсла́нэе сало, пэрэсціловатэ сало.* 103 *пырэ́слюга, пырысла́нэ, мнясно́е сало.* 104 *сала з перасцёлам.* 105 *сало с про́расцю.* 106 *сало з просцёлам.* 107 *лыкова́тэ сало, з пэрэсцёламі.* 108 *пэрэстёлыстэ.* 109 *с пэрэстэ́лыною сало; пэрэстэ́лыны* (слаі мяса). 110 *сало с прасло́йчыкамі.* 111 *сала з прасло́йкай м'я́са.* 112 *сала с про́расцю.* 113 *сало с пэрэсцёлом.* 114 *м'яснэ́ сало, м'яснэ́е сало.* 115 *сало з рыжо́вінамі.* 116 *сала з прарэ́зінкай, з ружо́вінкай.* 117 *салцэ́ з мя́сам, салцэ́ з мясцэ́м.* 118—119 *сала з про́расцю.* 120 *сала сла́ямі.* 120а *сала з прасло́ячкамі.* 121 *сала з про́разю.* 122 *слой мя́са, са́ла са сла́ямі мяса.* 123 *сала з прасло́йкай, с про́раззю.* 124 *сала з прасло́йкай, сала з про́раззю.* 125—126 *сала з про́расцю.* 127 *сала з замя́скам.* 128 *сала з про́расцю.* 129 *прасло́істая, з про́расцю.* 130 *сала са сло́ям.* 131 *пэрэстэ́ляна шпы́рка мнёсом.* 132 *пырыстёлыстэ(е) сало.* 133 *сало з пэрэстёламі.* 134 *перэро́сло сало м'я́сом, сало з м'я́сом.* 135 *сало з м'я́сом, сло́йчыкамі, слаістэ сало,* 136 *сало з мя́сом.* 137 *перэро́станое сало.* 138 *пераро́слэ.* 139 *сала сла́ямі.* 140 *зме́шано сало з м'я́сом, з прасло́йкай.* 141 *сала з про́раззю.* 142 *сала з про́расцей.*

## Карта № 341

# ПЯЧЫ САЛА

№ 2046 «Сала на скаварадзе скварыць, жарыць, пячы, пражыць, прэгчы...»

Картаграфуюцца назвы дзеяслова скварыць. Адрозненні трыванняў дзеясловаў не ўлічваюцца.

*жа́рыць* 5 (нов.), 7, 8, 9—11, 14, 15, 17, 21, 28, 29, 34—36, 38, 40, 42, 43, 54, 57, 58 (суч.), 60, 61, 67, 71, 73 (цяп.), 75, 76, 78, 80, 81, 88, 104, 111, 116, 118, 122, 123, 125, 128, 129, 133, 135 (нов.), 138, 141 (нов.), 142. *жа́рацъ* 65. *жа́ріць* 12, 13, 16, 32, 39, 41, 44, 79, 83—87, 89, 113. *жа́ръць* 8а. *жа́рыты* 97, 108, 109, 132. *жа́рэты* 96а. *жа́рыці* 93. *жя́рыты* 95, 103 (нов.). *жжа́рацъ* 1. *зжа́рыць* 130. *нажа́рыты* 131.

*пячы́* 5, 10, 21—27, 30, 31, 37, 45—47, 49, 52—64, 66—68, 70, 72, 76, 99, 100, 104—106, 111, 112, 115. *пычы́* 90, 95, 96, 103. *пэчы́* 94а, 102. *пэчэ́* 98. *пэкты́* 108. *пякці* 117, 118, 120. *пякчы́* 50. *пыкты́* 132. *пэкці* 107, 113. *спекці* 134. *напэчы́* 93. *напэкці́* 101.

*пе́кчы* 75. *пе́кці* 77, 119, 120а. *печ* 34, 74.

*ска́рыць* 2—4, 19—22, 28, 29, 46, 48, 49а, 51, 52, 54, 58 (трад.), 61, 66, 80, 126. *сква́рацъ* 6. *сква́ръць* 8а. *сква́ріць* 84. *сква́ріці* 94. *сква́рыты* 92. *сква́рат* 91. *шква́рыць* 107. *расква́рыць* 69.

*прэ́гчы* 73 (трад.), 80, 81 (трад.). *прэ́хчы* 35. *пре́хчы* 38. *пре́гчы* 89, 121. *прэ́гці* 120а, 124, 127—129, 139, 141.

*пря́жыць* 87. *пре́жыць* 33. *прежч* 44. *спрэжч* 82 (трад.).

*прагці́* 135, 136, 137. *прахці́* 110, 114. *прэгті́* 134. *прагу́ць* 140.

*сма́жыць* 8, 18, 22, 23, 54. *сма́жыты* 109.

## Карта № 342

# ТУК

№ 2047 «Я. н. растоплены тлушч: тлустасць, клустасць, тук, тлук, жыр, сыць...»

Картаграфуюцца назвы растопленага тлушчу — туку. Назва *то́плены жыр* картаграфуецца як *жыр, таплёный тук, ток, тік* — як *тук, клу́снасць* — як клу́стасць, тлу́шчосць — як *тлу́стасць, тлуст* — як *тлушч, то́плено са́ло, то́пліныя са́ла* — як *таплёная са́ла, юха́* — як *юшка.*

Адводзяцца ад картаграфавання назва *са́ло жа́роно,* бо не адпавядае тэме карты, а таксама *шма́лец (шмэ́лец),* бо абазначае *гусінае са́ла.*

*жыр* 2, 3, 8а—17, 21—23, 25а, 28, 31, 32, 33, 35—37, 40—44, 60, 61, 63, 66—71, 73—76, 79, 80, 82—89, 94, 95 (нов.), 97, 100, 103, 104, 107—109, 111 (нов.), 112 (нов.), 115—117, 120, 122, 125, 131, 132, *жір* 96а, 113. *то́плены жыр* 130.

*тук* 5, 15, 29, 30, 34, 35, 38, 40, 44, 49, 57, 64, 67—69, 72, 74—77, 81, 82 (трад.), 85, 90—92, 94а—96, 98, 101, 103, 105—107, 110—112, 117—119, 121, 123—129, 135. *таплёный тук* 7. *ток* 104, 113, 120а, 136—139, 141. *тік* 108.

*тлу́стасць* 4, 47, 50 (рэдк.), 52—56, 58, 59, 60—62, 65. *тлу́шчосць* 109.

*клу́стасць* 6, 24, 25, 26, 27, 49а, 50, 93, 99. *клу́снасць* 1.

*тлушч* 18—20, 45, 48, 51, 57, 94 (нов.). *тлуст* 22. *тлусць* 54.

*клушч* 19, 46.

*таплёная са́ла* 8, 68. *таплёнае са́ла* 9, 85. *то́плено са́ло* 140. *то́пліныя са́ла* 42, 78.

*юшка* 102, 134, 140. *юха́* 132 (рэдк.).

*жыжка* 39, 84.

Адзінкавыя: *клусната́* 1. *пэрэто́п* 114. *то́чное са́ло* 137.

Адведзены: са́ло *жа́роно* 133. *шмэ́лец* 139. *шма́лец* 142.

## Карта № 343

# СКВАРКІ

№ 2048 «Я. н. маленькія высквараныя кусочкі сала: скваркі, шкваркі, выскваркі...»

Картаграфуюцца назвы скварак. Паказаны лексічныя і акцэнталагічныя адрозненні. Назвы *сква́рачкі, усква́ркі* картаграфуюцца як *сква́ркі, сквaро́чкі* — як *скваркі, шква́рачкі* — як *шква́ркі, вы́скаркі, вýскаркі, вішкаркі* — як *вы́скваркі.*

*сква́ркі* 3—13, 15, 17—19, 21—25а, 27—29, 31, 33—37, 39, 40, 41, 44, 46—49а, 51—56, 58, 59—62, 67, 72, 74, 77, 78, 80, 83—85, 87, 88, 100, 105, 106, 110—112, 115, 116, 120, 121, 126. *сква́рке* 1, 76. *сква́ркы* 92, 131. *сква́рачкі* 2, 20, 66, 69. *усква́ркі* 77.

*скваркі́* 91, 94, 101, 119, 122, 124, 127, 135, 141, 142. *скварке́* 50. *скворкі́* 140. *скваро́чкі* 118, 120а.

*шква́ркі* 30, 42—45, 54, 57, 73, 79, 81, 83, 86, 87, 89, 102, 104, 107, 113, 123, 125, 129, 137, 139. *шква́ркы* 96а, 97. *шква́рачкі* 82, 128.

*шкваркі́* 93, 138. *шкварке́* 98. *шкваркы́* 95, 96, 103, 108, 109, 132.

*вы́скваркі* 16, 26, 32, 38, 63, 65, 68—70, 118. *вы́скаркі* 14. *ву́скаркі* 117, 136. *ву́скоркі* 114, 134. *вішкаркі* 133.

*вы́жаркі* 54, 71, 75, 99.

Адзінкавыя: *засква́ра* 64. *шу́шваркы* 109. *дзяле́нькі* 116. *кро́шкі* 130.

## Карта № 344

# ШЫНКА

№ 2050 «Я. н. шынка: сцягняк, кумпяк, окарак, шынка, сцягно...»

Картаграфуюцца назвы шынкі. Паказаны лексіка-словаўтваральныя адрозненні.

Лексемы *кумбя́к, кунпя́к, кунбя́к, кульпя́к* картаграфуюцца як *кумпя́к, о́карак, ако́рак* — як *во́карак.*

*сцягно́* 7, 14—16, 31, 32, 37—42, 53, 54, 60, 64, 67, 69, 72—87, 93 (ран.), 111, 115, 116, 118—120а, 122, 123, 125, 127—129, 137, 139—142. *сцегно́* 102, 113, 117, 135, 136, 138. *сцёгно́* 94а. 101, 106, 107, 114, 134. *стыгно́* 90—92, 95, 96а, 97, 103, 131, 132. *стэгно́* 98, 108, 109, 133.

*сцягня́к* 54, 60, 61, 64, 66, 67, 71, 100, 104, 105, 110—112, 116, 117.

*кумпя́к* 1, 3, 10, 11, 16—22, 25а, 26, 30, 32, 33, 37, 40, 45—59, 61—63, 65, 68, 75, 93, 96, 99, 104, 112. *кумпа́к* 97. *кумбя́к* 2. *кунпя́к* 4, 5, 7—11, 13, 23—25, 27—29, 34—36, 44, 69. *кунбя́к* 6. *кульпя́к* 12.

*во́карак* 73 (цяп.), 75, 80—82, 116, 121, 124, 127—130, *во́кырык* 43, 44, 83—85. *о́карак* 14, 61, 76, 79, 88, 125, 126, 139. *о́корок* 140. *о́курук, о́кырык* 89. *ако́рак* 69.

*шынка* 18 (рэдк.), 20, 22, 51, 57, 59, 61, 66, 69, 70, 107, 111, 132. *шінка* 113.

Адзінкавыя: *копня́к* 94.

Карта № 345

## ВЭНДЖАНАЕ (мяса)

№ 2051 «Я. н. вэнджанае мяса (кумпяк): вяндліна, вянгліна, ветчына, кумпяк, окарак, сцягно, шынка,..»

Картаграфуюцца назвы вэнджанага мяса — кумпяка. Паказаны лексіка-словаўтваральныя адрозненні.

Лексемы *кунпя́к, кунбя́к* картаграфуюцца як *кумпя́к, во́карак, ако́рак* — як *о́карак, вэндлі́на* — як *вяндлі́на, вяглі́на, ванкглі́на* — як *вянглі́на.*

*сцягно́* 14, 16, 31, 37, 40, 42, 64, 72—75, 77, 78, 81, 85, 87, 93, 117—120а, 122—124, 128, 129, 137, 139. *сцегно́* 102, 135, 136, 138. *сцёгно́* 94а, 101, 106, 114. *стёгно* 134. *стыгно́* 90, 91, 95, 96а, 97, 103, 108, 109, 132. *стэгно́* 98, 133.

*сцягня́к* 60, 61, 67, 100, 105, 116.

*кумпя́к* 1, 3, 17—21, 25а, 26, 30, 33, 37, 40, 45, 47—50, 52, 52а, 55—58, 61, 62, 65, 67, 71, 75, 93, 96, 99, 104. *кунпя́к* 4, 9, 10, 24, 27—29, 35, 36, 69. *кунбя́к* 2.

*о́карак* 54, 61, 67, 75, 80, 88, 127, 139. *о́корок* 113. *ако́рак* 46, 69. *во́карак* 10, 73, 86, 121, 123, 124, 130. *во́кырык* 40, 43, 79, 82—85.

*вяндлі́на* 28, 57, 59, 68, 71, 110, 115. *вандлі́на* 54. *вендлі́на* 22. *вэндлі́на* 18. *вэдлі́на* 107.

*вянглі́на* 11, 25, 30, 62, 63, 112, 142. *ванглі́на* 46, 53. *ванкглі́на* 23. *вяглі́на* 26.

*ветчына́* 17, 29, 74, 76, 111, 120а, 125, 140 (нов.). *вітчына́* 32, 38. *веччына́* 67, 81, 86, 124, 126, 127, 129, 141, 142. *вечына́* 128. *віччына́* 8, 12, 15, 34, 35, 39, 44, 75, 78, 89. *вічына́* 5.

*капчо́нка* 7—9, 13—16, 59, 75, 77, 81, 117, 123, 131.

*шы́нка* 51, 52а, 57, 58, 61, 66, 70. *ші́нка* 113.

Адзінкавыя: *вандзо́нка* 6. *копня́к* 94.

Адсутнасць назвы: 41, 92.

Карта № 346

## ВЭНДЗІЦЬ (шынку)

№ 2051 «Шынку трэба вэндзіць, вандзіць, капціць...»

Картаграфуюцца назвы дзеяслова вэндзіць. Адрозненні трыванняў дзеясловаў не ўлічваюцца. Назва *вендзёныты* картаграфуецца як *вындзёлыты.*

*вэ́ндзіць* 3, 18—20, 25, 25а, 28, 48, 49а, 51—54, 58—60, 62, 64, 65, 68, 71, 72, 116, 139. *ве́ндзіць* 21—23, 26, 27, 45—47, 49, 50, 63, 99, 100, 104, 106, 107, 110, 114, 117, 127, 135. *вэ́ндзіці* 93, 94. *вэ́ндыты* 91, 96, 96а.

*вандзі́ць* 2, 4, 6, 24, 102. *вяндзі́ць* 55, 115. *вынды́ты* 90.

*вындзёлыты* 95, 98, 103. *вындзе́лыты* 132. *завендзе́лыты* 108. *вендзёныты* 94а.

*ве́нгліць* 105, 126.

*капці́ць* 1, 2, 5—17, 21, 28—40, 42—44, 47, 54, 56—59, 61, 62, 66, 67, 69—71, 73—89, 97, 102—104, 111—114, 116—121, 123, 124, 127—130, 135, 139, 141, 142. *копці́ць* 101, 114, 122, 131, 136—138, 140. *копті́ть* 134. *копті́ті* 94. *копты́ты* 90, 95, 97, 103, 109, 132, 133. *купто́тэ* 98. *закопты́ты* 108.

Адсутнасць назвы: 41, 92.

Карта № 347

## ВЭНДЖАНЫ (кумпяк)

№ 2051 «Кумпяк капчоны, вэнджаны...»

Картаграфуюцца назвы дзеепрыметніка вэнджаны. Пры картаграфаванні граматычныя формы роду не ўлічваюцца. Назвы *вэндзёнэ, завэндзёлянэ, завэндзэ́лёнэ* картаграфуюцца як *вындзёлянэ.*

*капчо́ны* 2, 6, 7—10, 13—17, 27—39, 54, 56—59, 61, 62, 66, 67, 75—85, 87—89, 111, 112, 116—120, 121—123, 125, 128—131, 135, 140, 142. *копчо́ны* 133, 134. *копчо́на* (мяса) 102. *копчо́но* (стэгно) 97. *копчо́но* (стягно́) 101. *копчо́нэ* (стэгно́, сцягно́, м'ясо́, мя́со) 90, 94, 95, 98, 103, 108, 109, 113, 114, 132, 136—138. *купчо́нэ* (стэгно́) 98. *капчо́нае* (сьцягно́) 120а. *капчо́ный* 1, 5, 11, 12, 40, 42, 43, 44, 86.

*ко́пчаны* 69—71, 73, 74, 124, 141.

*вэ́нджаны* 3, 19, 20, 25, 25а, 28, 49а, 51—54, 58—60, 62, 68, 106, 107, 116. *вэ́нжаны* 139. *вэ́ндянэ* 91, 93. *вэ́нджонэ* 90. *ве́нджаны* 22, 23, 26, 45—47, 49, 50, 55, 63—65, 72, 99, 100, 104, 110, 115, 117, 127, 135. *ве́ндзяны* 27. *вэ́нджоный* 96.

*вандзо́ны* 2, 4, 6, 18, 21, 24, 48. *вындзо́нэ* 90. *вэндзо́нэ* 93, 108, 109. *вэнджо́нэ* 96а. *ванджо́нэ* 102.

*вындзёлянэ* 95. *вындзёлёнэ* 103. *вындзе́лянэе* 132. *вэндзёнэ* 94а. *завэндзёлянэ* 98. *завэндзэ́лёнэ* 108.

*ве́нгляны* 105, 126.

Адсутнасць назвы: 41, 92.

Карта № 348

## СТУДЗЕНЬ

№ 2062 «Я. н. халадзец: студзень, сцюдзень, квашаніна, дрыгва, халоднае...»

На карце прадстаўлены лексіка-словаўтваральныя адрозненні назваў халадцу. Назва *сцю́дзень* картаграфуецца як *сту́дзень, сцюдзяні́на* — як *сту́дзеніна, засту́дзіны* — як *засту́дзіна, квашані́на, квашыны́ны* — як *ква́шаніна, ква́шылыны* — як *ква́шылына, дрыглі́* — як *дрыгі́л, дры́жка* — як *дры́га, юха́, ю́шка* — як *ю́ха.*

*халадзе́ц* 1—4, 14, 17, 45—47, 60, 70, 71, 77, 80, 89, 104, 112, 120а (суч.). *хыладзе́ц* 35, 36, 42, 43, 54, 83, 84, 87. *холодзе́ц* 102, 107. *холоде́ц* 134. *холодз́эц* 132, 133. *холодз́эць* 131.

*хало́днае* 120а, 123, 125 (трад..), 130. *хало́дная* 29, 59, 69, 75, 76, 81, 82, 88, 119, 124. *хало́дныя* 16, 35, 40, 83, 85, 89. *хыло́дныя* 87. *холо́днэе* 113. *холо́днэ* 117, 140. *хало́ннае* 36. *хало́ннъё* 34. *хало́нно* 74.

*халадні́к* 115. *холодні́к* 134. *холодны́к* 103. *хулудне́кь* 98.

*захало́д* 135, 136. *захоло́д* 134, 137.

*сту́дзень* 61, 72, 78, 81, 105, 111, 124, 126—129, 141, 142. *сту́дзінь* 34, 37, 43. *сту́дзянь* 58, 74, 121. *сцю́дзень* 29, 32, 33, 82, 86, 88. *сцю́дзінь* 1, 7, 10—13, 15, 16, 35, 39—42, 44, 79, 83, 85. *сцю́дзянь* 30.

*сту́дзіны* 38, 73.

*сту́дзеніца* 31. *сту́дзяніца* 68.

*сту́дзеніна* 111. *сту́дзяніна* 110. *сцюдзяні́на* 67.

*засту́дзіна* 75, 112, 116, 117, 120, 139. *засту́дзіны* 36, 63.

*ква́шаніна* 2, 4, 6, 8, 9, 18—22, 25, 25а, 45, 47, 49, 50—53, 55, 57, 59, 65. *ква́шыніна* 35. *квашані́на* 23, 26—28, 48, 49а, 54, 56, 62, 64, 65, 68, 71, 97, 104. *квашъні́на* 5, 8а. *квашыны́ны* 92.

*ква́шаліна* 93. *ква́шыліна* 94. *ква́шылына* 95, 103. *ква́шыліны* 90, 91. *ква́шылыны* 96, 96а.

*дрыгва́* 50, 54, 56, 62, 100—102, 104, 106. *драгва́* 138.

*дрыгі́л* 108. *дрыглі́* 109.

*дры́га* 140. *дры́жка* 114.

*ю́ха* 109, 113, 115, 117, 122, 133. *юха́* 111, 119. *ю́шка* 76.

*юшны́к* 94а, 108.

Адзінкавыя: *студзе́ц* 60. *хало́дніца, засты́ліца* 69. *ляк* 99. *дрыгу́ха* 114.

Карта № 349

## ЗАТАЎКА

№ 2065 «Я. н. прыправа з мяса або сала: затаўка, скароміна, задабра, закраска...»

На карце паказаны лексіка-словаўтваральныя і акцэнталагічныя адрозненні назваў затаўкі. Назва *засмачка* картаграфуецца як *засма́ка, закра́ска* — як *закра́са, запра́ўка* — як *запра́ва, пракі́тка* — як *про́кіць, засква́рка* — як *засква́ра.*

*затаўка* 10, 11, 19, 20, 23—33, 37, 38, 49а, 50, 53—58, 61—63, 65—72, 74, 75, 77, 80—82, 86, 88, 99—102, 104, 110—112, 115, 118, 120—121, 123, 124, 128, 129, 139, 141, 142. *затуўка* 15, 34, 35, 84. *затувка* 98. *затыўка* 40, 41, 43, 44, 78, 85, 87, 89. *затоўка* 93, 94, 114, 134.

*затоўка* 93, 94, 106, 107, 114, 134.

*засмака* 90, 94а—96а, 98, 103, 109, 132, 133, 140. *засмачка* 138.

*закраса* 4, 6, 10, 11, 17, 21, 22, 47, 129. *зыкраса* 16, 35. *закраска* 59, 117.

Адзінкавыя ўтварэнні ад таго ж кораня: *акраса* 51. *закрасіна* 17.

*заправа* 5, 9, 19, 36, 73, 75, 82, 98, 108, 113, 116, 125, 135. *зыправа* 7, 35, 85, 87. *запраўка* 14, 112, 129. *зыпраўка* 85.

*прыправа* 46, 105. *пріправа* 83.

*скароміна* 8а, 25, 29, 42, 54, 73, 81, 88, 102, 122, 127, 134. *скороміна* 107.

*скорам* 4, 8а, 51, 52.

Адзінкавыя ўтварэнні ад таго ж кораня: *скаромныя* 41. *скаромно* 47.

*задобра* 137. *задыбра* 43, 78, 79. *задъбра* 39.

*прокіць* 1, 2, 3, 8, 8а. *пракітка* 8.

*валога* 12, 13.

*засквара* 64. *заскварка* 126.

Адзінкавыя: *патскварка* 60. *прідыбра* 84. *засмажка* 136.

Адсутнасць назвы: 18, 45, 48, 49, 52а, 91, 92, 97, 119, 130, 131.

## Карта № 350

## ЗАТАЎКАЦЬ (страву)

№ 2065 «Страву запраўляць, затаўкаць...»

Картаграфуюцца назвы дзеяслова затаўкаць. Адрозненні трыванняў дзеясловаў і акцэнтуацыйныя адрозненні пад увагу не прымаліся.

*затаўкаць* 27—30, 32, 37, 38, 54, 55, 59, 61—63, 67—69, 75, 80—82, 88, 99, 105, 111, 120а, 123, 124, 129, 139, 142. *затоўкаць* 120. *затоўкаці* 97. *зътъўкаць* 33. *зътуўкаць* 15, 34. *зытуўкаць* 35, 84. *зытыўкаць* 40, 89. *зътыўкаць* 41, 43, 44. *затаўчы* 10, 11, 20, 23, 25а, 49, 49а, 52а, 56, 58. *затоўчы* 117. *затаўкчы* 50. *затоўкаць* 120.

*прытаўчы* 52а. *прытувчэ* 97, 98.

*запраўляць* 11, 14, 17, 18, 29, 31, 36, 57, 59, 62, 71, 74—76, 80—82, 86, 104, 106, 107, 112, 113, 116, 118, 122, 125, 127—129, 135. *запраўляці* 101. *зъпруўляць* 34. *зыпрыўляць* 83, 87. *заправіць* 10, 19, 40, 54, 69, 73, 115. *зъправіць* 5. *зыправіць* 7. *заправыты* 109, 131. *заправітэ* 109, 131.

*засмачваць* 112, 134. *засмачыць* 133. *засмачыць* 129, 140. *засмачыты* 90, 94а, 95—96а, 103, 109, 132. *сасмачыты* 108. *засмачэтэ* 98.

*заскварваць* 127. *заскварыць* 45, 63, 64, 69, 119. *заскварыты* 91.

*закрашувыць* 16. *закрасіць* 6, 21, 22, 117, 129. *закрасіці* 93.

*пръкідаць* 8а. *пракінуць* 2, 3. *прыкінаць* 6.

*зъваложыць* 12, 13.

*зъдыбраць* 43. *зыдабріць* 84.

*запрагці* 114, 135.

Адзінкавыя: *прыправіць* 46. *заскароміць* 54. *патскварыць* 60. *зажарыць* 76. *заліті* 94. *зажарыты* 108. *засмажваць* 136.

Адсутнасць назвы: 1, 4, 8, 9, 25, 39, 42, 47, 48, 51, 52, 53, 64, 65, 66, 70, 77—79, 85, 92, 100, 102, 110, 121, 126, 130, 137, 138, 141.

## Карта № 351

## СКАЛКІ (тлушчавыя кроплі на вадкай страве)

№ 2067 «Я. н. кропелькі тлушчу на паверхні вадкай стравы: скалкі, свечкі, сыткі...»

Картаграфуюцца назвы скалак. Назвы *скалачкі, сколкі, аскалкі* картаграфуюцца як *скалкі, свечачкі* — як *свечкі.*

Адводзяцца ад картаграфавання назвы *тлушч, тук, жыр,* бо не даюць адказу на пастаўленае пытанне праграмы, а таксама *скваркі, вішкаркі,* бо не адпавядаюць тэме карты.

*скалкі* 20, 23, 45, 47, 49—50, 52—65, 67—72, 74—77, 80—87, 91, 93, 94, 99—101, 104—107, 110—112, 115—120а, 122—129, 134, 136, 137, 141, 142. *скалачкі* 51, 66. *сколкі* 89. *аскалкі* 79.

*скалкі* 102, 113, 114, 121, 135, 140. *скалкы* 94а, 95, 96а, 103, 132. *скалькы* 108, 109. *скалкэ* 98.

*свечкі* 1, 3—15, 17, 19, 21, 22, 24—42, 44, 73. *свецкі* 16. *свечачкі* 2.

*цяты* 90, 96, 97.

Адзінкавыя: *зоркі* 1. *іскрычкі* 43. *сыткі* 44. *кропля тлушчу* 46. *кропалькі* 138. *аска* 139.

Адведзены: *тлушч* 18. *тук* 78. *жыр* 131. *скваркі* 130. *вішкаркі* 133.

## Карта № 352

## ЗАСТЫВАЕ (пра растоплены тлушч)

№ 2049 «Растоплены тлушч на холадзе застывае, застыгае...»

Картаграфуюцца назвы дзеяслова застывае. Адрозненні трыванняў дзеясловаў не ўлічваюцца.

*застывае* 23, 24, 31, 46, 48, 49а, 57, 62, 72, 74, 76, 93, 94, 99, 104, 105, 111, 112, 115—120, 125, 126, 128, 135, 137—142. *застывая* 25—27, 29, 30, 43, 47, 49, 52а—56, 58—60, 64, 65, 67, 68, 70, 71, 75, 78, 79, 82, 88, 100, 110, 118, 121, 122, 124, 127, 129. *зыстывая* 87. *застываць* 2, 5, 33, 45. *заставаць* 6, 7. *застаець* 36. *зыстаець* 84, 89. *застываець* 9, 69. *зыстываць* 10—12, 14, 16, 17, 21, 22, 28, 32, 35, 40, 41, 83. *зыстываіць* 85, 86. *зъстъваіць* 8а, 13, 15, 39, 41. *застыць* 1, 50, 51, 66. *застыня* 120а. *стыць* 34. *стынуць* 42. *застые* 37, 38, 61, 63, 69, 73, 80, 81, 130. *застае* 123.

*застыгае* 4, 92, 102. *застыгая* 19, 20. *застыгаць* 3, 8. *застыг* 131. *застыгня* 52. *стыгня* 18.

*захолодае* 90, 95, 96, 96а, 103. *захулудае* 91, 98.

*захалодае* 99. *захолодае* 94а, 97, 101, 108, 109, 114. *захолодвае* 104, 107, 113, 132, 134, 136. *захолоджвае* 106. *захолодоці* 133.

Адзінкавыя: *чахне* 77.

## Карта № 353

## АЛЕЙ

№ 2068 «Я. н. масла з ільнянога або канаплянага семя, з сланечніку: алей, аліва, поснае масла...»

Картаграфуюцца назвы алею. Пры картаграфаванні назоўнікаў граматычныя формы (род, лік) не бяруцца пад увагу. Назва *олій, волей* картаграфуецца як *алей, слонэчнэ масло* — як *сланечнікавае масла.*

*алей* 1—11, 13—47, 49—52а, 54—77, 79—83, 85—87, 99, 100, 104, 105, 110—112, 115, 116, 118—121, 123—130, 133, 135, 139, 141, 142. *олей* 94, 101, 102, 106, 117, 134, 140. *волей* 133. *олій* 90—92. *олэй* 107. *лей* 16, 84, 87, 122. *олій* 96а. *олія* 96, 97. *голія* 95. *влія* 98. *олеі* 113, 114, 137, 138. *волеі* 136. *оліі* 94а, 103, 108, 109, 131, 132. *голіі* 103.

*аліва* 18—20, 48. *оліва* 114.

*поснае масла* 35, 54, 73, 110, 125. *посная масла* 29, 67, 75, 76, 88, 119, 127, 128. *посныя масла* 16, 35, 40, 43, 44, 78, 79, 83, 85, 87, 89. *поснъя масла* 12. *посное масло* 137, 140. *поснэ масло* 97, 107, 117.

*падсолнечнае масла* 80, 86. *патсолнашная масла* 75. *патсолнышныя масла* 35, 40. *сланечнікавае масла* 80. *слонэчнэ масло* 107.

Адзінкавыя: *расціцільныя масла* 40.

## Карта № 354

## ЦІСНУЦЬ АЛЕЙ

№ 2069 «Поснае масла ціснулі, гналі...»

Картаграфуюцца назвы дзеяслова ціснулі. Пры картаграфаванні дзеясловаў граматычныя формы не ўлічваюцца.

*ціснулі* 2, 3, 6, 14, 15, 17, 18, 20, 21, 23—27, 30, 33, 35—37, 40, 42, 43, 45, 47, 49а, 51, 52а, 54, 61, 62, 65, 67, 70—75, 78, 87, 88, 105, 106, 110, 111, 120—122, 126, 127, 141. *ціскалі* 5, 7, 22, 125. *выціскáлі* 8а, 34, 46.
*гнáлі* 2, 4, 8, 8а, 10, 11, 13, 19, 28, 29, 32, 37, 39, 44, 50, 52, 54, 55, 57—61, 63, 64, 66—71, 76, 83, 85, 89, 100, 101, 104, 115—117, 136, 142.
*білі* 16, 20, 44, 52, 56, 77, 79—82, 84, 86, 93, 94, 99, 102, 112—114, 117—119, 120а, 122—124, 127—129, 134—137, 139, 140. *былі* 90. *былы* 92, 94а—97, 103, 108, 109, 131, 132. *бэ́лэ* 98.
*чавілі* 102, 107, 133, 140. *чавылы* 103, 108.
*жáлі* 38. *выжымáлі* 1.
*душылі* 54, 91.
Адзінкавыя: *давілі* 130. *тоўклі* 138.

Карта № 355

## ЗАЦІРКА

№ 2078 «Я. н. зацірка: зацірка, заціруха...»
Картаграфуюцца назвы заціркі. Паказаны лексіка-словаўтваральныя і акцэнталагічныя адрозненні. Назва *калатýха* картаграфуецца як *калатýша.*
*зацірка* 1—31, 33—43, 47, 49, 49а, 51—54, 56—72, 74, 78, 83, 85—89, 98—100, 103—105, 107, 110—112, 116, 116, 117, 120—121, 124, 126, 127, 130, 135, 136, 138, 139, 141, 142. *зацéрка* 45, 46, 48, 50, 55. *затірка* 90, 94—98, 131, 132, 134. *затырка* 91, 92. *зацюрка* 93.
*зáцірка* 32, 44, 73, 75—77, 79—82, 84, 102, 113, 114, 118, 122, 123, 125, 128, 129, 133, 136. *зáтырка* 95, 98, 103, 109, 132. *зáтэрка* 108.
*зацірýха* 107, 115.
Адзінкавыя ўтварэнні ад таго ж кораня: *зыцірáнка* 7. *прыцірка* 87.
*калатýша* 66, 67, 72, 105, 111, 112, 115, 116, 119, 120а, 134. *колотýша* 101, 106, 107, 117, 122. *калатýха* 1.
*паткалóтка* 52, 53, 54.
*кулéш* 14, 16, 36.
*галýшкі* 135, 137. *голýшкі* 140.
*соломáха* 96, 103.
*пóліўка* 99. *пóлывка* 109.
Адзінкавыя: *ляме́шка* 134.

Карта № 356

## КАША З ЯЧМЕННЫХ КРУП

№ 2092 «Я. н. крутая каша з ячменных круп: куцця, крупяная каша...»
Картаграфуюцца назвы крутой кашы з ячменных круп. Назвы *кáша, крупянáя кáша, крýпная кáша, густáя кáша, крутáя кáша, гýшча, гýшчаная кáша* адводзяцца ад картаграфавання, бо не адпавядаюць тэме карты (абазначаюць назвы крутой кашы, зваранай невядома з якіх круп, і назву кашы наогул).
Назва *гýста куття́* картаграфуецца як *кýцця́, грýца* як *груцанáя кáша, я́шная гýшча* — як *я́чная кáша.*
*куцця́* 2, 5, 8а—11, 14, 15, 23—25, 27—29, 31, 33, 35—38, 40, 43, 45, 47, 49а, 60, 64, 66, 68—71, 73—75, 77, 79—87, 89, 99, 102, 103, 113, 115, 116, 118, 119, 121, 122, 124—126, 128—130, 133, 137, 139, 141. *куцья́* 101, 104—107, 112, 114, 135, 136, 138, 140. *куття́* 108, 109, 132. *гýста куття́* 90. *кутья* 117, 123.
*куця́* 4, 49, 50, 51, 54, 55, 59, 61, 62, 65, 67, 93, 127. *кутя́* 94, 94а, 96—98. *куте́* 131.
*я́чная кáша* 109, 113, 142. *я́шныя кáша* 79, 80. *я́чна кáша* 95. *е́чная кáша* 92. *я́шная гýшча* 82.
*ячмéнная кáша* 43, 73, 91.
*пярлóвая кáша* 20, 70, 73, 76, 80.
*панцакóвая кáша* 2, 57. *с панцакý кáша* 25, 58.
*панцáк* 5, 20, 52а, 56, 57.
*груцанáя кáша* 27. *грýца* 54, 139.
Адзінкавыя: *рáдыніца* 40.
Адведзены: *кáша* 3, 5, 8, 13, 24, 26—28, 35, 39—42, 44, 51, 56, 68, 100, 115, 118, 119, 121, 122, 129, 137, 140. *крупянáя кáша* 1, 6, 8а, 12, 17—19, 21, 25а, 26, 46, 58, 62. *крупінáя кáша* 16, 83. *крупяныя кáша* 87. *крупя́ная кáша* 52. *крýпная кáша* 22.
*густáя кáша* 4, 7, 14, 29, 30, 32, 34, 48, 63, 69, 72, 85, 99, 110, 141. *гýста кáша* 90, 103. *крутáя кáша* 29, 78, 111, 116. *гýшча* 16, 77, 120а, 123, 124, 128, 141. *гушчáная кáша* 120.

Карта № 357

## КІСЛАЯ ВАДКАЯ СТРАВА, ПАДКАЛОЧАНАЯ МУКОЙ

№ 2081 «Я. н. кіслая вадкая страва, падкалочаная мукой: квас, поліўка, юшка...»
Картаграфуюцца назвы поліўкі. Паказаны лексіка-словаўтваральныя адрозненні. Назва *пóдліўка* картаграфуецца як *падліўка, пудкалóта* — як *паткалóтка, жýрка* — як *жур.*
*пóліўка* 1, 2, 5—17, 22—29, 32—36, 38—40, 43, 44, 57, 66, 67, 69, 73, 78, 79, 83, 84, 110, 129, 140. *пóляўка* 3, 19, 21.
*падліўка* 48, 135. *подліўка* 122. *пóдліўка* 75. *подлівка* 96, 113. *пудлівка* 108.
*квас* 31, 36, 41, 49а, 51, 54—66, 68, 70, 72, 77, 80, 92, 93, 94а, 95, 99—102, 106, 107, 111, 112, 114, 116—118, 120а, 122, 125, 127, 134.
*юшка* 7, 13, 14, 30, 31, 37, 46, 69, 74, 77, 79, 82, 83, 85, 87, 89, 107, 136, 140.
*юшнік* 4, 18.
*паткалóтка* 22, 47, 107. *пытколóтка* 101. *пудколóта* 97.
*кіслýха* 51, 52а, 123.
*жур* 103, 139. *жýрка* 18.
*расóл* 52, 53.
Адзінкавыя: *квáсак* 20. *заліўка* 81. *подбілка* 96а. *парышка* 98. *патрáўка* 104.
Адсутнасць назвы: 42, 45, 49, 50, 71 76, 86, 88, 90, 91, 94, 105, 109, 115, 119, 120, 121, 124, 126, 128, 130—133, 137, 138, 141, 142.

Карта № 358

## ЖЫЖКА (вадкая частка стравы)

№ 2091 «Я. н. вадкая частка стравы: шчолак, юшка, жыжка...»
Картаграфуюцца назвы жыжкі. Паказаны лексіка-словаўтваральныя адрозненні. Лексема *юшачка* картаграфуецца як *юшка, жыжачка* — як *жыжка, шчóлух, шчóлачка* — як *шчóлак, жыдзіш* — як *жыдзéль.*
*юшка* 1, 4—6, 8, 8а, 10, 11, 17, 29, 31—34, 39, 43, 44, 61—63, 67—71, 73, 75—78, 80, 81, 85, 90, 92—98, 103, 104, 106—109, 111—113, 115—142. *юшачка* 66, 82.
*юха* 101, 114.
*жыжка* 14, 17, 23, 36, 37, 40—44, 57, 79, 80, 83—87, 104, 107. *жышка* 3, 6, 7, 9, 15, 17, 21, 22, 24—27, 30, 35, 38, 41, 43, 44, 57, 58, 64, 74, 88, 89, 105, 110, 111. *жыжачка* 2.
*шчóлак* 28, 45—49а, 53—56, 59, 60, 62, 91, 99, 100, 102, 129. *шчóлък* 13, 15. *шчóлух* 4. *шчóлачка* 25.
*шчалачóк* 51, 52.
*пóліўка* 18, 20, 52а, 67, 72. *пóляўка* 19.
*рéткае* 65. *рідкэ* 96а. *ріткэ* 95.
*жыдзéль* 12. *жыдзіш* 16.

## Карта № 359

# ЮШКА (значэнне слова)

№ 2082 «У якім значэнні ўжываецца слова юшка: а) кроў, б) вадкая частка зваранай стравы, в) кіслая страва, г) кружок, якім закрываюць комін...»

Картаграфуецца семантыка слова. Словаўтваральныя варыянты гэтага ж слова пры картаграфаванні не ўлічаны. Калі гэтыя варыянты маюць тое ж значэнне, што і слова *юшка*, яны прыведзены ў спісе слоў.

'кроў' 8а, 9—11, 14, 17, 21, 28, 29—31, 41, 44, 45, 47—51, 54, 55, 57, 59, 67, 68 *(дам, што юшка з нóса пацячэ́)*, 73—76, 80, 83, 85—87, 89 (рэдк.), 90, 91 *(як далі́ пу нусóві, так і палі́лася юшка)*, 93, 94 *(аж юшка палÍласа)*, 95 (экспр.), 96, 98 *(юшкэю блэ́вся)*, 102, 103, 107, 113 (экспр.), 115, 116, 118—120, 127, 129, 132, 134, 135, 137, 139, 140.

*юха* ў гэтым жа значэнні 59, 68, 94а, 99, 104, 108, 114.

'вадкая частка зваранай стравы' 5—11, 13, 17, 28, 29, 31, 33, 34, 43, 44, 47, 61, 63—71, 73—78, 80, 81, 83, 90, 93, 94, 95, 96, 97—99, 102—104, 106—109, 111—114, 116—119, 122, 123, 125, 127—129, 132, 135, 137—140.

У гэтым жа значэнні *юха* 101.

'вадкая страва' 12, 15, 85, 87, 115, 141, 142.

'сок з ягад, садавіны' 17, 121.

'кіслая страва' 7, 14, 27 (з крыві), 30, (падкалочаная мукой), 31, 37, 46 *(з крыві́ вáрацъ свіня́чай)*, 47, 49а, 50 (з крыві вепрука), 51, 52 *(з свінóй крыві́)*, 52а *(люшка)*, 54, 59 *(кроў з пакры́шаным хлéбам*, устар.), 74, 75, 90, 91 *(звáраная кроў з дабáўкай бурачкóў, пятрýшкі, укрóпу)*, 93 (з крыві кабана), 102, 107.

У гэтым жа значэнні: 52 *юхá (кроў расцірáлі, хлéба крышы́лі, мукі́, квáсу, кóстка вáрыцца і залівáяш гэ́тым і павáрым)*, 49. 58 *юшнік*.

'вараная страва з свежай рыбы' 4, 6, 33, 35, 38, 39, 99, 127.

'булён' 110, 135 *(суп картапля́ны)*, 136—138 *(суп з бýльбы)*.

'вадкая страва з крыві, мяса' 6, 19, 35, 84, 85, 87, 115 *(рэ́дзенька звáрацъ, мукі́ затрýцъ)*, 141 *(звáраная мя́са з вáдой, цыбýляй без круп, макарóны)*, 142 *(вáдкая стрáва, вáрыцца з мя́сам, лíсцікамі, пéрцам, цыбýля з шалýпкамі)*.

'прыстасаванне, якім закрываюць комін' 3, 6, 8, 13, 16—18, 21, 24, 38, 40—44, 46, 53—56, 58—65, 67—77, 79—89, 91 *(в'юшка)*, 94 (даўн.) 96, 99, 100, 104, 105, 107, 110—113, 115—121, 123, 124, 126—129 *(уюшка)*, 134, 135 (нов.), 137, 139, 140, 142.

У гэтым жа значэнні ў варыянце *люшка* 5, 10, 11, 45, 47, 49, 52а, 57, 106.

Іншыя значэнні слова: 'лёк' 36. 'халадзец' 76, 133. 'злітая з варанай бульбы вада' 98. 'квас' 93. 'прыстасаванне для намотвання нітак' 123 *(юшка, што ніткі намáтваюць, з пáлак; як прадзéш, пéрва з цэ́ўкі намáтваеш на юшку)*. 'соплі' 128.

## Карта № 360

# КРУПНІК

№ 2083 «Я. н. суп з ячменных круп: крупнік, панцак, груца...»

Прыведзены назвы, якія абазначаюць страву з мелкіх ячных круп і буйных (пярловых). Паколькі ў матэрыялах няма паслядоўнага размеркавання, мы картаграфуем без азначэння (пярловы ці ячны). Назва *крупéнь* картаграфуецца як *крýпянь, крупэ́* — як *крýпы, ячмéнны суп, пярлóвы суп, сячóный суп, суп* — як *я́чны суп*. Адводзіцца ад картаграфавання назва *куццЯ́* 69, 73, 133, бо не адпавядае тэме карты.

*крýпнік* 19, 20, 23, 28, 31, 44, 45 *(з мелкіх круп)*, 47, 49а—52а, 54—58 (з дробных круп), 61—64, 66, 67, 70—72, 75, 77, 81, 82, 92 *(ёшны)*, 93, 94, 99, 104 *(я́чны)*, 102, 104—106, 110—113, 117 *(я́чны)*, 118, 119, 120а *(пярлóвы)*, 121, 125—128, 133 *(я́чны)*, 134, 135 *(я́чны)*, 137, 139—141. *крýпнык* 90, 94а, 95, 96 *(я́чный)*, 96а, 97, 103, 108, 109 *(я́чный)*, 132. *крýпныкъ* 98 *(éчны)*.

*крупéня* 1, 7—13, 15—17, 29, 30, 32, 34—40, 42—44, 74, 78—86, 88, 89, 118.

*крýпянь* 68, 69 (пярловы), 76. *крупéнь* 33.

*крýпы* 3—6, 8а, 24. *крупэ́* 53.

*панцáк* 2, 20, 21, 25, 26, 45 (з буйных круп), 46, 48—49а, 51 (з буйнейшых круп), 53, 54, 58—61, 65, 100. *пансáк* 18, 22. *пенцáк* 116.

*грýца* 21, 25а (з буйных круп), 26, 27 *(вáраная)*, 114 *(рэдкі суп з ячменнай крупой без бульбы)*. *грýца* 124.

*гýшча* 14, 115, 116, 120.

*кулéш* 93, 107, 117 (раней), 135 *(я́чны)*, 138 *(з ячменных круп, такі суп)*, 140.

*я́чны суп* 123, 135, 140, 142. *я́чный суп* 87. *суп з я́чных круп* 122. *я́шны суп* 82, 129. *ячмéнны суп* 125. *сячóный суп* 14. *пярлóвы суп* 128. *пярлóвый суп* 14. *парлóвы суп* 73 (цяпер), 104, 105. суп 130, 136.

Адзінкавыя: *пярлóўка* 8.

Адведзены: куццЯ́ 69, 73, 133.

## Карта № 361

# БУЛЬБЯНЫ СУП

№ 2084 «Я. н. суп з бульбы: булён, бульба, суп...»

Картаграфуюцца назвы супа з бульбы. Назвы *бульбя́ны суп, бýльбішны суп, бульбóвый суп, суп з бýльбы, картафля́ны суп, картóфельны суп, картóфляный суп, суп з картóпель, суп с крышянáмы* картаграфуюцца як *суп, крышáнкі, кры́шкі* — як *кры́шанка, рэзанкі* — як *рэ́занкі, шчалачóнкі* — як *шчóлакі, бýльба юшкай, бýльба з юшкай, юшкай картóплі, з юшкаю картóплі* — як *юшка, рэ́дкіе карчóхі* — як *рэ́дкая картóшка*.

*булён* 1—15, 17—32, 34, 37, 39, 43, 45—49а, 51—53, 57—71, 74, 80, 86 (нов.), 93, 111, 112, 117, 120а, 127 (нов.), 137, 139—142.

*бýлён* 90, 96, 97, 103, 107, 108. *бýлін* 98.

*блён* 54, 60.

*суп* 9, 29, 54, 82, 85, 98, 100, 103, 131, 132. *бульбя́ны суп* 76, 118, 119, 129. *бульбя́ный суп* 107. *бульбянэ́й суп* 16. *бýльбішны суп* 81. *бульбóвый суп* 87. *картафля́ны суп* 125. *кыртыфля́ный суп* 89. *суп картапля́ны* 135. *суп картóпляны* 140. *суп картóфельны* 104. *картóфляный суп* 91. *суп з бýльбы* 40, 126, 130. *суп з картóпель* 92. *суп с крышянáмы* 96.

*крышаны́* 66, 72, 74, 94а, 95, 101—103, 105, 106, 108—110, 114, 127, 132, 133, 140.

*кры́шанка* 124, 125. *крышáнкі* 111. *кры́шкі* 115.

*пахлёпка* 16, 110. *похлёбка* 95.

*рэ́занкі* 113. *рэзанкі* 134.

*шчóлакі* 55, 56, 99. *шчалачóнкі* 50.

*юшка* 119, 135—138. *бýльба юшкай* 76, 118. *бýльба юшкаю* 121. *бýльба з юшкай* 33. *юшкай картóплі* 120. *з юшкаю картóплі* 122.

*жы́дкая бýльба* 36, 44, 73, 75, 77—79, 81, 82, 84, 86, 123, 124, 128.

*рэ́дкая картóшка* 116. *рéдкая картóшка* 120. *рэ́дкіе карчóхі* 94. *бýльба* 35, 38, 41—43, 83, 88, 119.

Адзінкавыя: *прасéл* 23. *картафля́нка* 104. *пóліўка* 111.

## Карта № 362

# ГУСТАЯ КАША

№ 2093 «Я. н. занадта густая каша: загустая, тугая, крутая...»

Картаграфуюцца назвы занадта густой кашы. Назвы *дýжа густáя, нáтта густáя, вéльмі густáя, мóцна густáя* картаграфуюцца як *густáя, нáтто гýста* — як *гýстая, занáдто густáя* — як *загустáя, крýта, вéльмі крутáя* — як *крутáя*.

*густáя* 1—4, 7, 8а, 10, 14, 22, 23, 25а—27, 29, 30, 32, 33, 35, 39, 43, 46, 48, 49а, 50, 52а, 56—58, 63, 65, 66, 69, 72, 83—85, 87, 93, 94, 99, 100, 102, 104, 105, 110—112, 115, 120, 122, 127, 133, 134, 141. *густá* 114, 137, 140. *дýжа густáя* 6, 11, 16, 34. *нáтта густáя* 25, 99. *вéльмі густáя* 72. *вéльмо густáя* 49. *мóцно густáя* 94.

*гу́стая* 54, 101, 107, 113, 131. *гу́ста* 91, 94а, 97, 98, 103, 132. *на́тто гу́ста* 132.
*заґуста́я* 19, 20, 21, 45, 46, 51, 59—61, 94, 113. *зана́дто густа́я* 96а. *зана́тто густа́я* 62.
*загу́ста* 24, 92, 95, 96, 103, 108, 109.
*ґэ́нстая* 18, 52.
Адзінкавыя ўтварэнні ад таго ж кораня: *перагу́шчаная* (каша) 8. *гусце́ль* 8а. *гу́шча* 123.
*крута́я* 12, 13, 15, 17, 29, 31, 35, 37, 38, 40—42, 44, 50, 54, 55, 57, 59, 62, 67—71, 73—83, 85, 86, 89, 95, 102, 103, 106—109, 111, 113, 116, 118, 119, 121—130, 134—136, 139, 140, 142. *крута́* 138. *кру́та* 96, 98. *ве́льмі крута́я* 111.
*туга́я* 28, 36, 47, 53, 54, 63, 64, 117.
*крэ́пкая* 9. *кре́пкая* 5.
*суха́я* 2, 5, 75, 90.
Назвы з коранем *-сып-*: *рассы́пчастая* 75. *рассы́пчыстыя* 35. *рассы́пчатая* 9. *россыпна́я* 90. *рассыпа́еецца* 134. *россіпа́еецца* 113. *россы́паіцця* 95.
Адзінкавыя: *цвёрдая* 54.

## Карта № 363

## ВЕРАШЧАКА

№ 2094 «Я. н. мачанка, прыгатаваная з дамешкай малака і мукі: верашчака, мачанка, муртушка...»
Картаграфуюцца назвы верашчакі. Паказаны лексіка-словаўтваральныя адрозненні. Назвы *вмача́нка, умоча́нка* картаграфуюцца як *мача́нка, мыка́нне* — як *мача́нне, памачу́шка* — як *пама́чка, вiршча́ка, вiшчэра́ка, вярашча́йка* — як *верашча́ка, подліва* — як *падлі́ўка.* У значэнні *верашча́ка* ўжываецца назва *куле́ш.*
*мача́нка* 3, 18, 22, 27, 28, 36, 46, 47, 49, 49а, 62, 63, 65, 67—69, 72, 99, 100, 104 (трад.), 105, 111, 112, 115—117, 120, 121, 123, 126, 127. *мъча́нка* 5. *мыча́нка* 29, 43. *моча́нка* 102, 106. *вмача́нка* 95. *умоча́нка* 103.
*мака́нка* 8, 10, 11.
*мака́чка* 1, 4. *мыка́чка* 7.
*мача́нне* 30, 31, 57, 71, 101. *мача́ння* 33, 66, 72, 75. *мача́ня* 59. *моча́нье* 107, 140. *мыка́нне* 15.
*пама́чка* 2, 6. *памачу́шка* 52а.
Адзінкавыя ўтварэнні ад таго ж кораня: *макі́ла* 13. *мача́ка* 26. *аммача́йка* 54. *мача́йло* 117.
*верашча́ка* 19—21, 23, 48, 52, 53, 54, 57—59, 61, 62, 64, 69, 70, 79, 104 (устар.), 111, 137. *веръшча́ка* 17. *верэшча́ка* 114, 136. *вірашча́ка* 24—25а. *вірышча́ка* 35. *віршча́ка* 34. *вішчэра́ка* 133. *вэрашча́ка* 137. *вэрэшча́ка* 138. *вяраща́ка* 56, 60. *вяршча́ка* 18. *вярашча́йка* 55.
*праже́ніна* 15. *пріже́ніна* 39. *прыжэ́ніна* 19. *пряже́ніна* 132.
Адзінкавыя ўтварэнні ад таго ж кораня: *пражо́нка* 9. *прэ́жэло* 98.
Утварэнні з коранем *кало́т/кала́т: падкало́тка* 70. *паткало́тка* 110, 112. *прыкалатка* 31.
*патра́ўка* 118, 139, 141.
*куле́ш* 37, 40, 42, 77, 86.
*падлі́ўка* 125, 135. *подлі́ўка* 118 (нов.). *по̂длі́ўка* 134. *подлі́ва* 129 (нов.).
*пудлі́вок* 96а. *пудлы́вок* 109.
*полі́ўка* 73. *полі́вка* 91.
*клю́цкі* 94, 97 *(там мука, сало, мнясо).*
Адзінкавыя: *балта́нка* 104. *колоту́ха* 113. *верэ́кша* 120а.
Адсутнасць назвы: 8а, 12, 16, 38, 41, 44, 45, 50, 51, 76, 78, 80—85, 87—90, 92, 93, 94а, 96, 108, 119, 122, 124, 125, 128, 130—132, 142.

## Карта № 364

## ЯЕЧНЯ

№ 2095 «Я. н. яечня: яешня, глазкі, бельмачы...»
Картаграфуюцца назвы яечні. Паказаны словаўтваральныя і фанетычныя адрозненні. Назва *е́чніца* картаграфуецца як *я́ечніца.*
*я́ечня* 3, 4, 15, 19, 22, 46, 52, 53, 58, 62, 63, 65, 91, 94а, 96а, 101, 104, 106, 108, 109, 111, 112, 120а, 122, 132, 133, 141, 142. *ее́чня* 94, 102, 107, 113, 114, 129, 134. *ее́чна* 98. *іе́чня* 90, 93, 96, 103, 131. *йіе́чня* 97. *йійе́чня* 95.
*я́ешня* 1, 2, 5—8а, 10, 11, 13, 14, 21, 23—25а, 27—44, 47—50, 52а, 54, 55, 57, 59—61, 64, 66—89, 110, 111, 115—120, 121, 123, 124, 127, 128, 130, 135, 137—140. *ее́шня* 92, 114, 126, 136. *іе́шня* 12, 16, 32, 39.
*я́ішня* 39.
*я́ечніца* 18, 20. *я́ечныца* 96а, 109. *е́чніца* 102.
*я́ешніца* 54.
*я́ічніца* 9, 125.
*я́ішніца* 17, 73. *я́ішныца* 96.

## Карта № 365

## ЯЕЧНЯ З ДАМЕШКАЙ МАЛАКА І МУКІ

№ 2096 «Я. н. прыгатаваная з дамешкай малака і мукі: мурцоўка, разбіваная яечня, грыбок...»
Картаграфуюцца назвы не звычайнай яечні, а яечні, прыгатаванай такім спосабам, калі да ўзбітых яец дабаўляецца малако і мука.
Паказаны лексіка-словаўтваральныя адрозненні. Назва *грыпке́* картаграфуецца як *грыбо́к, баўту́шка* — як *баўту́ха, балта́нка* — як *бо́ўтанка, рызбыўта́ныя я́ешня, я́ешня боўта́ная, я́ешня буўта́шчыя* — як *я́ечня разбо́ўтаная, драчо́на* — як *драчо́ніна, калату́шка, паткалату́ха* — як *калату́ха, падкалочана я́ешня* — як *я́ечня раскало́чаная, я́ішня (я́ечніца) разбіва́ная* — як *я́ечня разбіва́ная, я́ешня мало́чная, ее́чня молоча́на, я́ешня на малацэ́* — як *я́ечня з малако́м, я́ічніца з муко́й* — як *я́ешня з муко́й, басу́шка* — як *я́ешня бо́сая.*
Не картаграфуецца назва *я́ечня (я́ешня, я́ішня),* таму што на яе ёсць асобная карта. Матэрыялы прыведзены ў індэксе да карты № 364.
*грыбо́к* 3, 8, 17, 31, 35, 43, 54, 56, 57, 80, 81, 104, 116, 124, 125, 128, 129, 137, 140—142. *грібо́к* 32, 33. *грыпке́* 64.
*баўту́ха* 25, 25а, 30, 57, 85, 127. *балту́ха* 54. *баўту́шка* 27.
*бо́ўтанка* 26, 75. *балта́нка* 54.
*я́ечня разбо́ўтаная* 101, 104, 106, 120а, 129. *ее́чня разбо́ўтаная* 134. *я́ешня разбо́ўтаная* 14, 28, 47, 59, 64, 72, 74, 75, 85, 88, 118, 119, 123, 124, 128, 140. *ее́шня разбо́ўтаная* 126. *рызбыўта́ныя я́ешня* 87, 89. *розбо́ўтана ее́чня* 102. *розбо́втана іе́чня* (рэдк.) 96. *я́ешня бо́ўтаная* 69. *я́ешня буўта́шчыя* 84, 85.
*драчо́ніна* 13—15. *драчо́на* 86.
*калату́ха* 38, 82. *калату́шка* 6. *паткалату́ха* 52.
*я́ечня раскало́чаная* 37, 80. *роскало́чана йіе́чня* 97. *роскало́чона іе́чня* 103. *роскало́тёна я́ечня* 108. *падкало́чана я́ешня* 48.
*чачо́ха* 41, 42, 78.
*куле́ш* 74, 77, 128.
*я́ечня разбіва́ная* 4, 19, 62, 99, 122. *ее́чня разбіва́ная* 134. *я́ешня разбіва́ная* 2, 24, 29, 47, 51, 117, 127. *я́ішніца разбіва́ная* 17. *я́йка разбіва́ныя* 51. *я́йкі разбіва́ныя* 58. *я́ешня разбіва́на* 120. *я́ечніца разбіва́на* 20. *ее́чня розбіва́на* 107.
*я́ечня розбы́та* 109, 132. *ее́чня рузбэ́та* 98. *я́ешня разбі́та* 135, 137.
*я́ечня з малако́м* 62, 67. *я́ечня з молоко́м* 96. *іе́чня з молоко́м* 90. *ее́чня молоча́на* 107. *я́ешня з малако́м* 55, 73. *я́ешня на малацэ́* 10, 11, 21. *я́ешня мало́чная* 33.
*я́ешня з мукой* 7, 35, 73. *я́ешня з муко́ю* 140. *іе́чня з муко́ю* 96. *я́ічніца з муко́й* 9.
*я́ечня бо́сая* 115, 118. *бо́съя я́ешня* 5. *басу́шка* 5.

*яешня тоўстая* 37, 123.
*яечня розмішана* 91. *розмішана іечня* 96. *размешаная яешня* 31. *размешанъя яешня* 33. *розмешана еешня* 114.
Адзінкавыя: *блін* 1. *амлет* 8. *мачанка з яйца з малаком* 18. *калбочаная яечня* 45. *лясавая каша* 60. *бабка* 79. *коломага* 102. *коўбаса разбоўтаная* 106. *яечніца* 109. *мачанка* 111. *хармушка* 119. *тамлет* 131. *марцоўка* 139.

### Карта № 366

## РАЗБІВАЦЬ ЯЕЧНЮ

№ 2096 «Яечню разбіваць, боўтаць, калбоціць...»
Картаграфуюцца варыянты дзеяслова разбіваць. Пры картаграфаванні дзеясловаў граматычныя формы не бяруцца пад увагу.
*разбіваць* 4, 32, 45, 54, 57, 62, 67, 73, 75, 98, 104, 114, 118, 120, 121, 122, 127, 132, 135, 140. *розбываці* 96а. *розбіваць* 134. *разбіваюць* 10, 11, 16, 28, 29, 49а, 70. *разбіць* 13, 40, 100. *розбыты* 94а, 103, 108, 109. *розбіць* 136.
*калаціць* 38, 47, 81, 82. *закалаціць* 25, 125. *раскалачваць* 37. *раскалаціць* 36, 63, 78, 80, 94, 108. *ръскылаціць* 43, 44. *роскολοтыты* 94а, 95, 97, 103. *росколоціць* 102, 113.
*боўтаць* 26, 28, 48, 64, 74, 101, 104, 118, 122, 124. *разбоўтаць* 17, 25а, 46, 55, 65, 69, 71, 120а, 123.
*баўтаць* 75, 83—86, 128, 129. *забаўтаць* 95. *разбаўтаць* 27, 42, 59, 68, 76, 87, 89, 105, 119, 124. *разбуўтаць* 14, 34. *розбоўтаць* 140.
*калбаціць* 58. *раскалбаціць* 58. *раскалбоцяць* 52а.
*размешваць* 114. *размяшаць* 110. *размішаць* 32, 34. *розмішаты* 91.
Адзінкавыя: *паткалатаць* 52. *расцерці* 69. *рострыпаты* 90.

### Карта № 367

## КІСЕЛЬ З АЎСЯНАЙ МУКІ

№ 2097 «Што вараць з аўсянай мукі: кісель, жур...»
Картаграфуюцца назвы аўсянага кісялю. Лексема *журышка* картаграфуецца як *журыха*.
*кісель* 1—36, 38, 40—66, 68—76, 78—81, 83, 84, 86—89, 93, 94, 97—102, 104—107, 110—113, 115—117, 120—130, 134, 136, 138—142. *кісіль* 131. *кісыль* 91. *кысіль* 94а — 96а, 98, 103, 108. 109, 132. *кысыль* 90, 97.
*жур* 1, 8, 12, 13, 15—17, 23, 37, 47, 50, 54, 57, 58, 63—67, 69, 71, 72, 76, 77, 82, 90, 92, 94—96, 101—105, 107, 108, 110—112, 114—118, 119, 121, 128, 135, 137, 140—142. *джур* 109. *дзюр* 133.
*журыха* 7. *журышка* 15.
Адзінкавыя: *талакно* 9. *поліўка* 39. *аўсянка* 85. *мамалыга* 86.

### Карта № 368

## ЖУР (значэнне слова)

№ 2099 «Што абазначае слова жур: а) аўсяны кісель, б) рэдкі кісель, в) сок з журавін, г) кіслая вадкасць з аўсянай мукі...» Жур: а) ставіць гатаваць, варыць, б) цiснуць...»
Картаграфуюцца адказы на першую частку пытання —« Што абазначае слова жур». Адведзены ад картаграфавання словаўтваральныя варыянты ад *жур* — *журка* і *журок*.
'аўсяны кісель' 7, 14, 15, 17, 29, 31, 37, 48, 50, 54, 59 (устар.), 61, 63, 64, 71, 83, 103, 104, 112, 114, 118, 119, 120а, 122, 123, 135, 137, 139, 140, 141.
'рэдкі кісель' 1, 6, 8, 12, 13, 16, 24, 27, 46, 52а, 53, 54, 57, 58, 61, 65—72, 76, 77, 82, 83, 85, 90—92, 94—96а, 101—103, 105, 107, 113, 116—118, 121, 126—128, 132, 138, 140.
'кіслая вадкасць з аўсянай мукі' 8, 12, 16, 50, 54, 88, 104, 114, 119, 127, 132, 133, 137, 140, 142.
'вараны квас з кіслай жытняй рошчыны' 20, 45, 49, 49а, 78.
'поліўка' 19, 21, 23.
'сок з журавін' 125, 136.
Іншыя значэнні: 'страва з расолу квашаных буракоў' 3. 'гнаявая жыжа' 44. 'рэдзенькі кулеш' 51. 'кіслая страва з салёных агуркоў' 52.
Адведзены: *журка — кроў, жытняя мука, а хто хлеб крышыць, вараць мясны расол, а потым залiваюць кроў з мукой* 22. *журок — навар ад мяса, рыбы, вадкая частка стравы (жыжка)* 25.

### Карта № 369

## ЦЭД

№ 2098 «Я. н. адцэджаная на рэшаце рошчына з аўсянай мукі, з якой вараць кісель: цэд, цэт...»
Картаграфуюцца назвы цэду. Лексемы *малако, аўсяная малако* картаграфуюцца тым жа знакам, што і *кісялёвае малако, кысылыця* — як *кісялёвіны*. Адводзяцца ад картаграфавання назвы *кісель, асцюлькі, жом, шкробкі, выжымкі, жужэль, вычавкы*, бо яны не адпавядаюць тэме карты.
*цэд* 6, 10, 11, 17, 28, 36, 37, 43, 57, 59, 60, 67, 70, 75, 83, 85, 104, 106, 114, 117, 120, 120а, 12—124, 131, 133, 140—142. *цед* 41, 42. *цід* 108. *цод* 89. *цыд* 102. *цэт* 1—4, 7—9, 14, 16, 18—21, 24—25а, 29, 31, 35, 43, 49, 49а, 52а, 54, 58, 61, 62, 66, 68, 69, 71, 72, 74, 76, 83, 105, 110, 111, 138, 141. *цет* 13, 15, 22, 23, 26, 27, 30, 32, 63—65.
*цеж* 83, 107, 136.
*мел* 132. *міл* 109.
*кісялёвае малако* 51. *кісялёва малако* 52. *малако* 118. *аўсяная малако* 77.
*кісялёвіны* 94. *кысылыця* 96а.
*рошчына* 46, 47, 94а, 95, 97, 126, 135.
Адзінкавыя: *воцыд* 44. *жур* 45. *тісто* 98. *юшка* 125.
Адсутнасць назвы: 5, 12, 33, 34, 39, 40, 48, 50, 55, 56, 73, 80—82, 86—88, 90—93, 100, 101, 112, 115, 127—130, 134, 137, 139.
Адведзены: *кісель* 8а, 78, 79, 87. *асцюлькі* 88. *жом* 99. *жужэль* 101. *шкробкі* 113. *вужымкі* 116. *выжымкы* 96. *выжымкі* 121. *вычавкы* 103.

### Карта № 370

## ПРЫГАРКІ

№ 2102 «Я. н. падгарэўшыя часткі варанай бульбы: прыгаркі, гарэлікі...»
На карце адлюстраваны назвы прыгаркаў. Паказаны лексіка-словаўтваральныя адрозненні. Назоўнікі адзіночнага ліку (жаночага і мужчынскага роду) картаграфуюцца як назоўнікі множнага ліку. Назва *агаркі* картаграфуецца як *абгаркі, гарэлкі* — як *гарэлікі, прігорілы картоплы* — як *прыгарэлая картошка, смалінкі, смалёнка* — як *смалянкы, прыгарачкі* — як *прыгаркі*.
*прыгаркі* 5, 23—25а, 27, 28, 30, 36, 37, 40, 43, 45, 47, 49, 50, 54—57, 59, 61—65, 67—70, 73—75, 80—82, 91, 93, 94, 99, 102, 104—107, 110—112, 115, 118, 119, 123, 125, 126, 128, 129, 135—138, 140, 142. *прігарькі* 44, 83, 86, 113, 134. *прыгъркі* 41. *прыгыркі* 78. *прыгарькі* 117. *прыгаркы* 97, 103, 132. *прыгарка* 38, 42, 66, 109, 130. *прыгарак* 48. *прыгарък* 15. *прагарак* 58. *прігарък* 13. *прыгарачкі* 46.
*прігары* 134. *прыгар* 90.
*падгаркі* 10, 11. *пъдгаркі* 41. *пыдгаркі* 85. *пъдгарък* 8а.

*пігáркі* 67, 93, 94, 100, 121, 135. *пыгáркы* 96. *пыгáрка* 95, 133.
*абгáркі* 1, 2, 3, 18, 22. *агáркі* 6, 21.
*згáркі* 99. *згáрке* 98.
*гарэ́лікі* 29, 31, 35, 59, 71, 72, 75—77, 114—116, 118, 120, 120а, 122, 124, 127, 137, 139, 140, 142. *гарéлікі* 16, 17, 26, 34, 44. *горэ́лікі* 101, 102. *гарэ́лкі* 135.
*погорілцы* 94а. *погорілэц* 108.
*гарэ́лая бýльба* 7, 8, 9. *гарéлыя бýльба* 85.
*прыгарéлъя картóшка* 12. *прыгорíла бýльба* 109. *прíгорілы картóплы* 96.
Адзінкавыя ўтварэнні ад таго ж кораня: *абгáраш* 4. *пыдгарéлыя картóшка* 87. *прыгáрці* 98. *смогорэ́лікі* 102. *горэля́кі* 114. *гарэ́льцы* 133. *загáранікі* 141.
*пéнкі* 14, 32, 84, 123. *пéнка* 89.
*асмáлкі* 49а, 51, 54, 60.
*смалянкí* 92. *смалінкі* 53. *смалёнка* 67.
Адзінкавыя: *сухáркі* 19. *запякáнкі* 20. *шкарýпка* 33. *піражкí* 79. *кóркі* 81. *смалюхí* 90.

## Карта № 371

## БУЛЬБЯНАЯ КАША

№ 2104 «Я. н. таўчоная каша з бульбы: таўчонка, камы, таўканіца, таўкеня...»
На карце паказаны лексічныя, словаўтваральныя, акцэнталагічныя і складаныя назвы кашы з таўчонай бульбы. Ад картаграфавання адведзена лексема *пюрэ́*, якая з'яўляецца ў гаворках новым запазычаннем з літаратурнай мовы. Пры картаграфаванні ўлічвалася і назва стравы, якая рабілася з таўчонай бульбы з дабаўленнем бобу або гароху (пп. 9, 10, 11).
Як *бульбя́ная кáша* картаграфуюцца *бульбóва кáша* (109 п.), *бульмéнная кáша* (68), *картафля́ная кáша* (9, 57, 59, 63, 69, 71, 111). *картапля́ная* (50, 70, 105, 102), як *таўканíца — туўкавíца* (83), як *таўчóная кáша — тóўчана кáша* (46, 134). Як *камякí* картаграфуецца *камакí (комáкі)*, 72, 112, 115—117, 136), як *токмачí — томочí* (96а), як *таўканíца — таўчаніца* (45).
*кáша* 5, 8, 12, 13 (з бульбы), 15, 25а, 27, 38 (запраўленая салам), 47, 48, 49а, 52, 52а, (з бульбы), 53, 54, 58, 62, 118, 122.
*кáша бульбя́ная* 14, 18, 20, 26, 29, 33, 76, 111, 119. *кáша бульбянá*я 4, 19, 21, 22, 24, 124. *кáша бульбінáя* 7, 8а, 10, 11, 34. *кáша булбя́ная* 18. *бульбя́на кáша* 121. *бульбóва кáша* 109. *бульмéнная кáша* 68. *картафля́ная кáша* 9, 57, 59, 63, 69, 71. *картафля́на кáша* 111. *картапля́на кáша* 50, 70, 105. *кортопля́на кáша* 102 (трад., часцей).
*таўчóная кáша* 1, 49. *тóўчана кáша* 46, 134.
*камы́* 2—4, 6, 16, 17, 23, 25, 28, 30—32, 35, 37, 38 (з канаплямі), 39, 40, 42, 44, 74—78. 80, 81, 84, 88, 126, 127. *камы́* 9 *(картóшка вáраная + боб)*, 10 *(з бобу, гароху і бульбы)*, 11 *(з бульбы, гароху або бобу)*. *камý* 141, 142. *камá* 76 (трад.).
*ком* 53, 54.
*камякí* 67, 71, 77, 99, 100, 106, 110. *камакí* 72, 112, 115, 116. *комякí* 107, 135, 139.
*камьякí* 99. *комнякí* 101. *комакí* 117, 136. *камякé* 60, 61, 64, 65. *камякê* 66.
*камя́к* 55, 56, 62, 104.
*кóўма* 137.
*таўчóнка* 36, 41, 42, 85, 118, 125, 128, 129.
*тóўчанка* 82, 125, 129, 130.
*таўчанíца* 45.
*тоўканíца* 51, 93, 94. *тъўканíца* 73. *товканы́ца* 103, 108, 132. *товканы́ця* 90, 91, 97. *товканíця* 92. *тувканэ́ця* 98 (рэдка, нов.). *товканы́цы* 96. *товканы́ці* 96. *таўчаніца* 45.
*таўкéня* 85. *товкэ́ня* 94а. *товчэ́ня* 95.
*томочí* 96а. *токмачí* 131. *тукмачí* 98.
*густáя бýльба* 82, 87, 89 (рэдка).
Адзінкавыя варыянты з коранем *-таўк-*: *тóвча* 113. *таўчэ́нік* 138. *таўкуны́* 140.
*тóўчаная бýльба* 81, 86, 128, 129, 134. *тóўчънъя бýльба* 41. *бýльба тóўчыныя* 43, 44, 79, 87. *тóўчана картóпля* 102.
Адзінкавыя: *картапля́нка* 102, 114. *талмачáнка* 118. *тóпчанка* 123. *бульб'я́нка* 134. *тóптанка* 142.
Адведзены: *пюрэ́* 35 (нов.), 40 (цяпер.), 80 (нов.), *пірó* 69 *(называюць цяпер па-ваéннаму)*.

## Карта № 372

## ДРАЦЬ БУЛЬБУ

№ 2108 «Бульбу на бабку, бліны трэба церці, драць, таркаваць...»
Пры картаграфаванні граматычная форма слова не ўлічваецца.
*драць* 1, 5, 6, 8а — 11, 15, 21, 25а — 27, 29—44, 50, 52а — 54, 56—61, 63—65, 67—70, 73—76, 78—89, 100, 112, 116—121, 123—130, 135, 138, 139. *надрáць* 66.
*дзéрці* 8а, 25, 28, 53, 54, 77, 115, 122.
*дзёрці* 23, 24. *здзёрці* 2. *здзёрць* 4. *надзёрць* 8.
*цéрці* 7, 9, 13, 29, 43, 45, 46, 48, 51, 55, 62, 93, 99, 102, 104, 114, 117, 128, 137, 140—142. *церць* 12, 16, 17, 47, 49, 49а, 85, 125, 128, 136. *церéць* 14. *тэ́рты* 90—92, 94а — 96а, 103, 108, 109, 131, 132. *тэ́ртэ* 98. *тэ́рті* 94. *тэ́рці* 133. *натэ́рты* 97.
*таркавáць* 4, 18, 20, 22, 57 (польск.), 67, 71, 72, 105, 110, 111. *тарковáць* 113. *тарковáці* 107. *таркавáц* 3. *торковáць* 106.
Адзінкавыя лексемы з коранем *-тарк-*: *тáрчат* 101. *тарчы́ць* 14. *тáрыць* 53.
*шаравáць* 52, 52а (радзей).

## Карта № 373

## ТАРКА

№ 2109 «Я. н. тарка: цёрка, драчка, тарка...»
На карце паказаны лексічныя і словаўтваральныя варыянты назвы таркі.
*тáрка* 1, 2 (даўн.), 3, 4, 6 (цяпер), 7, 8 (трад.), 8а — 20, 22, 23, 25а — 27, 29, 31, 45—62, 64—69, 71, 72, 75, 77 (сучасн.), 78, 80—83, 85, 94а, 99—101, 104—107, 110—113, 115—117, 119, 121, 122, 124, 126—128, 135—137, 139.
*дрáчка* 2 (сучасн.), 5, 6 (даўн.), 25, 28, 30, 32—44, 70, 73, 74, 76, 79, 81 (трад.), 83—89, 118, 120, 123—125, 128—130.
*дрáка* 21, 24.
*дзёрка* 54.
*цёрка* 8 (сучасн.), 29, 43, 71, 75, 77, 81, 83, 85, 87, 124 (нов.), 125, 140. *тíрка* 95. *тёрка* 133.
*цёртка* 114. *цéртка* 93, 102, 138, 141, 142. *тéртка* 134. *тэ́ртка* 90—92, 94, 98, 103, 108, 109, 131, 132.
*тыртýшка* 96. *тэртýшка* 96а, 97.

## Карта № 374

## БАБКА (страва)

№ 2110 «Я. н. бабка з бульбы: таркаванка, дранка, гугель, бабка, цяртуха...»
Картаграфуюцца лексічныя і словаўтваральныя варыянты назвы ежы з дранай бульбы. Адведзены ад картаграфавання лексемы *драчóнікі* і *дрáчыкі* ў 36 і 38 пп. (так хутчэй за ўсё называюць аладкі з бульбы, а не бабку), а таксама *мья́ліца* ў 93 п.
*бáбка* 14, 28, 37, 40, 41, 45, 47, 48, 61—63, 65, 67, 75, 77, 79—82, 84, 85, 87, 89, 91, 93, 96а, 97, 101, 102, 104, 106, 107 *(таркавáна)*, 109, 114, 116, 117, 119 *(з бýльбы)*, 120, 121 *(дрáная)*, 123—128, 129 *(дрáная)*, 130—136, 137 *(картапля́на)*, 138—142. *бáпка* 7, 8, 9, 11 (нов.), 15—22, 29—35, 39, 43, 44, 46 *(бульбянáя, кар-*

*тафляна)*, 50, 54—56, 66 *(драная)*, 68—71, 74, 76, 83, 88, 90, 94—96, 98, 100, 103, 108, 112, 115 *(картапляна)*, 118. *бапку пякуць* 52.

*баба* 94 (часцей), 94а, 99, 122.

*дранка* 7, 20, 26, 42, 44, 52а — 54, 57—61, 62, 63, 64, 67, 72, 73, 78, 81, 83, 84 (рэдка), 85—87. *дранька* 59.

*драчка* 49, 87.

*дзяронка* 10, 11.

Адзінкавыя назвы з коранем *-дзер-*: *дзяронік* 4. *дзёрка* 19.

*таркованка* 72, 110, 111.

*каша* 12, 23, 113.

*драная каша* 1 (цяпер), 2, 6, 9, 25 (цяпер), 25а, 27, 33. *каша дранъя* 5, 8а. *дзёртая каша* 24. *дзёртыя каша* 35.

*таркаваная каша* 2, 3. *таркована каша* 105.

*цёртъя каша* 13.

*мядзьвець* 27 *(каша драная, але у нас ўсе кажуць мядзьвець)*. *вядзьмець* 25 (трад.).

Адзінкавыя: *ґуґіль* 1 (даўней). *ґуґель* 134. *цяртуха* 12. *картофля церта* 51. *чачоха* 75. *гопа* 105.

Адведзены: *драчонікі* 36. *драчыкі* 38. *мъяліца* 93.

## Карта № 375

## ДРАНІКІ

№ 2111 «Я. н. бліны з цёртай бульбы: дранікі, драчонікі, дзярбонікі, картаплянікі...»

Картаграфуюцца карані слоў, якія называюць бліны (аладкі) з бульбы. На карце паказаны як лексемы (карані назоўнікаў), так і наяўнасць азначальных слоў. Заўвагі аб ужыванні і значэнні лексем прыводзяцца ў спісе пасля нумара населенага пункта. Не картаграфаваўся адказ у 113 п.: *пірогі картопляныі*. Тут няясна аб якой рэаліі (страве) ідзе размова. Па той жа прычыне не картаграфуецца адказ у 103 п. *чурэкы, чурэхы*. Адным знакам картаграфуюцца *дран- (ікі), дзяр- (онікі), драч-(ы)* і адным знакам *алад-(кі), лад-(кі), аглад-(кі)*. Як *блін-(ы)* картаграфуюцца *млін-(ы)*.

*дранікі* 2, 4, 5, 7, 8—9, 14, 15, 21, 25, 25а. 31 *(бульбяныя)*, 42—44, 57, 63 *(дранікі — гэта латкі, а бліны бальшыя)*, 63, 65, 67, 71—77, 79, 81—85, 86, 88, 89, 102, 104, 112 (радзей), 116, 118—122, 126—130, 134, 135 (нов.), 136, 137. 141, 142. *дранікі, дранік* 1, 8, 68. *дранкі* 54. *драннікі* 124. *драчонікі* 28, 30, 34, 35, 40—42, 75, 78, 81, 82, 140. *драчонік* 123. *драчанікі* 37. *драчоны* (звычайна вялікія, тоўстыя) 79, 87, 129. *драчонкі* 125. *драчы* 37, 80, 83, 85, 140, 141. *дзяронікі* 10, 11, 15, 33. *дзеруны* 136. *дэруны* 131.

*бульбянікі* 26, 28, 39, 47, 52а, 87, 107, 134. *бульбовнікэ* 98 (рэд.).

*картафлянікі* 17, 105, 138. *кыртыфлянікі* 85. *картафлянкі* 46 *(картафлянка)*, 61. *картфляньке* 54. *картаплянікі* 50, 55, 62, 64, 110, 111, 112. *картоплянікі* 114, 117. *картопляныкы* 108. *картоплянцы* 103 *(картоплянец)*.

*бліны* 3, 23, 52. *блінэ* 48, 100. *блінцы* 49а *(картафляныя)*, 106. *блінцэ* 49. *мліны* 94а. *млынці, млынэц* 103.

*бульбяныя бліны* 18—20, 58. *блін бульбяны* 36. *бульбяные блінцэ* 133. *картафляныя бліны* 51, 59, 69. *картапляныя бліны* 115. *картапляные бліны* 135. *картопляны бліны* 95, 96а, 101. *картапляныя блінэ* 66. *блінэ картапляны* 99. *мліны картопляные* 140. *млінці бульбаныі* 132 *(на всю сковородь)*. *картопляны млынці* 108. *таркаваныя бліны* 2, 20. *тарчыныі бліны* 13. *драныя бліны* 2, 6, 8а, 29, 38, 69, 75, 89. *драныя блінэ* 53. *блін драны* 36. *бліны дзёртыя* 4 *(а тоўсты блін з салам — какорка)*, 24. *бліны цёртыі* 12.

*алаткі* 22. *оладкі* 91, 114. *олаткі* 113. *латкі* 36. *агладка* 45. *(малы блін, у нядзелю пячэм аглаткі картапляныя, а калі блінэ)*.

*алаткі картафляныя* 56. *оладкы картофляны* 97, 132 *(малыі)*, *олаткы картофляны* 96. *картапляныя алаткі* 60. *картапляныя ладкі* 135. *аглаткі картафляныя* 46. *оглаткі (картопляны і мучныі)* 90, 94 *(огладок)*. *аглаткі з бапкі* 93.

Адзінкавыя: *таркаванікі* 2. *ціртукі* 16. *пляцкі* 59. *пляцкы з картопель* 92. *пудпалкэ* 98. *картаплянцы* 103. *бэцы, пычонкы* 131. *чурэкы* 103 (рэдк.) — з'явілася ў 20-я гады; *чурэхы, чурэх* (рэдк.). *пірогі картопляныі* 113.

## Карта № 376

## СКРЭБЦІ (маладую бульбу)

№ 2113 «Што трэба рабіць з маладой бульбай, каб зняць з яе лупіны: чысціць, скрабці, скрэбці, скабліць...»

На карце паказаны лексічныя супрацьпастаўленні назвы працэсу ачысткі маладой бульбы ад лупін, акрамя таго, адлюстраваны характар першага зычнага ў словах з коранем *-скр- (скрэбсці — шкрэбсці)*, а таксама націск. Фанетычны склад слова і граматычная форма[1] пры картаграфаванні не ўлічаны. Гэтыя дадзеныя можна знайсці ў спісе да карты. У спісе прыведзены заўвагі аб ужыванні слова.

У 48 і 64 пп. знак пастаўлены з улікам адказаў на пытанне № 2114 (гл. карту № 377) *калі бульба маладая, дык яе скрабуць, а калі старая, то абіраюць картофлю* (48); *у старой стругаюць, у маладой — скрэпці* (64). Як *скабліць* картаграфуецца *шкабліць* (130 п.).

*скрабці* 59, 61, 104, 110, 135. *скрапці* 50—52, 55, 60, 62. *скрэбці* 114. *скрэбті* 134. *скрабсці* 27, 49а, 83, 105. *скрапсці* 9, 46, 56, 125. *скрыбсты* 91. *скрасці* 86. *скрыптаты* 95, 103. *скрэптаті* 94. *скрэптаты* 92. *скрабаць* (2 радзей), 4, 8, 8а, 19 (трад.), 20, 24, 47. *скрабуць* 3, 18, 22, 25а, 32, 33 (трад.), 48, 52а, 87. *скрабаюць* 49. *наскрабаць* 18.

*скрэбці* 45, 67, 112, 115, 116, 122, 126, 140, 142. *скрэпці* 30, 53, 54, 63, 64, 65, 66, 68—71, 84, 99, 111, 112. *скребці* 117. *скрэпці* 26 (трад.). *скресць* 84. *скрэсь* 14, 16. *наскрэбці* 120. *паскресць* 89.

*шкрапці* 100. 120а. *шкрыбты* 132. *шкрэбці* 133. *шкрэбты* 108. *шкробаты* 94а. *шкрыбтаты* 90. *шкрэбэм* 101.

*шкрэбці* 42, 77, 119, 127, 138, 139, 141. *сшкрэбці* 107. *шкрэпці* 72, 76, 118, *шкребці* 102. *шкребаты* 131. *пошкребуватэ* 98. *шкрэпсці* 81. *шкрэбсці* 121. *шкрэсці* 123. *шкрэсць* 82, 128. *шкресць* 79, 83. *шкрэбаць* 36.

*скабліць* 1, 2 (пераважна) 5, 6, 8а, 12, 13, 16, 21, 23, 24, 25, 28, 29, 31, 34, 39—41, 44, 73—75, 78, 80, 81, 88, 128, 129. *скабліці* 93. *скоблыты* 96—97, 131. *шкабліць* 130.

*чысціць* 7, 8а, 9—11, 15, 21, 26 (нов.), 29, 33 (нов.), 35, 54, 76, 80, 81, 85. *чысціці* 102. *чыстыты* 103. *чысцюць* 87. *абчысціць* 40. *обчысціць* 107.

Адзінкавыя лексемы: *абразаць* 19. *абабраць* 48, 54. *обобраць* 107. *лупіць* 58 (старажыт.), 126. *стругаць* 54. *дрэпаць* 37. *склобіць* 106. *хорошыты* 109.

## Карта № 377

## ЧЫСЦІЦЬ (бульбу)

№ 2114 «Што трэба рабіць са старой бульбай, каб зняць з яе лупіны: абабраць, чысціць, абразаць, скабліць, стругаць...»

Працэс ачысткі старой бульбы ў асноўным мае тыя ж абазначэнні, што і для маладой (гл. карту № 376), але разам з тым вядомы спецыяльныя абазначэнні.

На карце паказаны толькі лексічныя супрацьпастаўленні.

*скрапці* 50 (радзей), 55. *скрэпці* 113. *скрабаць* 4, 19. *скрэбаць* 8а. *скрабуць* 3, 52а. *скрябуць* 87. *скрэпці* 18, 69 (старажыт.), 115, 116. *скрепці* 117. *шкрэпці* 133. *шкрэпці* 76 (трад.).

*скабліць* 5—7, 8а, 21, 23, 25, 30, 36, 38, 41 *(кажуць і скабліць)*, 42 *(аджылыя слова)*, 44, 83—85, 89, 100. *скабліці* 93. *скобліты* 90. *скублеты* 91. *скабляць* 88. *шкабліць* 130.

---

[1] Формы інфінітыва дзеясловаў гл. ДАБМ, карты № 174—179.

*чысціць* 7—15, 17 26 (нов.), 29, 31, 32, 34, 36—39, 41—43, 45, 47, 54, 57, 61, 67 (нов.), 73 (нов.), 75, 76, 79, 82, 84—87, 89, 118, 119 (нов.), 123, 125, 126, 128, 129, 137, 142 (нов.). *чысціці* 101. *цысціць* 16. *абчысціць* 35. *обчысціць* 107. *очыстыты* 108 (нов.). *начысціць* 2.

*абіра́ць* 20, 22, 26 (трад.), 27, 31, 46, 48, 49а, 50, 53, 56, 59, *(бо́льш ча́ста варо́ную, але мо́жна сказа́ць і пра сыру́ю бу́льбу)*, 62, 63, 67 (трад.), 68, 69 (суч.), 70, 72, 104, 111. *обіра́ты* 94а. *обыра́ты* 96. *обэра́ты* 96а. *убіра́ты* 98. *абабра́ць* 26, 46, 54, 71, 107. *обобра́ті* 94. *обобра́ты* 108. *наабіра́ць* 51.

*абраза́ць* 1, 4, 9, 24, 28, 29, 33, 36, 54, 57 (больш часта), 58, 66, 69, (суч.), 99. *обрэза́ць* 102. *образа́ці* 107. *обрэ́зваць* 50, 55 (рэдка), 105. *обрэ́зваць* 106. *обрэ́зваці* 101. *обрэ́зваті* 94. *обрі́зуваты* 95, 103, 131. *обры́зваты* 97. *образа́юць* 25а. *обрэ́зваюць* 49. *обрэ́зацъ* 2. *абрэ́заті* 94. *обрэ́заты* 92. *обрі́заты* 103.

*лупі́ць* 52, 73 (трад.), 74, 77, 80, 81, 102, 110, 112, 114, 119, (трад.), 120а — 124, 126, 127, 135—142. *лупі́ть* 134. *лупы́ты* 109, 132. *аблупі́ць* 35, 60. *налупі́ць парёнак* 120.

*струга́ць* 54, 64—65. *абструга́ць* 59.

Адзінкавыя: *охороши́ты* 108.

## Карта № 378

## ЛУПІНЫ (ад бульбы)

№ 2115 «Я. н. лупіны з бульбы: шалупкі, шалупа, лушпайкі, лупіны...»

На карце паказаны супрацьпастаўленні лексічных варыянтаў, пры ўліку толькі асноў слоў. Словаўтваральныя варыянты (суфіксы) картаграфуюцца на карце № 379.

У некаторых пунктах ёсць заўвагі, якія сведчаць аб складаных семантычных адносінах лексем: 2 *аскро́бачкі (з маладо́й), абрэ́скі (са старо́й), ад бу́льбы шалупі́ны* (агульная назва). 23 лупіны з маладой — *скаблюшкі.* 25 *аско́бліны* (з сырой бульбы), з варанай бульбы — *лупі́ны.* 111 *лупі́ны, лушпа́йкі* (з сырой бульбы, варанай). З прыкладаў відаць, што існуе розніца ў назве лупін у залежнасці ад таго, зняты яны з сырой старой ці маладой бульбы, або варанай. Але, на жаль, такая асаблівасць заўважана і адзначана не ўсімі збіральнікамі. Там, дзе зафіксавана два або больш лексічных варыянтаў, магчыма, ёсць і адрозненні слоў па зместу. Аднак аб гэтым можна толькі меркаваць, бо на гэта не ўказваецца.

*Шкарлу́ш(кі)* картаграфуецца як *шка́рлуп(кі).*

*лупі́ны* 9, 18, 20—23, 25 (з варанай), 26, 27, 45—49а, 51—54, 56, 58, 59, 61, 65, 72, 79, 93, 94, 99, 104, 110, 111. *лупы́ны* 90—92, 96, 96а, 108. *лупэ́нэ* 97. *лупі́на* 60. *лупы́нына* 103. *лупы́нне* 103. *лупі́нкі* 19. *лупы́нкы* 109. *лупаві́ны* 32, 50, 54, 55, 100, 102. *лупа́вкы* 94а. *лупа́йкі* 71, 72, 105, 107, 112, 113—116, 135, 139, 140. *лупа́йкы* 96 (рэдк.), 103. *лупайке́* 98. *лупяйкы́* 95. *луп'якы́* 95. *лупэ́йкі* 107, 122.

*лушпа́йкі* 54, 62, 63, 67, 101, 111, 117, 120, 133, 134, 136—138. *лушпайкі́* 113. *лушпайкы́* 132. *лушпе́йкі* 116. *лушупа́йкі* 137, 141, 142. *лушпа́і* 57, 134. *лушпі́ны* 57. *лушпаві́ны* 54.

*шалупа́йкі* 66, 69, 73—75, 77, 82, 118, 119, 120а, 123—127, 129, 141. *шалупе́йкі* 73, 76, 81. *шалу́пкі* 4, 5, 8а, 10, 11, 15, 30, 34, 37, 40, 69, 75, 80, 85, 118, 121, 128—130. *шалупі́ны* 3, 24, 25а. *шалупі́на* 4. *шулупі́на* 35. *шалупа́* 33, 70. *шолупа́* 36. *шылупа́* 40, 85. *шълупа́* 41. *шулупа́* 87. *шалупа́і* 68. *шалупо́ны* 2. *шалупя́кі* 6, 28. *шалупе́ння* 64. *шулупа́хі* 87.

*шарлу́пкі* 8а, 13.

*шалу́шкі* 8, 9, 16, 29, 80, 125.

*шалуха́* 9, 38. *шолуха́* 14, 17. *шулуха́* 32, 39, 43, 78, 83, 84, 87, 89. *шылуха́* 44, 83. *шарлу́шкі* 8.

*шкарлу́шкі* 14. *шкарлу́пкі* 1, 7. *шкарлу́пка* 9.

*скаблю́шкі* 23 (з маладой). *скаблёнкі* 36. *скыблявіння* 44. *аско́бліны* 25 (з сырой бульбы).

*абрэ́зкі* 57, 135 (нов.). *обрэ́скі* 2 (са старой), 31. *обры́зкы* 106. *обрі́зкы* 108, 131. *ачы́сткі* 9, 12, 14, 36.

*аскро́пкі* 21. *аскро́бачкі* 2 (з маладой).

*пе́нкі* 85, 86, 89.

Адзінкавыя: *цяро́пкі* 9. *пацяро́пкі* 31.

## Карта № 379

## СУФІКСЫ Ў НАЗВАХ ЛУПІН БУЛЬБЫ

Карта з'яўляецца дадаткавай да карты № 378. «Лупіны бульбы». Картаграфуюцца суфіксы, пры дапамозе якіх утвораны назвы лупін ад бульбы. Увесь матэрыял знаходзіцца ў каментарыі да карты № 378.

## Карта № 380

## ВАРЫЦЬ ЕЖУ

№ 2116 «Прыгатаваць вараную страву: зварыць, згатаваць...»

На карце паказаны карнявыя марфемы і не ўлічваліся словаўтваральныя, фанетыка.

Ёсць заўвагі аб ужыванні слоў, якія прыводзяцца ў спісе слоў пасля лічбы.

Як *гатава́ць* картаграфуецца *гато́віць* (2, 29, 75, 80, 104, 125, 134 пп.).

*вары́ць* 1, 5 (цяпер), 8, 19, 20, 22, 24, 25 (трад.), 34 *(свіннім ва́руць)*, 58, 69 (пераважна), 72, 77, 121, 122. *варі́ць* 32. *вары́ты* 92. *звары́ць* 3, 4(сучасн.), 8а — 12, 14, 15, 17, 21, 23, 25а, 27—31, 33, 35, 36, 37, 40, 42, 43, 46—57, 59—64, 66—68, 70, 71, 73—76, 78, 80 (страву), 81, 82, 88, 99, 100, 104 (больш часта), 103—107, 110—112, 120, 123—130, 133, 135—142. *звары́ть* 134. *зварі́ць* 13, 16, 39, 41, 44, 79, 83—87, 89, 113—118. *зварі́ці* 93, 101. *зварі́ці* 94. *зворы́ць* 102. *звары́ты* 90, 91, 94а — 96, 97, 103, 108, 109, 131, 132. *зворэ́тэ* 98. *навары́ць* 105, 119. *навары́ты* 96а.

*гатава́ць* 6 (даўней), 20, 25(сучасн.), 69 (радзей). *згатава́ць* 2 (даўней), 4 (трад.), 18, 23, 26, 45, 59, 67, 75, 81, 127 (нов.), 128. *зготова́ць* 107. *згытыва́ць* 83, 85, 87. *згутува́ць* 40 (радзей), 43. *згато́віць* 2, 29, 75, 80 (абед), 104, 125. *згото́віць* 134. *зъгътыва́ць* 42 *(як ужо́ к яко́му ве́чыру гату́іцца)*. *прыгато́віць* 46. *нагото́выты* 103.

Адзінкавыя: *пастро́й што-н. к абе́ду* 2.

## Карта № 381

## ПРЫВАРАК (значэнне слова)

№ 2119 «У якім значэнні ўжываецца слова прыварак: а) страва з гародніны (капуста, буракі), б) мука з памолу сумесі ячменю, грэчкі і гароху, в) ячменная мука, г) агульная назва варанай стравы...»

Карта з'яўляецца семантычнай. Лексема *прыва́рак,* якая картаграфуецца, адзначана не ва ўсіх населеных пунктах. Гэта тлумачыцца тым, што лексема знікае, разбураецца і яе семантыка. Цікава, што ў некаторых выпадках яна пашырана — пераносіцца і на сучасны прадукт — канцэнтраты, макароны — г. зн. называюцца словам *прыва́рак* усе прадукты, з якіх робяць някіслую вараную страву. (гл., напрыклад, 53 п.).

Словам *прыва́рак* называюцца звычайна мука ці крупы з усіх збожжавых (акрамя жыта), гароху, бобу. Часта яно называе вараную ежу з гэтых прадуктаў. У частцы пунктаў *прыва́рак* — гэта гародніна ці страва з яе.

У тых пунктах, дзе разглядаемая лексема адсутнічае, некаторыя збіральнікі прыводзяць яе семантычныя адпаведнікі. На карце яны не фіксуюцца, але ўсе падаюцца ў індэксе.

Адсутнасць лексемы паказана на карце толькі ў тых выпадках, калі на гэта ёсць прамое ўказанне або замест яе прыводзяцца сінонімы.

Не картаграфавалася складаная назва прадукта са збожжавых — *прыварко́вая мука́* (52 п. і інш., гл. індэкс.). Не картаграфуецца адказ у 45 п., так якён здаўся незразумелым, у 92 п.— па прычыне таго, што не раскрываецца значэнне слова.

1 *ежа // навáрым есь.* 2 *страва; кісла страва наз. варыва, някіслая — прывáрак.* 3—, *ядá.* 4 *страва // прывáрак.* 5 *ежа вáрънъя.* 6 *варава* (агульная назва ўсяго зваранага для яды). 7 *наварыла стрáвы; што зварыла? — наварыла і — ешці.* 8 *вáрыва; у мяне ў печы ёсць вáрыва* (крупеня, капуста і інш.) // патрава. 8а *варонъя; з'ёсці чаго-н. варонага.* 9—, *а вáрыва — ета бурáк малóдзенькі звáрыш са шчáўлем, заправіш, мукóй прыкалóціш — і цёплае вáрыва елі.* 10 *страва, вáрыва.* 11. *нáзваў вара, вáрыва нямá.* 12 *варіва.* 13 *варіва — уся гароднiна, што ідзе на варку.* 14—, *якое вáрыва, еш не перагавáрывая.* 15—. 16 *варіныя.* 17 *страва.* 18 *зваранае, а вáрыва — эта капуста ці буракі.* 19 *вáрыва (кiслая патрава).* 20 *вара, уліць якой-н. вáры.* 21 *вáрыва.* 22 *усякага вáрыва паставіла.* 23 *вáрыва трэба палóць — гарóдніна (акрамя капусты).* 24 *ядá; вáрыва — кiслая страва з бацвіння буракóў.* 25—, *вáраная страва, страва прэсная, страва кiслая.* 25а *страва; варава — зелянь, якую вáрым, бацвіння.* 26 *вáраная страва.* 27—. 28 *вáрыва (шчавéль, як вáраць).* 29—30 *вáраная.* 31 *вáрыва.* 32 *варіва.* 33 *варава — бурáчны ліст, а так вáраная ядá.* 34—, *вáрыва — бацьвінне з буракóў вáранае.* 35 *вáрыныя.* 36 *вáрыва.* 37 *варава.* 38 *страва, вáрыва — страва з бацьвіння на сырóвацца.* 39 *варіва.* 40 *вáрыва, кыдá бурачкі падымуцца і абламываюць лістóчкі, прыквáсюць і вáрыва варыла.* 42 *звáлыся вáрыва, як шчáйлю звáрыш ці мыладыя бурачкі з бацьвінім умесці.* 43 *ідá.* 44 *варіва* (але часцей гэта капуста або буракі вараныя). 45 *страва; ці падабáецца вам нáша страва?* 46 *стрáвы наварыла.* 47 *вáрана страва.* 48 *прывáрак; нямá чагó есці, каб якóга прывáрку зварыць.* 49 *вара.* 49а *вара кіслa, як у печы пастаіць кіслa.* 50—. 51 *страва, вара.* 52 *вáрыва.* 52а *у аплéценым гаршчóчку ўкусна варава.* 53 *вара; кiслай вáры зрабіла.* 54—56 *вара.* 57 *страва; вáрыва — гарóдніна на грáдках.* 58 *вара* (трад.), *страва.* 59—, *вáрыва — гароднiна.* 60 *вара.* 61 *вáрыво, прывáрак; вáрыво есці не хóчуць, а ўсё ў сухамятку.* 62 *вара.* 63 *вáраная.* 64 *ядá.* 65—. 66 *вáранае е.* 67 —. 68 *страва.* 69 *вáраная ядá, прывáрак; прывáрак — агульная назва варанай стравы.* 70 *страва, вáрыва — на гародзі, якóга ты вáрыва насадзіла?* 71 *ядá.* 72—, *наварыла ўсягó.* 73 —. 74 *вáрыва* (вараная страва). 75 —,*вáраная.* 76 *вáрыва.* 77 *вáрыва — кiслая страва, страва — агульная назва.* 78 *страва.* 79 *ідá.* 80 *вáрыва — агульная назва для зваранага: борщ, капуста, на супы не кажуць.* 81 *вáраная.* 82 *вáраная ё (заўсёды).* 83 *варіва.* 84 *варіныя.* 85 —. 86 *варіва (рэдка, у другіх дзераўнях часта).* 87, 88 —. 89 *варіва.* 90 *страва (праклёнах: каб тыбé вара зварыла).* 91 *вáрыво — агароднiна, сабраная на зiму.* 92 *страва.* 93 *вáрыво.* 94 *вара* (адз.), *вáры* (мн.) — *розныя вáраныя стрáвы.* 94а *страва.* 95 *вара, страва.* 96 *вáранэ.* 96а *вароно іжа.* 97 *вáрыво.* 98 *страва, варіво* (часцей працэс). 99—101 *вара.* 102 *вара, вáрыва.* 103—105 *вара.* 106 *вáрыў, вар.* 107 *вáрыва, паставіў у сцёбку ці кладыэўку вáрыва, наварыла, нагатавáла вáрыва.* 108 *вáрыво — тэ, шчо варыты.* 109 *варóна страва, страва,* 110 —, *ядá.* 111 *вáрыва, есць у цябé якáя вара?* 112 *вáранае, вара.* 113 *вáрэнэ.* 114 *варонэ.* 115 *вара // наварыла вáры.* 116 *вáрыва* (капуста). 117 *едá ворёна, стрáвы наварю.* 118 *вáраная.* 119 *страва* (трад.), *ядá* (часцей), *вáрыва — вáраная капуста ці буракі.* 120 *вáрыва.* 121 *ядá.* 122 *ядá; страва — від яды: дзесяцьмá стрáвамі ўгашчáла.* 123 *вáрва.* 124 *вáраная.* 125 *вáрыва, як ужэ ета вáрыва надаéла.* 126 *прывáрак — агульная назва варанай стравы.* 127 *вáрана, варóна* (ежа). 128 *вáранае.* 129 *вáрыва.* 130 *страва.* 131 *вáранэ.* 132 *вáрыво.* 133 *варэне* (?). 134 *варóнае, вáранае, варіво.* 135 *страва.* 136 —. *вáрыво.* 138 *варóное, вáрыво.* 139 *страва.* 140 *вáранае.* 141 *вáрыва ў сцёбкі* (квашаныя гуркі, памідоры, капуста і г. д.). 142 *вáрыва (гуркі, капуста, што на зiму гатóвяць).*

### Карта № 383

## АГУЛЬНАЯ НАЗВА *ВАРЫВА*

№ 2117 «Я. н. вараная яда: страва, патрава, яда, ежа...» Картаграфуюцца лексічныя варыянты назвы без уліку словаўтваральных асаблівасцей. У 6 п. наступны запіс: *варава, (вáраная) ежа, ядá (рóзнае, што ядуць), патрава* (від стравы); *ці мнóга патрáвы варыла? —* бацькавы *крупы — дзве патрáвы.* Ёсць тлумачэнні адказаў у наступных пунктах: 8 *ежа // ядá; мнóга яды наварыла;* гаворачь і *страва.* 50 *вара* — вадкая вараная страва, суп. 51 *страва ест якáя вáраная,* самі кажуць: *вара.* 53 *ядá, патрава (на свята шмат патраў зрабіла), кожны дзень патрава на яду не гавораць; вара кiслая і прэсная // страва.* 69 *варава (вараная яда, прывáрак, вáрыва стаіць у стопцы — бурачкі, квáшаная капуста, агуркі —* усё разам называецца *вáрыва*). 77 *вáрыва* — кiслая страва: буракі, капуста. 98 *страва, варіва* (рэдка, часцей абазначае працэс). 104 *страва, ядá* (на ўсё). 133 *едá гатова, ідэтэ ештэ; якá несмáшна страва.* Усе тлумачэнні паказваюць, што існуе дыферэнцыяцыя лексем, якая, магчыма, іншымі збіральнікамі не заўважана, і чым тлумачыцца наяўнасць 2—3-х лексем у адным пункце.

Адведзены ад картаграфавання адказ 89 п. *харч,* таму што няясна яго значэнне. У 93 п. лексема *éдло,* на нашу думку, мае эмацыянальную ацэнку, а таму не картаграфуецца, *пішча,* як новае слова ў 9 п.

У 2 п. знак пастаўлены на аснове такога запісу: *усякіх страў настрóіна.* У 69 п. пры картаграфаванні ўлічана толькі лексема *едá.*

Заўвагі аб ужыванні лексем прыведзены ў спісе пасля нумара населенага пункта. Пры картаграфаванні не ўлічаны азначэнні пры назоўніках, напрыклад, *вáрана ядá, звáрана ежа,* якія канкрэтызуюць назву, аднак яны рэдка адзначаны.

*страва* 2, 4, 7, 8 (гавораць і *страва*), 8а, 9 (даўней), 10, 11, 13—15, 17, 19 (трад.). 22—25, 26, 28, 29, 33—35, 38, 40, 42, 45—48, 51, 52, 57—59, 61, 62, 65, 67, 68, 70, 72—76, 78, 80—82, 84, 87, 90—93, 94а — 96, 97, 98, 102—104, 107—111, 113, 117—119, 121, 123, 124, 126—130, 132—135, 139—142.

*патрава* 19, 46, 56, 90 (рэдк.), 96, 116. *пътрáва* 39. *пытрáва* 44 (арх.).

*ядá* 3, 8—9 (цяпер), 18, 20, 21, 25а, 27, 31, 46, 49а, 53, 54, 55 (рэдка), 59, 61—64, 66—68, 71, 88, 99, 104, 112, 114—116, 120, 120а (вараная), 124, 125, 127. *едá* 17, 33, 36, 37, 86, 94, 113, 117, 126, 133, 134, 136, 138. *ідá* 8а, 12, 30, 32, 37, 43, 44, 73, 75, 79, 83—85, 87, 123, 129. *вáраная ядá* 69.

*ежа* 1, 5, 6, 8, 8а, 16, 83, 86 (рэдка), 87, 101, 107, 127, 137. *іжа* 96а. *звáрана ежа* 1. *варóна іжа* 103, 131.

*вара* 49, 50, 51, 54, 55, 58, 60, 95 (рэдк.), 100, 101, 105, 122. *вáрыва* 36, 122. *варава* 6, 52а. *вáрыво* 132. *варіва* 44. *варіво* 98 (рэдк.). *вáрыў* 106. *вáрва* 36, 123. *вар* 106.

*варіныя* 84. *вáрэнэ* 113. *варонэ* 114, 131.

Адсутнасць назвы: 9, 11, 27, 34, 50, 65, 67, 72, 73, 85, 87, 126, 137.

### Карта № 384

## ЗНАЧЭННЕ СЛОВА ВАРЫВА

№ 2118 «Ці ёсць агульная назва варанай стравы: вара, варыва...» Частковае запаўненне карты тлумачыцца тым, што пытанне не патрабуе прамога адказу аб значэнні лексемы *вáрыва.* Індэкс слоў гл. у каментарыі да карты № 382 «Вараная страва».

### Карта № 385

## ЗАПРАЎЛЕНАЯ СТРАВА

№ 2124 «Я. н. страва, запраўленая салам ці мясам: скарóмная...»

У пытанні, як адзін з варыянтаў гэтай назвы, прыводзіцца лексема *скаромная,* што выклікала, відаць, паўсюднае выяўленне наяўнасці гэтага слова. Звычайна яно называе запраўленую ежу, якая рэлігійным прадпісаннем забаронена для яды ў час посту. Разам з тым у частцы пунктаў, акрамя гэтай рытуальнай назвы, адзначана назва запраўленай салам ці мясам ежы наогул. На наш погляд правільнымі з'яўляюцца адказы ў 1, 4, 8, 16, 22, 44, 52 і інш. пп. Аднак і той няпоўны матэрыял, які дае правільны адказ на пытанне, выяўляе тэрыторыю распаўсюджання таго ці іншага варыянта назвы. Сярод і гэтых назваў ёсць яшчэ свая дыферэнцыяцыя. Так, напрыклад, лексемы *засквáраная, зажáраная* называюць страву, якая запраўлена толькі салам ці здорам, а лексемы *запрáўленая, засмáчаная* і да таго падобныя называюць ежу, у якую пакладзена мяса ці сала.

Такім чынам, карта атрымалася шматпланавая, і ўсё ж яна змяшчае цікавыя дадзеныя.

Фармальныя паказчыкі лексем на карце не адлюстроўваюцца. Род слова залежыць ад назоўніка, з якім яно спалучаецца: *закрáшыныя (éжа), скарóмны* (булён). Трэба адзначыць яшчэ, што ў асноўным картаграфуюцца дзве часціны мовы — прыметнік і дзеепрыметнік, але на карце часціны мовы не паказаны: картаграфуюцца карані слоў.

Адведзена ад картаграфавання лексема *абýты* ў 12 п., таму што лічым яе экспрэсіўнай формай.

*скарóмная* 6, 7, 9 (даўней), 10, 11, 14, 17—21, 23, 25—28, 30—33, 36—38, 51, 54, 56—74, 76, 77, 80—82, 88, 93, 94, 100, 104, 115, 116, 118—120, 120а, 122 *(не едзім у пост скарóмнага),* 123, 125—130, 137—140, 142. *скорóмная* 132—134. *скарóмнъя* 5, 8а, 12, 13, 15, 39. *скарóмныя* 35, 40—43, 78, 79, 84 (у пост), 87, 89. *скарóмна* 46, 49а, 50, 52а, 55, 75, 105, 110, 121, 135. *скарóмно* 49. *скорóмна* 90, 91, 94а — 96а, 101—103, 107—109, 114, 117, 131, 132. *скорóмнэ* 94а, 106, 114, 131. *скурóмна* 98. *скарóмнае* 48, 112. *скорóмнэе* 113. *скарóмны* 6 (булён), 45, 111. *скарóмнаё* 34, 99. *прыскарóмліныя* 2.

*запрáўленая* 29, 73, 118, 124, 128, 141. *запрáўляная* 69. *запрáўліныя* 83 *(мя́сым і сáлым),* 85. *запраўлёная* 127. *зыпраўлёныя* 35. *запрáўлена* 65 *(мя́сам). запрáўліна* 75. *запраўлёна* 75. *запрáвляна* 98. *запрáўлены* 111 (нов.). *запрáўлены* 16 *(абет, суп). прыпрáўляная* 22.

*затóўчаная* 53 *(з мя́сам),* 86. *затóўчана* 65. *затóвчана* 98. *затаўкáная* 24. *затыўкáныя* 41, 89 *(мя́сам). зытыўкáная* 44. *пратóўчаная* 52.

*пракíданая* 4. *пракíдáная* 8. *пракíдаваная* 1. *пракíніныя* 2. *пракíненая* 52. *пракíняная* 3.

*засмáчаная* 134. *засмáчана* 95, 97, 98. *засмáчана(я)* 94.

*жы́рная* 9 *(с мя́сам* — цяпер), 59, 65. *жы́рнъя* 8а, 12. *жы́рныя* 84.

*засквáраная* 51, 53 *(з сáлам),* 66 *(сáлам, здóрам),* 72 *(сáлам). засквáрана* 47.

Адзінкавыя лексемы: *закрáшыныя* 16 (ежа). *акрáшаная* 51. *зажáраная* 37. *зажáраны* 111 (салам ці мясам). *задóбріныя* 84. *клýстая* 93. *засмáжаная* 136.

Адведзены: *абýты* 12 (па-новаму).

## Карта № 386

## ТРЫВАЛАЯ (пра ежу)

№ 2125 «Як скажуць аб сытнай ядзе: трывалая, травушчая...»

Сытная яда мае назвы, якія ўтвораны ад двух каранёў: *трыв-* і *сыт-*. Ад гэтых каранёў утвараюцца лексемы пры дапамозе розных суфіксаў, што адлюстравана на карце.

Не картаграфаваліся лексемы тыпу *тлýсты, жы́рны* і іншыя, якія маюць больш вузкае значэнне — называюць тлустую страву, якая з'яўляецца таксама сытнай. Аднак гэтыя словы нельга лічыць сінонімамі з лексемай *сы́ты, трывáлы. Трывная* 25 картаграфуецца як *трывáльная.*

*трывáлая* 1, 2, 7, 9—11, 20—23, 25, 25а, 27—29, 36, 38, 48, 51, 54, 55, 57, 59—65, 68—70, 75, 81, 82, 93, 94, 97, 99, 118, 119, 124, 125, 127—129, 139, 142. *трывáлыя* 42, 44, 84, 89. *трывáлъя* 39. *травáлая* 6. *травáлъя* 12. *търъвáлая* 37. *търъвáлъя* 8а, 15. *трывя́лыя* 35. *трывáла* 46, 47, 49а, 96. *трывýла* 50.

*трывáльная* 53, 54. *трывáлна* 5. *трывнáя* 95.

*трывýшчая* 56, 72, 104, 112, 126. *трывáшчая* 118. *трывы́шчая* 115. *трывýшча* 49, 52а, 96а, 105, 110, 111.

*сы́тая* 45, 66, 67, 77, 80, 94, 101, 102, 120, 125, 129, 132, 136, 138, 142. *сытáя* 109. *сы́тыя* 40, 79, 84. *сы́та* 106, 114, 116, 117, 122, 131, 133, 135, 141 *(наéўся). сíта* 113. *сы́ты* 134 *(абед). сêтна 98.*

*сы́тная* 2, 6, 9, 14, 19, 20 (пераважна), 24, 30, 52, 58, 86, 93, 123, 126. *сы́тныя* 43, 78, 85. *сы́тна* 4, 90, 94а, 96, 107, 140.

*крэ́пкая* 19, 73. *крéпкыя* 79.

Адведзены: *смáшная* 1. *клýстая* 3. *дóбра пад'éў* 26. *тлýстая* 18. *жы́рная* 31. *харóшая* 32. *харóшъя* 33. *жы́рная, тлýстая* 54. *харóша* 74. *пажы́ўная* 76. *трывýшчыя мíкробы* (устойлівыя) 77. *харóшыя* 87. *жы́рнай* 100. *жы́рная* 102, 120, 133. *посылочна едá* 103. *тýчная* 108. *дóбра наéўся* 121. *жы́рна, смáчна* 132. *жíрны обéд, трíбнэй, ек наéліса сáла, жы́рна* 134. *дóбрая* 135, 137, 142.

## Карта № 387

## НІШЧЫМНАЯ (пра страву)

№ 2126 «Я. н. страва, не прыпраўленая тлушчам, малаком, смятанай: посная, пустая, нішчымная... Нішчымніца... Есці нішчымнае: пасціць, посціць, поснікаваць...»

Карта складзена на падставе адказаў на першую частку пытання.

Граматычныя формы прыметнікаў, што картаграфуюцца, на карце не паказаны. У 12 п. адведзены ад картаграфавання лексема *бóсъя (па-новаму),* якая мае эмацыянальную ацэнку, што не ўлічваецца пры картаграфаванні.

*нішчы́мная* 19 (трад.), 20, 21, 23, 30, 36, 38—44, 53, 54, 56—61, 64, 66, 67, 69—71, 73, 75, 80, 81, 86, 88, 94, 100, 104, 106, 111, 115, 116, 118—120, 122—129, 133, 136—139, 141, 142. *нішчы́мныя* 35, 41—43, 78, 79, 84, 85, 87. *нішчы́мнъя* 39. *нішчы́мнае* 77, 93. *нішчы́мный* 89. *нішчíмная* 134. *нішчы́мна* 50, 52а, 55, 62, 74, 90 (наогул), 92, 94а, 97, 99, 107, 110, 113, 122, 135. *нішчэ́мна* 98. *нішчэ́мнэ* 102, 114. *нішы́мная* 76. *нышчы́мная* 132. *нышчы́мна* 95, 96 (наогул), 103, 131. *нэшчы́мная* 108 (зусім без заправы). *нэшчы́мна* 109.

*пóсная* 1—4, 6—11, 13, 14, 17, 19, 21, 22, 24—33, 36—38, 51—54, 57, 58 *(не бéленая),* 59, 63, 65—72, 75—77, 80—82, 86, 90, 94, 95, 101, 104, 109 *(нов.),* 113, 114, 116—119, 121, 124, 126, 129, 130, 133, 134, 138, 139, 142. *пóсныя* 16, 40—42, 79, 83—84, 87, 89. *пóснъя* 5, 12, 15, 39. *пóснъё* 34. *пóснае* 48, 112. *пóсна* 18, 46, 47, 49, 49а, 90 (спец.), 92, 96—97, 98 *(у піст),* 99, 102, 105, 132 *(рэдк.),* 135 *(рэдк.). пóсны* 45. *пíсная* 131.

*пустáя* 54, 58, 59, 75, 80, 83, 85, 104, 111, 124, 130, 132, 139, 140, 142. *пýстая* 141.

*порóжнэ* 102 *(éсці). порóжня* 140.

Адзінкавыя: *непротóчная* 52. *нізыпрáўліныя* 42. *нізапрáўная* 128.

Адведзены: *бóсъя* 12 *(па-новаму).*

## Карта № 388

## НІШЧЫМНІЦА

№ 2126 «Я. н. страва, не прыпраўленая тлушчам, малаком, смятанай: посная, пустая, нішчымная... Нішчымніца...» № 3655 «Пасната, посніца...»

Карта складзена на аснове адказаў на другую частку пытання № 2126 «Нішчымніца...» і пытання № 3655 «Пасната, посніца...»

На карце паказана пашырэнне ўказаных лексем і іх варыянтаў, якія маюць значэнне 'посная ежа'. Адсутнасць адказаў сведчыць, відаць, пра тое, што назва поснай ежы не мае спецыяльнага слова, а называецца апісальна: *пóсная éжа, нішчы́мная éжа,* аб чым высветлілася пры пазнейшым апытанні выхадцаў з некаторых раёнаў, дзе адсутнічаў адказ (напр. з Старадарожскага, Жыткавіцкага, Мастоўскага і інш. раёнаў). У 85 п. знак пастаўлены на падставе адказа — *пóсніца — ядá запрáўленая пóсным мáслам, грыбáмі.*

№ 2126 *нішчы́мніца* 17, 19, 23, 30, 31, 35—37, 40, 41, 44, 50, 54, 55, 57, 59, 60, 62, 67, 71, 73, 74, 79—82, 84, 86, 87, 101, 102, 104, 106, 112, 115, 117—120, 123, 124, 127—129, 135, 138. *нішшы́мніца* 76. *нішчэ́мніца* 98. *нышчы́мныца* 94а. *нышчы́мныця* 90, 95, 96, 131. *нэшчы́мныца* 109.

*пóсніца* 14, 17, 19, 26, 118, 129.

*паснатá* 57. *пъснътá* 32.

Адзінкавыя назвы: *пóснъто* 34. *пустатá* 129. *порожнéча* 134.

№ 3655 *пóсніца* 1—3, 5—8, 9, 12—14, 16—20, 23, 25—27, 29, 31, 35—40, 44, 46, 48, 51, 53, 57—59, 62, 64—66, 69, 70, 72, 73, 75—79, 82, 83, 85, 87—90, 93, 100, 101, 104, 107, 110, 111, 116, 118—120, 122—125, 126, 127, 129, 130, 134, 136, 140, 142. *пóстныця* 92.

*паснатá* 1, 2, 4, 6, 10, 11, 22, 24, 25а, 26, 28, 31, 45, 47—49, 52, 57, 63, 68, 70, 74—77, 99, 117—119, 124, 126—128, 130, 139, 142. *пъснатá* 8а, 13, 32. *пыснытá* 7. *поснотá* 95, 96, 108, 109, 131. *пуснутá* 92, 98.

*паснінá* 21.

*паснéча* 137, 138.

**Карта № 389**

## ПАСЦІЦЬ

№ 2126 «Я. н. страва, не прыпраўленая тлушчам, малаком, смятанай: посная, пустая, нішчымная... Есці нішчымнае: пасціць, посціць, поснікаваць...»

Карта складзена на падставе адказаў на апошнюю частку пытання. Картаграфуецца слова *пасціць* і яго словаўтваральныя варыянты, без уліку фанетычных асаблівасцей слова. Што ж тычыцца значэння слова *пасціць* і яго варыянтаў, то яно ў асноўным мае рытуальнае значэнне — не есці скаромнае ў час посту. У некаторых выпадках словаўтваральны варыянт нясе семантычную нагрузку. Так, лексема *пóснікаць* у асобных палескіх гаворках мае значэнне зусім не есці пэўны час' (гл. спіс, пп. 95, 102, 103, 108, 109, 135). Як *пасціць* картаграфуецца *пасціцца* (42, 129 пп.). Знак не пастаўлены там, дзе няма адказаў.

*пасціць* 5, 7, 8а, 9, 11, 14, 17—19, 22, 26, 28—31, 33—37, 41, 42, 43, 47, 48, 49а, 52а, 54, 60, 62—64, 71, 72, 75, 80—82, 85, 86 (рэліг.), 104, 108 *(з оліямы, з рыбою)*, 111, 115, 116, 118, 120—121, 123, 124, 127, 129, 135, 137. *пасцілі* 119. *посціць* 101, 102, 107, 114, 117, 137, 138. *пассіць* 76. *постíть* 134. *постыть* 94а. *постúты* 90. *постыты* 94а, 95 (адначасова выконваць рэлігійны абрад), 96 *(у пост)*, 103 *(в піст)*, 109, 131 (толькі абрад). *пустэ́тэ* 98. *пасціцца* 42, 129.

*пóсціць* 49, 50, 54, 105, 112.

*пóстаць* 81. *пóстыць* 85.

*пóставаць* 128. *пóстувыць* 84, 85. *пóстывыць* 44, 89.

*пóснікаць* 102, 135 (зусім не есці). *пэ́снікаць* 102. *піснікаты* 103 *(зóвсім не ісmember в дэ кóторы дні)*, 108 *(зóвсім нэ існы)*, 109 *(нышчó нэ існы)*.

*пóснікываць* 16. *пыснықыты* 95. *пóснікаваць* 118, 124. *пóсніковать* 134.

Адзінкавыя: *éсці пóснае* 9.

**Карта № 390**

## САЛАДУХА

№ 2130 «Я. н. страву з запаранага квашанага цеста, разведзенага вадой: саладуха, раўгеня, кулага, кулаха...»

Ежа, прыгатаваная з запаранай мукі, адрозніваецца асаблівасцямі працэсу прыгатавання. У адных мясцовасцях цеста для яе заквашваецца натуральным спосабам (закісае само), у другіх яно заквашваецца пры дапамозе хлеба, ягад, у трэціх — ежа не заквашваецца. У асноўным, незалежна ад спосабу прыгатавання, існуе адна назва гэтай стравы.

Заўвагі аб спецыяльнай назве для кожнай разнавіднасці стравы прыведзены ў спісе пасля нумару населенага пункта.

У некаторых выпадках назва стравы залежыць ад мукі, з якой яе робяць. Ёсць наступныя заўвагі: 1 *раўгéня: рабілі саладýху, саладýха закісáла і назывáлі раўгéня.* 7 *саладýху нада развéсці вадóй і бýдзіць раўгéня, а калі нéкалькі разóў налівáць вадóй, бýдзіць квас.* 12 *кулáга — завáраная і квáшаная, съладýха — заквáшанае цéста с сáхарам.* 23 *кулáга — мукá запáраная і квáшаная, саладýха — ржаная мукá запáраная з ягадамі.* 53 *саладýха, кіслýха. Саладýха рэ́ткая і салóткая. Кіслýха з жытняй мукі і туды кладýць дрáную запáраную картóшку.* 59 *саладýха — у цёплую ваду мукі закалаціць, пастаіць у пéчы, вынуць вéчарам кіпяткóм заліць, хлéба для заквáскі. Квас — запáранае цéста, развéдзенае вадóй.* 77 *кулáга з грэ́цкай і жытняй мукі, вáрам апáрувалі і стáвілі на печ, закрывáлі, янá ўсалáджая.* 80 (гл. спіс). 103 *сóлод* (запаранае квашанае цеста, разбаўленае вадой), *пáрыш (свáраны сóлод).* 117 *кулáга з грэцкай і жытнёй мукі.* 138 *квáша (з грэцкае мукі), солодýха (з аўсянае мукі), кулáга (з жытняе мукі).* Як *квáша* картаграфуецца *кваш.*

У 87, 91, 96, 131 пп. адзначана адсутнасць рэаліі, што таксама не адлюстроўваецца на карце, таму што ў некаторых выпадках страва, магчыма, проста забыта.

Ад картаграфавання адведзена слова *квас,* якое, відаць, называе некалькі іншую страву (гл. вышэй), а таксама ў 78 і 102 пп.— *жур* і *рóшчына.* Не картаграфуецца лексема *саладýха* ў 1, 7,18 пп., так як на наш погляд тут назва *сóладу,* аднаго з этапаў пры гатаванні стравы.

*саладуха* 4, 10, 11, 14, 17, 19, 20, 22, 23 (жытняя мука, запараная з ягадамі), 24—28, 30, 31, 38, 45, 46, 48—49а, 50 (рэд., трад.), 51—59, 61—72, 74—76, 80, 86, 88, 93, 99, 100, 103 (устар.), 104—106, 110—112, 118, 129. *съладýха* 15, 32—34, 39. *сыладýха* 16 *(з аржанóй мукі)*, 29, 35, 43, 85. *солодýха* 90, 94, 107, 113 *(больш вáдкая, чым квáша)*, 134, 138, 140. *соладýха* 136. *сóлод* 103.

*кулáга* 12, 14, 23 *(мукá запáраная і квáшаная)*, 35—38, 40—42, 43 (часцей называлі), 44, 75 (з мукі і ягад каліны), 77 *(кулáга з грэцкай і жытняй мукі, вáрам апáрувалі і стáвілі на печ, закрывáлі, янá ўсалáджая)*, 79, 80 (кулага салодкая, дабаўлялі каліну для кіслаты, таксама *саладýха)*, 81—86, 89, 101, 112, 115—129, 135, 138, 139, 141, 142.

*раўгéня* 1 (рабілі саладуху, саладуха закісала і называлі *раўгéня*), 2, 3, 4 (пераважна), 5—9, 18, 21, 57.

*пáрыш* 94а, 95 *(солóткый, ны кысльый)*, 103 *(вáраны сóлод)*, 107—109, 132. *пáрэшка* 98.

*квáша* 113, 114, 133, 134, 137, 138. *кваш* 130.

*пýтра* 13, 15.

Адзінкавыя: *запарýха* 47. *кіслýха* 53.

Адведзены: *квас* 7, 59, 96а, 97, 141. *жур* 78. *рóшчыны* 102. *саладýха* 1, 7, 18.

**Карта № 391**

## ЦУРА

№ 2127 «Я. н. страва, прыгатаваная з сырой вады, кусочкаў хлеба з соллю або цукрам: цура, рулі, мурцы, цюрка, цюпка...»

Лексемы, што картаграфуюцца, называюць ежу, прыгатаваную з вады або малака, куды крышуць хлеб і дабаўляюць соль ці цукар. На карце не адзначаецца, з якіх прадуктаў робіцца гэта ежа: ці на вадзе, ці на малацэ, дабаўляецца туды соль або цукар. Аб характары прыгатавання стравы прыводзяцца апісанні ў спісе да карты.

Тэмай карты з'яўляецца лексічнае супрацьпастаўленне назвы стравы, якая апісана вышэй. Акрамя таго, паказана якасць пачатковага галоснага ў слове *кармýшка: кармýшка — гармýшка (гармýшка) — хармýшка.* Пры картаграфаванні не ўлічаны наступныя адказы: 2 *рулі* — чулі назву, 14 *квас,* 74 *аканóн,* 142 *кулáга.* Як *цюпка* картаграфуецца *дзюпка* ў 3 пункце.

Фанетычныя асаблівасці слова і націск пры картаграфаванні не ўлічваліся.

*рулі* 3—5, 7 *(рулі робім так: у халадзёную ваду крышым хлеп, цыбýлю, сыпім сóлі і ядзём)*, 8 (некаторыя называюць), 9 *(з цыбуляй)*, 30—32, 37, 38, 40, 42—44, 68—72, 74, 75, 77 *(із малакá дзéлалі рулі)*, 78, 79 (слова рэдкае, не ўсе ведаюць), 81—84, 88, 110, 118, 119, 121, 124, 126, 127, 138—141. *рýлі* 142. *рулé* 76, 115. *руллí* 116.

*цурá* 19, 23 *(малако з накрышаным хлебам, а раней — вада салёная з хлебам)*, 25, 26, 52а — 54, 57—59, 61, 63—65, 67, 82 *(вада + алей + соль + хлеб)*, 100, 105, 111. *цуры́* 80 *(даўней)*, 81, 123, 128, 129. *цурэ́* 33, 66 *(у ваду і малако)*. *цюрá* 36, 47 *(цюрá — éто малакó с хлéбам)*. *цюря́* 89 *(харч нішчымный, яе ў пост ядуць)*. *цюры́* 73 (устар., зараз няма), 130. *цюрí* 125. *цюрка* 88.

*цюпка* 1, 2, 5, 6, 7 *(уліл͡á ў міску мылыкá, накрышыла хлéба — вот і цюпка)*, 8 *(з вады, хлéба, сóлі і цыбýлі)*, 8а, 10—12, 13 (страва з малака, у яе накрышыла хлеба кавалачкамі, таксама вады), 14, 15, 18, 29 *(вада + соль + цыбуля + хлеб; малако + хлеб; вада + цукер + хлеб)*, 35, 39. *цюпкі* 17, 32, 34, 41, 85. *цюпа* 28. *дзюпка* 3.

*потáпцы* 106—109, 114, 117, 120, 132—134, 137. *патапцы́* 112, 116. *патáпцы* 122, 135. *потáпці* 102, 113. *потáпэц* 94а. *потáпэць* 96, 131. *потáпыць* 131. *путáпэць* 98.

*каплýн* 90, 91, 93—96а, 101, 103, 113 (нов.).

*кармýшка* 46, 49. *кармýха* 60.

*гармушка* 50 (страва з кускоў хлеба і пасоленай вады ці малака), 55. *гармушка* 51 *(і варылі гармушку з мукі).*
*хармушка* 62, 99, 104.
*мурцоўка* 1, 2, 21, 25а, 27, 54. *марцуўка* 142. *мурцы* 4 (пераважна ў стараверaў), 24, 86.
Адзінкавыя: *мура* 16. *крышонка* 49а. *цыбульны верашчак (вада + цыбуля + хлеб). пятух (пятуха зрабіць — хлеба накрышыць ў прысалоджаную ваду)* 52.
Адведзены: *рулі* (чулі) 2. *квас* 14. *аканон* 74. *кулага* 142.

Карта № 392

## СТРАВА З ЦЁРТАГА КАНАПЛЯНАГА СЕМЯ.

№ 2128 «Я. н. пахлёбка, прыгатаваная з цёртага канаплянага семя: валога...»
Матэрыял, які сабраны на падставе пытання 2128 паказвае, што з канаплянага семя, як і з льнянога (гл. карту № 397), рабілі масляністую ежу, што ў большасці з'яўляецца закрасай да якой -н. стравы, напрыклад, для супоў (72 п.), для бліноў, праснакоў (80 п.). Што ж тычыцца слова *валога*, прыведзенага як прыклад у пытанні, то яно таксама называе не поліўку. У СП-ЗБ слова *валога* прыведзена ў значэнні 'растоплены тлушч' — *валога* гэта растопленае сала, ці масла. Там жа ёсць дзеяслоў *валожыць*, які мае значэнне 'мачаць у тлушч або залiваць тлушчам, мачаннем'.
У некаторых адказах адзначаны адрозненні ў спосабе прыгатавання *малака* і *смятаны* з канапель (гл. пп. 12, 36, 40, 69, 80, 109, 135). Шкада, што такія заўвагі зроблены непаслядоўна. Акрамя асноўнай стравы з канапель — 'закрасы',—вядомы іншыя, напрыклад, *поліўка*. На карце паказаны ўсе віды стравы з семя канапель. Як *малако* картаграфуецца *белая малачко* 67. Як *мачанне — мыкачка* 7 і *маканка* 11.
1 *маслёнку дзелалі і называлі дзягно, елі з камамі, ком кусаеш, а гэта прыхлібаваеш.* 2 *маслюк рабілі, таўклі калапні і камочкі качалі, як клёцкі, ем з бульбай; малако рабілі з калапень.* 4 *з канапель рабілі малако.* 5 *кълъпнянъя мълако, мъчання.* 7 *мыкачка, стаўклі канаплі і зрабілі мыкачку.* 8 *калапняная малако.* 11 *маканка з калапнеў.* 12 *смітана — густаватая, мълако — радзейшае.* 14 *смітана канапляная (цёртымі канаплямі сачкі прыпякалі).* 15 *кънъплянъя мълако.* 16 *валога.* 17 *таўклі канаплі і прыпякалі на лапуны.* 21 *малако.* 23 *канапляніца.* 24 *мачання з калапень.* 25а *смятану рабілі с калапнянага семя.* 26 *мачаруха — яда з цёртых канапель, тады зваруць, мукой паткалоцюць.* 28 *малако з калапель.* 29 *дзягно з канапель.* 30 *дзягно.* 31 *канапляніца, смітана канапляная.* 32 *валога.* 33 *з цёртага канаплянага семя рабілі дзягно.* 35 *мылако* (з бульбай і рэдзькай есці). 36 *дзягно; з канапель натаўчэш, у цёплай вадзе разводзіш, дрэш лошкай, малако эта ў цугунок і варыш у пячы — і зверху смятана — ладкі мачаеш.* 37 *смітана.* 38 *малако з канапель.* 39 *валога.* 40 *семя ня цёрлі, нытаўкуць кынапель, а патом іх варуць, пенку сніма́юць у чашку і мыкаюць ладзі; ладку смітанай кыныпляный зыпраўлялі, капусту, суп.* 42 *пахлёбка.* 43 *кыныпляныя поліўка.* 46 *семя варана.* 47 *пахлёбка; прыгатуй с семя пахлёпку.* 49а *сметана.* 51 *канопна малако.* 56 *паткалотка с семя — і ўсё.* 57 *самаруха // канапляніца* (вельмі старое слова). 58 *канапляна малако.* 59 *канаплянка.* 61 *цёртыя каноплі.* 62 *канапляное малако.* 64, 65 *канаплянка.* 66 *цёрлі каноплі і мачалі бульбу і наз. малако.* 67 *пахлёбка з цёртага канаплянага семя, з цёртай канаплі — як белае малачко.* 68 *канапляніца.* 69 *варылі з канапель канапляную смятану (пенку збіралі і называлі так).* 70 *смятана канапляна.* 71 *малако канапляное.* 72 *канапляні крупнік забельвалі.* 75 *смітана.* 77 *канапляная малако.* 80 *смітана: цертае канапляное семя + халодная вада; варыць у цугунку, без шарок — смітана; праснакі мазалі гэтай смітанай, мачалі ў ёй рэзнікі, залівалі суп.* 81 *смітана.* 82 *смятана.* 83 *валога, заліўка.* 84 *заліўка.* 86 *канапляное малако.* 90 *конопляна смытана.* 91 *смытана.* 94—96 *коноплянэ молоко.* 96а *звар.* 98 *мулуко кулупненэ.* 99 *нацёрла, нарабіла малака с канаплянага семя.* 102 *молокові.* 103 *мняты коноплі.* 104 *канапляная поліўка — цёртыя каноплі, белае, як малако, хлябалі лыжкамі.* 105 *канапляна вада, таўчона семя.* 106 *сматана конопляна.* 107 *сыта з конопэль, коноплянэ молоко.* 108 *коноплянэ молоко.* 109 *конопляная затырка, коноплянэе молоко, конопляна смэтана (густа).* 114 *конопляна сметана.* 116 *сметана.* 117 *варылі коноплянэ семя і сметану робілі, скідалі.* 118 *смятана.* 119 *канапляная малако.* 120, 120а *сметану варылі і млінцамі мачалі.* 122 *варылі сметану з коноплянага семя.* 123 *сметана.* 124 *маслёнка.* 125 *смятана.* 127 *смятана, мачання.* 128 *смятана.* 129 *пахлёбка, канапляная смятана.* 130 *калісь рабілі з цёртага канаплянага семя баланду.* 132 *смытана конопляна, молоко коноплянэ* (рэдк.). 134 *сметана.* 135 *канаплянэ малако (як расцёрлі), канапляна сметана (як канопляное малако зварылі).* 136 *похлёбка.* 138 *сметана.* 140 *сметана.* 141 *юшка.* 142 *канапляная смятана.*

Карта № 393

## ТАЛАКНО (мука)

№ 2132 «Я. н. мука з паранага тоўчанага аўса: талакняная, талаконная..: Талакно...»
Картаграфуюцца назвы талакна.
*талакно* 1, 2 (некаторыя цяпер называюць талакно), 3, 4, 6—8, 10, 11, 14, 17, 19, 25, 28, 29, 31, 36, 37, (нов.), 38, 47, 48—49а, 51, 52а, 54, 57, 61—65, 67, 70—72, 74—77, 88, 99, 104, 105, 110—112, 115, 116, 118, 120—124, 126, 129, 136, 137, 139, 142. *тълакно* 5, 8а, 9, 12, 13, 15, 32—34, 39, 41, 73, 80, 81. *тылакно* 16, 35, 40, 42—44, 78, 79, 83, 85, 89. *толокно* 97, 101—103, 106, 107, 113, 114, 117, 120а, 131, 134, 138.
*тылыкнянка* 81. *толокнянка* 133, 134.
*талакняная мука* 10, 11, 14, 67, 71, 75, 104, 120, 125 (толькі на кісель ідзе), 129. *талакняна (мука)*, 47, 74, 135. *тълъкняныя* 41. *тылыкняныя* 35, 42. *толокняная* 134, 140.
*талаконная мука* 86. *толоконна мука* 132 (рэдка). *мука на талакно* 109.
*мілта* 2, 19—21, 23, 24, 25а — 27, 30, 37, 53 (трад.), 57, 58. *мылта* 69.
*аўсяная мука* 59, 60, 100, 130, 141. *аўсяна* 135. *з аўсянай мукі мілту рабілі* 18. *овсяна мука* 94а — 96, 127, 132. *овсена мука* 131.
Адзінкавыя: *параны тоўчаны авёс* 45.
Адведзены: *аўсянка* 68, 126. *аўсянку варылі* 69. *з аўса рабілі аўсянку* 66. *овсянка* 108. *зайцы з аўсянай мукі рабілі і пяклі* 52.

Карта № 394

## СТРАВА З ТАЛАКНА

№ 2133 «Я. н. страва з такой мукі (з паранага аўса): талакно...» Гл. карту № 393 «Талакно (мука)».
Як паказвае матэрыял, страву з паранага аўса, якая рыхтавалася простым замешваннем мукі ў вадзе, рабілі не ўсюды. Аднак, трэба меркаваць, што гэтая страва проста забыта. Часткова знак пастаўлены на падставе адказаў на пытанне 2134 «Ці ўжываецца слова мілта (мільта) як назва талакна?» 66 *мілта: замесяць суяркоўай мукі, пакачаюць у галушкі і ядуць сырую.* 68 *мілту рабілі з аўса.* 69 *мыльта; чулі ад старых такую назву.* 70 *раней рабілі, мілта звалі.* 71 *мілта, некалі мой папа мілту спамінаў.*
Адведзены ад картаграфавання назвы іншых страў з аўсянай мукі, якія рабіліся неабавязкова з паранага аўса: *кулеш тълъкняны* 12. *кулеш* 83, 87. *куліш* 131. *зайцы* 52. *зацірка* 87. *кісель* 84, 125, 127, 129, 130. *кысіль* 96. *жур* 102, 126, 127, 142. *з талакна жур варылі* 52а.
*талакно* 1 *(рабілі сойкамі і елі)*, 3 *(рабілі насуха і намокра)*, 4 *(рэткая талакно і густое)*, 6—8, 10, 11, 14, 17, 19, 20, 25 *(знялі і талакно)*, 38, 48, 49а, 51, 54, 61, 62, 65, 67, 70—72, 75—77, 81, 86, 88, 99, 100, 104, 105, 110—112, 115, 116, 118, 120—124, 126, 129, 135—137, 139. *тълакно* 5, 8а, 9, 12, 13, 15, 32—35, 39, 41, 42, 73, 80. *тылакно* 16, 29, 35, 40 *(густыя, як каша, і рэткыя, як суп)*, 43, 44, 78, 79,

85, 89. *толокно́* 94а, 95, 97, 101—103, 106—109, 113, 114, 117, 131—134, 138, 140. *талакня́нка* 4.
*мі́лта* 2, 18—24, 25 *(перава́жна дайне́йшае сло́ва)*, 25а — 28, 30, 31, 37 (і рэдкая, і густая), 53 (трад.), 57 *(жы́дкая і загусцее)*, 58, 59, 63, 64, 74. *мы́льта* 69.
Адзінкавыя: *балто́нка* 16 (размешанае талакно з вадой).

### Карта № 395

## РАЗМЯШАЦЬ (талакно)

№ 2135 «Як кажуць мілту (талакно) закелтаць, размяшаць...»
Картаграфуецца назва дзеяння па размешванню вадкага рэчыва з талакна. Пры картаграфаванні ўлічваюцца толькі карані слоў.
Ад картаграфавання адведзены словы *мясі́ць* і яго варыянты, *скача́ты,* якія называюць дзеянне пры размешванні густога рэчыва.
У некаторых выпадках размова ідзе не аб размешванні стравы з талакна, а з іншай мукі. Гэта відаць у спісе слоў.
*размяша́ць* 4, 18, 26, 31, 36, 47, 48, 49а, 57, 59, 62—65, 68, 70, 71, 81, 86, 111, 116, 118, 121, 123—125, 127 (кісель), 129, 142. *размі́ша́ць* 7, 10, 11, 14, 17, 75. *ръзмі́ша́ць* 41, 42. *рызмі́ша́ць* 16, 35, 79, 84, 85, 89. *размеша́ць* 74, 101, 107, 117, 122, 135. *разме́шваць* 37, 72, 102. *розмеша́ть* 134. *розмышя́ты* 96 *(на ола́дкы)*. *размэша́ты* 97. *розмэшя́ты* 103. *замяша́ць* 6, 21, 23, 139. *замеша́ць* 138, 140. *зымі́ша́ць* 29, 85. *замі́ша́ты* 94а. *замэшя́ты* 103. *замаша́й* 106. *мі́ша́ць* 25, 25а, 30. *мяша́ць* 120а.
*закала́ціць* 1 (як рэдкае), 24, 25, 28, 58, 99. *заколоты́ты* 95, 96 *(на ола́дкы)*. *калаці́лі* 19. *росколоці́ць* 113, 133.
*паткалата́ць* 52 *(мукі́ ў вадзе́)*.
*забаўта́ць* 22, 49 *(агла́ткі)*, 129. *забо́ўтаць* 27, 69. *разбо́ўтаваць* 64 (часцей). *разбаўта́ць* 105. *разбо́ўтаць* 107, 110, 120а.
*закалбаці́ць* 58. *вы́калбаціць* 20.
Адзінкавыя: *закалта́ць* 2. *розбі́ць* 113. *подбі́ць* 114 *(толокно́ муко́ю)*. *замуці́ць* 115.
Адведзены: *замясі́ць* 1 (як густая), 66. *зъмясі́ць* 8а, 9. *замэсы́ты* 132. *замысы́ты* 132. *наробы́ты* 95. *скача́ты* 95.

### Карта № 396

## *ПУТРА* (значэнне слова)

№ 2136 «Якую страву называюць путра: а) кашу з жытняй мукі, б) пітво з соладу, саладухі...»
Лексема *пу́тра* мае вельмі малае пашырэнне на Беларусі, і гэта тлумачыцца тым, што лексема з'яўляецца запазычанай з балтыйскіх моў. У радзе пунктаў збіральнікамі адзначаецца, што мясцовае насельніцтва ведае лексему і рэалію як страву суседняга латышскага насельніцтва. 1 *пу́тру ў Ла́твіі ядуць, у нас не называюць.* 4 *пу́тра ў латышо́ў, мо́жа які суп.* 25 *чу́лі пу́тра ў Латвіі.* 27 *пу́тру рабілі латышы.* Трэба, аднак, меркаваць, што лексема *пу́тра* мела больш шырокі арэал пашырэння. Л. А. Малчанава ў кнізе «Материальная культура белорусов» адзначае, што «На Туровщине подобное (солодухе) кушанье называлось «путрой». (стар. 193—194).
У 12 нас. п. адзначаны прыметнік *путряны́* ў значэнні 'густы' (суп, каша).
Як *пу́тра* картаграфуецца *пу́церка.* Знак не пастаўлены там, дзе адсутнічаюць адказы на пытанне.
2 *пу́тра, як акі́снуць кру́пы, ка́жуць: кі́слыя, як пу́тра, а ў Ла́твіі пу́тра — кру́пы, забе́леныя кі́слым малако́м.* 5 *пу́тра* — 1) *райге́ня,* 2) *ме́шанка для свіне́й (пераносна).* 6 *пу́тра, стары́я звалі райге́ню пу́тра* (=саладуха). 8 *пу́тра // баланда́* — нясмачная страва, няўмела прыгатаваная. 12 *путряны́: густы́ (суп, ка́ша).* 13 *пу́тра — саладу́ха.* 14 *пітво́ з со́ладу, саладу́хі, пу́тра — саладу́ха, райге́ня.* 15 *пу́тра — саладу́ха, райге́ня.* 17 *пу́церка — пірятру́ць густо́е це́ста ў рука́х і ў кіпято́к, і малака́ пато́м, як суп, ре́дкае* (з пшанічнай мукі). 32 *пу́тра — як кваса́ць съладу́ху.* 66 *пу́тра — несма́шная рэ́дкая, по́сная* (страва); *вот навары́ла пу́тра не́йкага, не́льга е́сці.* 75 *пу́тра* 'бульбяны булён з малаком'. 133 *пу́тра. Яка́ соло́тка, бі пу́тра.* 140 *галу́шкі.* 142 *пу́тра — хрэн з буракамі́ зме́шваюць і называ́юць пу́трай.*

### Карта № 397

## СТРАВА З ЦЁРТАГА ЛЬНЯНОГА СЕМЯ

№ 2129 «Я. н. страва, прыгатаваная з цёртага льнянога семя: клында...»
Ежа з цёртага льнянога семя, відаць, рабілася не ўсюды, аб чым гаворыць пашырэнне назвы гэтай ежы. Магчыма яна часткова і забытая, таму што ў цяперашні час яе не робяць.
Як *маку́ха* картаграфуецца *мача́ння* 58, *абмача́нка* 60, як *запра́шка* — за́прошка 97.
*маслёнка* 31, 74, 75, 81, 82, 84, 118, 123, 124, 128, 128, 129. *масля́нка* 118.
*клы́нда* 62, 100, 104, 136.
*маку́ха* 98, 103. *мача́ня с сяме́ня* 58. *абмача́нка* 60.
*запра́шка* 96. *за́прошка* 97.
Адзінкавыя: *смітана* 31. *мазю́ха* 116. *малы́га* 122 *(се́мя альня́нае у печ, паджа́ралі, у сту́пу — таўко́м, і на рэ́шата подсе́ялі ту́ю му́чачку, разму́цім боршчэ́м, узолле́м на сковоро́ду — і мачае́м, і пальзі́цельная ад раза́чкі).*

### Карта № 398

## СЕЛЯДЗЕЦ

№ 2140 «Я. н. селядзец: сяледчык, асяледчык, селядзец, сялёдка...»
На карце паказаны словаўтваральныя і акцэнталагічныя варыянты слоў, якімі называецца *селядзец.* Як *сялёдка* картаграфуецца *сёлёдок, селёток* (108, 135 п.п.).
*сялёдка* 40—44, 67 (нов.), 70, 73, 75, 77—82, 84—87, 104, 116, 117 (нов.), 119, 120а — 124, 127, 129, 130, 135 (нов.), 136, 139—142. *сялётка* 1, 2, 4(сучасн.), 7—17, 28, 29, 31—39, 53 (нов.), 54, 68 (нов.), 74, 76, 83, 88, 89, 112, 118, 125. *селёдка* 107 (нов.), 114, 120, 126, 138. *сілёдка* 131. *сілётка* 8а, 103 (нов.), 133. *сэлётка* 97. *сылёдка* 96а. *селёдок* 108. *селёток* 135 (нов.).
*всілётка* 132 (нов.).
*сілядзе́ц* 2 (даўн.), 4 (трад.), 5, 6, 8а, 15, 24—27, 30, 33, 41, 43 (радзей), 44 (архаічн.), 48. *селядзе́ц* 3, 19—23, 28. 47, 49а, 52, 52а, 54—59, 61, 62, 64, 67 (трад.), 68, 69, 71, 84, 99, 111 *(многа селёткі),* 117, 124, 127, 129. *сялядзе́ц* 49—50, 60, 63, 66, 72. *селядзец* 53.
*селёдзец* 51. *сялёдзяц* 105. *сыле́дыць* 91.
*асялёдзец* 100.
*сялётчык* 54, 110, 133, 138. *сяле́ччык* 19.
*следзь* 6, 45, 46, 90, 93, 94, 96, 96а, 107, 113, 132. *сле́дзі* 101.
*слез* 94а, 95, 103 (трад.).
*сяле́нец* 115. *селе́нец* 102, 135. *сяле́нцы* 106. *сэлэ́нэць* 98.
*селене́ц* 134, 137.
*осылэ́нэц* 95, 132. *осэлэ́нэц* 103, 108, 109.
Адзінкавыя: *сельдзь* 9. *селяццо́* 18. *шма́йка* 80. *сілётчына* 133.

### Карта № 399

## ЛЁК

№ 2143 «Я. н. селядзечны расол: лёк, глёк...»
На карце паказаны лексічныя варыянты назвы селядзечнага расолу. Акрамя таго ў слове лёк адзначаецца прыстаўны гук і якасць галоснага. Як *о́лек* картагра-

фуюцца *воляк* (46) і *голяк* (49). Суфіксы на карце не ўлічваюцца. Як *прасол* картаграфуюцца *прасольнік, прасоліна*. Адным знакам картаграфуюцца *клёк* і *глёк*.

Словы з коранем *-сол-* з'яўляюцца або прыставачнымі, або складанымі. Гэта таксама адлюстроўваецца на карце. Як *прасол* картаграфуецца *прасоль*.

Адведзены ад картаграфавання лексемы *іржа*, якая мае іншае значэнне — называе 'налёт рудога колеру на селядцы ці лёку'. Не картаграфуюцца таксама лексемы *ляпыс* і *слюс*, значэнне якіх не зусім яснае.

*лёк* 10 (рэдка), 26, 27, 49а, 51, 54, 56, 57, 59—65, 67, 68, 71, 75 (трад.), 83, 86—88, 104, 105, 107, 110, 111, 136.

*ляк* 50, 55, 90, 91, 93—95, 100, 103.

*клёк* 20, 82 (трад.). *глёк* 53, 84.

*олек* 45. *воляк* 46. *голяк* 49.

*расол* 4, 8а — 12, 14, 19, 23—25, 28, 29, 38, 39, 41, 43, 44, 47, 48, 49а, 52а, 58, 66, 69, 70, 72—74, 78, 79, 82 (моладзь), 85, 99, 101, 102, 112, 119, 124, 126, 127, 128 (часцей), 129, 133, 135, 138, 140, 142. *росол* 97, 113, 114. *росіл* 98, 131. *росул* 94а, 132. *рассол* 32—34. *россыл* 96а.

*жывасол* 77, 118, 125, 128, 129. *жывасоль* 123.

*прасол* 81, 139, 141. *прасоль* 116, 117. *прасольнік* 89. *прасоліна* 35.

*юшка* 5, 7, 8, 31, 36, 74, 80, 120, 122. *юха* 108, 109, 115.

*сок* 31, 37, 70, 106, 137.

*жышка* 2, 6, 17, 21, 22, 35, 36, 40, 41, 123.

Адзінкавыя: *рок* 16. *поліўка* 18. *соус* 36, 37. *блёхат* 52. *совус* 118. *рапа* 124. *ропа* 134.

Адведзены: *ляпыс* 96. *слюс* 133. *іржа* 123.

## Карта № 400

## ПРЭГЧЫ (гарох)

№ 2137 «Гарох, боб на скаварадзе трэба пражыць, прышчыць... Гарох пражаны, прышчаны».

Картаграфуюцца словы, якія абазначаюць дзеянне 'пражыць гарох'. Акрамя таго, паказаны нерэгулярныя фанетычныя варыянты першага галоснага ў слове *пражыць*, націск. Не ўлічана трыванне дзеяслова і асабовыя формы. У 109, 136 пп. знак пастаўлены на аснове дзеепрыметнікаў і прыметнікаў.

*пражыць* 1—11, 15, 18—20, 22, 24, 26—31, 34, 37, 45, 48, 49, 52—53, 57, 59, 63—65, 67, 69—72, 75—77, 111, 116, 118, 123, 126, 140 (нов.), 142. *пражъць* 8а. *пражіць* 113. *пряжыць* 14, 16, 17, 32, 79, 83, 87. *пражыці* 93. *пражыті* 94. *пражыты* 90, 91, 94а — 97, 103, 131. *пражитэ* 98. *пражаць* 23, 96а. *пряжъм* 12. *напражыў* 101, 102. *пражуць* 25а. *падпражыць* 119. *пражаныя* 142.

*прыжыць* 50, 61, 100, 104, 105. *прыжыці* 93.

*прэжыць* 33. *спрэжыць* 69.

*пружыць* 21.

*прэгчы* 80 (стар.), 81, 115. *прегчы* 120. *прэхчы* 35, 38, 58, 66, 68, 74. *спрэгчы* 40. *спрэхці* 110. *прогці* 124. *падпрэгці гарох* 120а.

*прагці* 106, 135. *прагуць* 36, 112. *прягуць* 89, 117. *спрагчы* 25.

*напрагці* 112.

*прешч* 39. *прэжч* 42, 44. *преч* 84. *прэгч* 81.

*жарыць* 43, 46, 129, 137, 139, 141, 142. *жаріць* 13, 79, 83, 84, 113. *жараны* 80. *жарацы* 125. *паджарыць* 54. *паджараваць* 82. *поджарыці* 94. *пыджаріць* 85. *пожарыць* 133. *пуджарыты* 108. *пуджаруваты* 131. *пуджарваты* 132. *паджаруя* 121.

*смажыць* 46, 86, 107, 108, 126, 127, 128, 142. *смажіць* 134. *смажаны* 136. *падсмажыць* 114. *подсмажыць* 122. *пудсмажыты* 109.

*пячы* 45, 47, 54—56, 59, 99. *печ* 73.

*прышчыць* 49а, 51, 53, 54, 60, 62, 126, 138.

## Карта № 401

## ПАЛОВА КАЧАНА КАПУСТЫ

№ 2145 «Я. н. палова качана ў квашанай капусце: плашка, палютка, палойка...»

На карце паказаны словы, якія называюць палову качана капусты незалежна ад таго, квашаная ці параная. У радзе пунктаў адказы адсутнічаюць, але па розных прычынах. У адных выпадках робіцца заўвага аб тым, што капусту квасяць цэлымі качанамі: 8—9, 20, 34, 35, 40, 42, 45, 55, 66, 73, 80, 89, 97, 104, 128, у другіх адказ не даецца, пракрэсліваецца ( — ): 15, 19, 29, 39, 44, 50, 51, 53, 54, 61, 88, 93, 111. Як *палютка* картаграфуецца *палуціна* (105 п.).

*палавіна* 1, 10, 11, 14, 17, 18, 23, 25а, 26, 28, 49, 49а, 57—60, 62, 69, 74, 81, 82, 96, 99, 129, 135, 142. *пълавіна* 32, 33, 36, 41. *пылавіна* 83—85, 87. *половіна* 94, 101, 106, 107, 138. *половына* 91, 94а, 95, 96а, 103, 109, 131.

*палавінка* 3, 6, 22, 25 (*рэжым качаны на палавінкі*) 27, 30, 31, 37, 38, 52а, 65, 68—70, 72, 75, 86, 112, 123, 124, 127, 129, 130. *пълавінка* 5, 12. *половінка* 113, 133, 134, 140. *палавінкі галовак* 4, 115, 119, 125.

*палова* 37, 47, 48, 74. *квасілі на паловы* 46.

*палойка* 67, 76, 110, 118, 120, 121, 126, 127, 135, 136, 139, 141. *полойка* 137. *палойкі* 64, 140. *апалойка* 71. *палуйка* 63, 77 (*палову качана складалі ў чыгун і ў печы парылі*).

*палютка* 90, 98. *пелютка* 114. *пэлютка* 108. *пэлутка* 102. *пылютка* 96, 132. *пэлюстка* 103. *палутка, палуткі* — параная капуста 93.

*пайпялюсткі* 100 (цэлы качан — *пялюстка*).

*плашка* 2, 7, 13, 21, 122. *плашачка* 116.

*поўгалоўкі* 59. *пайгалоўкі* 60.

*пуўкъчъна* 5. *пуўкычына* 78. *пыўкычына* 79.

*плітка* 117.

Адсутнасць назвы: 8, 9, 15, 19, 20, 34, 35, 39, 40, 42, 44, 45, 50, 51, 53, 54, 55, 61, 66, 73, 80, 88, 89, 97, 104, 111, 128.

## Карта № 402

## ПЛЕСНЯ

№ 2146 «Я. н. цвіль на квашанай капусце: плесень, бросня, цвіль... Заплеснявець, забраснявець, зацвісці...»

Карта складзена на падставе адказаў на першую частку пытання. На карце адлюстравана лексічнае супрацьпастаўленне назвы цвілі на квашанай капусце і агурках. Акрамя таго, паказаны наяўныя фармальныя адрозненні. Фанетычныя асаблівасці не ўлічаны. Як *плесня* картаграфуецца назва *плюсня* ў 94 п., як *вярхоўя* — *верх* і *верхаўё* (пп. 2, 8, 24), *вяршыны* (4).

У некаторых пунктах указваецца на адрозненне назвы ў залежнасці ад таго, на якім прадукце знаходзіцца цвіль. Усе заўвагі аб ужыванні слоў знаходзяцца ў спісе.

*плесня* 3, 5, 18, 23, 25а, 27, 28, 31, 34, 37, 38, 43—46, 49, 54, 55, 57, 59, 68—86, 89, 91, 101, 102, 106, 107, 113—116, 118—121, 123—130, 134, 136—142. *плісня* 90, 93, 94а, 95, 96 (больш моцна), 96а — 98, 103, 108, 109, 132, 133. *плюсня* 94.

*плесінь* 7, 8 (сучасн.), 8а, 10—17, 29, 32, 33, 35—37, 39, 41, 42, 87. *плесень* 9, 47, 48, 88, 124 (на капусце). *плесянь* 30.

*плесь* 112, 117, 135.

*плесні* 19—22, 25, 26, 58, 122.

*плесене* 51.

*бросня* 50, 52а (на капусце), 53, 54, 56, 59—62, 64—67, 99, 100, 104, 105, 110, 111, 124 (на бураках). *брэсня* 57, 63.

*бросць* 131. *брошчына* 131.

*цвіль* 34, 41, 44, 46, 52а (на варэнні), 54, 75, 80, 81, 87, 124 (на хлебе). *цвыль* 96 (*слаба*).

*вярхоўя* 1 (*снімаюць далоў*), 89. *верх* 2 (*верхам занілася капуста*), *нада зняць верх*), 24. *верхаўё* 8 (*верхаўё нада зняць, яно горкая, пляснівая*), *вірхаўё* 24. *вяршыны* 4.

*моріг* 96 (найбольш моцна). *морожок* 108 (больш густая цвіль).

Адзінкавыя: *слюс* 6. *пена* 40. *шума* 49а. *слюш* 52.

## Карта № 403.

## ЗАПЛЕСНЕЦЬ

№ 2146 «Я. н. цвіль на квашанай капусце, гурках: плесень, бросня, цвіль... Заплеснявець, зараснявець, зацвісці...»

На карце адлюстраваны карані лексем, якія абазначаюць стан квашанай капусты і гуркоў, пакрытых цвіллю (броснёй). Граматычныя формы дзеясловаў і фанетычныя варыянты пры картаграфаванні не ўлічаны. Адсылачным знакам паказаны розныя спалучэнні, якія абазначаюць разглядаемы стан *(брóсняй занялося, плéсняй пакрылася* і да т. п.). У 113 п. слова *замуражэць* картаграфуецца на падставе адказу на пытанне 2174 «У якім значэнні ўжываецца слова замуражэць?» — гл. карту № 404.

*заплéсніць* 4, 5, 16, 21, 33, 35, 38, 42, 43, 54, 72, 74, 75, 81, 82, 84, 86, 118, 127. *заплéснець* 9, 14, 31, 55, 124 (пра буракі, капусту), 125, 128, 129, 135, 136, 142. *заплéсняць* 70, 76, 102. *заплéснеть* 134. *зыплéсніць* 78. *заплеснявéць* 36, 88. *заплéсневець* 114, 116. *заплéснівець* 11. *заплéснівіць* 10, 29, 41, 87. *заплесневéць* 107. *зыпліснявéць* 79. *заплéснеці* 93. *заплéснела* 46, 49а, 51, 58, 67, 69, 112, 117, 123, 141. *заплéсніла* 32, 57, 73. *заплéсняла* 27, 101, 120. *заплéсняло* 106. *заплéснелі* 19, 139. *запляснéла* 18. *заплеснéць* 113. *заплéсневалі* 115. *заплéснівалі* 17. *заплісніты* 94а, 132. *запліснавыты* 90. *заплéснівіла* 85. *запліснявыты* 96, 97, 109. *запліснявітэ* 98. *заплісніла* 103. *заплéсней* (расол) 140. *заплéсній* 80. *запліснявыла* 108. *заплéсівець* 48. *заплéснялі* 28, 68, 71. *заплéсніла* 3, 7, 26, 34, 104. *плéсніць* 8а.

*брóснець* 50. *забрóснець* 62, 64, 65, 99, 111. *забрóсніць* 54, 100. *забрóснявець* 56, 105. *забрóснявяць* 60. *забрóснела* 67. *забраснéла* 59. *забрэ́сніць* 63. *забрóсніла* 104. *забрóсніты* 131.

*цвіцéць* 8а, 34. *зацвісці* 54, 118. *зъцвісці* 41, 124 (пра хлеб), 129. *зацвісць* 75, 81, 84, 86, 87. *зацвíў* 80. *зацвілá* 85, 86, 94. *поцвысты́* 95, 96. *пуцвістэ́* 98.

*заслю́зла* 24. *заслю́жла* 52. *атслю́зла* 6.

*заморожíты* 96. *замаражíла* 103. *замурожíла* 108.

Адзінкавыя: *зацвíгныць* 35.

Апісальныя абазначэнні: *займéцца плéснямі* 25. *плéсню вы́кінула* 45. *плéсень завялáся* 47. *брэ́сняй занялóся* 57. *брóсня пашлá па гуркáх* 66. *капу́ста плéсняй зацяглá* 77. *зацягну́ць брóсняй* 124. *плéсень паяўля́ецца* 130.

## Карта № 404

## *ЗАМУРАЖЭЦЬ* (значэнне слова)

№ 2147 «У якім значэнні ўжываецца слова замуражэць?»

На карце адлюстравана пашырэнне слова *муражэ́ць* і яго значэнні. На большай частцы тэрыторыі гэта лексема не зафіксавана. У 103 і 108 пп. знак пастаўлены на падставе адказаў на пытанне № 2146 «Я. н. цвіль на квашанай капусце, гурках: плесень, бросня, цвіль... Заплеснявець, забраснявець, зацвісці...»

28 *замуражэ́ў лух.* 31 *замуражэ́ў гарóт, палоць трэ́ба.* 37 *замуражэ́ць* (травой зарасці). 68 *як ні спóліш травы́, тады́ бу́льба замуражэ́я.* 74 *замуражэ́ла травá.* 75 *замуражэ́ць* (травой, дзёрнам). 76 *замуражэ́ць — пакры́цца, зарасці муравóй.* 81, 82 *замуражэ́ць, зарасці травóй.* 95 *заморожíты* (слабая плесень на сухім). 96 *заморожíты* — пакрыцца моцным слоем цвілі. 113 *замуражэ́ць* (утварыцца значнаму слою цвілі). 114 *замуражэ́ло молокó* (цвіль на малацэ). 118 *замурожэ́ць.* 124 *замуражэ́ць* (зарасці травой, пакрыцца дзёрнам, стаць дзірваном). 126 *зараслі мурóгам — замуражэ́ць.* 128 *замуражэ́ць* — зарасці травой, пакрыцца дзёрнам. 129 *замуражэ́ць, трава замуражэла* — зазелянець. 130 *бу́льба парóсшая травóй, замуражэ́лая.* 133 *замурóжыць* — пакрыць накіпам. 134 *замурожэ́ть, морогóм зарослó.*

№ 2146 103 *запліснявыла капу́ста, заморожíла.* 108 *запліснявыла* і *замурожíла.*

У 118 п. не ўказана значэнне слова.

Адсутнасць слова: 1—8, 9—30, 32—36, 38—44, 45—56, 60—67, 69—72, 74, 77, 79, 80, 83—91, 93, 94, 97—101, 104—106, 111, 112, 115—117, 120—122, 125, 127, 131, 135—140, 142.

## Карта № 405

## ШУМ, ШУМА (значэнне слоў)

№ 2148 «У якім значэнні ўжываецца слова шума: а) пена, накіп, калі варыцца мяса, а таксама на варэнні з ягад, б) пена на кані (конь зашумеў), в) смецце...»

Карта семантычная. Акрамя значэння слоў, на карце паказаны націск у слове *шу́ма.* Асобна даюцца словаўтваральныя варыянты слоў у тых жа значэннях, што *шум* і *шумá.*

'пена на паверхні вадкіх прадуктаў'

*шум* 2, 3, 18—23, 25, 25а, 27, 41, 46, 52—54, 56—59, 63, 65—67, 90, 91, 94—96, 98—100, 103—105, 108—113, 115, 117, 132.

*шу́ма* 30, 70, 72, 127, 128, 139.

*шумá* 49—51, 55, 62, 64, 69, 71, 75—77, 79, 81, 82, 87, 116, 118, 123, 124, 126.

*шумавíны* 4.

*шу́мья* 101.

'пена на кані'

*шум* 9, 19, 23, 25, 52а — 54, 56—59, 65, 67, 90, 91, 93—96, 98—100, 102, 103, 105, 107—113, 115, 116 *(конь пад шу́мам),* 117, 131, 132.

*шу́ма* 45, 128.

*шумá* 49а — 51, 55, 64.

'смецце'

*шум* 93, 133.

*шу́ма* 1, 4, 5, 8—11, 13—17, 24, 29, 33—35, 73, 75 *(вада нагнáла шу́му),* 80, 127—129, 140 (нов.).

*шумá* 12, 32, 39, 43, 81, 87, 124.

'адходы пры веянні'

*шумá* 37.

'плеўка на малацэ'

*шумá* 48.

'пена на сырадоі'

*шум, шумá* 81, 85, 87 (гэты матэрыял паведаміў І. Я. Яшкін).

Адсутнасць слоў: 6, 26, 28, 31, 36, 38, 40, 42, 44, 47, 60, 61, 68, 78, 83—85, 88, 89, 97, 106, 114, 119, 120—122, 130, 134—138, 141, 142.

## Карта № 406

## КІПЕНЬ

№ 2150 «Я. н. вада ў час кіпення: кіпень, кіпяток, укроп, варатак, вар...»

На карце паказана супрацьпастаўленне лексічных, словаўтваральных і акцэнталагічных варыянтаў назваў вады ў час кіпення. Рэгулярныя і нерэгулярныя фанетычныя асаблівасці лексем пры картаграфаванні не ўлічваліся. Не ўлічаны адказы ў 94, 96а, 108, 130, 140 пп.— *кіпячóная вадá* (гл. спіс.). Як *кіпя́так* картаграфуецца *кіпя́тка.*

*кіпятóк* 1 (сучасн.), 4 (сучасн.), 7, 8 (сучасн.), 8а, 9, 10 (радзей), 11 (радзей), 14, 16, 17, 29, 31—33, 35, 37, 40—43, 45—47, 54, 56, 57, 58 (сучасн.), 59, 61, 62, 67 (больш цяпер), 68, 71, 73—76, 79—81, 83—89, 91, 99, 101, 103 (нов.), 104, 110—112, 115, 116, 118—121, 125, 127, 133, 135, 139, *кіп'ятóк* 90, 94, (нов., рэдка), 97, 114. *кіпетóк* 93, 102, 107, 113, 122, 126. *кіпатóк* 106. *кіпытóк* 131. *кыпятóк* 35, 96. *кып'ятóк* 94а, 95, 103 (трад.), 108, 109 (вельмі рэдка), 132. *купітóк* 98.

*кіпетак* 82, 119 (устар.), 126, 128, 129. *кіпеток* 102, 140. *кіпітак* 38. *кіпятак* 123, 142. *кіпаток* 138 (нов.).

*кіпя́так* 49а — 51, 53, 58 (трад.), 60, 100. *кіпéтак* 141. *кіпя́тка* 52.

*кіпянь* 49, 52а, 54, 55, 60. *кіпень* 9 (мала хто скажа), 14, 48, 53 (рэдка), 67 (трад.), 105.

*вар* 1 (даўней), 4 (трад.), 5, 6, 7, 8 (трад.), 8а — 13, 15, 17, 20, 23—30, 34, 36, 37, 39—44, 57 (стар.), 59, 63—65, 69, 70, 72, 73, 75—78, 80, 81, 83—85, 87—89, 118, 122 (трад.), 124—126, 128, 141 (рэдка), 142.

*варáтак* 2 (даўней), 3, 18—20, 21, 22.
*укрóп* 84, 86, 111 (трад.), 112, 117, 134—136, 140. *укрыэп* 107. *окрóп* 137, 138 (трад.). *окріп* 109. *окрűп* 96. *кріп* 98.
Адведзены: *кіпячóная вадá* 130. *кіпячóна водá* 94. *кіпечóна водá* 140. *кып'ячóна водá* 96а, 108.

**Карта № 407**

## ЦУКАР

№ 2152 «Я. н. цукар: цукар, сахар...»
На карце адлюстравана лексічнае супрацьпастаўленне назваў цукру, а таксама фанетычныя асаблівасці ў слове *цýкар*. Пры картаграфаванні не ўлічана лексема цукар, дзе зроблены заўвагі «школьнае» і «напісана на пачку» (84, 128, 129 пп.), якія сведчаць, што слова не мае яшчэ шырокага ўжывання.
*цýкар* 2 *(даўнéй гаварылі і цýкар)*, 6 (раней), 21, 23, 24 (трад.), 25—26, 45, 50, 52, 54, 55, 57, 59, 63—65, 67 (трад.), 68 (трад.), 69, 70, 71 (звалі некалі), 72, 75 (трад.), 77 (трад.), 81, 82 (нов.), 104, (устар.), 105, 107 *(по-даўнéйшаму)*, 110, 111, 112 *(кóлісь звáлі)*, 118, 122, 124 (трад.), 125 (рэдка), 126, 127, 128 *(напісана на пáчку)*, 129 *(шкóльнае)*. *цýкър* 5. *цýкыр* 84 *(шкóльнае)*. 87 (рэдка). *цýкор* 94, 94а, 97, 101, 102, 106, 108, 109, 113, 114, 117, 131—134, 135 (трад.), 138 (трад.). *цýгар* 66. *цýгар* 115 *(даўнó казáлі)*.
*цýкер* 3, 4 (трад.), 18—20, 22, 46—49а, 51, 52а, 53, 56, 58, 59, 62, 93, 99, 100. *цýкір* 8 (трад.), 27.
*цюкор* 90, 91, 95, 96, 98, 103.
*сáхар* 1, 2 *(ад дáўна кáжаць сáхар)*, 4 (суч.), 5 (цяпер), 7, 8, 8а, (суч.), 9—11, 17, 24 (суч.), 28—31, 36—38, 50 (нов., рэдка), 54, 60, 61, 62 (нов.), 66, 67 (цяпер), 68, 70 (цяпер), 71 *(ціпéр)*, 73—76, 77 (суч.), 80, 81, 82 (трад.), 86, 88, 90 (нов.), 93, 94 (нов.), 96 (нов.), 102, 103 (нов.), 104 (цяпер), 107 *(по-новéйшаму)*, 108 (нов.), 111 (нов.), 112 (цяпер), 113, 114, (нов.), 115 (цяпер), 116, 118—121, 123, 124 (нов.), 125—130, 131 (суч.), 132 (нов.), 135, 136, 138, 139, 141, 142. *сáхър* 8а, 12—15, 32—34, 39, 41, 43, 79. *сáхыр* 16, 35 (нов.), 40, 42, 44, 78, 83—85, 87, 89. *сáхор* 133, 134, 137, 140.
Адведзены: *цýкыр* 84 *(шкóльнае)*. *цýкар* 128 *(напісана на пáчку)*, 129 *(шкóльнае)*.

**Карта № 408**

## ГЛЫТОК

2154 «Я. н. тое, што глытаецца за адзін раз: глыток, глытаннік, каўток...»
Картаграфуюцца лексічныя і словаўтваральныя назвы глытка (таго, што глытаецца за адзін раз). Акрамя таго, пры картаграфаванні ўлічаны словаўтваральныя варыянты.
*глытóк* 3, 10 (вадкага), 13, 15, 18, 19, 21, 22, 24, 25, 27—31, 33—38, 40—42, 44, 46, 49, 49а, 50 (нов.), 53, 54, 57, 59, 63, 64, 67—71, 73—82, 84, 85, 86 (рэдка), 87—89, 102, 104, 107, 111 (часцей), 115, 117—120, 122, 123, 125, 126, 134, 136, 138, 141. *глатóк* 4, 5, 7, 8а, 9, 17, 25а, 26, 32, 39, 43, 45, 47, 52а, 60, 61, 66, 83, 85, 93, 100, 112, 113, 128, 129, 139. *глотóк* 94, 96, 96а, 101, 131, 132 (рэдка), 133. *глутóк* 16, 91.
*глыт* 12, 13, 44, 54, 69, 79, 84, 86, 124.
*глык* 2, 6, 8а.
*глытáннік* 10 (пра цвёрдая), 11.
*глыцéнь* 1. *глытáн* 14. *глачóк* 48. *галтóк* 51.
*каўтóк* 50, 53, 55, 56, 62, 65, 67 (трад.), 72, 99, 105, 110, 111, 121, 126—128, 130, 137, 139—142. *коўтóк* 106, 107, 114, 134. *ковтóк* 109 (рэдка), 113. *калтóк* 129.
Адзінкавыя ўтварэнні ад таго ж кораня: *кóвтінь* 108. *коўць* 114.
*клык* 90, 94—96, 103. *клытóк* 97. *клэк* 98.
*лык* 20, 52.

**Карта № 409**

## ГЛЫТАЦЬ

№ 2155 «Ежу (яду) глыкаць, глытаць, палыкаць, каўтаць,.. Адзін раз: глынуць, палыкнуць, каўтнуць...»
Карта складзена на падставе адказаў на першую частку пытання. На карце адлюстравана лексічнае супрацьпастаўленне абазначэння дзеяння 'глытаць ежу'. Акрамя таго, улічаны прыстаўныя зычныя ў словах з коранем -лык-(аць).
Як *палыкáць* картаграфуецца *палкáць*, як *лыкáць — лыгáют*.
*глытáць* 2—4, 7, 9, 10, 12—14, 16, 18, 21—25, 26—31, 33—45, 53, 54, 57—61, 63, 64, 65 (яду), 68, 70, 71, 74—76, 78—88, 104, 115, 118, 123, 124, 125 (есць), 128, 129, 134 (еду), 136, 141. *глытáці* 107. *глытáты* 132. *глатáць* 1, 6, 8, 11, 17, 25а, 116. *глътáць* 5, 8а, 15, 32, 73.
*галтáць* 51.
*каўтáць* 53, 55, 56, 62, 65 (ваду), 67, 72, 75, 77, 99, 100, 105, 110—112, 119, 126, 127, 135, 139—141. *коўтáць* 66, 106, 114, 117, 120а, 121, 122, 134, 134 *(водý)*, 136, 138, 142. *коўтáці* 102, 107. *ковтáць* 113, 133. *ковтáты* 108, 109, 132. *калтáць* 129. *ковдáты* 103 (рэдка, экспр.).
*лыкáць* 20, 52. *лыкáть* 96а. *лыгáць* 46. *лыгáты, лыгáты* 131. *лыгáют* 91.
*клыкáць* 118 (лапшу). *клыкáці* 93. *клыкáті* 94. *клыкáты* 90, 94, 94а, 95—97, 103. *клыкáтэ* 98.
*глыкáць* 47—49, 52а, 54. *глыкъць* 8а (сквапна). *глыкала* 49а.
*палыкáць* 19, 45. *палкáць* 18, 50, 60 (трад.).

**Карта № 410**

## ГЛЫНУЦЬ

Карта складзена на падставе адказаў на другую частку пытання № 2155. Гл. карту № 409 «Глытаць».
Адказы на гэтую частку пытання даюцца не ва ўсіх населеных пунктах. На карце адлюстраваны лексічныя і словаўтваральныя варыянты дзеясловаў. Па лексічных супрацьпастаўленнях карта не адрозніваецца ад папярэдняй, дзе паказаны лексічныя супрацьпастаўленні на падставе іншых формаў. На дадзенай карце паказваюцца асаблівасці аднакратных дзеясловаў са значэннем 'глынуць адзін раз'. Як *палкнýць* картаграфуецца *палыкнýць*.
*глынýць* 3, 7, 9—11, 16, 21, 23, 26, 28—31, 34—38, 40—42, 53, 57—59, 61, 63, 68—71, 73—76, 78, 80, 81, 84—86, 104, 115, 126, 128, 135. *глынýці* 107. *глынýты* 132. *глънýць* 8а. *глынýў* 27. *гланýла* 6.
*глытнýць* 33, 44, 84, 89, 118. *глатнýць* 17, 32, 39, 134.
*глытанýць* 18.
*каўтнýць* 55, 72, 100, 105, 112, 113, 119, 121, 126, 127, 135, 137, 138, 140. *каўтнýла* 77. *каўтнé* 122. *коўтнýць* 66, 106, 108, 109, 114, 134, 136, 138. *коўтнýць* 102, 107. *ковднýты* 103 (рэдка).
*каўтанýць* 53, 62, 75, 127, 130. *каўтанé* 56.
*глыкнýць* 49, 49а, 52а, 54. *глънýць* 8а. *глыкнъць* 8а.
*клыкнýці* 93. *клыкнуці* 101. *клыкнýті* 94. *клыкнýты* 90, 94а — 96, 103. *кликнýтэ* 98.
*палыкнýць* 54. *палкнýў* 18. *палкнýць* 50, 53.
*пралкнýць* 51.
Адзінкавыя: *лыгнýты* 131.

**Карта № 411**

## *КВІТАВАЦЦА* (значэнне слова)

№ 2162 «Знаходзіцца на харчовым утрыманні: харчавацца, сталавацца... Ці ўжываюцца ў гэтым значэнні словы: квітавацца, віхтавацца?»

Карта складзена на матэрыяле адказаў на другую частку пытання і картаграфуецца пашырэнне слова *квітавáцца* і яго семантыка.

У 65 п. знак пастаўлены на аснове запісу, што слова вядома, але яно не з'яўляецца мясцовым. У 60 і 106 пп. знак пастаўлены на аснове матэрыялаў СП-ЗБ, 2, 454.

6 ведаюць слова *квітавацца* ў выразе: *«Як квітýесся?»* — як жывеш? 20 *квітавáцца — абыходзіцца заробкам; як не стае ґрошы, кажуць: «чым квітýецца?».* 25 *квітавáцца* — эканоміць; *трэ́ба квітавáцца, кап і заўтра хапіла.* 46 *квітавáцца, як гаспадарка... а і квіталіся сек-так; квітавáцца — жыць на скупым, бедным разліку.* 60 *квітавáцца; як ён квітýецца?* 64 *вот янá ýмéя квітавáцца.* 65 *квітавáцца часцей у западнюй, у нас гавóраць — харчавáцца.* 75 *квітавáцца — красавáцца, да чалавéка.* 77 *як ён праквітýецца* — пражыве ў цяжкіх умовах. 106 *ён пазычыць грошы, а я яму гавару: «чым ты бýдзеш квітавáцца, чым ты заплáціш, чым ты атквітýесса...»*

## Карта № 412

## СТАЛАВАЦЦА

№ 2162 «Знаходзіцца на харчовым утрыманні: харчавацца, сталавацца... Ці ўжываюцца ў гэтым значэнні словы: квітавацца, віхтавацца...»

Паняцце 'знаходзіцца на харчовым утрыманні' абазначаецца як лексемай — дзеясловам, так і словазлучэннем, у склад якога ўваходзіць аднакарэнны аддзеяслоўны назоўнік+дзеяслоў быць (знаходзіцца) і інш. або, часцей, гэтыя ж дзеясловы і намінатыўныя словы *стол* обо *харч.* Пры картаграфаванні не ўлічаны фанетычныя, словаўтваральныя і фармальныя паказчыкі слоў.

*харчавáцца* 4—6, 8, 9, 17, 24—26, 29, 38, 45, 47, 49—51, 53—55, 57, 59, 62, 64, 67, 71, 75, 88, 93, 100, 102, 104, 112, 118, 120а, 124, 125, 127, 129, 133, 135, 140, 141 (раней), 142. *хырчывáцца* 7, 35, 42, 83, 85, 87, 89. *хырчувáцца* 84. *хърчавáцца* 33. *хърчъвáцца* 8а. *хурчувáцца* 39, 43. *харчовáцца* 113, 134, 136. *харчавáць* 65. *харчýецца* 101, 109. *харчýіця* 131. *харчовáтысь* 90, 95, 96. *харчовáтыса* 108, 132. *харчовáтыся* 96а, 103 (рэдка). *харчовáтіса* 94. *харчаваціса* 94. *хорчэвáцца* 107. *харчувáтыся* 91. *харчувáтісь* 98. *харчыцца* 41, 86.

*сталавáцца* 1, 3, 9—11, 14, 18, 21, 25а, 28, 29, 31, 36, 37, 46, 48, 52, 54, 57, 60, 61, 63, 66—68, 70—72, 74—77, 80—82, 88, 104 (больш часта), 105, 106, 111, 112, 116, 118, 120—121, 123—126, 128, 129, 135, 137. *стълъвáцца* 8а, 13, 15, 34. *стылывáцца* 35, 40, 42, 78, 79. *стылувáцца* 84. *сталувáцца* 73 (цяпер). *стулувáцца* 43. *сталýецца* 115, 141 (цяпер). *сталýецца* 19, 109, 122. *столовáцца* 107, 134. *столовáтіса* 94. *столовáтыса* 108. *столовáтыся* 96а, 97, 103. *столовáтысь* 95, 96. *стулувáтись* 98. *столýіцца* 94а. *сталавáлася* 142.

*знахóдзіцца на харчáх* 8. *жыць на харчáх* 130. *быць на харчáх* 4, 30. *бýты на харчя́х* 95. *на харчáх* 93, 109 (вашых), 57 (нашых), 59 (тваіх), 77 (чужых), 80 (маіх), 94а (моіх), 99 (маіх), 110 (яе), 114 (хазяйчыных). *на харчя́х* 103. *нъ хърчáх* 32. *на харчéх* 131. *на сваé харчы́* (устар).

*на харчавáнні* 52а.

*быць на сталé* 16, 21, 26, 29, 39, 44, 62, 69 (сваём), 118, 129. *быць на сталý* 138. *бýты на стóлі* 95, 96. *на сталé* 14, 56, 57, 115, 120а. *знахóдзіцца на сталé* 1, 27. *узяць на стóл* 105, 119.

*на сталавáнню* 19. *на сталавáнні* 20.

Адзінкавыя: *пітáцца* 12, 13, 44. *віхтавáцца* 51. *кармíцца* 127. *на íхнім хлéбі* 2. *на хазя́йскай ядзé* 22. *на хазя́йскім хлéбе* 66. *жывé і есь у мянé* 23. *знахóдзіцца на сталóўцы* 110.

## Карта № 413

## НЕПЕРАБОРЛІВЫ (у ядзе)

№ 2164 «Я. н. таго, хто не пераборлівы ў ядзе: ешчы, едкі, непераборлівы...»

На карце адлюстраваны лексічныя супрацьпастаўленні слоў, што абазначаюць чалавека, які не перабірае ў ядзе. Акрамя таго, ўлічаны словаўтваральныя, акцэнталагічныя варыянты, а таксама якасць галоснага ў корані слова *неперабóрлівы: неперабíрлівы.*

У наступных пунктах знак пастаўлены на падставе антоніма: *перабóрлівы* 20, 24, 25а, 77. *выбóрчывы* 94. *няжóркі, няéшчы* 2. *недаéжлівый* 56. *перабóрчывы чалавéк* 120а. Адведзена ад картаграфавання лексема *абжóра,* якая мае іншае значэнне — называе чалавека, што многа есць п. 47. Па той жа прычыне адведзены словы *абжóрлівы* ў 75 п., *пражóрлівы* ў 124 п. Адведзены адказ 39 п., дзе размова ідзе не пра чалавека, а пра жывёлу.

*неперабóрлівы* 4, 6, 8—9, 14, 17, 21, 28, 31, 36, 48, 49а, 53—54, 59, 61, 63—65, 67, 69—71, 73, 74, 81, 100, 104, 106, 114, 115, 119, 121, 124, 126, 129, 130, 137, 138, 140, 141. *неперабóрлівый* 80. *неперабóрлівуй* 136. *неперэбóрлівы* 142. *непірабóрлівы* 27, 29, 32, 111, 118. *ніпірабóрлівы* 25, 26, 32, 35, 38, 43, 75, 76, 78, 112. *ніпірабóрлівый* 7, 8а, 40, 41, 44. *ніпіряборлівый* 12, 79, 85, 87, 89. *ніперабóрлівы* 30, 68, 105. *ніпярабóрлівы* 50, 52а, 72, 88. *ніпарабóрлівы* 127, 128. *непарабóрлівы* 82. *нэпэрэбóрлівый* 96а, 133. *нэпэрэбýрлівый* 93. *перабóрлівы* 20, 24, 77. *пірабóрлівы* 25а.

*неперабíрлівы* 57, 58, 120, 123. *неперабíрлівый* 80. *ныпырыбíрлівый* 97. *ны$^{э}$пы$^{э}$ры$^{э}$бíрлывый* 103 (нов.). *ныпырыбы́рлывый* 95. *нэпэрэбíрлывый* 109 (рэдка).

Адзінкавыя ўтварэнні ад таго ж кораня: *неразбóрчывый* 1. *неперабóрны ў ядзé* 22. *неперабірýшчы* 82. *неперабірáя* 84. *ніпірабíрчывый* 86. *ныпырыбырáе нычы́м, емý смакýе* 92. *выбóрчывы* 94. *ны пырыбырае* 96. *ни пэрэбырáе* 98. *ісць бэз пэрэбóру* 108. *неразбóрчывы* 111. *не перабíраé с хорчáмі* 113. *неперабóрчывый* 116. *не перабíрáе ў ядзé* 122. *нічы́м не перабíрáе, не перабíрáе* 135.

*жы́рны* 5, 26 *(жы́рны, кáжуць, як харашó есць),* 37, 45, 49, 51, 53—55, 58, 100. *жы́рный* 96.

*жыркí* 3, 18, 52. *няжóркі* 2.

Адзінкавыя ўтварэнні ад таго ж кораня: *жыраўны́* 38, 75. *жыровíты* 101. *жырлы́вый* 103. *ожóрный* 107. *пражы́рны не брыжкýе нічы́м* 117.

*éшчы* 5, 8а, 10 (найчасцей пра жывёлу), 11 (чалавек, жывёла), 13, 14, 17, 21, 29, 34. *éшчый* 9, 15, 42, 83. *éшшый* 16. *няéшчы* 2 (чалавек).

*éдкій* 85. *éдкый* 103. *éдкі* 136, 140.

ядкí 75, 84. *яткí* 99, 118. *едкы́й* 103.

*спáсны* 107, 114. *спáсный* 132.

Адзінкавыя лексемы і словазлучэнні: *лакчы́вы* 19. *дóбра есць* 23. *хърчавíты* 33. *невыбрэ́дны, і тóе і тóе з'есць* 46. *небрылёўны* 60. *небышкóўны* 62. *нелютаéжлівы, нічóга не перабíрáе, усё есь, усё ямý смáшна* 66. *неперабóрлівы, есць, што папáла, пламíдны* 69. *йістовлêвый* 90. *несолодоежывáты* 97. *не ханбузýе* 107. *ісць бэз пэрэбóру, дóбрый до хорчíв* 108. *дóбры на ядý* 110. *прожы́рны, не бракýе нічы́м* 117. *у нас Васíл недоéдук, есць усё, што даюць* 125. *нічы́м не перабíрáе, ні ў чом не ганьбýе* 134. *не бракýе нічы́м, не перабíрáе* 135. *людаéжлівы* 139.

## Карта № 414

## ПРАГНЫ (да яды)

№ 2165: «Я. н. надта прагны да яды: лапчывы, прагны...»

На карце адлюстраваны лексічныя супрацьпастаўленні азначэння прагнага да яды чалавека. Асобным знакам картаграфуецца назоўнік *(абжóра, прагнёняц).* Словаўтваральныя варыянты пры картаграфаванні не ўлічаны.

Азначэнні *пражóрны, абжóрысты, абжóрлівы, жарлíвы, жóркі, пражы́рлівы* картаграфуюцца як пражорлівы, *лапшы́вы* — як *лапчы́вы.* Як *прáгны* картаграфуюцца *прагавíты, праглíвы.*

*пражóрлівы* 10, 11, 14, 15, 17, 30, 58, 61 (груб.), 68, 73, 80, 82, 104, 111—113, 118, 122, 124, 127, 137. *прожóрлівы* 102. *пражóрлівый* 40, 44. *прожóрліві* 138. *пружэ́рлівы* 98. *пражы́рлівы* 84, 115, *пражóрны* 121. *абжóрлівы* 1 *(як свіння́),* 3, 33,

53, 56, 75, 125, 130, 139. *абжарліві* 52. *абжорлівый* 7 *(на яду)*, 83. *абжорысты* 19, 54. *абжорасты* 37. *жарліві* 10 (груб.). *жоркі* 2.

*пражора* 50, 109, 110, 126. *прожора* 133. *пражор* 120. *абжора* 55, 85, 99, 129. *обжора* 96.

*жэрлюк* 109.

*жырны* 26, 48, 49а. *жырный* 94а, 96. *жірны* 98. *жыравіты* 38. *жыраўны* 28, 105, 134. *прожырны* 106, 117, 142.

*лапчывы* 20, 28, 31, 46, 47, 52а, 54, 57, 69, 94, 104. *лапчывый* 107. *лапшывы* 6, 8а, 25 (могуць сказаць цяпер), 26, 27, 51, 59, 62—65, 100, 116. *лапшывый* 90. *лапшывая* 5.

*лакчывы* 4, 19, 22.

*жадны* 9 (на яду), 14, 32, 34—36, 43, 60, 69, 76, 78, 84, 86, 87, 93, 97, 99, 101, 119, 123, 128, 129, 134—136, 140, 141. *жадный* 39, 41, 79, 91, 107. *жадная прорва* 12.

*прагны* 7, 8а, 18, 45, 53, 61, 67, 81, 126. *прагный* 41, 42, 107. *прагавіты* 2, 21, 24, 57. *прагавітны* 25 (трад.). *прагліві* 23.

*прагнёняц* 49.

*хаўчліві* 66, 67. *хаўсліві* 72.

*завідны* 74, 113. *завідный* 89. *завыдный* 95, 103, 108. *завэдны* 98. *завыдлівый* 90. *завідлівый* 42 *(ны яду)*.

*зайздросны* 70, 114. *зайздросный* 132.

*ёшны* 16. *ёшчы* 29.

Адзінкавыя: *прагніць, прагна есь* 8. *сквапны дъ жракі* 8а. *сквапны да яды* 25а. *ласы да яды* 35. *атхлашчы* 45. *нінаедны* 61. *пропасны* 64 (узмацняльнае). *ненасытны* 71. *харчоўны* 94. *злыдзённы* 129. *злыдэнны* 133. *ненатолны* 135.

## Карта № 415

## ГАЛАДОЎКА

№ 2168 «Я. н. перыяд недаядання, голаду: галадоўка, галодніца, галадня, голад...»

На карце адлюстраваны словаўтваральныя варыянты назвы перыяду, у які галадаюць.

Ад картаграфавання адведзены лексемы: *нідъідання* (8а), *недаеткі* (9 — нехватка), *нідастача* (112), т. я. яны не з'яўляюцца сінонімамі з *галадоўка, голад.*

Фанетыка слова пры картаграфаванні не ўлічваецца.

*галадоўка* 1—3, 5—7, 10, 11, 17, 18, 20, 21, 23—25, 26, 27, 31, 37, 38, 45—48, 49а—51, 52а—54, 55 (рэдка), 56, 57, 59—65, 67—71, 74—77, 80—82, 86, 93, 99, 100, 104, 106, 107, 111, 112, 115, 116, 118—121, 123—125, 127—130, 139, 141, 142. *гъладоўка* 8а, 12, 13, 15, 32, 33, 39. *гыладоўка* 16, 34, 35, 42—44, 79, 83—85, 89. *голодоўка* 94, 101, 102, 107, 114, 117, 122, 133—138, 140. *голодовка* 94а, 109, 113. *голодувка* 132. *голодывка* 96 (рэдка). *гулудовка* 98.

*голад* 14, 17, 28, 36, 37, 46, 57, 73, 75, 77, 80, 82, 90, 108, 124, 126—129, 131, 135, 139, 142. *голъд* 5, 41. *голыд* 40, 42. 78, 79, 86, 89. *голуд* 98. *голод* 91, 94а. 95, 102, 103, 107, 108, 109, 113, 114, 122, 132, 133. *голат* 4, 7, 8, 19, 25а, 26, 28—30, 49, 50 (рэдка), 52, 54, 55, 60, 62, 66, 72, 76, 88, 99, 105, 111, 118, 125. *голът* 8а, 12, 32. *голыт* 16, 35 *(голыт ня цётка)*, 83. *голот* 97.

*голодня* 90, 94а—96. *голодня* 103. *гулодня* 98.

*галадуха* 110. *гъладуха* 8а, 9, 75 (рэдка). *гыладуха* 87.

*голодэча* 95. *голодзеча* 102.

Адзінкавыя: *гъладоўля* 8а. *голодовіца* 26 (экспр.). *галодны час* 58. *голодныца* 108.

Адведзены: *нідайідання* 8а. *недаеткі* 9 (нехватка). *нідастача* 112.

## Карта № 416

## ТАЛЕРКА

№ 2185 «Я. н. талерка: тарэлка, талерка...»

На карце паказаны лексіка-фанетычныя адрозненні назваў талеркі. Назвы *полумысок, полумысок* і *падмісак* картаграфаваліся як *паўмісак.*

*талерка* 2—6, 8, 8а, 11, 15, 19—29, 31, 33, 34, 37, 38, 42, 45, 46, 48, 49а—52а, 54—57, 59—70, 75, 77, 81, 83, 88, 89, 94, 100, 104, 119, 128, 133. *талірка* 91.

*тарэлка* 1, 4, 7, 9, 10, 18, 30, 35, 36, 38, 40, 42, 43, 47, 50, 53, 58, 60, 71—74, 77, 78, 80—82, 93, 97, 99, 101, 104—107, 110—113, 115, 116, 118, 119, 121—130, 134—140, 142. *тарелка* 12—14, 16, 17, 32, 39, 41, 44, 79, 83—87, 89, 102, 117, 120. *торелка* 114. *тарілка* 90, 92, 95, 96, 96а, 98, 103, 108, 109, 131. *тырілка* 95. *тарылка* 132, 141.

*паўмісак* 1, 7, 49. *падмісак* 29. *полумысак* 94а. *полумысок* 97.

## Карта № 417

## ТАЛЕРКА ПЛЫТКАЯ

№ 2185 «Я. н. талерка: тарэлка, талерка... Талерка плыткая, мелкая...»

Карта складзена на падставе адказаў на дадатковую частку пытання Інструкцыі, таму ў шмат якіх пунктах адсутнічае неабходны матэрыял. Адказ *плытка* картаграфаваўся тым жа знакам, што і *плыткая,* адказы *мелка, мілкый, мілка* і *мелянька* — тым жа знакам, што і *мелкая.*

*мелкая* 4—6, 9—11, 14, 17, 21, 28, 29, 31, 33, 36, 37, 40, 53, 57, 59, 61, 64, 67, 68, 70, 71, 73, 75, 80, 82, 86, 88, 101, 106, 113, 114, 116—118, 121, 123—125, 127, 129, 133, 137, 139, 140. *мелкъя* 8а, 34. *мелкыя* 16, 35, 42, 44, 84, 87. *мелка* 135, 142. *мілка* 95, 98, 103, 108, 109, 131, 132. *мілкый* 94а. *мелянька* 115.

*плыткая* 3, 4, 47, 53, 54, 59, 94, 100, 102. *плытка* 45, 46, 49а, 50, 55, 62, 90, 96, 104, 107.

## Карта № 418

## ГАРШЧОК

№ 2172 «Я. н. гліняны посуд, у якім вараць есці: гаршчок, горшчык...»

На карце паказаны акцэнталагічныя супрацьпастаўленні назваў гаршка. Назвы *гаршкі, гуршчокь* і *гурчок* картаграфаваліся як *гаршчок, горшчыкь* — як *горшчык.*

*гаршчок* 1—3, 5, 6, 8, 8а, 10, 13, 15, 20—47, 49—51, 52а—75, 77—89, 93, 99, 100, 104, 110—112, 115, 116, 118—125, 127—130, 135, 139—142. *гаршок* 4, 7, 9—12, 14, 16, 17, 83. *горшок* 76. *аршчок* 18, 52. *горшчок* 90, 91, 94—97, 102, 103, 107—109, 113, 114, 126, 131, 132, 134, 136—138. *горшок* 101, 106. *гурчок* 92. *гуршчок* 98. *гаршкі* 19.

*горшчык* 94—96, 102, 103, 105, 108, 109, 113, 114, 117, 133, 135, 136. *горшчыкь* 98.

Адзінкавыя: *глінянік* 64.

Адведзены: *саган* 18. *цаган* 58.

## Карта № 419

## ЛЫЖКА

№ 2188 «Чым ядуць суп: лыжкай, ложкай... АЛА SIF 1184 ложка — žlica — łyżka...

Карта складзена на падставе двух пытанняў ЛАБНГ і АЛА. У Інструкцыі ЛАБНГ згодна з сфармуляваным пытаннем частка адказаў пададзена ў форме творнага склону адзіночнага ліку, з якой рэканструявана пачатковая форма слова.

*лóжка* 11, 36, 40, 41, 44, 46, 47, 67, 70, 73, 75, 77, 81, 84—86, 91, 92, 101, 104, 106, 107, 109, 112, 115, 117, 121—123, 125—127, 129, 133—135, 138—142. *лóшка* 1, 7, 8, 10, 12, 13, 16, 21, 23, 29, 33, 34, 38, 39, 50, 51, 54—56, 58, 66, 68, 69, 71, 72, 83, 90, 94—96а, 98, 99, 103, 105, 108, 110, 111, 113. *лóжкай* 14, 28, 37, 80, 116, 118—120, 124, 128, 130. *лóжкый* 42. *лóжкуй* 43, 79, 87. *лóжкою* 97, 114, 131. *лóжкой* 102, 136, 137. *лóшкай* 9, 32, 45, 53, 60, 62, 64, 74, 78, 88, 93. *лóшкый* 8а, 35, 89. *лóшкаю* 61. *лóшкою* 132.

*лыжка* 67, 75, 81, 104. *лышка* 2—4, 6, 8, 18—27, 29, 30, 34, 49, 52, 52а, 54, 64, 65, 83, 100. *лыжкай* 5, 48, 57, 82. *лышкай* 9, 31, 49а, 53, 62. *лышкый* 8а. *лышкаю* 63.

АЛА: *лóжка* 5А, 10А, 23А, 25А, 38А—43А, 45А, 47А, 48А, 52А, 54А, 57А,—60А, 61А—63А, 65А—67А, 115. *лóшка* 2А, 4А, 6А—9А, 13А—16А, 18А, 20А—22А, 24А, 27А, 29А, 32А—37А, 43А, 44А, 46А, 49А, 50, 50А, 51А, 53А, 55А, 56А, 61, 64А, 70.

*лыжка* 3А, 62А. *лышка* 1А, 11А—14А, 16А, 17А, 19А, 26А, 28А, 30А—32А.

**Карта № 420**

## ПАТЭЛЬНЯ

№ 2137 «Я. н. круглая пасудзіна, на якой смажаць сала, пякуць бліны: скаварада, патэльня...» АЛА № 1106. сковорода — Nsg skovorda сковорода ϕ—ϕ.

Карта складзена на падставе двух пытанняў ЛАБНГ і АЛА. Адказ *скаравóдка* нанесены на карту тым жа знакам, што і *скаравóда,* адказ *скаварóтка* — тым жа знакам, што і *скаварóда,* адказ *сковорóдь* — тым жа знакам, што і *скóварадзь.* Як *апанóўка* — *апанóў, апаніўка, панівá.*

ЛАБНГ: *скаварадá* 1, 23—25, 26, 29—31, 36, 49а, 54, 57—59, 61, 63, 65—68, 72, 75, 81, 82, 86, 88, 99, 100, 104, 105, 110—112, 115, 116, 118, 121, 124—127, 130, 135, 139, 141, 142. *сковородá* 90, 95, 101—103, 106—108, 113, 114, 117, 132, 134, 136, 140. *скварадá* 4 (нов.), 6 (нов.), 10, 11, 27, 49, 50, 51 (нов.), 52а, 53, 56, 60, 62, 64. *скывырыдá* 7, 40, 44, 89. *скв*ъ*р*ъ*дá* 8а. *скав*ъ*радá* 9 (нов.), *ск*ъ*варадá* 25а, 80. *ск*ъ*в*ъ*р*ъ*рдá* 34. *скыўрыдá* 43, 79, 85. *скувырыдá* 84. *скварыдá* 87. *скаўрадá* 135. *скоўродá* 138. *сковэрдá* 131. *скувродá* 98. *скворoдá* 95. *шковородá* 103.

*скаварóда* 7, 14, 17, 28, 37, 38, 73, 75. *ск*ъ*варóда* 12, 13, 15, 32, 33, 39, 41, 42. *скыварóда* 16, 35, 40, 83. *скуварóда* 78. *скаварóдка* 120.

*скóварада* 8 (нов.). *скóворода* 133, 137.

*скóвородь* 108, 109, 132.

*скаравадá* 69, 71, 76, 77, 119, 121, 122, 128, 129. *скарвадá* 52. *скравадá* 69, 70, 77. *скурувудá* 98.

*скаравóда* 74, 75. *скаравóдка* 123.

*патэ́льня* 2—7, 9, 19—22, 24, 27, 40, 45—49, 50, 53, 54, 57—60, 80, 83, 93, 97, 104, 114, 118, 124. *патэ́льна* 18. *пытэ́льня* 90, 91, 94а—96а, 103, 131. *пэтэ́льня* 92, 94, 98, 113, 133. *потэ́льня* 134.

*патэ́ліна* 1, 8а. *патэ́лена* 8.

*апанóўка* 53, 54. *апанóў* 60. *апанíўка* 54. *панíва* 54. *панівá* 55.

*папéльня* 62. *жарэ́ўня* 112.

АЛА: *скаварадá* 6А, 15А, 16А, 18А, 28А—34А, 46А, 49А, 50А, 53А, 57А, 59А, 60А, 61, 62А, 63А, 66А, 67А, 70, 115. *скывырыдá* 3А, 5А, 9А, 25А. *сквырыдá* 2А, 39А. *ск*ъ*в*ъ*рыдá* 7А, 24А, 38А. *скварадá* 14А, 50, 70. *ск*ъ*варадá* 19А. *скувырадá* 39А. *ск*ъ*ўр*ъ*дá* 41А, 42А. *сковородá* 45А, 51А, 54А, 56А. *сковордá* 48А. *скворoдá* 64А.

*скаварóда* 4А. *ск*ъ*варóда* 7А, 8А, 20А, 21А, 36А. *скыварóда* 22А, 23А. *скаварóтка* 9А.

*скóворoдь* 52А. *сковорóдь* 47А.

*скаравадá* 16А, 35А, 37А, 55А, 57А, 61А, 66А, 70. *скарвадá* 11А. *ск*ъ*рвадá* 50А. *скоровoдá* 65А.

*патэ́льня* 1А, 3А, 10А, 12А, 13А, 26А, 27А, 30А, 44А, 70. *пытэ́льня* 43А, 48А. *скрыня* 58А.

**Карта № 421**

## ШКЛЯНКА

№ 2191 «Я. н. шкляная пасудзіна, з якой п'юць чай: стакан, шклянка...»

На карце паказаны лексіка-фанетычныя адрозненні назваў шклянога посуду для піцця чаю. Адказы *шкля́нька і шклéнка* картаграфаваліся тым жа знакам, што і *шкля́нка,* адказ *склéнка* — тым жа знакам, што і *скля́нка,* адказы *стыкáны, стагáн* — тым жа знакам, што і *стакáн,* адказ *чáшкі* — тым жа знакам, што і *чáшка.*

*шкля́нка* 3—6, 8—9, 13, 18—20, 22—27, 30, 33, 35, 45—60, 62—66, 69—72, 90, 91, 93—96, 99, 100, 102—106, 108—115, 117, 127, 132—135, 137, 139. *шкля́нька* 59. *скля́нка* 97, 98.

*скля́нка* 92, 96а. *склéнка* 131.

*стакáн* 1, 4, 5, 8, 11, 14, 17, 21, 24, 28, 31, 36—38, 53, 54, 60, 61, 66—68, 70—72, 75—77, 80—82, 88, 90, 94, 95—97, 101, 103, 104, 107, 110—130, 132, 134—142. *стыкáн* 7, 16, 29, 35, 40—44, 78, 79, 83—85, 89. *ст*ъ*кáн* 8а, 9, 12, 13, 15, 32, 34, 39, 73, 86. *стыкáны* 87. *стагáн* 74.

*чáшка* 7, 129. *чáшкі* 87.

Адзінкавыя: *філіжáнка* 7. *сцікля́нка* 10.

**Карта № 422**

## ЧАЙНІК

№ 2133 «Я. н. посуд, у якім заварваюць чай: чайнік, імбрычак...»

Картаграфуюцца лексіка — фанетычныя варыянты назваў посуду для заварвання чаю. Адказы *чáйнікь, чáйнічак, чáйнічык, чáйнычок і чáйнічок* на карту нанесены тым жа знакам, што і *чáйнік,* адказы *чайнічóк* і *чыйнічóк* — тым жа знакам, што і *чайнік.*

*чáйнік* 1, 4, 5, 7—13, 15—17, 19, 21, 23, 24, 26, 29—36, 38—44, 46—48, 49а—52, 53—55, 60, 61, 67—73, 75, 76, 78—81, 83—86, 88, 94, 99, 100, 102, 104, 105, 107, 108, 113, 115, 117—120, 123—125, 127—130, 133—136, 138—142. *цáйнік* 16. *чя́йнык* 90, 95—97, 103. *чя́йнік* 95. *чáйнык* 91, 94а, 109. *чáйныкь* 98. *чáйнічак* 3, 14, 37, 45, 74, 82, 111, 112. *чáйнічык* 84, 89. *чáйнычок* 92, 131. *чáйнічок* 93, 101, 126.

*чайнíк* 64, 77, 87, 106, 114, 121, 127. *чайны́к* 108, 132. *чайнічóк* 62, 77. *чыйнічóк* 122.

*імбры́чак* 2, 4, 18—20, 22, 24, 31, 52а, 54, 56, 57, 59, 60, 62, 66, 67, 104, 110, 111, 119, 127, 139, 141, 142. *імбры́чык* 25, 37. *інбры́чак* 6, 25а, 27, 28, 33, 58, 63, 65, 71. *інбры́чык* 63. *амбры́чак* 116. *éнбры́чык* 126.

*імбры́к* 51.

Адзінкавыя: *завáрнік* 137.

**Карта № 423**

## ДЗЯРЖАННЕ Ў КОШЫКУ

№ 2259 «Я. н. дзяржанне ў кошыку: каблук, камлук, ручка, луцік...»

Картаграфуюцца назвы дзяржання ў кошыку. Адказы *камлýк і каблýк*ъ на карту нанесены тым жа знакам, што і *каблýк,* адказ *óчэпка* — тым жа знакам, што і *пóчапка.* Як *закаблýк* — *казаблýк.*

*рýчка* 1, 4—11, 14, 15, 17, 22, 24—27, 29—44, 52а, 56—58, 62—69, 72, 73, 75,

76, 78—80, 83—87, 89, 94а, 98, 102, 118, 119, 121, 123—129, 133, 136, 139—142. *рýцка* 16.
*дýжка* 45, 67, 70, 81, 82, 86, 87, 90, 94, 101, 103, 106—109, 114—117, 120, 122, 130, 132, 135, 138—140. *дýшка* 2, 6, 21, 25, 61, 71, 74, 95—97, 99, 105, 110—113.
*каблýк* 46—48, 53, 54, 59, 60, 90—93, 100, 102, 134. *камлýк* 50. *каблýкь* 98.
*лук* 18, 19, 23, 51—52а, 54.
*лучóк* 3, 20, 49а.
*закаблýк* 49, 62. *казаблýк* 104.
*пóчапка* 126, 139. *пóчэпка* 140. *óчэпка* 134, 137.
*пачóпка* 12, 28, 85.
Адзінкавыя: *пірéвісла* 13. *рукаятка* 25. *абрýч* 34. *біло* 55. *дзяржáння* 72. *пáпліска* 113.

## Карта № 424

## КОШЫК

№ 2257 «Я. н. кошык для бульбы: кош, кашэль, карзіна...»
Картаграфуюцца назвы звычайнага плеценага кошыка для бульбы. Адказ *коўш* нанесены на карту тым жа знакам, што і *кош*, адказы *кóшыкь*, *кóўшык* — тым жа знакам, што і *кóшык*. Картаграфуецца як *карзіна* — *карзінка*, як *карзына* — *карзынка*.
*кош* 1, 18, 19, 25, 30, 37, 46, 57, 63, 65—68, 72, 77, 83, 87, 94, 100, 104, 106, 111, 116, 117, 120, 123, 125, 139, 142. *кôш* 61, 62, 110, 127, 135. *куш* 141. *кûш* 96, 103. *кіш* 97. *кыеш* 107. *коўш* 1.
*кóшык* 2—5, 8, 9, 10, 20—24, 25а—27, 31, 34, 45—50, 52—56, 58—61, 70, 71, 74, 81, 90—93, 94а, 95, 96а, 99—102, 107, 127, 135, 140, 142. *кóшък* 8а, 15. *кóшак* 6. *кóшыкь* 98. *кóўшык* 119.
*кашэ́ль* 29, 50, 51, 55, 64, 69, 112, 115, 127, 139. *кашэль* 60, 105. *кошэ́ль* 114, 122, 136, 137. *кошíль* 108, 109. *кошыль* 132. *кошéль* 133. *кошêль* 113.
*кашóлка* 5, 7, 10—14, 28.
*карзíна* 9, 12, 13, 15, 16, 32, 33, 35, 36, 38—44, 73, 75—79, 84—89, 118, 121, 124, 126, 127, 129, 130, 141. *корзíна* 107. *карзíнка* 4, 5, 17, 33, 73, 80.
*карзынка* 82, 128. *карзынка* 80.
*карóбка* 134, 138. *карóпка* 71, 129.

## Карта № 425

## АБРУЧ (у кошыку)

№ 2260 «Я. н. абручы ў кошыку: каблук, абруч, калач...»
На карце паказана пашырэнне ўсіх адзначаных лексіка-словаўтваральных варыянтаў назваў абруча ў кошыку. Адказы *абрýц*, *габрýч*, *вобрýч*, *абручá* і *бруч* на карту нанесены тым жа знакам, што і *абрýч*, *каблýкь* — як *каблýк*. Адведзены ад картаграфавання назвы *бакавíна*, *бакавíкі*, *жэ́бра (жэ́бры)*, *рэ́бра (рэ́бры)*, паколькі не адносяцца да тэмы карты.
*абрýч* 5, 7, 8а—11, 14, 15, 17, 25а—37, 39, 40 *(зыгінаюцца абручы, адзін і рýчка і дно ат ягó, другíй вакруг і стáвюць рэ́бры)*, 41, 43, 44, 46, 48 *(бацька загатовіў многа абручоў)*, 55, 58 (мн. л.— *абручэ́*), 62 (мн. л.— *абручэ́*), 63 (мн. л.— *абручы*), 64, 65 (мн. л.— *абручэ̂*), 66 (мн. л.— *абручэ̂*), 68 (р. скл.— *абручá*, мн. л.— *абручы*), 69 *(абруч ручны і абрýч бакавы)*, 70—76, 77 (мн. л.— *абручы*), 78—81, 82 (мн. л.— *абручы*), 83—87, 89, 92, 104, 105, 115, 116, 118—121, 123, 124, 125 *(паламáліся абручы ў старым кашý)*, 126—128, 129 (мн. л.— *абручы*), 130 (мн. л.— *абручы*), 135, 139, 141, 142 (мн. л.— *абручы*, малыя палачкі, якія раскладаюцца ў кош, называюцца *цынáліны*). *обрýч* 101 (мн. л.— *обручы*), 102, 114, 117, 133, 136, 137 *(мн. л.— обручэ́)*, 140 *(наготовіў обручы, кóшык робіць бýду)*. *абрýц* 16. *габрýч* 132. *вобрýч* 138 *(прыготóвіў вобручы на кашá)*. *абручá* 8. *бруч* 122 *(бручы ў кошыку)*.
*каблýк* 45—47, 53, 59 (мн. л.— *каблукэ́*), 60, 90, 93 (мн. л.— *каблукі*), 94—97, 99, 100, 102, 103, 132. *каблýкь* 98 (мн. л.— *каблукê*).
*закаблýк* 49, 56.
*каблýч* 108, 109.
*камлýк* 50.
*лук* 18 (мн. л.— *лýкі*), 19, 23, 51, 52 (мн. л.— *лукі*), 52а, 54, (мн. л.— *луке́*).
*лучóк* 3, 20, 49а.
*дугá* 113.
*дýжка* 37, 42 *(дýжкі для кряплéньня)*, 67 (мн. л.— *дýжкі*), 106, (мн. л.— *дýжкі*). *дýшка* 1, 2 *(дýшкі нарэзаў і загнýў, скáпкі ўставіў і пляцеш дупцáмі)*, 6 (мн. л.— *дýшкі*), 21 (мн. л.— *дýшкі*), 22 (мн. л.— *дýшкі*), 24, 25 (мн. л.— *дýшкі*), 38, 110 (мн. л.— *дýшкі*), 111 (мн. л.— *дýшкі*), 112 (мн. л.— *дýшкі*), 113.
Адзінкавыя: *абóт* 4. *ляскі* 106. *калáч* 114.
Адведзены: *бакавíкі* 51. *бакавíна* 61. *рэ́бра* 91, 96а, 107, 117. *рэ́бры* 130.
Адсутнічае назва: 88, 131, 134.

## Карта № 426

## РЭБРЫ Ў КОШЫКУ

№ 2263 «Я. н. рэбры ў кошыку, якія пераплятаюцца дубцамі: рэбры, скобы, ляскі, спіцы... Ці ўжываецца слова сточкі ў гэтым значэнні?»
На карце паказаны лексіка-словаўтваральныя і нерэгулярныя фанетычныя варыянты назваў рэбраў у плеценым кошыку. Асобным знакам на карце нанесена назва *жэ́бры*, якая з'яўляецца фанетычным паланізаваным варыянтам слова *рэ́бры*. Адведзены ад картаграфавання адказы *аснóва*, *абручы*, *жылгуцí*, *прýтыкі*, *прýтте*, *пруткы*, *дубцы*, паколькі яны называюць іншыя рэаліі і не адносяцца да тэмы карты.
*рэ́бры* 4, 7, 8, 14, 15, 17, 28, 29, 33—35, 38, 40, 42, 47, 53, 61, 63, 69, 72, 73, 75, 77, 82, 83, 96а, 99—101, 112, 118—120, 123, 124, 127, 129, 130, 142. *рéбры* 41, 79, 87. *рэ́бра* 50, 55, 56, 90—92, 95, 96, 98, 102, 103, 107, 109, 113, 114, 116, 117, 132, 137, 139, 140. *рэ^а^бра* 94. *р^ы^эбра* 93.
*рóбры* 9, 36, 43, 78. *рёбры* 39, 44, 84—86, 89. *рёбра* 32.
*жэ́бры* 3, 18—20, 22.
*рабéрцы* 141. *рэбэ́рца* 113.
Адзінкавыя ўтварэнні ад таго ж кораня: *рабрыны* 62. *рабёркі* 1.
*скáбы* 5, 6, 10, 11, 23—27, 46, 48, 49, 51, 57, 58.
*скóбы* 45, 83, 85, 136.
*скáпкі* 2, 21, 49а.
*спíцы* 65, 66, 68—71, 74, 110, 111, 115, 116, 122, 134, 138.
*ляскі* 31, 46, 54, 59, 106.
*лёсткі* 61, 64.
*лясточкі* 133.
*стóчкі* 29, 130.
Адзінкавыя: *дýгі* 9. *рéлькі* 16. *дрэ́бы* 30. *пярэ́чкі* 37. *паўлýчкі* 52а. *утóчкі* 60. *білы* 67. *кóсці* 80. *тýчкы* 94а. *дрáбы* 104. *снóзы* 105. *рэцэ́пкы* 108. *пáлачкі* 135.
Адведзены: *аснóва* 9, 76, 125, 135. *абручы* 8а. *жылгуцí* 52. *прýтыкі* 92. *прýтте* 96а. *пруткы* 97. *дубцы* 121.

## Карта № 427

## МАТЭРЫЯЛ ДЛЯ ПЛЯЦЕННЯ КОШЫКАЎ

№ 2261 «Я. н. прыгатаваны матэрыял для пляцення кошыкаў: дубцы, веткі...»
Картаграфуюцца назвы прыгатаванага матэрыялу для пляцення кошыкаў. Для

пляцення кошыкаў выкарыстоўваецца матэрыял розных раслін (лазы, вярбы і г. д.) або розных іх частак (карэнне, галінкі). Акрамя таго, дыферэнцыяцыя лексічных найменняў залежыць ад спосабу і ступені апрацоўкі нарыхтаванага матэрыялу (напрыклад, ачышчэнне ад кары і разрэзванне напалам галінак). Адказы *дубьцы́* і *ду́бці вербо́вы* картаграфуюцца тым жа знакам, што і *дубцы́*, адказ *лазо́вых пру́цця* — тым жа знакам, што і *пру́цця*, адказ *жы́лбуці* — тым жа знакам, што і *жылгуці*, адказ *сіле́га* — тым жа знакам, што і *сілега*. Як *дубцы́* — *ду́бчыкі, ду́пчыкі, ду́рᵇчыкі*, як *карэ́нне* — *корэні*, як *лу́цце* — *лут*.

*дубцы́* 2, 5, 7, 9—11, 15, 17, 21, 22, 24—27, 29, 30, 34—36, 46, 47, 49, 51, 52а, 56—58, 63, 67, 68, 70—73, 75, 77, 78, 81—83, 99, 104, 105, 110, 116—118, 120, 121, 123—127, 130, 133, 139—142. *дупцы́* 4, 23, 49а, 136, 138. *дубцэ́* 45, 48, 50, 54, 55, 59, 62, 64, 101, 106, 107, 112. *дупцэ̂* 61, 65, 114. *дубцыᵊ* 102. *дубці* 108, 113, 132. *дубьцы́* 37. *дубці вербо́вы* 109. *ду́бчыкі* 119, 135. *ду́пчыкі* 2. *ду́пᵇчікі* 113.

*лаза́* 6, 8, 9, 23, 37, 60, 75, 76, 80, 82, 86, 128. *лыза́* 16, 41, 42, 44, 79, 84, 87. *лъза́* 8а, 15, 34, 80. *лôза́* 90.

*віткі* 3, 4, 7, 18, 20, 31, 49а, 74.

*віткі* 33. 136, 139.

*віццё* 14. *віцьё* 111.

*каре́ння* 26, 35, 44. *карэ́не* 93. *коро́нье* 107, 113. *корінне* 95, 96, 109. *кôрінне* 90. *корэні* 109.

молокы́та 96, 96а, 97. *мôлôкы́та* 90. *мулукэ̂та* 98.

*ракіта* 66, 100, 111.

*пру́цця* 16, 40, 85, 129. *пру́цья* 140. *пру́тте* 95, 96а, 103. *лазо́выя пру́цця* 79.

*пруты́* 39. *пру́цікі* 43.

*хлю́бы* 91, 92.

*лу́цце* 122. *луцьe* 137. *лут* 128.

*жылгуці* 20, 52. *жулбуці* 19.

*сілега* 113. *сіле́га* 107.

вербá 109, 135.

*варбало́зьнік* 138.

Адзінкавыя: *лу́шчыкі* 2. *лучы́нка* 13. *лучы́на* 28. *поплу́т* 94а. *шыляг* 122.

Карта № 428

## ПАЛУКАШ

№ 2264 «Я. н. кош, які ўстаўляўся ў воз, сані: палукашак, палукаш, кош, кашэль...»

Картаграфуюцца назвы плеценага каша, які ўстаўляўся ў воз, і сані. Неабходна адзначыць, што на поўначы і паўночным усходзе Беларусі падобнае прыстасаванне не выраблялася. Адказ *здаро́вы куш* нанесены на карту тым жа знакам, што і *кош*, адказ *поўлу́кашак* — тым жа знакам, што і *палу́кашак*, адказ *пулу́пішакь* — тым жа знакам, што і *полу́пышок*. Як *палу́каш* картаграфуецца *палу́кіш*, як *палу́кашак* — *палу́кішак, палу́кішок, палу́кічак*, як *пляцéнь* — *пляцёнка*, як *аблу́к* — *во́блак*.

*кош* 8а, 16, 36, 43, 56, 78, 79, 81, 82, 87—89, 100, 117, 118, 120—124, 126, 139, 140, 142. *кôш* 62, 127, 135. *здаро́вы куш* 141.

*кашэ́ль* 7, 21, 64, 69, 71, 72, 77, 88. *кашэ́ль* 60. *кошэ́ль* 134.

*палу́каш* 67, 99, 110, 112, 115, 116. *палу́кыш* 83. *палу́кіш* 57.

*палу́кашак* 19, 20, 23, 46, 48—51, 53, 55, 58, 59, 61, 65, 100, 105. *палу́кашык* 47, 52а, 104, 111. *полу́кушок* 132. *полу́кошак* 101. *полу́кашо́к* 102, 106. *полу́кошек* 107. *пылу́кошек* 107. *полу́кышок* 108. *полу́кошок* 109, 113, 133. *палу́кішак* 53, 54. *полу́кішок* 96а. *палу́качак* 52. *поўлу́кашак* 66.

*калу́пашак* 45, 51. *колу́пышок* 103. *колу́пушок* 114.

*полу́пышок* 95. *полу́пушок* 96, 97, 114. *пулу́пішокь* 98.

*кашáра* 80. *кышáра* 85.

*ке́льня* 90—94.

*ге́льня* 94а, 95.

*аблу́к* 31, 37, 68, 75. *во́блак* 73. *пляце́нь* 63, 74. *пляцёнка* 25. *карзіна* 17, 22.

Адзінкавыя: *атва́льчык* 14. *дро́нка* 86. *га́рба* 125. *каро́бка* 128. *воз* 136. *вобшы́вок* 138. *пасьце́льнік* 142.

Адсутнасць рэаліі: 1—6, 8, 9—13, 15, 18, 24, 25а—27, 30, 32—34, 38, 39, 41, 42, 44, 70, 76, 84, 119, 129, 130, 137.

Карта № 429

## КОЛЕР

№ 1280 «Я. н. колер: цвет, калёр...»

Картаграфуюцца назвы колеру. Паказаны лексічныя і акцэнталагічныя адрозненні.

*цвет* 1, 2, 4—17, 19, 25, 26, 28, 30—32, 34—44, 46, 47, 49а, 50, 52а, 53, 55, 56, 58—61, 63, 66—81, 83—89, 91—94а, 97, 99—106, 110, 112—117, 119—130, 133, 135—142. *твет* 134. *цвіт* 90, 95—96а, 98, 108, 109, 131.

*ко́лер* 18, 20, 21, 23, 25а, 29 (трад.), 45, 51, 52, 57, 62, 65, 81, 82, 107, 118, 127, 134. *ко́лёр* 94а, 95, 98, 102, 103 (рэдк.), 132. *ко́лір* 24, 33, 35, 43, 75, 84. *ко́ляр* 3, 6 (даўн.), 22, 25, 27, 48, 49, 50 (трад.), 54, 55 (рэдк.), 64, 111.

*калёр* 21, 62 (трад.), 128. *кулёр* 4, 8а.

Карта № 430

## ФАРБА

№ 1279 «Я. н. матэрыял, пра дапамозе якога надаецца той ці іншы колер: фарба, краска...»

Картаграфуюцца назвы фарбы. Паказаны лексічныя адрозненні.

*фа́рба* 3—5, 8—9, 18—20, 22, 24, 26, 29, 31, 33, 37, 43, 45, 46, 48, 49, 51, 52а, 57, 59, 60, 63, 65, 67, 69, 81, 90, 92—94, 96, 97, 98, 100, 102, 103, 108, 109, 111, 113, 131, 132. *хва́рба* 1, 2, 5—7, 8а, 21, 23, 25, 25а, 27, 29, 30, 49а, 52—56, 58, 60, 62, 64, 66—68, 94—95, 96а, 98, 99, 102—107, 110, 112, 115, 117, 134, 135, 142. *хва́рьба* 29.

*кра́ска* 2, 4, 8—17, 24, 28, 29, 31, 32, 34—44, 47, 50, 53, 54, 58, 61, 63—92, 95, 96, 98, 101—103, 108, 109, 113, 114, 116—133, 135—142.

Карта № 431

## ФАРБАВАЦЬ

№ 1279 «Фарбаваць, красіць...»

Картаграфуюцца назвы дзеяслова фарбаваць. На карце паказаны лексіка-словаўтваральныя адрозненні. Назва *хва́рбіць* картаграфуецца як *фарбы́ты*.

*фарбава́ць* 3, 5, 8, 9, 18—20, 22, 24, 26, 29, 30, 32, 37, 45, 46, 48, 51, 52а, 57, 59, 60, 63, 64, 65, 67, 69, 81, 111. *фърбува́ць* 8а, 43. *фърбъва́ць* 33. *фарбова́ті* 94. *фарбова́ці* 102. *хварбава́ць* 1, 2, 5, 6, 21, 23, 25, 25а, 27, 49—50, 52, 53—56, 58, 60, 62, 64, 66, 68, 99, 100, 104, 106, 112, 115. *хварбова́ть* 134. *хварбова́ць* 107. *хварбува́ць* 7. *хварбава́ці* 93. *хварбова́ці* 102. *хварбова́ты* 94а, 96а.

*фарбы́ты* 90, 92, 96, 97, 109. *хварбы́ты* 95, 96а, 103. *хва́рбіць* 105.

*кра́сіць* 4, 8, 8а, 10—17, 24, 28, 29, 31, 34—44, 47, 50, 53, 54, 58, 61, 67, 69—89, 101, 110, 113, 114, 116—130, 138—142. *кра́сіть* 133, 134. *кра́сыты* 92. *кра́сіці* 102.

*красі́ць* 135, 136, 137. *красы́ты* 90, 91, 92, 95, 97, 103, 108, 109, 131, 132. *красэ́тэ* 98.

